# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ



ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ

**1**

1937

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ПЕРШАЯ*

МЕНСК—1937

# *Урывак з паэмы „Владзімір Ільіч Ленін“*

**ВЛАДЗІМІР МАЯКОЎСКІ**

Але цвёрды
крок Дзяржынскага
і ясна галава.
Сёння
з варты
і сыйсці магла-б Чэка.
Скрозь вачэй мільёны
і ў мяне
праз два,
шмат лядзінак слёз
прымерзла
па шчаках.
Богу
ушанаванні казённыя
не новыя!
Не!
Сягоння
сапраўдным болем,
сэрца, халадзей.
Мы хаваем
самага зямнога
з ад усіх
прайшоўшых
па зямлі людзей.
Ён зямны,
але не з тых,
хто вокам
упіраецца
ў сваё карыта.
Ён
зямлю
ахопліваў глыбока,
бачыў
тое,
што ў часах закрыта.
Ён, як вы,
і я,
і просты і не хмуры,

толькі,
можа быць,
каля вачэй якраз
думкі
болей як у нас
маршчыняць скуру,
ды цвярдзей
і больш вясёлы вусны
чым у нас.
Не сатрапа цвёрдасць,
што трыумфатарскай каламажкай
душыць вас
ў сваёй хадзе.
Ён
да таварыша
мілеў
людскою ласкай,
Ён
да ворага
жалеза быў цвярдзей.
Знаў ён
слабасці,
што нас навокал,
як і мы—
хваробы вызнаў.
Скажам,
мне—більярд—
адгадоўваю вока,
шахматы яму—
яны правадырам
карысней.
І ад шахмат
пайшоўшы ў бой
з варожаю натурай,
у людзі
вывеўшы
учарайшых пешак строй,
станавіў
рабочай-чалавечай дыктатурай
над турэмнай
капіталавай турой.
І яму
і нам
тым самым захапляцца.
А чаго-ж я,
водаль
што стаяў,
Усё
жыццё сваё,
дурнеючы ад шчасця,

за яго дыханне,
за адно-б
аддаў.
Ды не я адзін!
колькі сёння
з болем.
Нават не паклікаць,
а раскрыць-бы толькі рот—
хто з вас
з сёлаў,
са скуры вон,
са штолен
не выйдзе напярод?!
У хістанні—
быццам-бы хапіў
віна і гора лішку—
Адыходжу,
бо не веру я
трамвайнай сетцы.
Хто
цяпер
аплакаў-бы
маю смерцішку
у жалобе
гэтай
неабсяжнай смерці!
Са штандарамі ідуць.
І быццам зноў народжанай—
зноў Расія
стала качавой.
І калонны зал
дрыжыць,
наскрозь праходжаны.
А пра што,
навошта
і чаго?
Тэлеграф
ахрып,
жалобы повен.
Слёзы
са сцягоў
узбуджаных павек.
Што зрабіў?
адкуль
і хто ён—
гэты
самы чалавечны чалавек?
Кароткае
і да апошніх імгненняў
нам

вядома
жыццё Ульянава.
Але доўгае жыццё
таварыша Леніна
трэба пісаць
і апісваць нанава.
Далёка-далёка,
гадоў за дзвесце
першыя
пра Леніна
усходзяць весці.
Чуеце—
жалезны
і лужоны,
прарэзаўшы даль
у старажытных вяках,—
голас
прадзеда
Бромлея і Гужона—
першага паравіка?
Капітал
яго вялікасць,
некаранованы,
самарошчаны,
абвяшчае
пакоранай
сілу вяскоўшчыны.
Горад рабаваў,
гроб,
і шастаў,
наглыбляючы
пузы кас,
а пры варштатах
худы і гарбасты
устаў
рабочы клас.
І
пагражаў
уздымаючы трубы да неба:
— Нас
за золатам
на шлях кладзеце
як памостнік.
Мы народзім,
пашлем,
прыдзе калі-небудзь
чалавек—
барацьбіт,
карца
і помснік!

Воблакі і дым
змяшаліся. Усёроўна
як аднаго палка
сталі радавымі.
Неба ўжо
робіцца падвойным,
засланяе воблакі
густа дымам.
Тавары
між старцаў
імкнуцца ў высі.
Дырэктар,
чортаў аблік,
паляпаў па шчотах,
буркнуў:
„Крызіс!"—
і вывесіў слова:
„Разлік".
На слодыч
мухі
усселі усе і
хлеб псуецца
як на тое,
а пад вітрынамі
ўсіх Елісеевых,
жывот падцягнуўшы,
брыло беспрацоўе.
І гурчэла
у жываце нетраў
на свеце,
закрываючы
дзіцячы плачык:
— Пад работу,
ці пад вінтоўку,
на—
далоні абедзве!
Прыходзь,
заступнік
і расплатчык!
Гэй,
вярблюд,
ты адкрыў калоніі,
Гэй,
караблёў
наканованы рэйс!
Марш,
у пустыні,
дзе як пекла сёння!
Пеньце пену
паперы бялей!

Пачынаюць
чорным займацца
оазісы
пальмавых пяшчот.
Вунь
сярод залацістых плантацый
змучаны негр
прамычэў яшчэ:
— У-у-у-у-у-у,
у-у-у
Ніл мой, Ніл!

Прыгані
і выплесні
чорныя дні!
Каб чарней былі
чымся я ўва сне,
і пажар каб
за гэтую кроў чырваней.
Каб ва ўсім гэтым кофе,
што зварыцца паспела,
гатавацца пузатым—
чорным і белым.

Кожны
здабыты
слановы клык—
тык яго ў мяса,
у сэрца тык.
Хоць для праўнукаў,
кроў каб не ліць
ім задарам—
выплыві
заступнік з сонцавым тварам.
Я паміраю,—
бог смярцей
прышоў і забраў мае дні.

Помні
гэта заклінанне,
Ніл,
мой Ніл!

У снезе Расіі,
у трызні Патагоніі
варштаты,
паставіў час,
потагонныя.
У Іванава ўжо
у Вазнясенска
каменныя тушы
узнімаюць
выкрыкі частушак:

„Эх, завод ты мой, завод,
цяжка разам нам.
Кліча новага наш час
Сценьку Разіна“.
— Што гэта
г-а-р-а-д-а-в-ы?..
спытаюцца дзеці
цяпер.
— Што такое
капіталіст?
спытаюцца ўнукі,
дазнацца ім след.
Для ўнукаў
пішу
ў невялічкі памер
пажыццёвы
капіталізма партрэт.
Капіталізм
у маладыя гады
быў хлопец нічога
і спрытны аж з лішкам:
Першы работаў—
не баяўся тады,
што ў яго
ад работ
пацямнее манішка.
Трыко феадальнае
яму не да ног!
Лез
не горай
чым сёння лезуць.
Капіталізм
рэволюцыямі
сваёй вясной
расцвіў
і нават
падпяваў
„Марсельезу“.
Машыну
ён выдумаў і узаконіў.
Людзі
і тыя аддадзены—ёй!
Ён
па ўсім свеце
зусім нязлічона
рабочых напладзіў
дзяцей.
Ён царствы
і графствы
у нутро свае змёў

з каронамі іх
і з арламі.
Разбух,
як біблейская карова,
ці вол,
аблізваецца.
Язык—парламент.
З гадамі
знясілела
мускулаў сталь,
ён раздабрэў
і распух,
такім-жа
з цягам часу
стаў,
як і яго гросбух.
Палацы узняў—
прыгожа, сурова!
Мастак—не адзін!—
па сценах паёрзаў.
Падлога ампірыстая,
столь рокаковая,
сценкі—
Людовіка XIV,
Каторза.
Вакол
з тварам
настойна ільсціцца
быць і тварам
і задам,
задатварая
паліцыя.
Ні фарбы,
ні песні
душы іх не сняцца
як краскі
карове
сярод сенажаці.
Этыка, эстэтыка
і глупства другое—
проста—
яму
жаночай слугою.
Яго
і рай
і пад'ісподняя
прадае бабулькам
з нашэптам на вуха
дзюркі
ад цвікоў

крыжа гасподняга
і пяро
хваста
святога духа.
Нарэшце
сябе
перарос жывучы,
раб на працы
высах як ліст.
Толькі нажываючы,
сплючы,
жаручы
капіталізм распух
і азыз.
У гісторыі
лёг на шляху,
не прайсці,
свет,
быццам ложак ягоны стаіць.
Яго не аб‘ехаць,
не абыйсці,
выхад адзін—
дынаміт!
Знаю,
лірык
скрывіцца горка,
крытык
з бізуном
пачне характарыстыку.
— А дзе-ж душа?!
Ды гэта-ж
рыторыка!
Паэзія дзе-ж?
Адна публіцыстыка“
Капіталізм—
непрыгожае слова,
куды прыгажэй гучыць—
„салавей“,
Я-ж
вярнуся к яму
многа і зноў,
Радок
агітатарскім лозунгам сей.
Я буду пісаць
пра ўсё
і пра гэта,
і сёння не час
для любоўных прыкрас.
Я
ўсю сваю

звонкую сілу паэта
табе аддаю,
атакуючы клас.
Пролетарыят—
і няскладна і вузка
таму,
каму
комунізм—пастка адна.
Для нас
гэта слова—
магутная музыка,
што можа
мёртвых
на бойку узняць.
Паверх за паверхам
сутуліўся,
дрыжыць.
Сутарэнняў кліч
над паверхам стаіць.
Мы прарвемся
ў неба,
у разгойданую сінь.
Мы прайдзем
каменны, скрозь, калодзезь.
Будзе:—
з гэтых нар
рабочы сын—
пролетарыятаводзец.
Ім
ужо
зямное кулі мала
І рукой пярсцёнкамі
усыпанай ўселяк,
цягнецца
раскормленая
туша капітала
захапіць
чужы гарляк.
Ідуць,
жалезам
бразгаюць і ляскаюць.
— Забівайце!
двум буржуям цесна!
Кожнае сяло—
магіла брацкая,
гарады—
завод пратэзны.
Скончылася—
сталы
заслалі чайныя.

Пірагом на стале
перамога над светам.
— Слухайце
магіл галасы нутраныя,
кастылёў кастаньеты.
Хутка
новыя
ваенныя
пачуеце весці.
Не даруе
час
вам гэтую віну.
Ён узнімецца,
прыдзе
і ён абвесціць
Вам
і вашай вайне
вайну!—
Вырастаюць
на зямлі
слязы вазёры,
непраходная
ад целаў ропа.
І схіляліся
адзінкі фантазёры
над вырашэннем
нязбытных утопій.
Голаву
аб жыццё
разбілі філантропы.
Хіба
шлях мільёнам—
філантропаў тропы?
І ўжо
занядужыў
сам капіталіст,
так
яго
машына размахалася,—
што лад яго
нясе,
нібы пажоўклы ліст,
У крызісе
і забастовак хаосе.
— У чыю кішэнь
праца ідзе
мас?
Каго не знаць.
Каго займець?
Мільённагаловы клас

напруджвае вока—
сябе зразумець.
Ї вось
новае сонца
устала,
перад святлом тым
пражэктар гас.
Час
нарадзіў
брата Карла—
старэйшы
ленінскі брат
Маркс.
Маркс!
Устае вачам
сівізны партрэтнай рама.
Як-жа
жыццё яго
ад уяўлення іх далёка!
Людзі
бачуць
замураванага у мармур,
старыка,
што у гіпсе думае глыбока.
Ї калі
рэволюцыйнай тропкай
рабочыя
першым крокам
пайшлі,
о, якою
найдзівоснай топкай
сэрца Маркс
і думку запаліў!
Быццам сам
на заводзе кожным
сілаю, упартасцю
працу рабочага
вызваляў і песціў.
Рабаўнікоў
дадатковай вартасці
за руку
спаймаў на месцы.
Дзе дрыжэлі
пухлыя за касамі.
Аж да біржавіка
ва усіх
ў іх цаляць.
Маркс
павёў знішчаць
вайною класавай

залатога,
да быка
даросшага цельца.
Здавалася—
на комуністычныя затоны
нас выпадкам
выкіне
як хвалі
забурляць.
Маркс
раскрыў
гісторыі законы,
пролетарыят
паставіў ля руля.
Кнігі Маркса
далі радасць многім.
Мы знаем вялікасць
ягоных кніг,—
Маркс
паставіў
рабочага на ногі
і павёў
калонамі
наперад іх.
Вёў
і гаварыў:
у байцы ляжце,
справу—
кроўную
з розумам правер,
Прыдзе,
прыдзе ён
вялікі практык,
павядзе
палямі боек,
не папер!
Думкай, што ў яго
апошняю была,
што рукой
дапісваў
васкавою,
знаю,
Марксу
бачыўся
гмах Крэмля
і комуны
сцяг
чырвонаю Масквою
Наспявалі,
спелі дні,

як дыні,
пролетарыят,
ён вырас,
стаў ён сталым.
Капіталавы
высозныя цвярдыні
крышаць
раскідаюць валам.
На працягу
некалькіх гадоў
змагання
колькі навальніц
гудзіць
ад нарастанняў.
Запаўняецца
паўстаннем
гневу нарастанне
нарастаюць
рэволюцыі
за выбухам паўстанняў.
У буржуяў
лютая нягодніцкая
кара.
Цьераўскай,
разбітыя,
крываваю хадою,
цені прадзедаў—
парыжскіх комунараў,
і цяпер
крычаць
парыжскаю сцяною:
— Слухайце, таварышы!
Зрабіць, што варта вам!
Гора адзінкам—
вучыцеся у нас!
Разам крышыце ўсё!
Біце партыяй!
Сабраўшы
і з'яднаўшы
ўвесь
рабочы клас.
Скажуць:
„мы правадыры“,
а самі—
стануць за вугламі.
За прамовай
скуру
адгадаць умей.
Будзе правадыр
такі

што дробязямі з намі—
прасцей хлеба,
рэек на'т раўней.
Мешанінай класаў,
вер,
саслоўеў
і нарэччаў
на рублях калёс
зямля кацілася
Капітал
як вожык супярэчнасцяў
буйна рос,
мацнеў
штыхі шчаціпіўшы.
Комунізма
здань
Еўропай рыскала,
адыходзіла
і зноў
грымела і пеніла.
Вось за тым усім
у глушы Сімбірска
нарадзіўся
звычайны хлопчык Ленін.
Я знаў рабочага.
Ён быў няграматны.
Не разжаваў
нават азбукі соль.
Але ён чуў,
як гаварыў Ленін,
і ён
знаў—усё.
Я чуў
апавяданне
селяніна—сібірца.
Адабралі, адбілі вінтоўкамі
сяло
і зрабілі, што рай у ім пеніцца.
Яны не чыталі
і не чулі Леніна,
але гэта
былі ленінцы.
Я бачыў горы—
на іх
і куст не рос.
Толькі хмары
на скалы
зваліліся нічком
І на сто вёрст
у адзінага горца

лахманы
блішчэлі
ленінскім значком.
Скажуць—
гэта пра шпількі ахі зноў.
Дзяўчаты
іх прыкалваюць
какецтва каб адчуць,
Не шпілька прыкалота—
значком кашулі прапякло
сэрца,
поўнае
кахання к Ільічу.
Гэтага
не растлумачыш
царкоўнымі
славянскімі крукамі,
і не бог
загадаў
быць абраннікам рабоў.
Крокам чалавечым,
рабочымі рукамі,
уласнай галавой
гэты шлях
ён прайшоў.
З гары
пагляд
на Расію кінь,
рассінелася рэчкамі,
нібыта
тысячаў розаг пучкі
разгуляліся,
быццам
бізунамі
збітыя.
Але сіней,
чымся ваду вясною гоніць
пісягі
Русі прыгоннай.
Ты з бакоў
на Расію глянь—
і куды
вокам не кінь,
упіраюцца
небу ў шклянь
горы,
катаргі
і руднікі.
Больш ад катарг,
крывавы гнаў пот

пры фабрычных варштатах
прыгнёт.
Былі краіны
багатыя болей,
прыгажэйшыя бачыў
і разумней.
Але зямлі
з яшчэ большым болем
не давялося
бачыць
мне.
Так,
не кожны
удар
сатрэш са шчакі.
Крык мацнеў:
—*Узнімайцеся*
за зямлю і за волю вы—
і бяруцца
бунтаўшчыкі—
адзінкі
за бомбу
і за рэвольвер.
Добра
у цара
абойму
увагнаць у паганага.
Ну, а калі
пыл толькі
узнімеш каля каляса?
Падрыхтоўшчыкам
царазабойства
спайманы
брат Ульянава
народаволец Александр.
Аднаго заб'еш—
другі
на ўвесь свой пыл,
пакутамі
адышоўшых
пераплюнуць тужыцца
і Ульянаў
Александр
павешаны быў
тысячным са шлісельбуржцаў.
І тады
сказаў
Ільіч семнаццацігадовы,—
гэта слова

мацней за прысягу
салдатам узнятай рукі:
— Брат,
мы тут
цябе змяніць гатовы,
пераможам,
але мы
пойдзем шляхам другім.
Аглядзеце помнікі—
бачыце
колькі герояў учынена?
Стане Гогалем,
а ты
вянком яго узвяліч.
Не такі—
чорнарабочы,
штодзенны, геройскі
учынак
на плечы сабе
узваліў Ільіч.
Ён разам
навучае
ля горна кавальскага,
як быць
каб зарплаты
узрост быў.
Што рабіць,
калі
б'еціа майстар.
Як быць,
каб гаспадар
гатаванай вадой паіў.
Але не дробязь,
мэта ў канцы:
перамогшы
не можа,
над адною
змеценаю лужай устоіць.
Соцыялізм—мэта.
Капіталізм—вораг,
не венік—
вінтоўка зброя.
Тысячы разоў
тое самае множыць,
каб падначаліць напэўна
слух.
А на заўтра
адзін другому паложыць
рукі
зразумеўшых двух.

Учора—чатыры,
сягоння—чатырыста.
Тоімся,
а заўтра
адкрыта устанем,
І гэты чатырыста
у тысячы вырастуць,
працоўных сусвету
узнімем паўстаннем.
Мы ужо
не цішэй вады,
і травы не ніжай,—
абурэнне
працоўных
у хмарнай гушчы,
рэжа
маланкамі
Ільічовых кніжак,
сыпле
градам
пракламацыяў і лятучак.
Біўся
аб Леніна
цёмны клас,
Цёк
ад яго
ў прасвятленні,
і, абдадзены
сілай
і думкамі мас,
з класам
рос
Ленін.
І гэта
ператвараецца ў быль
тое,
ў чым юнаком
Ленін кляўся:
— Мы
не адзінкі,
мы—
саюз барацьбы
за вызваленне
рабочага класа.
Ленінізм ідзе
усё далей
і болей
у шыр
вучнямі
Ільічовай выверкі,

крывей
упісаны
геразм падполля
у пыл,
у плюхоту
бясконцай Валадзіміркі.
Намі
куля земная
цяпер закручана. Верце,
нават калі мы
ў крэмлеўскіх крэслах засядаем—
колькім раптам
з-за дэкрэтаў Нерчынск
раззвініцца
ў крэслах ланцугамі.
Вам
ізноў успомню птушак шлях
багаты.
За ваўчком—
трамваяў электрычны свіст,
хто і з вас
турэмных вокнаў краты
і не драпаў
і не грыз.
Лоб разбі
аб камень сценкі цеснай—
За табою
змылі камеру
і замялі.
„Служил ты недолго, но честно
на благо родимой земли“.
Стала падабацца Леніну—
у якой са ссылак
гэтай песні
жалобная сіла?
Гаварылі—
мужычок
сваёй дарогай
пойдзе кожны.
Заўвдзе
соцыялізм
няхітры і просты.
Не,
і Русь,
ад трубаў
стала ужо сур'ёзнай,
горад
дымнай барадой аброс.
Не папросяць у рай—

калі ласка
ідзіце,—
праз труп буржуазіі
крок комуністычнай хады.
Сотням сялянскіх мільёнаў
пролетарыят вадзіцель,
Ленін—
пролетарыяў правадыр.
Панаабяцае ліберал
альбо эс-эрык прыткі,
да рабочых сам гатовы з хамутом.
Ленін
балбатню
з яго
паабарве да ніткі,
каб ён з кніг
глядзеў
дваранскай нагатой.
І нам
навошта
прамовы пра такое,
што мы браты
адной свабоды вартыя,—
мы
у марксавай вялікай зброі
адна
на свет
большэвіцкая партыя.
Амерыку
параязджаеш
у экспрэсным купэ,
ідзеш Чухламой—
табе
ў вочы
ўпіваецца цяпер
РКП
і у дужках маленькае „б“.
Пулкава
на Марсаў
углядаецца спрытна,
як зорны шлях
па небу цячэ.
А свету
гэта
радковая літара
у сотню разоў чырваней
і ярчэй.
Словы
ў нас
да важнага самога

старэюць бывае,
робяцца звычайнымі
і многага вартыя.
Хачу
блішчэць прымусіць нанова
магутнейшае слова—
партыя.
Адзінка!
Навошта яна гожа?
Голас адзінкі
танклявей піску.
Хто яе пачуе?
жонка можа
і то
калі не на рынку,
а зблізку.
Партыя—
гэта
адзіны ураган,
да таго
з галасоў спрасаваны
ціхіх і тонкіх,
ворагаў
умацаванні
лопаюцца ад яго,
як ад гармат
у бойках перапонкі.
Блага чалавеку,
калі ён адзін!
Гора аднаму.
Адзін не воін,—
кожны дужэйшы
пан над ім,
слабыя таксама,
калі іх двое.
А калі
партыяй
з'ядналіся, сталі мы,—
здавайся вораг
памрэш усяляк!
Партыя—
рука мільёнапалая
сціснутая
у адзін
магутны кулак.
Нуль адзінка,
глупства адно,
адзін—
калі нават
і вельмі здаровы—

не ўзніме
простае пяцівяршковае бервяно,
тым больш
дом пяціпавярховы.
Партыя—
гэта плечы мільёнаў
узняліся,
адны да другіх
сабраныя шчыльна.
Партыяй
будоўлі
у неба узвысім,
адзін другому
пасабляючы пільна.
Партыя—
спінны хрыбёт рабочага класа.
Партыя—
няўміручасць нашае справы.
Партыя—адзінае,
што мне не здрадзіць.
Сёння прыказчык, а заўтра
царствы сціраю на карце я!
Мозаг класа,
справа класа,
сіла класа,
слава класа—
вось што такое партыя!

Партыя і Ленін—
двайня братняя,—
аднолькава іх
маці—гісторыя
ацэніць.
Мы гаворым—Ленін,
разумеем—
партыя,
мы говорым—
партыя,
разумеем
Ленін.

Пераклаў з рускае мовы
*Пятрусь Броўка.*

# *Ніякай літасці!*

**АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ**

Ніякай літасці бандытам не дамо!
Вы ў кузнях смерці нам выкоўвалі ярмо.
Іржой японскіх і нямецкіх ланцугоў
Вы зацямніць хацелі сталінскае сонца.
Але-ж не ўбачыць вам, як немцам і японцам,
Савецкіх шахт, прастораў, гарадоў.

Вужакай чорнай вы паўзлі ў Булонскі лес,
Тапор вам Троцкі даў, што Троцкаму даў Гес,
І вы, агідныя, фашысцкім тапаром
Хацелі пасячы мяжу зямлі савецкай.
Устаў народны гнеў, гудзе, грыміць як гром:
Святая кроў дзяцей з трацкісцкай лапы льецца.

Клянуць вас мацеры ў гарачых кроплях слёз,
Вы, гады, іх сыноў пускалі пад адкос,
Каб зноў вярнуць народ у дні былых пакут,
Прадаць на рабства псам, звяр'ю людской пароды,
Я свой смяротны вам падпісваю прысуд
Рукой і воляй беларускага народу!

Да сценкі наймітаў! Усіх да аднаго!
Чарга за Троцкім! Дойдзе й да яго!
Змагання нашага нікому не спыніць.
Красуй, мая цудоўная радзіма!
У дружбе сталінскай плячо ў плячо стаім мы.
Як добра жыць, змагацца, жыць і жыць!

# *Мала іх павесіць*

ЯНКА КУПАЛА

Мала іх павесіць
На сухой асіне,
Бо нават асіна
Ад сябе адкіне.

Дзерава адкіне
Дзерава сухое,
Сябе не спаганіць
Поскуддзю такою.

Прадавалі немцу,
Немцу ды японцу
Нашую радзіму,
Долі нашай сонца.

Пятакоў і Радэк,
Троцкі—уся арава—
Хлёбалі, зладзюгі,
З адной міскі страву.

Страву, што ім Гітлер,
Варыў смачна, ласа,
Страву, што мікада
Запраўляў закрасай.

Гандляры айчынай
Па чужым заказу...
Вынішчыць дашчэнту
Гэтую заразу!

У раздроб, агулам
Намі гандлявалі
Па цане даступнай,
Па цане крывавай.

Дынаміт і порах
Запускалі ў дзела,—
На шматкі хай рвецца
Народнае цела!

Плача горка ўдоўка,
Плача горка маці
Па забітым мужу,
Спаленым дзіцяці.

Спіце вы, нявінна
Згінуўшы, ахвяры!
Пакараем катаў
Самай лютай карай!

* * *

Пятакоў і Троцкі,
Муралаў і Радэк
Пакінуць хацелі
Царскі нам парадак.

Не вам, інтэрвенты,
Шпегі, дыверсанты,
На прыстані нашы
Выпускаць дэсанты.

Не вам край савецкі
Знішчыць, крывапіўцы...
У нашых чэкістаў
Зоркія зрэніцы!

* * *

Шэстоў, Ліўшыц, Радэк,
Пятакоў, Муралаў,—
Растаптаць, як гнідаў,
Вас, звяр'ё, замала!

Няхай-жа ў зямлі вам
Не будзе спагады
За ваша злачынствы,
За вашыя здрады.

Хай калом магіла
Для вас, злыдні, будзе,
Каб гэтай магілы
Цураліся людзі!

Каб гукалі совы
Па-над вамі, псамі,
Косці расцягалі
Груганы з ваўкамі!

* * *

Чуй, народ совецкі,
Чуй, мая радзіма!
Сваёй долі, волі,
Чуй, не аддадзім мы!

Будзеш векі жыці,
Зямелька советаў,
На радасць, на шчасце
Працоўнаму свету.

Ворагаў зніштожыш,
Хатніх і замежных,
Сонцам апранешся,
Як табе належна.

Мы ідзем наперад
Пераможна, у сонцы...
Глядзіць яно ярка
У нашыя вахонцы.

Засяваць мы самі
Будзем нашы нівы
Збіраць самі будзем
Ураджай шчаслівы.

Хай пад сонцам знаюць,
Чым мы сёння сталі...
Мы падставім грудзі
За цябе, наш Сталін!

Менск, 29 студзеня, 1937.

# *Народжаныя бурай*

## НІКАЛАЙ ОСТРОЎСКІ

*(Працяг)*

У буфетнай у куце сядзелі двое людзей, якія адчувалі на гэтым вечары не зусім у сваей талерцы. Гэта былі: уласнік кравецкіх майстэрняў Шпільман, маленькі, вяртлявы чалавечак, і дырэктар камерцыйнага банка Абрамахер, флегматычны таўсцяк з саліднай лысінай. Яны не заўважылі Уладыслава і прадаўжалі сваю гаворку.

— Вы разумееце, пане Абрамахер, як гэта ўсё мяне закранае? Калі мой Ісак захацеў запісацца, дык яму сказалі, што „жыдоў“ не прыймаюць! Гэта, бачыце, польская армія!

— Ну і што?

— Ісак абурыўся. Я злавіў Баранкевіча і кажу яму: паслухайце, я даў на гэту справу дзесяць тысяч марак, я яшчэ дам трыста камплектаў ваеннага абмундыравання! Але хіба нельга прыстроіць Ісака каптэнармусам або на якую-небудзь афіцэрскую пасаду па гаспадарчай часці? Ён, дзякаваць богу, скончыў камерцыйнае вучылішча і не дурнейшы за гэтых панкоў, у якіх няма ні граша ў кішэні? Хіба, кажу, добра ставіцца так да саюзнікаў толькі за тое, што яны яўрэі?

— Ну і што?

— Ну, Баранкевіч усё ўладзіў. Ісака залічылі па гаспадарчай частцы. Толькі афіцэра яны яму ўсё-ж не далі. Пакуль што ён—сержант. Але гэта нічога! Ісак—разумны хлопчык, і калі ўсё павядзецца добра, ён такі і будзе афіцэрам! Няхай гэта мне абыйдзецца яшчэ ў дзесяць тысяч!

Абрамахер заўважыў Уладыслава і штурхануў Шпільмана ў бок. Яны пачалі шаптацца:

— Як вы думаеце, пане Шпільман, што яны захопяць уладу?

— А як вы думаеце, для чаго ўсё гэта робіцца?

— Ну, як вы глядзіце на гэта?

— А як мне глядзець, пане Абрамахер? Я думаю, і вы згодзіцеся, што лепш паны, чым савецкая улада? Бо калі галыцьба пераможа паноў, дык ні вам, ні мне яна нічога не пакіне. І, хто ведае магчыма, і галоў... Я даведаўся, што такія гутаркі сярод маіх рабочых былі ўчора: няхай толькі прыдзе савецкая ўлада, мы гэтаму крывасмоку Шпільману ўсё прыпомнім... Тфу, паскудства! Я гэтых жабракоў кармлю, а ў падзяку—„крывасмок“! Дык ці ёсць, скажыце, справядлівасць на свеце?!

— Вы ведаеце, хто гэта казаў?—запытаў Абрамахер.

— Ну, а як-жа! У мяне ёсць свае людзі. Казала Сарка, дзяўчушка шаўца Міхельсона. Ён, здаецца, жыве ў вашым доме?

Я, вядома, гэтую дрэнь заўтра-ж выганю! Але хіба яна толькі адна? І трэба-ж было аўстрыйцам заварыць гэту кашу! Здаецца, нішто сабе народ, і на табе—рэволюцыя!

Абрамахер нецярпліва перапыніў яго:

— Дык вы забераце заўтра ў мяне замежную валюту з вашага рахунка? Я думаю, што ўсё гэта трэба схаваць падалей. Пакуль што, яе, на вялікі жаль, нельга нікуды ні перавезці, ні вывезці... Дык вы спяшайце, а то хто яго ведае, што з гэтага выйдзе! Майце на ўвазе, што гэты Могельніцкі можа пакласці лапу і на наш банк. А чаму не?

— Вы—залаты чалавек, пане Абрамахер! Вы бачыце ў зямлю на чатыры аршыны. Верце мне, што калі-б знайшоўся такі ідыёт, які купіў-бы ў мяне мае майстэрні і дамы, дык я, не міргнуўшы вокам, сёння-ж прадаў-бы! І за поўцаны, далібог! Такое паскуднае становішча!...

Варочаючыся ў палац тым-жа чорным ходам, айцец Іеронім пачуў у склепе за дзвярыма прыглушаныя крыкі. Ён спыніўся.

— Адчыніце! На праміла бог! Я баюся!

Гэта крычала жанчына. Ключ тырчэў у замку. Айцец Іеронім пакруціў яго. Звар'целай ад жаху Хэлі здалося ў цемры, што яна ўбачыла д'ябла.

— Езус Хрыстус! Свента Марыя! Злітуйцеся!—істэрычна крыкнула яна.

— Што з табою, дзіця маё? Не бойся! Хіба ты не пазнаеш айца Іеroніма?

З блытаных слоў Хэлі ён здагадаўся пра ўсё. Ён узяў дзяўчыну за руку.

— Хадзем са мною...

На яго стук дзверы верхняга паверху адчыніла Стэфанія, якая была якраз тут.

— Што такое, айцец Іеронім?—спалохана запытала яна, убачыўшы пакарэжаны твар Хэлі.

— Прабачце, графіня, я павінен пагаварыць з гэтым дзіцем сам-на-сам. Дазволіце прайсці ў ваш будуар?

— Калі ласка, але што здарылася?

Айцец Іеронім спасцярожліва махнуў ёй рукою, увёў Хэлю ў пакой, пасадзіў на канапу і вярнуўся, закрыўшы дзверы, да Стэфаніі.

— Здарылася вельмі благая гісторыя. Трэба зрабіць так, каб пра яе не ўведалі. Прайдзіце ў сваю спальню і паслухайце. Вы мне яшчэ будзеце патрэбны,—торапка шаптаў айцец Іеронім.

— Так, дзіця маё, тое, што ты расказваеш, жахліва, калі ты гаворыш праўду. Цяпер паслухай мяне, дочка мая. Ты хочаш расказаць пра гэта бацькам. Не трэба гэтага рабіць! Ты сама сябе загубіш. Паны выганяць тваіх бацькоў на вуліцу, а цябе пасадзяць за паклёп у турму. Бо ты сама сказала, што вас з графам ніхто не бачыў. Паслухайся мяне, свайго духоўнага айца. Сам бог загадвае дараваць крыўду ворагам сваім! І табе многае залічыцца за тво хрысціянскі ўчынак, калі ты забудзешся на ўсё... Калі ты паабяцаеш маўчаць, я скажу пра тваю крыўду графіні Стэфаніі.

Яна—добрая каталічка і не пашкадуе золата, каб хоць крыху выкупіць перад богам віну таго, хто цябе ўкрыўдзіў. Абяцай-жа дзіця маё, імем прасвятой Марыі, што ты нікому пра гэта не скажаш. Будзь пэўна, што я хачу табе толькі дабра. Я вымалю табе благаславенне. Бясчэсны-ж чалавек не ўнікне боскай кары!

Вочы айца Іероніма гіпнатызавалі Хэлю, і яна ледзь чутна прашаптала:

— Я не скажу.

Айцец Іеронім ласкава паклаў сваю цяжкую руку на яе галаву, шэпчучы словы малітвы.

У суседнім пакоі Стэфанія, палаючы ад сораму, што ёй, па міласці айца Іероніма, даводзіцца іграць ва ўсёй гэтай гісторыі двухсэнсоўную ролю, выбірала з сваёй шкатулкі залатыя рэчы...

Увесь вечар Людвіга была ў радасным, узрушальным настроі. Агульная ўвага, захапленне, усведамленне сваёй прыгажосці, шчасця ад блізкасці Эдварда, хвалюючыя пачуцці, што яна—самая першая ў гэтай шумнай грамадзе,—кружылі ёй галаву. Маладыя людзі лепшых сем'яў лічылі за гонар запрасіць яе на мазурку або кракавяк. І яна танцавала, аж пакуль не пачынала кружыцца галава, бурныя нацыянальныя танцы, захапляючы і сівых старых і маладых паноў.

— Якая яна дзівосная!—заўважыў Варнеры, не адрываючы позірку захаплення ад танцуючай Людвігі.

Ен сыходзіў з капітанам Врона ў залу, пакінуўшы Эдварда з князем Замойскім. З апошніх ступенек лесвіцы была відна ўся зала.

— Жанчыны—не мая стыхія, мос'е Варнеры! Мізерная порцыя какаіна хвалюе мяне больш, чым усе гэтыя патэнтаваныя красуні,—бязбожна каверкаючы французскія словы, адказаў Врона.

Варнеры брыдліва паморшчыўся.

— Пра густы не спрачаюцца... Як вы лічыце, ці прыстойна будзе, калі я запрашу яе на тур вальса? Не таюся, я амаль закаханы!

— Я думаю, што запрасіць можна, калі вы ўжо не можаце вытрываць. Але толькі памятайце, для староннніх вы—усяго толькі гувернер малодшага сына Замойскага... Жадаю поспеху! Хоць на гэта і няма надзеі,—вяла праказаў Врона.

Прысадзісты вахмістр настойліва дамагаўся, каб Юзэф выклікаў лейтэнанта Шмультке. Стары, бачучы, што вахмістр увойдзе нават без дазволу, пайшоў далажыць.

Праз некалькі мінут з'явіўся Шмультке пад руку з Стэфаніяй. Обер-лейтэнант падвесяліўся ўжо. Убачыўшы вахмістра, ён сярдзіта шавяльнуў вусамі а-ля Вільгельм.

— У чым справа, Зуппе? Я-ж сказаў, каб мяне пусцякамі не трывожылі.

Шмультке не выпускаў рукі Стэфаніі і яна не спяшалася ісці. Вахмістр не адважваўся ў яе прысутнасці гаварыць, але вусы лейтэнанта шавяліліся так пагрозна, што ён паспяшаў адрапартаваць.

— Адважуся далажыць, пане обер-лейтэнант, што мною затры-

ман у фальварку ўжо аднойчы арыштаваны вамі Мечыслаў Пшыгодскі, які называе сябе ваеннапленным і які быў уцёк разам з іншымі арыштантамі пры налёце дэзертыраў на вакзал...

— Арыштаваны і добра! Пра гэтае мог далажыць і заўтра.

Вахмістр нерашуча патаптаўся.

— Але гэты чалавек падбухторваў салдат... Апрача гэтага, у фальварак прышоў п'яны дзяншчык пана маёра і прынёс узяты недзе кошык з віном. Ён пачаў расказваць, быццам ведае, што ў Германіі адбылося...—вахмістр заікнуўся і так не праказаў страшнага слова.

Шмультке вызваліў руку Стэфаніі.

— Што такое?

— Тады гэты ваеннапленны пачаў падбухторваць салдат, каб арыштаваць паноў афіцэраў.

— Досыць! А дзе ты быў? Прабачце, графіня я павінен пайсці.

Устрывожаная Стэфанія паспяшыла на верх да Эдварда. Коратка расказала Юзэфу, які сядзеў каля дзвярэй, пра арышт яго сына. Стары хутка спусціўся ўніз.

Выслухаўшы Стэфанію, Эдвард запытаў увайшоўшага Врону:

— Другі сын старога Юзэфа завярбован вамі?

— Не. Гэта дзіўны суб'ект. Раніцою на маю прапапову ён адказаў, што наваяваўся і з яго хопіць.

Казімір Могельніцкі, які не пакідаў габінета сына, прачнуўся ад дрымоты.

— Трэба, каб Шмультке не выпусціў гэтага нягодніка з сваіх рук... Кха-кха-кха... Наогул падазрона, адкуль ён узяўся.—Ён зноў закашляў. —Бо гэты тып здольны на ўсякае злачынства... Я толькі сёння даведаўся, што ён тут. Ён, аказваецца, набіў Францыску... Прашу цябе, Эдвард, прымі меры!

— Супакойся, айцец—немцы без нас запруць яго куды належыць. Для нас, урэшце, гэтая гісторыя на руку... Дзяншчык відаць, пачытваў у маёра сакрэтныя паперкі, і добра, што салдаты ведаюць пра рэволюцыю. Нічога, Стэфа, усё гэта пусцякі! Пойдзем, князь, на хоры, паглядзім як весяліцца моладзь,—адтуль усё добра відаць.

Увесь гэты вечар Францыска працавала ў кухні. Яе не пусцілі ўслугоўваць гасцям з-за двух вялізных сінякоў на твары. Калі Юзэф сказаў ёй пра арышт мужа, яна у першую хвіліну разгубілася, а пасля сярдзіта загрымела талеркамі.

— Ну і няхай! Якая мне справа? Не муж ён мне? Каб правалілася такое жыццё. Няхай яго хоць павесяць, мне не шкада.

Слёзы перашкаджалі ёй гаварыць. Ёй было шкада самой сябе, сваёй спаганенай маладосці. Успомніла ўсе знявагі, крыўду, якія яна цярпела ў гэтым доме. І самай большай усё-ж была крыўда на Мечыслава, які набіў яе ў дзень прыезду. І якімі толькі брыдкімі словамі не называў ён яе. Слёзы пацяклі яшчэ больш. Было шкада сябе, шкада яго. Чаго ён там натварыў? Чым гэта скончыцца? І ад таго, што Мечыславу пагражала, бяда, яна трывожылася. Яна не хацела прызнацца, што ей страшна за яго лёс, што ён для яе ўсё яшчэ дарагі.

Стэфанія з жалем зірнула на Францыску. Пакаёўка, стрымліваючы слёзы, збянтэжана торгала кончык фартуха.

— Я бадай ці магу што небудзь зрабіць. Стары граф вельмі не любіць твайго мужа. І наогул зараз такі час...

— Вы ўсё можаце, яснавяльможная пані. Прашу вас! Варта вам толькі пагаварыць з панам афіцэрам, і ён адпусціць—упрашала шэптам Францыска.

Стэфанія зрабіла адмоўны жэст.

— Не, я не магу зараз гаварыць лейтэнанту пра гэта! І пры гэтым ты мяне дзівіш—чалавек цябе збівае, а ты...

— Ну дык што-ж! Б'е—значыць кахае...

— Вось як! Стэфанія здагадалася, якую ролю адыгрываў стары граф у гэтай справе, і не палічыла магчымым прадаўжаць гаворку. Надаўшы пакаёўцы надзеі неазначальным абяцаннем, яна з калідора, куды яе выклікала Францыска, вярнулася ў залу.

Хэля ад прыступу холаду хуталася ў коўдру.

Устрывожанная маці сядзела побач.

— Можа паслаць па доктара, дзіцятка?

— Нічога, мамуся, пройдзе. Я крыху настыла. Пакінь мяне адну...

— Ну, цяпер ты ад мяне не ўцячэш, брыдота, як у першы раз! Дык ты кажаш,—арыштаваць афіцэраў? Пакуль што мы яшчэ зможам скараціць тэрмін твайго сабачага жыцця... Ну, адказваць на пытанні, а то...—Шмультке стукнуў руляй парабелума аб стол.— Імя, прозвішча?

— Пшыгодскі Мечыслаў.

У вялікай зале танцавалі мазурку. Зухавата стукалі абцасамі паны, плаўна кружыліся жанчыны.

— Я ачараваны вамі, графіня!

Людвіга ўсміхалася. Яна пазірала цераз плячо Варнеры на хоры, дзе стаяў ганарысты і стрыманы Эдвард. А лейтэнант думаў, што яна ўсміхаецца яму...

— Нех жые вялікая Польшча ад мора да мора! Нех жые вялікае дваранства польскае! Смерць нашым ворагам!—крычаў Уладыслаў, які зусім страціў розум ад віна.

— Віват!—адказвала яму зала, заглушаючы на момант аркестр.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЕРТЫ

— Тата, глядзі, сонейка ў госці прыйшло!—Мойшэ ловіць ручкамі залатыя водбліскі на бруднай падлозе.—Тата! Я табе прынясу трошкі сонейка... Яно ўцякае, не хоча...

Мойшэ жмурыць вочкі. Адзінокі прамень заглянуў яму ў твар. Ён ведае, сонца зараз пойдзе спаць, тады стане зусім цёмна. Зараз дзядулька і тата шпарка—шпарка застукаюць малаткамі, Яны заўсёды так робяць, калі сонейка засынае, бо ў іх няма газы. А ім трэба шыць боты. Заўтра прыдзе сярдзіты дзядзька з вялікім

нажом пры поясе і будзе крычаць на дзядульку. Мойшэ не ведае, пра што гаварыць дзядзька з дзядулькам, а дзядулька ведае. Пра што-б Мойша ў яго не запытаўся, заўсёды адкажа... Вось бабулька ўжо запальвае трэскі пад трыножнікам. Скора будзем есці! Мойшэ спамінае, што ён ужо даўно галодны. Даўно ужо ён не еў нічога смачнага. Усё адна фасоля без масла. Калі бабульцы абрыдае варыць яе? Можа цёця Сара прынясе яму яблык або цукерку? Мойшэ любіць цукеркі і цётку Сару. Цётка Сара ласкавая, харошая. Яна заўсёды гуляе з Мойшам, калі не шые. Ён бачыў гэты дом, дзе многа цётак нешта шыюць... Вочы ў цёткі Сары вялікія—вялікія! Чорныя, як вакса. У іх Мойшэ бачыць самога сябе. У Мойшэ таксама ёсць свой куток—пад сталом. Тут усё яго багацце—лавачка, кавалкі скуры, маленькі малаточак, падарунак бацькі, драўляныя цвічкі. Мойшэ таксама шые боты, толькі маленькія, як цацкі.

Пад сталом у Мойшэ добра. Тут ён нікому не перашкаджае і мама не крычыць на яго, што ён блытаецца пад нагамі. Тата і дзядулька працуюць у другім кутку, пад акном у столі. Адтуль сонейка прыходзіць у госці вельмі рэдка, але прыходзіць на трошкі. Мойшэ не паспее пагуляць з ім, як яго ўжо і няма.

У кутку яшчэ печ,—там мама і бабулька. У кутку яшчэ ложак. Бабулька спіць на печы. Цётка Сара спіць на куфры. Дзядулька—на скрыні са скурай. Тата і мама—на ложку, а Мойшэ з усімі па чарзе. У доме чатыры куткі, а яму чатыры гады. Тата ўчора казаў дзядульку... Мойшэ не паспеў успомніць, што сказаў тата. Дзверы рыпнулі. А—а—а! цётка Сара! Мойшэ нават падскочыў ад радасці.

Ён ужо ахапіў ручкамі калені цёткі Сары. Зараз ён даведаецца, ці прынесла яна яму гасцінца... Мойшэ ведае дзе лепш за ўсё сядзець вечарам,—на каленях цёткі Сары! У яе доўгія, цяжкія косы. Кончыкі іх пушыстыя, і так прыемна шчыкатаць імі носік.

Шпарка стукаюць малаткі. Вечар хутка зачыніць чорнай шапкай акенца. Толькі аганёк пад трыножнікам будзе асвятляць пакой...

Мама наразае хлеб. Тата і дзядулька мыюць рукі.

— Чаму ты маўчыш, Сарачка?—запытаў тата.

— Шпільман прагнаў мяне з майстэрні.

— За што?—крыкнулі усе амаль адначасова.

Толькі Мойшэ маўчыць.

— За тое, што я назвала яго крывасмокам.

Мойшэ не ведае, што такое „крывасмок", але гэта, напэўна, страшнае.

— А няўжо ты думала, што ён табе за гэта пенсію павялічыць?—голас у мамы злосны. Яна не любіць цётку Сару.

— Па твойму, Фіра, я павінна была маўчаць? Ён штомесяц змяншаў нам заробак, прымушаў працаваць па чатырнаццаць гадзін у дзень. Сам багацеў, а ў нас грашы адбіраў. Гадзіна праціўная!

— Што-ж цяпер будзе? Мы думалі тваёй пенсіяй у наступным месяцы заплаціць Абрамахеру за кватэру,—спалохана сказаў дзядулька.

— Якая ёй да гэтага справа? Яна жыве сваёй галавой, у яе свой гонар... Ледзь не вяльможная пані! Яна дазваляе сабе гру-

біць гаспадару, а заўтра ёй есці не будзе чаго. Ці ты спадзяешся, што цябе прахарчуюць брат з бацькам?— крычыць мама.

Мойшэ спалохана глядзіць на яе. Яна худая, нос у яе завостраны. Мама заўсёды хварэе і заўсёды сярдзіцца.

— Не трэба сварыцца, Фіра. Калі ў доме няшчасце, дык яно не зменшыцца ад сваркі.

Гэта гаворыць дзядулька. Ён любіць цётку Сару і Мойшэ. Дзядулька вельмі стары. Барада ў яго доўгая, белая. Бровы сярдзітыя, а вочы добрыя. Дзядулька заўсёды сядзіць сагнуўшыся, ад гэтага ў яго спіна крывая.

Нехта стукае ў дзверы. Вось яны адчыняюцца і Мойшэ бачыць важнага дзядзьку Абрамахера. Усе таксама пазіраюць на яго і маўчаць.

Нарэшце дзядулька загаварыў:

— Добры вечар, пане Абрамахер! Сядайце, калі ласка. Фіра, запалі свечкі.

Мойшэ хоча запытаць у дзядулькі: хіба сёння субота. Але ён баіцца важнага дзядзькі.

— Я зайшоў да вас, Міхельсон, запытаць: Ці думаеце вы заплаціць за кватэру, або я павінен прыняць іншыя меры?—сказаў важны дзядзька.

— Вы ўжо крышку пачакайце, пане Абрамахер. Заплацім абавязкова! Толькі грошай зараз няма. Ні маркі! Самі ведаеце, цяжка цяпер жыць беднаму чалавеку. Што заробіш, тое праясі. Вось думалі, што Сара атрымае пенсію, але яе пан Шпільман звольніў...—ціха адказвае дзядулька.

Дзядзька паглядзеў на цётку Сару. Ён падобны да тлустага ката, які сядзіць на плоце і пільнуе вераб'ёў. Кот хітры! Здаецца, што ён спіць, а ён усё бачыць! А як толькі верабей сядзе на плот, дык ён яго—цап лапай!.. і вусы ў дзядзькі, як у ката.

— Мяне ўсё гэта мала цікавіць. Я пытаю: калі вы заплоціце за кватэру?

Ён надзяе шапку. Каб хутчэй ён пайшоў!

— Калі заўтра вы не заплаціце за ўсе чатыры месяцы, шэсцьдзесят марак, дык паслязаўтра вы ўжо будзеце кватараваць на вуліцы.

— Як на вуліцы? Там-жа ўжо зіма! Пабойцеся бога, пане Абрамахер. Ёсцека-ж у вас сэрца! Вы-ж таксама яўрэй!—заплакала бабулька.

— Я перш за ўсё—гаспадар дому. Для бога і жабракоў яўрэяў я афяроўваю кожны месяц крышку больш, чым вы мне вінаваты. Але калі вы думаеце, што яўрэй яўрэю не павінен плаціць за кватэру, то вы памыляецеся,—гаворыць дзядзька.

— А якая кватэра? Гэта-ж труна!—тата закрычаў так, што Мойшэ ўздрыгануўся.

— Ха! Труна? А вы за 15 марак хочаце жыць у палацы? Ну, я ўсё сказаў. Заўтра, каб былі грошы! Апрача таго, наогул знайдзіце сабе лепшае памяшканне. Я не маю намеру трымаць у сваім доме няўдзячных грубіянаў.—І дзядзька павярнуўся да дзвярэй

Мама кінулася за ім.

— Пачакайце, пане Абрамахер! Не злуйце на мужа за яго словы. Мы людзі неадукаваныя, можа, і не ўмеем сказаць як трэба. Вы ўжо даруйце, пане Абрамахер! Вядома, мы заплацім!... А можа за частку грошай мы адробім вам чым-небудзь? Вы, напрыклад, наймаеце-ж прачку. Дык я магу мыць вам бялізну... Можа, штонебудзь трэба пашыць пані Абрамахер і дочкам, дык Сара можа гэтае зрабіць,—жахліва ўпрашвала мама важнага дзядзьку.

Дзядзька яшчэ раз зірнуў на цётку Сару і адказаў:

— Так і быць, я пачакаю некалькі дзён... Няхай яна,—ён паказаў пальцам на цётку Сару,—заўтра прыдзе да мяне ў кантору. Можа для яе знойдзецца работа... але грошы вы ўсё-ж рыхтуйце...— і важны дзядзька выйшаў.

Мойшэ вельмі хацеў паказаць яму ўслед язык, але калі мама ўбачыць,—яна зноў надзярэ яго за вушы, як раніцою, калі ён прывязаў да хваста кошкі карабок з цвічкамі.

Толькі позна ноччу варочаўся Сігізмунд Раеўскі ў маленькі пакоік: Ядвіга з трывогай паглядала за ім. Ноччу, абнімаючы яго, шаптала:

— Я цябе так мала бачу... Зноў, Зыгмунд, усё як і тады! Няма спакою ў маім сэрцы—баюся за цябе! Гэтак ужо відаць, мне з роду суджана... Калі вярнуўся, шчасцю свайму не верыла. Бо гэтулькі год,—зразумей, Зыгмунд, колькі год!—Адна без цябе...

Сігізмунд моўчкі паклаў сваю вялікую руку на яе плячо. Гэты дотык быў для яе даражэйшы за ласкавыя словы. Не ўмеў ён і раней гаварыць гэтых слоў. Але ці ёй не ведаць, як горача, як пяшчотна можа кахаць ён. Ёй прыпомнілася іх першае спатканне на нелегальным сходзе ў Варшаве. У яго ўжо тады была партыйная клічка—таварыш Хмуры. Яна ішла з гэтага сходу членам соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі Польшчы. Да самай хаты праводзіў новага таварыша высокі слесар вадаправода член камітэта, таварыш Хмуры. Ад той начы пачалася іх дружба, а затым і каханне...

— Мне страшна падумаць, Зыгмунд, што вас могуць адабраць ад мяне. Я кажу—вас, бо хлопчык стаў тваім ценем. Ён не зводзіць з цябе позірку... Я ведаю, што інакш і быць не можа. Але зразумей, як майму сэрцу? Дзе-б я ні была, што-б я ні рабіла—заўсёды думкі мае пра вас? Я так пакутвала, столькі перажыла, што я не вытрываю гэтай страты...

Быццам спыняючы яе, Сігізмунд сціснуў пальцамі яе плячо.

— Так нельга, Ядзя! Я разумею ўсё. Я таксама ведаю, што такое боль. У мацеры гэта, вядома, мацней. Страціць—гэта жахліва. Але як-жа быць? Ты-ж была ў партыі. Хіба не табе ведаць, што калі пачаўся ўжо бой, дык мэта адна—разграміць ворага, чаго-б гэта ні каштавала, магчыма, нават самага дарагога.

Ён адчуў на сваіх грудзх яе галаву і вільготную ад слёз шчаку. Яна слухала яго, разгубленая і абяззброеная.

— Я не хачу зараз асуджаць цябе за адрыў ад партыі. Бывае, што слабы не вытрымлівае цяжкасці барацьбы. Не ўсе ў гэтых

гады ўтрымалі ў руках партыйны сцяг. Некаторыя адыйшлі—усе свае клопаты і думкі аддалі сям'і. Для іх пагібель сям'і—іх уласная пагібель. Але хіба можна ўсё жыццё змясціць у гэтым пакоі? Падумай, Ядзя!

— Ты вернешся да нас, мая дарагая, і ў гэтым зноў знойдзеш шчасце... Што-б ні здарылася з намі, у цябе заўсёды застанецца мэта жыцця, самая цудоўная, самая высокая, якую толькі ведае чалавецтва.

Губы Ядвігі пяшчотна кранулся яго грудзей там, дзе стукае сэрца. Ахоплены вялікай, чалавечай пяшчотай ён прытуліў яе да сябе...

А ў другім канцы пакою раскінуўшы рукі, глыбока дыхаючы, моцна спаў сын. Ён сніў сон. Яны з бацькам стаяць на высокім кургане. Вакол неабдымны стэп. Ноч. А там, дзе ўсход, яркае зарава. І здаецца, што стэп палымнее. Вецер даносіць грозны рокат надыходзячай буры. Далёка, як ахапіць позіркам, хваля за хваляй ідзе мноства людзей. Залітыя яркім святлом, ярчэй за полымя гараць сцягі. Пабліскваe сталь. Дрыжыць зямля пад конскімі капытамі. І над усім гэтым кружыцца і лунае магутная песня: „Гэта, сынок, нашы ідуць. Хадзем насустрач", кажа бацька і бярэ яго за руку...

Раеўскія прачнуліся вельмі рана. Была нядзеля. Сёння ў доме машыніста вадакачкі, за паўкілометра ад станцыі, у глыбокім яры, каля ракі павінны былі спаткацца рэволюцыйныя рабочыя. Праз усе гэтыя дні і вечары Раеўскі адшукваў іх аднаго за адным па тых братэрскіх сувязях, што захоўваюць людзі, якія калі-небудзь разам змагаліся супроць сваіх прыгнятальнікаў. Знайшоў ён і старых падпольшчыкаў, якія часова адышлі ад барацьбы. І дзе-б ён ні ступаў, ён адчуваў за сваёю спіною сына, які асцярожна ахоўваў яго. І цяпер, калі ў прасторным пакоі машыніста сабраліся рабочыя, Раймонд сядзеў у пустой будцы стрэлачніка, на ўзгорку, каля павароткі ў дэпо. Адсюль яму відно ўсё вакол. Унізе, каля рэчкі, вадакачка. Праз правае акно відзен чыгуначны насып і стальныя рэйкі, якія ідуць на поўнач. Праз левае акно відны пад'ездныя пуці і дэпо, за ім—вакзал.

Машыніст Кавала ўвесь час корпаўся тут, папраўляючы для блізіру масток. Калі ўнізе, па сцежцы ўздоўж ракі, прайшоў чацверты чалавек, ён узяў тапор пад паху і накіраваўся да будкі.

— Цяпер глядзі пільна, хлопчык,—сказаў ён суха Раймонду.— Прыходзіць сюды ўжо няма каму. Калі-ж каго занясе выпадак, дык прапусці. А калі ён пачне спускацца ўніз, махні шапкай. Я дачку пашлю з двара глядзець. Яна мне скажа.

І ён пайшоў уніз.

— Олеся, ідзі, зірні там па гаспадарцы. Ды не забудзься пра што я табе гаварыў,—сказаў Кавала, уваходзячы ў пакой і звяртаючыся да дачкі.—Здаецца, усе цяпер? Так што можна пагаварыць.—І Кавала абвёў прысутных дапытлівым позіркам. Ён быў падобны да вожыка са сваёй сівою шчаціністай бародкай і коратка падстрыжанымі валасамі. Шэрыя разумныя вочы спыніліся на

Раеўскім.—Так што, слова за табою, Зыгмунд. Пачынай, а мы паслухаем,—сказаў ён, сядаючы да стала. І, звяртаючыся да астатніх, запытаў:

— Мусіць, пазнаёміліся? Мы-та з ім старыя сябры. Як вам вядома, яго прыслалі сюды шавяльнуць стаячую ваду. А то здорава тут ад народу адсталі... У горадзе пачынаецца заваруха, трэба гэта абмазгаваць.

Грыгоры Кавала гаварыў па-украінску.

— Таварышы!—пачаў Раеўскі.—Мясцовы рэволюцыйны камітэт даручыў мне абмеркаваць з вамі тое-сёе.

— А з каго складаецца гэты Камітэт?—прастадушна запытаў худзенькі Варабейка, які ціха ўсеўся ў кутку пакою. Ён быў самы маладзейшы з усіх прысутных. Раеўскі паглядзеў на яго і ўсміхнуўся.

— Можаце быць спакойны;—людзі надзейныя...

Варабейка збянтэжыўся.

— Мы ўжо маем партыйную арганізацыю,—гаварыў далей Раеўскі.—Праўда, нас не шмат,—усяго трыццаць сем чалавек. Але гэта правераныя людзі. У горадзе, як відаць, адбываецца пераварот. Немцы адыходзяць, а паны прыбіраюць уладу ў свае рукі. Сёння ў нас няма чым ударыць па гэтых руках. Значыць, трэба дзейнічаць, трэба ўзняць чыгуначнікаў, цукраварнікаў. А то гэтае варанне ўмацуецца, і тады не так лёгка яго будзе скінуць.

Даніла Чобат, які сядзеў насупроць Раеўскага, чалавек нядобра скроены, але моцна сшыты, чорны як антрацыт, якім ён карміў топку свайго паравоза, грузна шавяльнуўся, і стары табурэт жалліва скрыпнуў пад ім.

— Усё зразумела... А вось чым мы панкоў маццаць будзем? Народ мы ўзнімем, гэта факт! А зброі няма? Кулаком шмат не наваюеш,—прыглушаючы свой магутны бас, прагудзеў ён.

Усе мімаволі зірнулі на яго вялізныя кулакі.

— Калі справа ідзе пра зброю, дык хадзіць далёка не трэба—на сёмым пуці стаіць у тупіку запламбіраваны вагон. Там скрынкі з вінтоўкамі. Сам бачыў, як грузілі,—ажывіўся Верабейка.—Ну, а патронаў у артылерыйскім складзе, што каля станцыі, хоць завалíся! Калі на тое пашло, дык мы хоць сёння ноччу загонім гэты вагон сюды, да вадакачкі,—тут у момант разгрузім і складзем у запасной камеры. Вадакачка на водшыбе, гэтага ніхто і не заўважыць. Толькі зяваць не трэба.

Раймонд сачыў за хлопцам, які падыходзіў да будкі. Той ішоў проста па насыпу. Вецер даносіў абрыўкі песні:

> Ты навик, моя кохана,
> Смерть одна разлучит нас!

Было холадна, але ватняя куртка на хлапцу шырока расхінута. Ён, відаць, быў у вельмі добрым настроі. Рыжая шапчушка ссунута на самы верх. З кучаравым чубам, колеру спелага жыта,

забаўляецца вецер. Хлапец ішоў, усунуўшы рукі ў кішэні, і з захапленнем спяваў. Раймонд пазнаў яго. Гэта быў Андрый Птаха, з кацельнай цукраварнага завода.

Цяпер Раймонда непакоіла толькі адно—куды ішоў Птаха. Калі на вёску, дык ён пойдзе цераз пераезд направа. Вось ён на пераездзе... Не, павярнуў сюды! Ясна, ідзе да вадакачкі! Больш няма куды. Раймонд пакінуў месца сваёй варты.

— Эй, Андруша!

Птаха павярнуўся, здзіўлена паглядзеў на Раймонда, які невядома адкуль узяўся, і пайшоў яму насустрач.

— Ты адкуль, Андрый?

— Я да Грыгорыя Міхайлавіча. Вунь, унізе, яго дамок.

— А што ты там будзеш рабіць?

— Рабіць? Хм... Ды ано і тое-ж. Птушка у яго ёсць прывабная... Дык вось, я заўсёды ў нядзелю хаджу яе слухаць. Хораша спявае, шэльма!—Хітра ўсміхаючыся, адказваў Птаха і моцна сціснуў Раймонду руку.—А ты чаго тут?—Я? Так... Выпадкова прыблукаў. Ніколі не быў у гэтых мясцах... Захацеў паглядзець,—замяўся Раймод.

Птаха перастаў усміхацца. Шэрыя адважныя яго вочы недаверліва агледзелі Раймонда. Ён рыўком насунуў шапку да саміх брывей.

—Захацеў паглядзець? Бачыў я такіх рабчыкаў!—І, сярдзіта нахмурыўшыся, дадаў:—Лепш для цябе будзе—другое месца абраць. Тут ужо агледжана, зразумеў?

— Нічога не зразумеў.

— Ну, тады не абыйсціся без бойкі!

— Біцца? За што? Відаць, што ты выпіў сёння...

Але Птаха з выразным намерам выняў руку з кішэні.

— Чаго ты прыкідаешся? Думаеш, што цяпер ваша ўлада, дык і насміхацца можаш? Пляваць я хацеў на ўсё гэта. А вось пачну тынкаваць, тады пазнаеш, як з хахламі звязвацца. І загад табе не дапаможа!—пагрозна сказаў Андрый.

— Кінь, Андрый! Якая ўлада? Які загад? Калі ў цябе ўжо такая ахвота пабіцца, дык пашукай сабе каго-небудзь іншага,—адказаў Раймонд, якому ўжо абрыдзелі паводзіны Андрыя.

— Што, закантрапарыў? Ведае кошка, чыё мяса з'ела! Усе вы, палячкі, на адзін фасон: зверху шоўк, а ў пузе шчоўк! Прывыклі ездзіць на хахлах, як на аслах.

Раймонд ступіў да яго. Ледзьве стрымліваючыся, ціха праказаў:

— Каб ты не быў п'яны, дык я за гэтыя словы паламаў-бы табе рэбры... Прычапіўся, як злы сабака! А я яшчэ цябе за добрага хлопца лічыў... За што ты ўвесь польскі народ абражаеш? Які на мне шоўк? На чыёй я спіне езджу? Эх ты, бервяно!

Невядома, чым-бы скончылася гэтая гаворка, каб звонкі дзявочы голас не паклікаў знізу:

— Андры-ы-й!

Абодва азірнуліся. Унізе, каля дамка, на цэментовай пляцоўцы вадзянай камеры стаяла Олеся. Птаха некалькі секунд пастаяў нерашуча. Пасля, зноў ссунуўшы шапчонку на патыліцу, пачаў

спускацца. Адышоўшы некалькі крокаў, ён спыніўся і, пазіраючы не на Раймонда, а кудысьці ў бок, сказаў:

— А ты ўсё-ж наглядай сабе ў другім месцы. А то, хоць ты і свой хлопец, але морду наб'ю, зразумеў?

Алеся нецярпліва чакала, калі Андрый падыйдзе да яе. Нават сюды, у яр, заглядаў валацуга—вецер, сцюдзёны і сухі. Алеся вымушана была змагацца з ім, ратуючы ад яго, сараматніка, сваю спадніцу.

Цёплы вязаны світэр быў шчытна нацянут на яе грудзях і руках. Ей ішоў семнаццаты год. Гэта была чарнавокая смуглянка, жыццерадасная і порсткая. Жаноцкая сарамяжасць і задзёр перапляталіся ва ўсіх яе рухах. І гэтая супярэчлівасць асабліва вабіла да яе.

Стройная, як горная козачка, яна ведала пра сваю абаяльнасць. Жанчына, якая прачнулася ўжо ў ёй, падказвала ёй самыя прыгожыя рухі і тую няўлоўную форму какецтва, якую яна, сама таго не ведаючы, часта выкарыстоўвала, каб спадабацца.

— Ты пра што з ім гаварыў?—адразу запытала яна ў Андрыя, нават не павітаўшыся з ім.

— Так... Пра радню... Ягоны тата і мая бабка—стрэчныя знаёмыя... А ты што, з ім у глядзелкі гуляеш? Чаму ж на холадзе, у хату чаму не завеш? Я хацеў нагнаць яму жару, ды ты...

Андрый раптоўна змоўк. У прыжмураных вачах дзяўчыны было гэтулькі холаду, што ён зрабіўся сам не свой.

— А яшчэ што?

У гэтым пытанні Птаха ўлавіў несхаваную пагрозу. Каса наскочыла на камень. Андрый не хацеў сварыцца—не для гэтага ён ішоў сюды. Але спатканне з Раймондам і допыт Олесі, такі няветлы і нават злы, сапсавалі ўсё.

— Што яшчэ?—Олеся стукнула каблучком аб бетон.

— Я яшчэ сказаў яму, каб ён правальваў адсюль да чортавай бабулькі, зразумела?

Андрый рашыў, што дзень усёроўна сапсаваны і рваў напралом. Наляцеў вецер і заспеў Олесю знячэўку. Яна злосна ўдарыла рукою па ўзвіхранай спадніцы. Андрый сарамяжна адвёў позірк.

— Які ты асёл! Які ты асёл! Што цяпер чалавек падумае?—шаптала яна.

— Ну, няхай я—асёл, але чаго плачаш ты? Я-ж табе нічога такога...

— Я плачу? Неставала, каб я перад кожным хлапчанём яшчэ плакала! Вецер вочы рэжа, а ён... Таксама ужажор! Соплямі да зямлі прымярзае, а яшчэ пнецца... Скажы ты мне, чаго цябе чэрці ганяюць сюды? Колькі разоў казала, што бачыць цябе не хачу!

— Я чамусьці гэтага не чуў.

— Сыйдзі з вачэй, брыдкі.

Олеся адвярнулася. Андрый не ведаў, як памірыцца з ёю. Ён здагадаўся, што Раймонд прыйшоў сюды не на спатканне. Олеся тады трымалася-б інакш.

— Закурыць з гора, ці што?—тужліва сказаў ён і ўсадзіў руку ў кішэні па тытунь. Пальцы наткнуліся на складзеную паперу. Ён

дастаў яе, разгарнуў і яшчэ раз прачытаў: „Загад камандуючага ўзброенымі сіламі дзяржавы Польскай на Валыні“...

— Ты не ведаеш, Олеся, ці чытаў твой бацька гэтую штуковіну? Што ён робіць? Можа мне да яго пайсці, калі я тваёй душы неўспадобу?

— Да бацькі нельга—у яго госці. Дай сюды!—Олеся ўзяла лісток з яго рук.

Загад быў надрукован на польскай і рускай мове. Шпарка праглядзеўшы яго, Олеся павярнулася да Андрыя:

— Не ідзі за мною, я зараз вярнуся...—і пабегла да дому.

Андрый павесялеў. Справы, відаць, папраўляліся. Павярнуўшыся спіною да ветра, ён ад радасці, пачаў круціць агромністую цыгару.

У пакоі напружана слухалі. Раеўскі павольна і раздзельна чытаў:

„Параграф першы. Воляю народу з сёнешняга дня ўся ўлада ў краі належыць штабу легіянераў“.

— Бачылі? Залез на Украіну і камандуе імем польскага народу!—узрушана крыкнуў Остап Шчабель, чорнабровы прыгажун, малатабоец з дэпо.

— Цікава ў іх запытаць, калі яны ў польскага народу пыталіся?—порстка ўстаў стройны Мяцельскі і ў вачах яго палыхнула ярасць.

„Параграф другі. Абвяшчаю ў горадзе асаднае становішча. Хадзьба па вуліцах пасля сямі гадзін вечара забараняецца пад страхам расстрэлу“.

„Параграф трэці. Забараняюцца ўсякія сходы, сходкі, зборышчы без майго на гэта дазволу. Асоб, заўважаных у агітацыі супроць камандавання і ўноў арганізаванай улады, загадваю расстрэльваць на месцы“.

— Ого!

— Адразу відаць воўчы нораў!

— Нічога сабе „улада польскага народу“!

— А гэтага самога польскага народу баяцца, як чорта!

„Параграф чацверты. Папярэджваю, што кожны гвалтоўны захват кім-небудзь асабістых уладанняў грамадзян Польскай дзяржавы альбо іх маемасці будзе лічыцца як грабеж, і з захопнікамі будзе зроблена як з бандытамі“.

— Ага! Няхай-бы з гэтага і пачыналі!

— Народу штосьці не відаць, а вось памешчыцкі арапнік ёсць,—прагудзеў Чобат.

— Пра зямлю яшчэ маўчаць, каб народ не бунтаваўся. Час церпіць—зіма...—сказаў Варабейка.

— А ўладанні, што гэта, па тваему?—павярнуўся да яго Шчабель.

— Чытаю далей: „Параграф пяты. Абвяшчаю набор дабраахвотнікаў у новыя фарміруемыя часці. Кожны дабраахвотнік бярэцца на поўнае ўтрыманне, абмундыраванне і пяцьдзесят марак пенсіі ў месяц“.

— А далей што там?—нецярпліва запытаў Кавала.

— Далей? „Камандаванне будзе весці бязлітасную барацьбу з большэвікамі, як з самымі небяспечнымі ворагамі дзяржавы Польскай. Заўважаных у прыналежнасці да большэвіцкай партыі загадваю неадкладна аддаваць ваенна-палявому суду з разборам справы за дваццаць чатыры гадзіны“.

— Гэта ўжо спецыяльна для нас!

— У іх нядоўга пажывеш на белым свеце!

Чобат раз'ятрана забраўся ўсёю пяцернёю ў свае густыя валасы.

— Хто гэта ў іх такі шпаркі?—запытаўся ён.

Раеўскі зірнуў на подпісь.

— Палкоўнік Могельніцкі.

На хвіліну ў пакоі зрабілася ціха. Раеўскі паклаў загад на стол.

— Я думаю, таварышы, што цяпер усё ясна?

Чобат панура сапеў, заглядзеўшыся ў акно.

Раеўскі абвёў позіркам усіх пяцёх і не знайшоў ні страху, ні разгубленасці ў іх вачах.

„Харошы падабраўся народ“.

Сур'ёзныя рабочыя твары. Крышку панурыя. Шчабель не па гадах суровы. Верабейка нечага тужліва задумаўся. Шчабель і Варабейка не ведалі, што Кавала, Чобат і доктар Мяцельскі з'яўляюцца членамі Рэўкома. Яны лічылі, што толькі адзін Раеўскі быў яго прадстаўніком.

Раеўскі падышоў да гаспадара.

— Трэба паслаць моладзь у горад праведаць, што і як. Няхай Раймонд з тваёю дачкою сходзяць.

— Добра, зараз скажу.

— Цяпер мы пагаворым пра тое, што нам патрэбна рабіць,— прапанаваў Раеўскі.

Олеся падбегла да Птахі.

— Хадзем, брыдкі, у горад. Пагуляем, паглядзім, што там робіцца.

Калі ішлі на гару, яна сказала рашуча:

— Ты павінен памірыцца з Раеўскім, інакш я з табою—нікуды! Каб не быў ты дурнем, расказала-б табе, чаму гэты хлопец тут.

І пабегла да будкі.

— Хадзем у горад, Раймонд. Бацька сказаў, трэба паглядзець, што там робіцца. Ваш бацька застаўся ў нас, будзе чакаць. Сюды прыдзе Варабейка.—І пакуль падыходзіў Андрый, дадала, хвалюючыся.—Птаха вам нагаварыў глупства, але ён хлапец усё-ж добры. Вы на яго не злуйцеся! Ну, пашлі!

Птаха ішоў і размаўляў, быццам паміж ім і Раеўскім нічога не здарылася. На вакзале грымнула некалькі стрэлаў. Трывожна загудзеў паравоз, але неяк адразу змоўк, і стала ціха.

— Андрый, ты быў у горадзе? Што там робіцца?—трывожна запытала Олеся.

— А чорт яго ведае? Бачыў атрад кавалерыстаў. Каля гарадской Управы—кучка фендрыкаў з вінтоўкамі. Аднаго пазнаў—

Сладкевічаў, адвакатаў сынок. Начаплялі сабе белых арлоў на шапкі... Усё больш гімназістыкі. Смяхота!

На чыгуначных пуцях было бязлюдна. Дэпоўскія вароты зачынены. Штосьці пагрознае было ў гэтым бязлюддзі. За некалькі крокаў да выхаду на мост, які быў перакінут цераз станцыю, з-за вугла таварнага склада насустрач ім шмыганула нейкая фігура. Гэта быў аўстрыйскі паліцэйскі. Ен рынуўся быў у бок, але выгляд траіх яго супакоіў. Задыхаючыся і азіраючыся, ён гукнуў ім на ламанай польскай мове, махнуўшы рукою на поўнач.

— Вы не бачылі там узброеных людзей?

— Не,—адказаў Раймонд, які адзін з усіх траіх гаварыў папольску.

Паліцэйскі кінуўся бегчы да вадакачкі. Але Птаха раптам падставіў яму ножку і здаравенны шуцман з усяго маху бразнуўся аб зямлю. Гэтак-жа шпарка Андрый апынуўся верхам на ім. Як ні пакручваўся той, але выбрацца з цапкіх хлапцовых рук не мог.

— Раймонд, цягні ў яго левольвер! Ды жывей.

Раймонд нагнуўся да паліцэйскага і, спяшаючыся, і хвалюючыся, адшпіліў кабуру і выцягнуў з яе рэвольвер. Птаха шпарка адскочыў ад паліцэйскага, не забыўшыся выхапіць з ножан шырокі цесак, і заняў позу для абароны. Раймонд круціў у руках адабраны „маўзер“, не ведаючы, што з ім рабіць.

Усё адбылося так шпарка, што Олеся не паспела апамятацца. Паліцэйскі ўскочыў з зямлі. Ад сполаху і шаленства яго ніжняя скіўца дрыжэла. Але рашучы выгляд Птахі не дазваляў і думаць пра супраціўленне.

— Ну, а цяпер уцякай! Націскай на пяткі!—і Андрый красамоўна махнуў у паветры цесаком у кірунку на поўнач.—Не разумееш? Ну, як там па вашаму—махен драпіс да чортавай мацеры!

Раймонд схаваў рэвальвер у кішэню. Тады паліцэйскі пачаў спешна адыходзіць ад іх, штохвіліны азіраючыся. Прайшоўшы некалькі крокаў, ён расшпіліў пояс і кінуў непатрэбныя цяпер кабуру і ножны. Андрый пайшоў і падняў іх. Засадзіўшы ў ножны цесак і здаволена ўсміхаючыся, вярнуўся назад.

— Куды-б мне гэтую штуковіну запхнуць?

— Ты што, звар'яцеў? А калі-б ён нас усіх перастраляў?—накінулася на яго Олеся.

— Эх, каб ды кабы, параслі-б у носе грыбы! На якое ліха яму пісталет? Усёроўна, крамцы канец! А мне ён спатрэбіцца.

— Ну, а штык нашто табе? Кінь яго, пойдзем.

— Ну так! З яго два нажы важнецкія зрабіць можна. Я яго вось сюды пад ступенькі прымашчу. Тут не відаць.

На мосце ён дагнаў іх.

— Слухай, Андрый, калі ты думаеш яшчэ што-небудзь выкінуць, дык не хадзі з намі. У нас важная справа—суха сказаў Раймонд.

— Ну, чаго прычапіліся? Ужо ўсё ў парадку! Даўно мне хацелася пістоль мець, а тут, гляджу, з рук дабро ўцякае. А здорава я паліцая напалохаў! Напэўна, дзесятую вярсту ўбірае! Смя-хо-та!— Андрый зарагатаў так звонка, што Раймонд і Олеся ўсміхнуліся.

Да Андрыя вярнуўся добры настрой. На мосце ён ішоў, прытуптваючы і спяваючы:

Гоп, кумэ, нэ журыся,
Туды-сюды повэрныся!

Гэтак-жа раптам прышла яму думка завяршыць усё харошым учынкам.

— Ведаеш што, Раймонд, дару табе пістоль! Бяры! Ведай маю дружбу! Я сабе другі дастану.

Олеся рэзка павярнулася да яго.

— Ты што, зноў думаеш на каго-небудзь накінуцца? Не хадзі з намі! Чуеш? Не хадзі!

— Ды не! Што ты мне сёння настрой збіваеш? Я шчыра, а яна... Сказаў, выдумляць не буду, чаго-ж яшчэ? Ці мала дзе я сабе магу дастаць? Якая твая справа? На, Раймонд, кабуру і насі на здароўе... Што гэтае баб'ё разумее ў вайсковай справе!

— Ты пра баб'ё больш асцярожна.

Але Андрый ужо не слухаў яе. Абняўшы Раймонда і ўсміхаючыся збянтэжана, прашаптаў:

— Хто старае спамяне, таму вока вон, зразумеў? А з гэтай штуковіны мы з табою не раз стрэльнем у зручным месцы, згодзен?

Замест адказу Раймонд паклаў руку на яго плячо.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

У гэтую нядзелю ў палацы Могельніцкіх прачнуліся вельмі рана.

У канюшнях, апранутыя ў форму польскіх легіянераў узброеныя людзі сядлалі коней. У флігелях, дзе жылі шматлікія дваровыя, чакалі сігналу да выступлення пехацінцы.

Шмульткe і Зоненбург толькі што паснедалі. У пакой увайшоў Юзэф і падаў маёру запіску. Маёр прачытаў і сказаў:

— Графіня Стэфанія просіць нас зайсці да яе па вельмі тэрміновай і важнай справе.

Яны здзіўлена пераглянуліся, але зараз-жа ўсталі з-за стала і, агледзеўшы мундзіры, моўчкі пашлі за старым.

На другім паверху Юзэф шырока расчыніў дзверы будуара Стэфаніі і гэстам запрасіў немцаў увайсці.

Але замест графіні іх спаткалі некалькіх узброеных афіцэраў, у невядомай форме. Адзін з іх зачыніў за немцамі дзверы і стаў з рэвальверам у руцэ за ўвайшоўшымі.

— Што гэта значыць? суха запытаўся Зоненбург.

Шмульткe інстынктыўна працягнуў руку да пояса. Але рэвальвер быў пакінуты ў пакоі маёра.

У кутку будуара ў глыбокіх крэслах сядзелі Баранкевіч і стары граф.

— Сядайце, панове,—сказаў адзін з афіцэраў, пакарэжыўшы грымасай-усмешкай бледны твар.

Немцы ўсё яшчэ стаялі.

Баранкевіч цяжка ўстаў з крэсла і падышоў да іх. Ен, як знаёмы, працягнуў ім руку, але абодва афіцэры нават не шавяльнуліся. Баранкевіч пачырванеў.

— Гэ.. умм... так!—пачаў ён.—Справа такая, панове. Паколькі вы пакідаеце нашу краіну і больш не зможаце ахоўваць нас і падтрымліваць парадак, мы парашылі самі заняцца гэтым.

— Хто гэта вы?—скоса зірнуў на яго ўзлаваны Зоненбург.

— Мы—гэта штаб польскага легіёна. Маю гонар пазнаёміць!—І Баранкевіч павярнуў сваю тушу ў бок аднаго з польскіх афіцэраў.—Палкоўнік граф Могельніцкі, начальнік легіёна.

— Эдвард Могельніцкі? Палкоўнік французскай службы?

— Амаль верна, пане обер-лейтэнант. Я, уласна, палкоўнік рускай гвардыі, але ўсю вайну правёў у Францыі, як член рускай ваеннай місіі і пасля большэвіцкага перавароту ў Расіі застаўся афіцэрам французскай службы,—адказаў Эдвард з халоднай пачцівасцю.

— Дык мы павінны арыштаваць вас.

— Крышку спазніліся, пане обер-лейтэнант. Ды мы заклікалі вас сюды з зусім іншай мэтай. Для абодвух бакоў будзе лепш, калі мы спакойна абмяркуем становішча, якое стварылася зараз,—гаварыў Эдвард.—Мы займаем горад. Ад вас мы патрабуем нейтралітэту. Мы не будзем перашкаджаць вашай эвакуацыі адгэтуль толькі пры ўмове неўмяшання ў нашы справы. Вядома, усе склады зброі і абмундыравання пераходзяць да нас.—Шмультке зрабіў узгневаны гэст.—Вы самі бачыце, гэта не бунт натоўпу, але следам за вашымі адступаючымі часцямі рушаць чырвоныя. Яны наваляцца на нас адразу-ж пасля адыходу нямецкіх войск. Вось чаму мы вымушаны, не чакаючы, пакуль вы адыйдзеце, заняцца навядзеннем парадку ў акрузе і мабілізацыяй нашых сіл. Я звяртаюся да вас, пане маёр і пане обер-лейтэнант. Вы абодва дваране і афіцэры. Праўда, мы з вамі знаходзіліся ў варожых лагерах. Але зараз у нас з вамі агульны вораг—рэволюцыя. Калі пачнеце барацьбу з намі, дык гэта будзе толькі на руку чырвоным. Я не думаю, каб вы гэтага хацелі!

Некалькі секунд цягнулася маўчанне. Шмультке дапытліва зірнуў на Зоненбурга.

— Добра. Але як паставіцца да гэтага яго прэвасхадзіцельства начальнік гарнізона?—разгублена прамармытаў Зоненбург.

— Яго прэвасвяшчэнства біскуп Бенедыкт ужо дамовіўся з панам палкоўнікам,—ціха праказаў нехта за яго спіною.

Немцы азірнуліся. Перад імі стаяў айцец Іеронім, які незаўважаны ўвайшоў у пакой у часе гаворкі. Ен падаў Зоненбургу запячатаны канверт і пакуль немцы чыталі, ціхмана пашоў у кут і сеў побач са старым графам.

— Дык які ваш адказ, панове афіцэры?—запытаў Эдвард.

— Нам застаецца толькі падпарадкавацца,—глуха адказаў Зоненбург.

— Вельмі рад! Вы, панове, вядома, вольныя. Ад гэтага часу вы госці ў нашым доме. Будзьце ласкавы папярэдзіць вашых салдат аб тым, як яны павінны трымацца. Паручык Зарэмба, схавайце

ваш рэвольвер. Падпаручык Могельніцкі, перадайце атраду мой загад падрыхтавацца. Панове афіцэры, займайце вашы месцы.

Праз поўгадзіны невялікі атрад, які складаўся з кавалерыі і пяхоты, з трымя кулямётамі, рушыў да горада.

У вялікай камеры быў змрок. Два маленькіх вякенцы з тоўстымі кратамі амаль не прапускалі святла. Цесната. Замест пятнаццаці чалавек—тут трыццаць адзін. Дашчаныя нары завалены людзьмі. Смуродна і брудна тут.

Здаравенны селянін, які ляжаў проста на падлозе, павярнуў да Пшыгодскага сваю вялікую галаву і ўсадзіўшы пальцы, як грэбень, у шырокую бараду, сказаў:

— Што ты там мне квакаеш? Спрадвеку ляхі нас мардавалі. Прывык пан лічыць нас за скаціну, так і заве—„быдла". Не бываць між палякам і хахлом міру да самага скanання свету!

Пшыгодскі сярдзіта плюнуў.

— Які ты тупы чалавек! Усяго табе дадзена ўволю, а розуму мала... Ды вазьмі ты мяне і сябе, у прыклад, мядзведзь ты касалапы! Чаго нам з табою варожасці трымацца, скажы калі ласка? І цябе і мяне памешчык стараецца ў ярмо запрэгчы, ды і ганяць да самага поту. Выходзіць паляк паляку—розніца. Не ўсе-ж яны памешчыкі, чорт вазьмі! Ёсць і такія бясштонныя, як ты!

Селянін слухаў недаверліва.

— Нябось, каб і ты быў памешчыкам, дык таксама заганяў-бы арапнікам не горш пана Зайончкоўскага. Сам кажаш, бясштонны, а ўсё ў нас тыцкаеш—„дурань", ты, баран вясковы, а я, бач, разумны". Гонар свой выстаўляеш...

Пшыгодскі ўзняўся і сеў на нарах. Некалькі секунд панура глядзеў на субяседніка, потым усміхнуўся.

— Дзівак—чалавек! Я-ж табе па добраму, а ты крыўдуеш...

— Гэта ты дурня ды мядзведзя так па добраму лічыш?

— Кінь, татуля! Ты да маіх слоў не чапіся, ты ў корань глядзі!

З-пад нар высунулася брытая галава і на Пшыгодскага зірнулі лісіныя вочкі.

— Ну і ўпарты ж вы, пане Пшыгодскі! Хочаце з гэтага бугая скакавога жарабца зрабіць! Хі-хі-хі!—і ўласнік лісіных вочак выбраўся з-пад нар, дзе ён спаў.

— Якая твая сабачая справа?—спакойна адказаў яму селянін, зразумеўшы польскую гаворку.

Пшыгодскі таксама непрыязна і скоса зірнуў на вертлявага чалавечка ў пачарнелым ад бруду летнім гарнітуры з пакамечаным гальштукам.

— У мяне да ўсяго ёсць справа, на тое я...

— Шулер і ахмурала!—дакончыў замест яго звонкі юнацкі голас з кутка камеры.

— Ты, шчанок, цішэй там, а то...—і чалавечак красамоўна паказаў рукою.

Пажылы з худым тварам, рабочы, які ляжаў побач з Пшыгодскім, умяшаўся ў перапалку.

— Асцерагайся з кулакамі, пане Дзёбек.—Пшанічак праўду сказаў. Факт, што ты ўсіх прасцячкоў абабраў у камеры.

— Я? Абабраў?—І Дзёбак усунуў руку ў кішэню.

Камера даўно прачнулася, але толькі цяпер заварушылася. І ў гэтым руху Дзёбек адчуў выразную пагрозу.

— Як ты мяркуеш, Патлай, чаго ён руку ў кішэню садзіць кожны раз, калі яму хвост прышчэмяць? Настрашыць, ці што хоча, або ў яго такая прывычка?—запытаўся ў суседа Пшыгодскі.

— Я ведаю, там у яго бяспечная брытва,—падказаў юнак з кутка, усцягваючы боты.

Потым ён шпарка ўстаў і, пераступаючы цераз тых, што ляжалі на падлозе, падышоў да Дзёбека. Гэта быў высокі белавалосы хлапец з блакітнымі вачыма, апрануты ў рабочую вопратку пекара. Паліцыя арыштавала яго ў часе работы за тое, што ён з нажом кінуўся да гаспадара, які збіваў дзесяцігадовага вучня.

— Пакажы, што там у цябе?—крыкнуў ён Дзёбеку.

Камера прыціхла. У гэты час па калідоры прабег нехта з вартаўнікоў. Пасля пачуўся тупат цяжкіх ботаў.

Дзверы камеры адчынілі. На парозе стаяў афіцэр у невядомай нікому форме. За ім—некалькі салдат. Перапалоханы начальнік турмы гартаў лісты тоўстай кнігі з атэстатамі арыштантаў. Пшыгодскі ўстаў. У адным з салдат ён пазнаў свайго брата Адама, а ў афіцэры—таго пана, які прапанаваў яму ўступіць у польскі легіён.

— Тут, пане капітан, сяляне, арыштаваныя за паўстанне,— мармытаў па-нямецку начальнік турмы.

— Гэта па справе аб захваце сена ў Зайончкоўскага?—запытаў Врона.

Так-так... Потым сем рабочых цукровага завода.

— Ведаю.

— Яшчэ некалькі чалавек за розныя справы. Паміж іх два палякі. З іх Дзёбек па абвінавачванню за шулерства і шантаж— і Пшыгодскі.. Гэты ў спецыяльным веданні камендатуры.

— Ведаю.—Врона ўжо намацаў позіркам Пшыгодскага.

— Ну, астатнія па дробных справах. Паміж іх адзін непоўнагодні—Пшанічак.

Врона ўзяў кнігу, зрабіў адзнаку чырвоным алоўкам супроць прозвішча Пшыгодскага, рабочых—цукраевараў і сялян.

— Астатніх выпусціць. Няма чаго карміць дармаедаў! Хадзем далей.

Пакуль адчынялі дзверы ў наступнай камеры, начальнік паспеў прачытаць імя тых, хто вызваляўся.

Праз дваццаць хвілін у камеры асталося шаснаццаць. Патлай спехам пераказаў праз Пшанічака некалькі слоў сваёй жонцы, Пшыгодскі-ж спадзяваўся пагаварыць з братам.

— Пане капітане, адважуся прасіць вашу міласць выпусціць майго брата Мечыслава Пшыгодскага, што ў дзевятай камеры. Ён супроць немцаў агітацыю праводзіў, дык яго за гэта ўзялі...

Голас Адама дрыжэў. Ён не аднімаў рукі ад казырка канфедэраткі.*)

— Радавы Пшыгодскі, я сам ведаю, што рабіць. Адпраўляйся да варот!

Адам замер на месцы.

— Што я сказаў? Кругом марш! Чаго стаіш, пся крэў?

Маўчанне. Ад удару кулака па твару ён пахіснуўся і ледзь не выпусціў стрэльбы.

— Марш, а то застрэлю, як сабаку!

Адам цяжка рушыў з месца. Павольна пайшоў па калідоры, цягнучы па падлозе вінтоўку. Мінаючы камеру № 9, ён спаткаўся з позіркам брата. Той усё чуў.

Вестка пра пераварот і пра тое, што вызваляюць арыштаваных, у момант пашырылася ў горадзе. Хутка на ўскраіне каля турмы сабраўся натоўп. Атрад легіянераў не падпускаў нікога блізка да варот.

Раймонд, Андрый і Олеся таксама былі тут.

Вызваленых засыпалі пытаннямі, абступіўшы шчыльным кругам, але ніхто нічога як след не ведаў. Калі з варот выбег малады хлопец у вопратцы пекара, яго зараз-жа абступілі.

— Ты што, таксама сядзеў?

— Так.

— Значыць, усіх вызваляюць?—запытаў у яго Раймонд.

— Ну так, усіх! Адных жулікаў толькі... А якія сумленныя, дык тых яшчэ на адзін замок.

— Выходзіць, ты жулік? Раймонд, беражы кішэню! А то ў яго адзін момант і кішэня пустая!

Пшанічак раз'ятрана павярнуўся да Андрыя.

— Гэта ты сказаў, што я жулік? Сакраменска потвора!

— Сам назваўся!—крыкнуў яму Андрый, рыхтуючыся да бойкі.

— Ды чаго вы счапіліся, як пеўні? Не дадуць як след распытаць у чалавека!—крыкнула пажылая жанчына, торгаючы Пшанічака за рукаў.

— Дык не ўсіх, кажаш? А каго-ж пакідаюць?

— Я-ж казаў—каторыя за праўду, дык тыя і будуць сядзець! А калі мяне яшчэ хто жулікам называе, так я яму з морды піражнае зраблю... Я за праўду сядзеў! А чаму выпусцілі, чорт яго ведае!

— Эй, ты! Што ты тут брэшаш? Хочаш зноў за краты?—пагрозна крыкнуў Пшанічаку багата апрануты пан, добра вядомы ўсяму гораду ўласнік кілбаснага завода, і штырхануў пекара кіем у спіну.

Андрый вырваў кій з яго рук.

— Ты за што яго ўдарыў, калбаса смярдзючая? На, бяры рэшту!—і Андрый спрытна збіў капялюш з галавы гандляра.

— Трымайце яго! Палі-ы-цы-я!—зароў той, схапіўшыся рукой за лысіну.

---

*) Польская вайсковая шапка з чатырохкутнім верхам.

Па бруку зацокалі капыты.

— Гэта што за зборышча?—з вышыні каня Эдвард Могельніцкі агледзеў пагардлівым позіркам натоўп, які сабраўся каля турмы.— Паручык Зарэмба, ачысціць пляц!

— Ра-зый-дзіся!—закамандаваў Зарэмба.

Над яго галавою бліснула шабля.

Натоўп рынуўся ў бок і пабег, валяючы ўсё на сваім шляху.

Атрад легіянераў, што стаяў каля варот турмы, узяў вінтоўкі на перавес. Гэта магло служыць і вітаннем да камандзіра, і страхам для натоўпу.

Прабегшы два кварталы, Раймонд, Олеся і Пшанічак спыніліся. Разагнаўшы натоўп, легіянеры паехалі.

— А дзе ж Андрый? Вы яго не бачылі?—хвалявалася Олеся. Ад бегу яе шчокі пачырванелі, яна дыхала глыбока.

Малады пекар паглядзеў на дзяўчыну, пасля на Раймонда і тужліва ўсміхнуўся.

З завулка вынырнуў Птаха. Ён бег лёгкім подскакам, круцячы ў руках кіёк.

—А-а-а! Вось дзе вы! Фу... А я крышку адстаў.—Яго вочы блішчэлі ад смеху.

Падбегшы да сяброў, ён прыпёрся да паркану і зарагатаў:

— Эх, каб толькі вы бачылі, як ён уцякаў! Памру! Калі ўсе рынуліся, дык я яшчэ раз пачаставаў кілбасніка кіем. Як рване ён! Ды гэтак шпарка, што я яго ледзьве дагнаў. Даў яму на развітанне яшчэ раз! Ён ад мяне, як ад чорта, у вароты...

Пшанічак таксама смяяўся.

Раймонду і Олесі, гледзячы на іх, цяжка было захаваць сур'ёзнасць.

— Я з табою больш нікуды не пайду. Толькі сарамаціш... Вось не ведала, што ты такі хуліган...

— Што-ж я не вінаваты, што сёння дзень такі шалёны,—бесклапотна адказаў Андрый.

— На, сябра, кій. Цябе ім білі, дык і вазьмі сабе на ўспамін. А скажы, нашых заводскіх ты там не бачыў? Патлая, Шырокага?— запытаў Андрый у пекара, падаючы яму кіёк.

— А як-жа! Я разам з імі сядзеў. Добры чалавек Васіль Сцяпанавіч! Усе завадскія разам... З імі яшчэ Пшыгодскі адзін. Таксама добры чалавек,—цяжка падбіраў Пшанічак украінскія словы.

— А ведаеш што?—падумаўшы сказаў Раймонд.—Хадзем да жонкі Васіля Сцяпанавіча, ты ёй пра ўсё раскажаш.

— Дык ён і так прасіў пераказаць ёй тое-сёе.

— Ну, вось, і пайшлі. Давай пазнаёмімся.

— Пане капітан, адзін вызвалены хоча сказаць пра штосьці важнае.—Начальнік турмы паказаў на Дзёбека.

— Ну, што там? Хутка!—сказаў Врона, увайшоўшы ў канцылярыю

— Прашу дазволу, яснавяльможны пане, павіншаваць вас з перамогай! Я сам паляк і я...—патэтычна пачаў Дзёбек.

— Карацей!

Дзёбек праглынуў канец фразы, лісліва ўхмыльнуўся і шпарка загаварыў:

— Я, як паляк, павінен перад айчынай служыць вам верай... У турму я трапіў па непаразуменню...

— Карацей, пся крэў! —гаркнуў Врона.

— Лічу сваім абавязкам паведаміць, пане капітане, што ў камеры нумар дзевяць засталіся небяспечныя людзі... Асабліва гэты Патлай... Але і Пшыгодскі Яны ўвесь час вядуць чырвоную прапаганду... Асабліва небяспечны Патлай. Ён закляты большэвік, пане капітане! Вы мелі ласку адпусціць гэтае хлапчанё Пшанічака. Гэты вельмі небяспечнае хлапчанё! Яно ўвесь час з імі сябравала. Патлай яму штосьці шаптаў на вуха. Калі не позна, загадайце затрымаць яго. Калі пану капітану ўгодна, я магу расказаць усё падрабязна.

— Добра! Пагаворым... Да рэчы, што вы думаеце рабіць?

— Што вам угодна, пане капітане.

— Што-ж, паспрабуем! Авось з вас не дрэнны агент выйдзе. Але толькі без фокусаў у мяне! А то куля ў лоб і на смеӷнік.

— О, што вы, пане капітане! Я апраўдаю давер'е.

Вечарам Раеўскі з сынам асцярожна падышлі да свайго дому. На акне запаленая лямпа.

— Значыць, усё спакойна. Мама дома.

Бацька ўвайшоў у кватэру, сын астаўся пільнаваць каля варот. Увесь дзень хлапец кружыў па гораду, выконваючы даручэнні бацькі.

Праз хвіліну з дома выйшла маці. На хаду шапнула на вуха.

— Іду да жонкі Патлая. У нас Оліва. Бацьку чакаў,— і схавалася ў цемры.

„Любая, родная мама! Як яна змянілася! Нейкая іншая зрабілася—зусім маладая“...

— Усё будзе зроблена, таварыш Раеўскі! У нас на складзе ў друкарні стаіць запасная „бастонка“. Ручная. Сёння ноччу ў нас тэрміновы заказ ад іх штаба. Загады, мабілізацыйныя анкеты і вайсковыя кніжкі трэба надрукаваць. Да рэчы, я вам прынясу патрошку ўсяго гэтага. Можа будзе патрэбна. А гэта сёння ноччу я сам надрукую. Пяцьсот штук, больш не паспею. Толькі да раніцы адозвы трэба вынесці з складу. І набор таксама, а то разбіраць яго мне не будзе калі. А пасля я вам шапірограф часткамі прыцягну. Гэта штука карысная. А то бадай ці давядзецца друкаваць у самой друкарні. Бо яны, калі прачытаюць, усё дагары дном перавернуць... Гэту справу трэба зрабіць грунтоўна, а то і без галавы астанешся,—гаварыў Оліва спакойна, разважліва.

Стары наборшчык спадабаўся Раеўскаму. Увесь твар у дробных маршчынах. Вялікія акуляры ў мядзянай аправе, а за імі— блакітныя, добрыя вочы.

— Скажыце, таварыш Оліва, там апрача вас нікога больш няма, каму можна-б было даверыць?

— Хто яго ведае? Ёсць, вядома, сур'ёзныя, але ў пятлю не палезуць. Пакаёвы народ. Рэшта яшчэ горшыя—два пэпээсаўцы, сіяніст і трое—куды вецер дзьме. Хіба толькі Эма Штольберг? Яе бацька вянгерац, але дзяўчынка тут нарадзілася. Зялёная яшчэ але як быццам нічога.

— Добра, таварыш Оліва, дзейнічайце.

Наборшчык устаў.

— Ага, ледзьве не забыўся! Скажыце, вы не можаце зрабіць нам пячатку?

— Я, вядома, не гравёр, але, бадай, зраблю. Вам-жа і не такая ўжо фасоністая патрэбна. Хе-хе...—маршчыны на яго твары зашавяліліся, а ў кутках вачэй сабраліся, як веер.—Ну, усяго добрага. Прысылайце людзей да пяці гадзін раніцы.

Раеўскі на хвіліну затрымаў у далоні чорную ад свінцовага пылу руку Олівы.

— Чаму вы не ў партыі, таварыш Оліва?

— Стары ужо... Дзе мне! Няхай ўжо маладыя. А я памагу. Мяне калі і павесяць, дык не шкада,—сваё пражыў. Вядома, паміраць нікому не ахвота, але ўсе-ж для маладога гэта цяжэй.—Ён зірнуў на Раеўскага поверх акуляраў сурова і, як здалося Сігізмунду, дакорліва.

Калі Оліва выйшаў, Раймонд увайшоў у пакой.

— Вось што, сынок, мы даручаем табе арганізацыю комуністычнага саюза моладзі. Партыі патрэбны вартавыя і разведчыкі, адданая моладзь. Ты сам бачыш, мы ў акружэнні ворагаў. Ад аднаго неасцярожнага кроку, руху,—можа загінуць уся арганізацыя. Моладзь часамі неасцярожная таму, што няма вопыту, вось чаму прыём у союз новых таварышоў—вельмі важная справа. Прымаць можна толькі адважных, свядомых, гатовых афяраваць нават жыццём. Уяві, што мы прынялі труса, і ён як-небудзь трапляе ў рукі жандармаў. Ён-жа выдасць усіх, спадзячыюся выратаваць сваю скуру. Яго рэволюцыйнасці хопіць толькі да першага арышту. Ёсць такія аматары небяспечных прыгодаў. Наша барацьба для іх—не родная справа. Яны гуляюць у рэволюцыю. Гэтым часцей за ўсё пакутуюць інтэлігенцікі, якія начыталіся прыгодніцкіх кніг. Калі справа ад гульні пераходзіць да смерці, дык яны пачынаюць трусіць... Асноўнае ядро будучай арганізацыі мы вызначым разам. Каго ты лічыш найбольш годным?

Раймонд задумаўся.

— Я не ведаю, бацька. Гэта вельмі сур'ёзна,—прашаптаў ён нарэшце.

— Добра, я табе дапамагу. Што ты думаеш пра Олесю Кавала? Яна з добрага роду. Іх двое—бацька і дачка. Крэўная сувязь—крэўная справа. Яна, здаецца мне, смелая дзяўчына.

— Так, мне таксама здаецца.

— Ну, вось! Адзін таварыш ужо ёсць. Больш каго ты ведаеш?

Раймонд доўга маўчаў, потым сказаў.

— Сара Міхельсон. Шпільман яе з работы прагнаў, а гаспадар дому сёння выкінуў іх на вуліцу. Так і сядзяць на двары на зва-

леных рэчах. Я яе толькі што бачыў, ім няма куды дзявацца... Як-бы ім дапамагчы, бацька?

Раеўскі пра нешта думаў.

— Няхай перабіраюцца да нас.

— Але дзе яны змесцяцца? Тут і так павярнуцца няма дзе, а іх шасцёра. Потым рэчы...

— Нічога, нам адгэтуль усероўна трэба выбрацца. Ты-ж ведаеш, што па гораду ўжо шнырацъ. Нас не сёння, то заўтра намацаюць. Няхай пераяздзжаюць, з рэчамі робяць, што хочуць. А нам давядзецца пасяліцца ў розных мясцах. Я спынюся пакуль што у Кавалы, мама—у цёткі Марцэліны, а ты ў каго-небудзь з таварышоў... Ну, мы з табою адхіліліся. Значыць, Сара. Добра. Хто яшчэ у цябе на прымеце?

— Ёсць яшчэ Андрый Птаха. У таго адвагі—аж залішняе. Толькі ён сваволъны вельмі і можа перастарацца. На маю думку, ён свядомы, толькі вельмі гарачы.

Раеўскі ўсміхнуўся.

— А вы яго будзеце стрымліваць пакуль што. Асцярогу набудзе разам з свядомасцю, што ён можа загубіць не толькі сябе... Ён што, твой сябра?

— Так... Не тое ўжо, каб зусім... Але ён вельмі ўдалы з Олесей...—і Раймонд прыметна засароміўся.

— Ага. Што-ж, гэта не дрэнна. Дружба—вялікая рэч... Яшчэ каго ты мяркуеш?

— Яшчэ ёсць той хлопец, што ў турме сядзеў разам з Патлаем. Чэх Пшанічак. Па характару ён—блізкі да Андрыя.

— Добра. Заўтра ты пагавары з кожным паасобку, не называючы імя іншых. Раскажы пра ўсе цяжкасці, каб моладзь ведала, на што яна ідзе. І толькі пасля іх добраахвотнай згоды можна лічыць іх членамі комуністычнага саюза. Першую групу зацвердзіць Рэўком, а пасля новых таварышоў будзеце прымаць самастойна... Зараз ты пойдзеш на вадакачку. Там ноччу будзе сур'ёзная справа. Кавала скажа. У цябе ёсць зброя?

— Так, рэвольвер, які адабраў Андрый у паліцэйскага.

— Ты ведаеш, як з ім абыходзіцца?

— Не.

— Дай, я пакажу.

Калі Раймонд асвоіў няхітрую механіку зброі, бацька сказаў:

— Вазьмі. Не забывайся: страляць патрэбна толькі у выключных выпадках, калі іншага выхаду няма. Але ўжо як пачаў страляць дык абараняйся да апошняга патрона. За адзін або дзесятак стрэлаў—расплата ў жандармаў аднолькавая. Ідзі, хлопчык, і будзь асцярожны...

Упершыню бацька назваў яго „хлопчыкам". Раймонд хацеў абняць бацьку, прытуліцца да грудзей, сказаць: „Бацька, паважаю цябе і люблю!" Але заўважыўшы, як ён нецярпліва варухнуўся Раймонд таропка выйшоў.

Па дарозе да вадакачкі забег да Сары, каб узрадаваць яе. Пагаварыць-жа з дзяўчынай, як даручыў яму бацька, ён не мог. Увесь час перашкаджалі.

У яго заставалася гадзіны дзве вольнага часу, і ён накіраваўся да заводскай ускраіны, „дзе кватараваў Птаха.

Андрый быў дома. Ён сядзеў на ложку і іграў на мандаліне папуры з украінскіх песень і танцаў. Ён толькі што скончыў тужлівую мелодыю „Та нэма гирш ныкому, як тий сиротыни“ і перайшоў да гуллівай імклівасці гапака. Іграў ён па майстэрску. І ў такт няўлоўна шпаркіх рухаў рукі фарсіста падскакваў яго чуб.

Меншы яго брацік, дзевяцігадовы Васілёк, упершыся галавою ў падушку і задраўшы ўгору ногі, вырабляў імі розныя выкрунтасы. Калі ён губляў роўнавагу і падаў на ложак, дык зараз-жа, быццам жарабя, падбрыкваў нагамі і зноў апынаўся ў простастаўнай позе.

Заўважыўшы Раймонда, Андрый закончыў ігру такім фортысіма, што дзве струны не вытрывалі і лопнулі, ад чаго ўласнік мандаліны быў у захапленні.

— Але-ж і здорава я гэту штучку адпаліў! Аж струны дзвенкнулі—ускочыў ён з ложка і паклаў мандаліну на стол.

Андрыевай маці ў пакоіку не было—яна пайшла да суседзяў.

— Мне з табою, Андрый, пагаварыць трэба аб адной важнай справе.

— А што здарылася?—занепакоіўся Птаха.—Валяй, гавары.

— Сам-на-сам трэба.

Андрый павярнуўся да Васілька. Той сядзеў ужо на падушцы, перабіраючы босымі нагамі і старанна калупаючы ў носе.

— Васілёк, збегай ты на вуліцу!

— А чаго я там не бачыў?

— Я табе сказаў—збегай! Тут без цябе абыйдземся.

— Не пайду. Там холадна, а ботаў няма.

— Уздзень маміны камашы!

— Ну так! Каб яна мяне адсцябала!

— Ты што, папругі захацеў? Што-ж, я па твоему, ад цябе на двор павінен хадзіць?

— На што хадзіць? Я заткну вушы, а вы гаварыце.

— Васька!—павысіў голас Андрый.

Але Васька не зварухнуўся, не думаючы слухацца. Андрый пачаў адшпіляць рамень. Васілёк пільна наглядаў за яго рухамі. Раймонд узяў Птаху за руку.

— Пойдзем, Андруша, на двор. Там сапраўды холадна.

Яны селі на ступеньках. Дзверы з пакою ціха рыпнулі.

— Васька! Засцябаю! Я табе падслухаю.

Дзверы шпарка зачыніліся.

— Ты што, сапраўды яго б‘еш?

— Ды не! Але сцярвец па мне ўдаўся. Я яму адно, ён мне другое. А біць не магу—люблю шэльму. Ён гэта ведае. Усё зробіць, толькі трэба з ім па добраму. Не любіць, жаба, каб ім камандавалі...

Доўгі час сядзелі яны ўдвох, разгаварваючы шэптам.

Андрый праводзіў Раймонда да каліткі. Там яны пастаялі моўчкі, не выпускаючы рук.

— Ты разумееш, Андрый, пра гэта ніхто не павінен ведаць.

Раймонд. я-ж сказаў! Магіла! Я сам не аднойчы думаў: няўжо-ж не знойдзецца такі народ, каб праўду на свеце ўстанавіў? А тут яно выходзіць, што ёсць.

— А можа ты раздумаеш? Дык заўтра скажаш.

— Я?! Каб мне лопнуць на гэтым самым месцы, калі я адступлюся! Эх, Раймонд, не разумееш ты майго характару! Так сабе, думаеш, гарладзёр... Ды і ў мяне сэрца таксама сумуе па жыцці сапраўдным...

Чорная марозная ноч. Халодны сівер шнырыў па чыгуначных пуцях.

На вакзале, на дзвярах жандармскага аддзялення, змянілі дошчачку. Назва засталася тая-ж, але ўжо на польскай мове.

Ніхто з тых, што былі ў жандармскай, не ведаў, што манеўровы паравоз на запасным пуці як-бы не знарок наткнуўся на адзінокі вагон, потым пагнаў яго перад сабою, таксама неўзаметкі спыніўся і пайшоў назад. А вагон ужо сам каціўся туды, дзе яго чакалі дзесяткі два чалавек. Перад досвіткам гэты-ж паравоз адвёў яго з далёкага тупіка, што каля вадакачкі, зноў на старае месца.

Яшчэ да світання Раймонд вынес з склада друкарні закручаны ў мяшок пак адозваў. Усю ноч ён не спаў. Але наперадзе была яшчэ самая небяспечная работа.

Да раніцы сям'я Міхельсона перабралася ў пакой Раеўскіх. Гаспадарам дому Ядвіга сказала, што яна з сынам выязджае з горада.

На вадакачцы прыбавіўся новы жыхар...

---

Врона тройчы прачытаў свежа надрукаваную лістоўку. „Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся“. Загаловак на рускай, украінскай, польскай і нямецкай мовах. Заклік да ўзброенага паўстання! „Уся ўлада советам!.. Далоў капіталістаў, памешчыкаў... Зямля сялянам“... Ах, пся крэў! А гэта-ж зроблена ў друкарні—у нас пад носам... Што скажа Магельніцкі? А галоўнае, чорт вазьмі, подпіс: „Рэволюцыйны камітэт“. Ёсць ужо, значыць, такі...

— Эй, хто там!

У дзвярах з'явіўся вартавы.

— Падаць сюды Дзёбека, пся яго маць!

Дзёбек убег у габінет начальніка жандармерыі, грымаючы палашом, які цягнуўся па зямлі, як гэта было заведзена ў аўстрыйскіх гусар.

— Маю гонар...—Дзёбек паперхнуўся, убачыўшы, як раптоўна скрывіўся твар Вроны.

Капітан устаў з-за стала, трымаючы ў руках адозву.

Дзёбек не ведаў, смяецца Врона, ці губы яго канвулсіўна сморгаюцца.

— Гэта што такое?

— Маю гонар далажыць, пане начальнік, што мае агенты толькі што данеслі мне пра гэта. Яшчэ раніцою разам з афішамі кінематографа нейкія людзі наклеілі гэтыя лісткі... Майце ласку зірнуць, пане начальнік, на адным баку ваш загад, а на другім адозва. Яны так і расклеілі: дзе было зручна—адозву, а дзе—загад... Потым, адважуся далажыць, нейкае хлапчанё год дзесяці прабегла па цэнтральных вуліцах з нашай газетай, раскідвала гэтыя лісткі і крычала: „Чытайце загад штаба“. Калі вартавыя прачыталі і хапіліся, дык яго і след прастыў... Таксама, адважуся далажыць, на заводзе і на чыгунцы гэтыя лісткі пашыраліся невядомымі асобамі. Я ўжо арыштаваў усю друкарню. Але, апрача нашых матэрыялаў, там нічога не знойдзена. Ды яшчэ там ёсць два члены пэпээс, тыя галавою ручаюць, што ніхто ў іх не мог друкаваць. Не іначай, як у іх ёсць уласная машына!

— А дзе яны дасталі загады?

— Адважуся далажыць, няйначай, як у Управе. Яны там проста звалены пачкамі ў калідоры. Кожны, хто хацеў, мог узяць.

Врона зрабіў два крокі ў кірунку да вахмістра.

Дзёбек адступіўся на столькі-ж.

— Слухайце, вы! Шулер! Я даў вам мундыр і чын, але я вас павешу, папярэдне загадаўшы ўсыпаць вам сто бізуноў, калі вы не раскапаеце ўсяго гэтага! Вось вам тысяча марак. Збярыце увесь ваш зброд і не з'яўляйцеся без тых, хто гэтае надрукаваў... А зробіце—чын падпаручыка і тысяча марак! Прысягаю богам, я зраблю злачынства супроць гонару! Такая хамская морда не варта афіцэрскіх пагонаў. Але вы іх атрымаеце, калі не абярэце за лепшае вісець... Не надумайцеся збегчы з грашмі—я вас знайду і пад зямлёю. Марш!

Дзёбек схапіў грошы і павярнуўся так шпарка, што палаш не паспеў за ім, з-за чаго вахмістр, спатыкнуўшыся, ледзьве не паваліўся. Падхапіўшы палаш, ён выскачыў у калідор.

— Дык вось за што твайго мужа на фронт паслалі,—прашаптала Людвіга.

— Яснавяльможная пані! Прашу вас! Ногі вашы цалаваць буду... Пан граф усё для вас зробіць... Выратуйце яго!—рыдала Францыска, абнімаючы калені Людвігі.

— Добра, я ўсё зраблю, толькі пакінь плакаць,—разгублена гаварыла Людвіга.

— Дзеля святой Марыі, паспяшыце, яснавяльможная пані! Сення ноччу іх расстраляюць. Сам капітан сказаў,—мармытала Францыска, цяжка ўстаючы з падлогі.

— Я зараз пайду да графа. Супакойся, Францыска—сказала Людвіга. Унікаючы ўпрашальнага позірку напакутаванай жанчыны, яна вышла з пакою.

— Хто там? Ах, гэта ты, Людвісь! Прабач мне, але я вельмі заняты.—Эдвард паклаў на стол трубку палявога тэлефона.

Яго габінет быў ператворан у штаб. На стале—два тэлефоны

На сцяне—карта краю, стыканая чырвонымі і чорнымі сцяжкамі. Палаш і рэвольвер ляжалі на дыване.

— Эдзі, на адну хвіліну... Я прашу цябе зрабіць для мяне адну рэч...

— Гавары, Людвісь. Ты-ж ведаеш, што я для цябе ўсё зраблю.

Зазваніў тэлефон. Эдвард узяў трубку.

— Так, я. Што? у Паўлодзі паўстанне? Што такое. На вакзале страляніна? Зараз жа даведайся, у чым справа. Вядома... Узніміце ўсіх на ногі... Зараз прыеду.. Што? Нямецкі эшалон?... Прышліце ўзвод для аховы маёнтка. Так. Зараз еду!

Эдвард як шалёны кінуў трубку на стол.

— Што здарылася, Эдзі?

Могельніцкі торапка зашпільваў рамень, на якім віселі палаш і рэвольвер. Твар яго быў змрочны.

— Нязначныя непрыемнасці. Мы ўсё гэта ўладзім... Неўзабаве тут будзе Уладыслаў з узводам кавалерыі. Не хвалюйся, радасць мая, усё ўпарадкуецца. Але на кожны выпадак будзьце гатовы да ад'езду... Я пазваню з штаба. Ну, бывай!

— Эдзі, а мая просьба?

— Прабач, ты пра яе скажаш вечарам...

— Але тады будзе позна. Я прашу цябе, Эдзі, упрашаю... Зрабі гэта дзеля мяне—вызваль сына Юзэфа! Мне страшна нават сказаць, але яго збіраюцца расстраляць сёння ноччу.

Яна перагараджала яму дарогу.

— Ах, вось ты пра што? Ну, гэтага зрабіць нельга! Гэта небяспечны чалавек. І наогул, мая дарагая, не ўмешвайся ў гэтыя справы. Я спяшаюся, Людвісь.

— Прашу цябе, Эдзі! Зрабі гэта дзеля мяне... Чуеш? Упрашаю!—яна абняла яго за плечы і пяшчотна прытулілася да яго.

Але ён вызваліўся з яе абдымкаў і рашуча адпіхнуў яе ў бок.

— Я не магу застацца тут ні на адну хвіліну. Мяне чакаюць. На вакзале неспакойна... Бывай.

Яна схапіла яго за рукаў мундыра.

— Эдзі, дзеля нашага кахання, прашу цябе! Калі ты не зробіш, значыць, не кахаеш...

Ён рэзка павярнуўся да яе, халодны, зусім чужы.

— Я прашу цябе, я нарэшце патрабую... так, патрабую не ўмешвацца ў справы штаба! Ты просіш немагчымага. Што табе да іх? Гэтыя людзі гатовы знішчыць нас, а ты іх яшчэ абараняеш... Твая гуманнасць не да месца. Іх трэба знішчаць, як шалёных сабак! Калі ласка, без істэрыкі! Замест таго, каб дапамагчы мне, ты толькі перашкаджаеш.

Зачыніліся дзверы. Шпарка прагучэлі па калідоры цвёрдыя крокі і звон шпор. Праз хвіліну тры коннікі імчаліся галопам да горада.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

Дзёбек цвёрда рашыў зарабіць залатыя пагоны падпаручыка і тысячу марак, а калі не ўдасца—схавацца, як мага далей. І так ужо даўно трэба было перайсці на другую работу. Але зараз, калі адбывалася гульня і толькі раздаваліся карты, шулер перамог у ім труса. Спачатку „ударыць па банку“. Чакай, пакуль падыйдзе такі шалёны час, калі гэтак-жа лёгка зрабіцца генералам, як і быць павешаным. Толькі каб не сарвацца! Вялікая гульня бывае толькі адзін раз. І ён стараўся.

Захапіўшы з сабою двух капралаў і сержанта жандармерыі Кабыльскага, які яшчэ не так даўно служыў швейцарам ва „установе“ пані Пушкальскай, Дзёбек рушыў у рабочы пасёлак.

Каля дома, дзе жыў Пшанічак, фурманка спынілася.

— Стоп!—Дзёбек саскочыў на брук.—Кабыльскі, за мною! А вось мы падловім гэтую сцерву Пшанічака,—і, падхапіўшы шаблю, ён убег у двор.

— Вось ён, вось ён! Стой! Страляць буду!—з дзікай радасцю зароў Дзёбек, калі перад самым яго носам рынулася назад у калідор высокая постаць пекара.

Леон уляцеў у пакой, як бомба, і ўраз замкнуў ключом дзверы.

— Езус—Марыя! Што такое?—гукнула маці.

Але ў дзверы ўжо грукалі.

— Кабыльскі, выбівай, а то ўцячэ!

Сержант разагнаўся і ўсім цяжарам цела ламянуўся ў дзверы. Ён уварваўся разам з выбітымі дзвярыма ў пакой, не ўтрымаўся і паваліўся на падлогу. У гэты-ж момант Пшанічак рынуўся да акна, высадзіў галавой раму і выскачыў у сад.

Звон пабітага шкла, людзі якія ўварваліся і ўцёкі сына ашаламуцілі старых Пшанічкаў. Яны знямелі ад жаху.

— Трымай яго,—як шалёны крычаў Дзёбек, якому выбітыя дзверы і Кабыльскі, што ўставаў з падлогі, перашкаджалі падбегчы да акна.

— Зноў уцёк... Эх ты, тумба! Чаго глядзеў? Пад носам быў, сволач!

— Ён, пане Дзёбек, у вас таксама пад носам быў...

Дзёбек наваліўся на старога:

— Ну, ты, старая кляча! Збірайся! Мы там цябе падагрэем, ты нам скажаш, дзе ён хаваецца.

— Пане ваенны, за што гэта мяне?—мяшаючы чэшскую гаворку з польскай, залепятаў стары.

— Ты яшчэ пытаеш, за што, свалата? Што я табе казаў учора—як толькі прыйдзе, зараз-жа заявіць мне!

— Дык дзе-ж гэта відана, пане, каб на роднага сына.

— Ну, дык вось мы цябе павучым, ты за ўсё гэта адкажаш... марш!

— Куды вы яго вядзіце?—жахнуўшыся, закрычала старая.

— Сціхні ты, ведзьма! Усе вы аднаго поля ягада... Сціхні, а то тут табе і канец...

Стары ішоў пам'ж двух жандармаў, без шапкі, бездапаможна апусціўшы галаву. Наўкола стаялі маўклівыя суседзі, дзівячыся, за што арыштавалі ціхага сумленнага калесніка, які пражыў у гэтым доме амаль дваццаць год без адзінага скандалу.

Праз поўгадзіны чатыры жандармы ўварваліся ў дамок, напалохаўшы жонку і дзяцей Патлая. Прыезд жандармаў адразу кінуўся ўсім на вочы. Тут жылі цукравары Патлая ведалі ўсе. Каля дома, праз некалькі хвілін, сабралася групка рабочых.

— Што табе перадало з турмы хлапчанё? Кажы!—як каршун наляцеў Дзёбек на жонку Патлая.

— Я нічога не ведаю...—спалохана шаптала маленькая худзенькая жанчына. Дзеці, адно меньшае за другое, цісնуліся ў кут за яе спіною.

— Ну ты...—Дзёбек пахабна вылаяўся,—ты у мяне загаворыш!

Ён спяшаўся. Нюх шпега падказаў яму, што менавіта тут можна знайсці след, які так ці іначай вядзе да тых, хто надрукаваў адозву.

— Ну, дык вось... Учора ў цябе быў гэты Пшанічак... Ён ужо сядзіць у нас і ўсё расказаў.. Вядома, пасля таго, як мы ўсыпалі яму бізуноў... Так што адпірацца бескарысна. Нам толькі трэба праверыць. Калі-ж ты будзеш маўчаць або хлусіць, дык я з цябе скуру спушчу. Кажы!...

Жанчына адступілася ў кут; ёй было страшна.

— Я... нічога не ведаю...

Дзёбек спяшаўся.

— Кабыльскі, дай ёй для пачатку!

Валахаты Кабыльскі, з бычынай шыяй і нізкім ілбом дэгенерата, падняў руку, у якой трымаў плецены бізун.

І маці і дзеці закрычалі ураз,—маці ад болю, дзеці ад спалоху.

— Змоўкні, сука... Кажы, што табе перадалі! Кажы! Кабыльскі, дай яшчэ!

Дзікі крык жанчыны быццам нажом разануў тых, што стаялі на вуліцы.

— Што яны з ёю робяць?

— Ой, хлопцы, чаму-ж вы стаіце? Зайдзіце ў дом.

— Можа, там з жанчыны здзекваюцца, а вы раты паразяўлялі!

— Мала таго, што мужыка ў турме гнояць, дык яшчэ і жонку мардуюць...

— Гэй, мужчыны, пашлі!

— Стой! Куды!—крыкнуў на рабочых капрал, які стаяў каля дзвярэй.

— А што вы з імі робіце?

— Чаго яны крычаць?

— Пусці ў хату!

— Чаму без панятых?

Пачуўшы гэтыя гнеўныя выкрыкі, Дзёбек падскочыў да дзвярэй.

— Гэта што такое? Разыйсціся зараз-жа!

Ніхто не адыходзіў. Наадварот, з усіх бакоў збягаліся, пачуўшы шум жыхары прыгараду.

— Цётку Марусю бізуном б'юць! Я сам бачыў праз акно...— крычаў Васілёк, які ўзабраўся на паркан.

— За што бабу б'яце?—глуха запытаў у Дзёбека паджылы рабочы.

Натоўп націскаў, Дзёбек адчуваў, што страх, як халодная гадзіна, паўзе па яго спіне. Ен ведаў: натоўп раздушыць яго, калі заўважыць гэты страх. Ен выхапіў з кабуры рэвольвер.

— Разыйдзіся, а то буду страляць!

Пярэдні рад увагнуўся, але адсунуцца далёка не мог, бо адзаду націскалі. Толькі барадаты рабочы, які стаяў перад Дзёбекам, не скрануўся з месца.

— Ты гэтай цацкай не махай! Усіх не перастраляеш... Лепш выбірайцеся па добраму...

Стрэл ударыў усіх па сэрцу.

Рабочы схапіўся за грудзі, хістануўся і паваліўся бокам. Натоўп вакол яго ўраз парадзеў. Жандармы выцягнулі з дому жонку Патлая і кінулі яе ў рамізніцкую каляску. Трымаючы рэвольверы на-спагатове, жандармы сталі на падножкі.

Дзёбек і Кабыльскі ўскочылі на другога рамізніка і паімчаліся.

А каля забітага збіралася ўсё больш і больш людзей.

Вестка пра тое, што польскія жандармы забілі слесара Глушка, абляцела ўсе завулкі прыгарада. Яна пранікла ва ўсе куткі і дабралася да самых крайніх зямлянак. Большасць людзей рушыла да дому Патлая, каб на свае вочы пераканацца ў гэтым. Астатнія горача абмяркоўвалі здарэнне каля сваіх дамкоў.

— За што забілі?—пыталася адразу некалькі галасоў у таго, хто прыносіў гэтую вестку.

— За Патлаевую бабу заступіўся. Дык яго той Кабыльскі,— ведаеце, што выкідайлам у Пушкальскай служыў?—застрэліў з рэвольвера.

— Не Кабыльскі, а той, што рулетку на рынку круціў. А цяпер ён у іх за вахмістра.

— А дзе ж закон? Людзей забіваць ні за што, ні пра што.

— Закон адзін—хто дручок узяў, той і капрал. Дажыліся да новых гаспадароў.

— Ага, цяпер гэтак: дзень пражыў, не павесілі—падзякуй. Ну, і жыццё!

І толькі там-сям гаворкі мелі больш рашучы характар.

— Гэта вы, хлопцы, пра што?

— Ды так, языкі чэшам... Гэтыя гады што хочуць, тое і робяць. А мы больш за ўсё на языкі націскаем. Патрапаў і да хаты! А ноччу прыдуць табе ды кішкі выпусцяць...

Чаму-ж ты, такі храбры, тут стаіш? Схадзі да панкоў ды пагавары з імі.

— Чаго ты зубы выскаляеш? Тут людзей страляюць, а табе жартачкі!

— Казаў я: не насіце, хлопцы, стрэльбы немцам. Цяпер вось немцы ўцякаюць, а з панамі няма чым упраўляцца. Так і сядлаюць.

— Каб дружны народ, а то кожны за сваю скуру дрыжыць.

— Вот то-та-ж! Пакажа дулю ў кішэні і давай уцякаць, каб не злавілі...

— Нас тут адных франтавікоў, бадай, чалавек трыста набярэцца... Не веру я, каб усе здалі вінтоўкі!

Але тут у гаворку рашуча ўмешваецца жонка.

— Гнат, ідзі дахаты! Ідзі дахаты, кажу!

На заводзе Баранкевіча заканчвала работу другая змена. Каля галоўных заводскіх варот сабраўся густы натоўп тых, што прышлі на змену. Частка рабочых прайшла праз кантрольную будку ў заводскія цэхі, астатнія, даведаўшыся пра забойства, затрымаліся каля варот.

— Чаго стаіце? Праходзьце, кажу вам!—крычаў стары вартаўнік завода.

— Паспеем... Яшчэ гудка не было.

Андрый падкідаў у топку апошнюю порцыю вугалю.

Стрэлка гадзінніка набліжалася да трох. Качагары зьмяняліся на дзесяць хвілін раней за другіх.

— Чуў, Андруша,—ляхі Глушко застрэлілі?—сказаў, падыходзячы да яго, яго сябра качагар Дмітрусь.

У кацельную ўваходзіла новая змена і Андрэй пачаў шпаркую гаворку.

— А каля варот калатня пачынаецца!

— Бачыў, ахоўнікі туды пабеглі?

За акном пачуўся стрэл. Качагары пераглянуліся.

— Што там?

Некалькі секунд усе моўчкі прыслухоўваліся, мімаволі чакаючы наступных стрэлаў. Андрэй палез па лесвіцы на кажух катла. На версе—тры вузкія акны. Адно было адчынена. З яго былі відаць заводскія вароты. Там рабілася нешта нядобрае. Увесь пляц перад варотамі быў запоўнен народам. Нейкі чалавек, узабраўшыся на агарожу, нешта крычаў у натоўп. Да варот адзін за адным падбягалі легіянеры, якія ахоўвалі завод.

З суседняга машыннага аддзялення ў кацельную ўбег малодшы механік, пан Струміл.

— Чаму вы не даеце гудка на змену?—крычаў ён з усёй сілы.— Дзе Птаха? Давайце ж гудок?

Бачучы, што яго ніхто не слухае, механік сам схапіў кольца, прывязанае да каната, які адкрываў клапан гудка, і пацягнуў яго ўніз.

Магутны гуд ашаламуціў Андрыя. Ён забыўся пра ўсё. Ён бачыў толькі бойку, якая пачыналася ля варот, і раптам—гэты гуд.

З усіх дзвярэй на заводскі двор густа рушыў народ.

Сярод рабочых—палова жанчын.

Андрый шпарка апусціўся на падлогу.

Струміл выпусціў кольца. Гуд змоўк. Толькі цяпер механік убачыў Птаху.

— Дзе ты бадзяўся?

— Я ў акно пазіраў.

— А-а-а, у акно! Тады атрымай разлік! Цябе наймалі для работы. Бярыцеся за справу!—крыкнуў Струміл качагарам і выбег у машыннае аддзяленне.

Андрый некалькі секунд стаяў нерухома. Яго захапіла адна думка.

Ён спярша не адважваўся ажыццявіць яе. Але яна ўжо авалодала яго воляй. Сэрца яго замерла, як перад скокам з вышыні. Ужо ў наступны момант ён рынуўся да дзвярэй, замкнуў іх, паклаў ключ у кішэню. Потым вярнуўся да катлоў, схапіўся за кальцо і павіснуў на ім. Гуд аднавіўся.

— Ці не звар'яцеў ты, Андрый—рынуліся качагары да Птахі.— Хочаш, каб усіх нас пазвальнялі?

Але Андрый не слухаў іх. Ён няспынна цягнуў кольца ўніз.

— Кінь, Андрушка! Усіх-жа павыганяюць, — пачаў прасіць Дмітрусь.

Андрый схапіў вольнаю рукою цяжкі лом, якім разбівалі вугаль, і закрычаў у твар Дмітрусю:

— Скажы хлопцам, каб уцякалі адсюль! Праз запасны... няхай кажуць, што я іх дубасіў ломам.

Але яго гаворкі не было чутно. Тады Андрый выпусціў кольца. Гуд у момант заціх. Ухапіўшы абедзьвума рукамі лом, паблісківаючы вачыма, увесь чорны ад вугольнага пылу, ён крычаў таварышам:

— Выбягай праз запасны! Хлопцы, па-сяброўску прашу—выбягайце зараз-жа! Я гудзець буду, каб народ узняць... Няхай мяне аднаго мардуюць.. Выскаквай, хлопцы, а то ўдару ломам! Жывей!— Ён замахнуўся.

Качагары гуртам рынуліся да запаснага выхаду.

Андрый накінуў жалезныя крукі на дзверы, засунуў свой лом паміж дзвярных ручак і зноў схапіўся за кольца. Зноў, грымаючы ў паветры, зароў гудок, перарывісты, страшны вяшчун няшчасця. Ён прымусіў усіх у горадзе выбегчы на вуліцы. Ён паставіў дыбам рэдкія валасы Баранкевіча. Ён прымусіў пабляднець Врону і праняў дрыжыкамі Дзёбека. У турме напружана прыслухоўваліся да гэтага гуду. З нямецкага эшалона выскаквалі салдаты і азіраліся вакол. А гудок роў несціхана...

У дзверы кацельнай ламаліся ахоўнікі. Але акаваныя жалезам тоўстыя дзверы толькі ледзь уздрыгвалі ад udараў іх прыкладаў.

— Нясіце лесвіцу! Марш да акон! Страляй у яго, пся яго маць!— крычаў капрал ахове.

Андрый адчуў небяспеку толькі тады, калі ў акно грымнуў стрэл і куля свістанула каля яго галавы. Ён мімаволі выпусціў кольца. Гуд змоўк. Ратуючыся ад новага стрэлу, Андрый рынуўся да вугольнай ямы.

Выцягнуўшы руку з карабінам наперад, у акно праціскаўся легіянер. Птаха кідаўся па вугольнай яме, як злоўленая мыш. Ён адчуваў, што набліжаецца канец яго бунту. Яго ахапіла роспач.

Акно было вузкае і легіянер ледзьве праціснуўся праз яго адным плячом. Ззаду яго падпіхалі. Тады Андрый схапіў кавалак антрацыта і, рызыкуючы быць забітым, выскачыў з ямы. Размахнуўся, з усёй сілы шпурнуў вугалем у акно і папаў у твар легіянера. Той завыў. Твар яго у момант акрываніўся. Ён выпусціў карабін і паваліўся на рукі ахоўнікаў, якія падтрымлівалі яго знізу. Карабін бразнуўся аб цэмантовую падлогу кацельнай. Зноў бабахнуў

стрэл. Андрэй як не ашалеў ад радасці. Ен бамбардыраваў акно каменным вугаллем.

За акном пачулася дзікая лаянка. Людзі спешна спаўзлі з лесвіцы на зямлю.

Андрыя ахапіла неўтрапёнасць. Ён адшпіліў свой рамень і прывязаў ім кольца да рэгулятара ціску. Гудок зноў зароў. Ужо не перарывіста, бо Птаха прымацаваў рамень на-глуха.

Цяпер рукі Андрыя былі вольныя. Асцерагаючыся, каб яго не захапілі знянацку, ён няспынна шпурляў вугалле ў акно.

Захоплены барацьбою, Птаха забыўся, што ў кацельнай ёсць яшчэ два акны. Толькі калі з абодвух нерасчыненых акон вылецелі шыбы і са сцен пасыпаўся тынк, Андрый тужліва зразумеў, што з трыма вокнамі ён не справіцца. Кулі зноў загналі яго ў вугольную яму. У адным акне паказалася руля карабіна.

Андрый раз'ятрана шпурнуў туды каменем. Але стрэл з другога акна прымусіў яго адскочыць назад.

„Вось цяпер канец!"—сказаў Андрый і ледзьве не заплакаў. Яго праняла апатыя, млявасць.

Ён адразу адчуў цяжкую знямогу. І ўжо адмаўляючыся да супраціўлення, сеў у кутку ямы. Штосьці балюча штурханула яго ў бок. Птаха мімаволі схапіўся за рэч, на якую наткнуўся. Гэта быў наканечнік пажарнай кішкі, якою качагары карысталіся для звільгочвання вугалю.

У стомленай свядомасці штосці мільганула.

— А—а, вы думаеце, што мяне ўжо і адолелі, сволачы, панскія душы! Зараз пабачым!—крычаў ён, хоць яго ніхто і не чуў з-за ашалелага гуду.

Андрый шпарка круціў кола, якое выпускала ваду ў шлангі. Пара з прарэзлівым свістам вырвалася з брандсбойта. Следам за ёю хлынула гарачая вада. Вугольная яма напоўнілася парай. Андрыю не было чым дыхаць. Дрыглівымі рукамі ён схапіў брандсбойт і, апякаючы пальцы, пакутуючы ад гарачых вадзяных пырскаў, накіраваў струмень кіпятку ў кацельную.

І ўжо не думаючы пра тое, што яго могуць забіць, хліснануў струменем па вокнах. Ён скакаў як дзікун ад радасці, слухаючы, як завылі за вокнамі. Цяпер, седзячы між катлоў і не вытыркаючы галавы, ён пакручваў брандсбойтам і паліваў вокны кіпятком.

Сэрца яго рвалася з грудзей. Уся кацельная напоўнілася параю. На падлозе лілася гарачая вада. Андрый ратаваўся ад яе на падмурку катла. Яму было душна. Апякала рукі. Але ўсведамленне безвыходнасці прымушала яго прадаўжаць супраціўленне.

Гуд імчаўся па гораду.

Могельніцкі прыскакаў у штаб.

— Што ў вас тут робіцца?—рэзка запытаў ён у Вроны.

Капітан прыклаў руку да казырка.

— Як відаць, сур'ёзныя непарадкі, пане палкоўнік. Мой вахмістр застрэліў аднаго рабочага, які аказаў супраціўленне. І вось на заводзе адмовіліся працаваць, мітынгуюць. Я паслаў туды Зарэмбу...—звонку спакойны рапартаваў Врона.

Эдвард злосна кусаў губы.

— Хто гэта гудзіць? Чаму вы дапусцілі да гэтага часу гэты трывожны сігнал? Што, яны захапілі завод?

Врона крыху апусціў руку. Яму было непрыемна стаяць на-выцяжку. Ён чакаў дазволу стаць вольна, як гэта заўсёды было заведзена з далікацтва між старшымі і младшымі афіцэрамі.

— Не, на заводзе наша варта. Але адзін з качагараў засеў у кацельнай і да гэтай пары яго не ўдаецца выкурыць адтуль.

Могельніцкі, стрымліваючы злосць, ударыў рукою па эфесу палаша.

— Кажаце, адзін чалавек? Паслухайце, капітан, што гэта—насмешка? Адзін чалавек бунтуе ўвесь горад, а вы спакойна наглядаеце?

За акном выў гудок магутны, нястомны. Могельніцкі вар'яцеў ад яго.

Врона стаяў перад ім нерухома, як істукан з застыглай на твары грымасай. Эдвард толькі цяпер агледзеўся.

— Вольна! Вы-ж разумееце, што цяпер не да гэтага,—раздражнена махнуў ён рукою.

Врона моўчкі апусціў руку.

За акном штосьці затрашчала, нібы ламалі сухое суччa, і змоўкла. Могельніцкі шпарка падышоў да акна.

— Гэта Зарэмба прабівае сабе дарогу, растлумачыў Врона.

Могельніцкі павярнуўся да яго.

— Як трымаюцца немцы з эшалона?

— Пакуль што нічога. У горад ходзяць не менш, як узводам. Заўсёды на пагатове. Да эшалона нікога не падпускаюць... Іх чалавек семсот. Чатыры гарматы, бронеаўтамабіль. Разлажэння не заўважаецца, афіцэры на мясцах... У магазінах яны забралі ўсе прадукты і расплаціліся распіскамі. Я загадаў паліцэйскім іх не чапаць, а магазіны зачыніць. Калі будуць ламацца сілай, дык давядзецца прыняць якія-небудзь меры.

— Так, так, іх не трэба чапаць,—сказаў Могельніцкі ўжо менш раздражнена.—Скажыце, як вы думаеце,—гэта „іх“ работа?

Врона зразумеў, пра каго гаварыць палкоўнік.

— Вядома. Адна адозва чаго варта. Але ўсё-ж, каб не забіў вахмістр гэтага хлопа, я думаю, было-б ціха.

— А вам пашанціла што-небудзь праведаць. Хто гэта надрукаваў?

— Пакуль што нічога.

Могельніцкі прайшоўся з кута ў кут, аб нечым думаючы. Потым падабраў палаш, сеў да стала.

— Вось што, пане капітане,—сказаў ён рашуча.

— Слухаю,—Врона зноў выцягнуўся.

— Вы разумееце, пане Врона, калі мы дапусцім такое становішча ў горадзе яшчэ на адзін-два дні, дык...

— Разумею,—адказаў Врона.

Могельніцкі ўстаў. Ён паправіў рукою высокі, абшыты залатым жгутам каўнер шынеля, быццам яму было цяжка дыхаць, і закончыў сваю думку:

— Дык будзьце ласкавы, пачынайце справу. Перш за ўсё—загадваю расстраляць сёння ноччу ўсю гэтую поскудзь, што ў турме.

Выведзіце іх за горад куды-небудзь далей. Няхай заўтра пра гэта расклеяць па ўсім горадзе паведамленне ад майго імя.

— Слухаю.

— Потым, калі хто-небудзь высуне галаву на вуліцу пасля сямі гадзін вечара, расстрэльвайце!—Эдвард з сілай нацягнуў пальчатку на руку.—Трэба загнаць быдла ў стойлы. Стада заўсёды ёсць стада. Для гэтага і існуе бізун.

За акном усё яшчэ выў гудок.

— І каб не чуў я ад вас, пане капітане, такіх адказаў... нібы вы не маглі справіцца з адным чалавекам, які ўсё-ж вые і да гэтага часу.

— Там Зарэмба. Гуд павінен спыніцца, пане палкоўнік.

Могельніцкі, не слухаючы яго, пайшоў да дзвярэй.

— Вы паедзеце са мною.

Жандармскі капрал, які стаяў на варце, ушанаваў іх і, калі яны сышлі ўніз, увайшоў у габінет Вроны і сеў каля тэлефона.

Перад штабам выстраіўся ўзвод кавалерыі.

Уладыслаў Могельніцкі ездзіў перад строем, прыліпаючы тоўстым задам да сядла, час-ад-часу папраўляючы абшытую срэбрам канфедэратку. Убачыўшы брата і Врону, прышпорыў каня і закрычаў, зрываючыся на віск:

— Узвод, смі-і-рна!

Эдвард сунуў нагу ў стрэмя, напяўся, каб „лёгка“ ўскочыць у сядло.

„Старэю, мусіць? Гэтыя парыжскія лімузіны адвучылі нават хадзіць“,—прыкра падумаў ён і паморшчыўся ад болю.—„А тут яшчэ гэты гемарой! Зусім не для кавалерыста...“

Врона пад'ехаў да яго.

— Паглядзім, якія там „сур'ёзныя непарадкі“,—іранічна сказаў Эдвард і даткнуўся шпорамі да бакоў каня.

Уладыслаў правішчэў каманду і ззаду бязладна зацокалі капыты.

Першы натоўп яны спаткалі каля аптэкі.

— У чым справа?—рэзка крыкнуў Эдвард, адчуваючы, што ў яго заторгалася правае брыво.

Бліжэй за ўсіх да яго стаяла поўная бедна, але прыстойна апранутая, інтэлігенцкая дама.

— Сюды прывезлі трох раненых... Адной жанчыне вока выбілі,—адказала яна па-польску і неяк вінавата ўсміхнулася.

— Хто іх параніў?

Дама разгубілася і не знайшла, што адказаць.

— Тут вашы-ж на конях прыязджалі, пане афіцэр.

— Б'юць народ ні за што, ні пра што...

Врона рэзка павярнуў каня ў бок, адкуль чуліся галасы.

— Хто сказаў гэта?

У натоўпе заварушыліся. З апошніх радоў кінуліся ўцякаць.

— Займіцеся імі,—праз зубы працадзіў Эдвард і рушыў каня наперад.

Натоўп разлезся перад ім як мяккае цеста, у якое ўсадзілі кулак.

Эй, вы! Марш па хатах! Калі яшчэ хоць адна сцерва з'явіцца на вуліцы, дык няхай развітаецца з галавою!

— Пане падпаручык, загадайце даць ім бізуноў...—пачуў Эдвард за сваёй спіною голас Вроны.

Ён рэзка рвануў павады і паскакаў.

„А няпрыемная гэта служба жандармская. Брудная работа!—гідліва паціснуўся ён. Такое-ж адчуванне гідлівасці перажыў ён упершыню, калі злавіў вош за сваім каўнерам у часе пераходу праз фронт.

Врона дагнаў яго.

— Я думаю, пане палкоўнік, вам не варта аднаму далёка ад'язджаць ад узвода. Зараз пан Уладыслаў управіцца там, і мы рушым наперад.

— Ну, для гэтага стада хопіць пакуль што аднаго бізуна,—пагардліва адказаў Эдвард.

— Так, але калі хоць адзін з іх шпурне каменем...

Крык ад заду заціх. Узвод набліжаўся. Вуліца была пустая.

— Усё гэта рабіла раней паліцыя а цяпер, як бачыце, самім трэба ачышчаць вуліцы ад гэтага гною.

Врона зларадна ўхмыльнуўся. „Прывык, нябось, жар заграбаць чужымі рукамі, штабны пацук! Нічога, яны з цябе яшчэ крышку саб'юць фанаберыю... Пачакай, не тое яшчэ будзе“,—з нейкім здаваленнем падумаў капітан.

Врона ўсю вайну правёў у акопах. Быў два разы кантужаны. Ледзь даслужыўся да чына капітана. Ён пахадзіў са збяднелай памешчыцкай сям'і. Няўдачнік у жыцці, на вайне ён зрабіўся жорсткім без меры. Ён ненавідзеў шэрую салдацкую масу, але таксама ненавідзеў і тых, хто за спіною фронта баляваў у далёкіх штабах, гарадах, з асалодай скарыстоўваючы тое, што было недаступным для яго. У яго не было ні грошай, ні сувязей, якія маглі выцягнуць яго з акопнай гразі туды, у тыл, да чадлівага і вясёлага жыцця. Трапіўшы ў плен да аўстрыйцаў, ён нават узрадаваўся, бо выратаваўся ад небяспекі атрымаць кулю ў спіну ад сваіх-жа салдат, якія ненавідзелі яго за жорсткасць. У Аўстрыі яго як паляка завербаваў Пілсудскі ў свой легіён. І Врона зноў узяўся за рамяство прафесіянальнага забойцы, толькі па той ужо бок фронту, змяніўшы колер мундыра і какарду. Калі немцы, не паладзіўшы з Пілсудскім, пасадзілі яго ў Магдэбургскую крэпасць (вядома, камфартабельна абсталяваўшы гэтае бутафорскае зняволенне), а яго легіён расфармавалі, Врона збег у Варшаву, не жадаючы больш змагацца ў аўстрыйскай арміі. У Варшаве яго намацалі вярбоўшчыкі польскай вайсковай арганізацыі *), а пасля разам з паручыкам Зарэмбам адкамандыравалі да Могельскага на Валынь.

— А вось зноў зборышча,—крыкнуў Эдвард. Врона падняў галаву. На скрыжаванні, дзе сыходзіліся дзве цэнтральныя вуліцы, каля зачыненай булачнай сапраўды быў густы натоўп. Врона абярнуўся і махнуў рукою. Узвод перайшоў у кар'ер і выстраіўся за іх спінамі.

---

*) Нелегальная ваенная арганізацыя Пілсудскага.

З натоўпу чуліся вокрыкі:

— Чаму хлеба не прадаюць?

— Што гэта такое? Здыхаць, мусіць, трэба ад голаду?

Каб даць месца ўзводу, Эдварду трэба было ад'ехаць у бок, або прабіцца праз натоўп. Ён моцна ударыў каня шпорамі. Порсткі конь стаў на дыбкі. Спалоханы крык жанчын і дзяцей, галасы абурэння—усё гэта не спыніла Эдварда.

Гонар не дазволіў яму адступіць. Кусаючы ў шаленстве губы, ён паехаў на натоўп.

— Ды куды гэта вы? Дзеці... Бачце, дзеці?—істэрычна закрычала нейкая жанчына.

Эдвард узняўся на страмёнах, ледзьве дыхаючы ад злосці, якая яго ахапіла.

— Ша-а-аблі...—завішчэў Уладыслаў.

Нехта схапіў Эдвардавага каня за аброць. Гэтае было апошнім штуршком. Эдвард выхапіў палаш з ножан. Яшчэ момант і ён раструшчыў-бы галаву нахабніка. Але рэзкі папераджальны крык: „Zurück" *) і чырвоны аколыш шапкі, які мільгануў каля самага каня, прыпыніў яго руку. Эдвард вырваў павады. Толькі цяпер ён заўважыў у натоўпе некалькі нямецкіх салдат, а ў завулку—ваенную павозку, якая, відаць, прыехала па хлеб.

З-заду Уладыслаў даканчваў каманду:

— ... на гала!

— Адставіць!—у бяссільнай злосці крыкнуў Эдвард.

Врона таксама заўважыў немцаў. Яны цяпер стаялі шчыльным радам, перагараджаючы яму дарогу, насцярожана выставіўшы наперад цяжкія вінтоўкі з прыкручанымі да іх кароткімі цесакамі.

Ад натоўпу не засталося амаль нічога. Ён разбегся, вызваляючы вуліцу. Толькі найбольш смелыя наглядалі здалёку, чым закончыцца гэтая нечаканая сутычка.

Гудок няспынна гудзеў. Ён напамінаў Эдварду пра другую небяспеку. Кроў паволі сыходзіла з яго твару. Вядома, яны маглі раздушыць гэтыя некалькі фігурак у цёмна-зялёных мундырах. Але за імі стаялі чатыры гарматы, бронеаўтамабіль і семсот штыхоў. Даводзілася афяроўваць сваім гонарам і ісці на кампраміс. Гэтае было, як пакута. Але развага заўсёды перамагала ў Могельніцкага

— Што вам трэба?—суха запытаў ён па-нямецку ў таго, хто трымаў за уздзечку яго каня. Гэта быў белабрысы лейтэнант з блакітнымі блізарукімі вачыма, якія насцярожана сачылі за Эдвардам праз шкло пенснэ.

— Мне трэба, каб вы ўклалі сваю шаблю ў ножны.

Эдвард сачыў за тым, як смешна падскакваў пучок вусоў пад носам лейтэнанта, калі ён гаварыў:

— Калі гэта вас так нервіруе, дык я магу зрабіць для вас такую ласку,—уедліва праказаў Эдвард і павольна ўклаў шаблю ў ножны, злёгку парэзаўшы пры гэтым палец. Заціскаючы другім пальцам парэз, Эдвард красамоўна зірнуў на лейтэнанта, пасля на салдат.

*) Назад.

Лейтэнант ужо зашпіляў кабуру, у якую толькі што ўклаў рэвольвер. Пасля ён павярнуўся да салдат і рэзкая, як брэх, каманда ўскінула вінтоўкі салдат на спіну.

— З кім маю гонар размаўляць?—запытаў у сваю чаргу немец.

— Палкоўнік граф Могельніцкі,—прыклаў руку да казырка Эдвард.

— Палкоўнік? Дазвольце запытацца, якой арміі? Я штосьці не бачыў гэткай формы,—яшчэ больш прыжмурыўся лейтэнант.

— Польскай арміі,—павольна адчаканіў Эдвард, адчуваючы, што яго зноў ахапляе злосць.

— Польскай арміі?!—здзіўлена перапытаў лейтэнант.—Нам невядома такая армія,—кароткія яго вусікі зноў дакнуліся да носу.

— Невядома! Што-ж,— я думаю, у далейшым вы з ёю пазнаёміцеся,—з захаванай пагрозай адказаў Эдвард і нацягнуў павады.— Пагаварыце з ім, пане Врона. Калі хлеб патрэбен, дык няхай возьмуць. Я не магу больш размаўляць з гэтым швабам. Яшчэ некалькі слоў і я разаб'ю яму галаву разам з яго дурацкімі акулярамі,— сказаў ён па-польску і, аб'ехаўшы немца бокам, паскакаў наперад.

Уладыслаў з узводам рушыў за ім.

Каля турмы было спакойна. Блізка варот—групка легіянераў вакол цяжкога кулямёта.

— Вы памятаеце, пане Врона, што я вам сказаў?

— Я павінен памятаць, пане палкоўнік. Вахмістр робіць тут апошні допыт.

Гудок роў. Эдвард спыніў каня, доўга ўслухоўваўся ў гэты гуд і правае брыво яго зноў заторгалася. Ён паспрабаваў спыніць торганне дотыкам рукі, але гэта не памагло.

— Капітан, скажыце, каб з турмы пазванілі ў штаб і ўсіх, хто там ёсць, пасляць на завод... Відаць, Зарэмба таксама не мог там справіцца. Давядзецца самому заняцца гэтым. Я то ўжо заткну яму горла.—Ён ударыў каня.

Узвод ледзьве паспяваў за ім.

Людзі, згледзеўшы коннікаў, кідаліся ў двары. Тыя, што не паспелі схавацца, туліліся да сцен. Калі дзе-небудзь яны спатыкалі групку людзей, дык яна адразу раставала. Толькі бліжэй да завода гэтыя групкі рабіліся больш густыя і разыходзіліся ўжо не так шпарка.

Яшчэ адна паваротка і натоўп запоўніў усе падыходы да завода. Тут было некалькі тысяч.

Гул натоўпа змешваўся з гудам гудка. Убачыўшы гэтае агромністае людское зборышча, Эдвард разгубіўся. Ён не чакаў такога размаху. Мімаволі ён спыніў каня. Да яго падскочылі Врона і Уладыслаў.

Трэба было штосьці рабіць. Стаяць нерухома перад натоўпам было нельга.

— Капітан, загадайце ім разыйсціся. Зараз-жа!

Пакуль Врона крычаў у патоўп, Эдвард аддаваў загады.

— Зняць карабіны! Страляць толькі па камандзе.

— Займіце вунь той завулак... Бізунамі тых, хто там тырчыць!..

Сцябаючы ўправа і ўлева, легіянеры выціснулі людзей з-завулка, а самі выстраіліся дугою.

— Апошні раз—крычаў Врона,—загадваю!..

Натоўп, быццам яго раэрэзалі на-двая, адкаціўся, адкрываючы дарогу да варот, і застыў нерухома.

Эдвард ад'ехаў у бок. Уладыслаў і Врона—у другі.

— Пакуль што страляць у паветра,—ціха сказаў Могельніцкі.— Перадайце каманду па ўзводу.

Легіянеры ўзялі вінтоўкі на прыцэл. У натоўпе пачалася паніка. Але адлегласць між натоўпам і легіянерамі павялічвалася павольна.

Тыя што стаялі з-заду і ня ведалі, што робіцца наперадзе, мімаволі стрымлівалі людскую хвалю, якая нахлынула на іх. Ратуючыся ад пагібелі, пярэднія збівалі з ног тых, што стаялі за імі, прабівалі сабе дарогу, павялічваючы паніку, Эдвард перажываў урачыстасць. „Стада ёсць стада“.

— Плі!—крыкнуў ён.

Залп паласнуў у паветры так, нібы хтосьці разарваў на-двая агромністае палатно. Натоўп адкачваўся ўжо больш імкліва, пакідаючы на зямлі збітых з ног людзей. Тым, хто яшчэ стаяў на нагах, здавалася, што гэта ляжаць забітыя і параненыя.

— Плі!—крыкнуў Эдвард.

Ён спыніў гэтую каманду толькі тады, калі узвод выстраляў усю абойму.

Палова пляцу была ачышчана. Чалавечая лавіна адкачвалася ўсё далей, усё больш імкліва...

Заводскія вароты адчыніліся. Узвод Зарэмбы, агаліўшы шаблі, паімчаўся за беглякамі.

— Марш наперад!—крыкнуў Эдвард.—Заганіце іх у стойлы!

Узвод Уладыслава рынуўся наперад. Эдвард і Врона рушылі да варот...

Поўгадзіны ганяліся за людзьмі абодвы ўзводы.

На вуліцы не засталося ні душы. Збітыя і параненыя самі адпаўзалі, ратуючы сваё жыццё.

Следам за Могельніцкім на заводзе з'явіўся Баранкевіч і гарадскі галава Сладкевіч. Да гэтай пары яны не асмельваліся паказвацца.

На заводскім дварэ стаяла чалавек восемсот рабочых.

— Чаму вы іх не выпусцілі адсюль?—здзіўлена звярнуўся Эдвард да падпаручыка Зайончкоўскага, якога Зарэмба пакінуў тут у рэзерве.

Падпаручык, зусім яшчэ хлапчук, няўмела казыраў і разгублена апраўдваўся.

— Так загадаў пан паручык. Ён баяўся, што тыя далучацца да гэтых.

— Які палітык! Завод трэба было ачысціць адразу-ж. А то там, на вуліцы, думалі, што тут іх усіх перавешалі. Горшай правакацыі

цяжка і прыдумаць,—раздражнена гаварыў Могельніцкі, паціскаючы рукі адваката і цукразаводчыка.

— Што-ж гэта робіцца? Гэта-ж бунт! трэба скончыць з гэтым!

— Не хвалюйцеся, пане Баранкевіч: усё, што трэба, будзе зроблена,—супакоіў яго Эдвард.

— Але-ж у мяне завод буракамі завалены. Яны ў мяне пагніюць! Я не магу дапусціць, каб завод не працаваў... Мне гэтае кожны дзень каштуе некалькі тысяч,—раздражнена гаварыў Баранкевіч.

Эдвард з агідаю глядзеў на гэтага таўсцяка, пра сквапнасць якога расказвалі анекдоты.

— Ёсць рэчы больш сур'ёзныя за буракі, пане Баранкевіч. У Паўлодзі паўстанне. У Халмянцы і Сасноўцы ўзбунтаваліся мужыкі...

— А што-ж з нашымі?—спалохана крыкнуў падпаручык Зайончкоўскі.

— Будзьце спакойны, падпаручык: па дарозе ў горад, я спаткаў вашага бацьку і ўсю сям'ю. Яны цяпер у нас. Усе жывы і здаровы.

— Прабачце, пане палкоўнік...

— Нічога, я разумею вас.

— Потым гэтыя немцы на вакзале... Бяруць у магазінах усё, што хочуць,—умяшаўся Сладкевіч.

Могельніцкі павярнуўся да яго і сказаў, не захоўваючы пагардлівасці:

— Я думаю, што пан Сладкевіч зробіць нам ласку, калі не адмовіцца пагаварыць вось з гэтымі,—паказаў ён на рабочых.

У двор ужо ўязджаў Уладыслаў з часткай узвода. Другая частка патруліравала вуліцы.

— Загад выкананы, пане палкоўнік,—з вялікім здавальненнем адчаканьваючы апошнія два словы, далажыў ён Эдварду.

Праз выццё гудка Эдвард ледзьве пачуў яго. Ён падышоў да брата. Уладыслаў нахіліўся да яго галавы.

— Бяры ўзвод і адпраўляйся да хаты. Тут абыйдземся і без цябе, а там нікога няма. Пастаў вартавых і будзь на пагатове. Трымай па тэлефону сувязь са штабам. Ну, з богам!

Уладыслаў казырнуў і пачаў паварачваць каня. У вароты уязджаў Зарэмба са сваімі.

— Пане Баранкевіч, ідзіце супакойце вашу жонку. Парадак адноўлен. Вечарам прыязджайце да нас, пагаворым. А я зараз займуся гэтым,—і Эдвард паглядзеў на фантан пары, які ўзнімаўся над дахам кацельнай.

— Пане Зарэмба, загадайце рабочым пакінуць завод. Усёроўна гэтага папугая ніхто не чуе. Каб праз дваццаць хвілін тут нікога не было... А мы пойдзем затыкаць горла гэтаму д'яблу...

Падпаручык Зайончкоўскі на хаду рапартаваў Эдварду:

— Цяпер ён, пане палкоўнік, закрыў пару. Відаць, яму там не было чым дыхаць. Мы ўжо былі ўзрадаваліся. Але калі мы палезлі ў вокны, дык ён стрэлам параніў аднаго салдата... Бачыце, у часе

першай атакі легіянер, якога ён ударыў каменем, выпусціў туды карабін. У ім было чатыры патроны. Падаючы, карабін стрэліў. Значыць асталося тры. Цяпер стрэліў гэты бандыт. Значыць, у яго два патроны... Потым ён заўсёды можа пусціць шланг у работу. Ён там як у крэпасці... Механік кажа, што пары хопіць яшчэ на некалькі гадзін...

— Паклічце сюды механіка.

(Канец у трэцім нумары)

*Пераклад*
*М. ПАСЛЯДОВІЧА*

# *Мой дар краіне*

АЛЕСЬ ГУРЛО

Я сам сабе ўжо гаспадар,
Муж—жонцы, бацька—дачцы, сыну!
Таму багаты дару дар
Ад іх і ад сябе краіне!

З шырокіх сакаўных палёў
Сабраў пшаніцу, жыта, лён я,
Са стэпаў сонечных прывёў
Шмат табуноў рысістых коней.

Мой статак рослы, малады
Пасецца на руцянай пашы.
На зіму я завёз яды
З лугоў квяцістых, ніў і пашань.

Я маю ў рэчках шмат вады,
Шмат ёсць яе ў марах, азёрах.
Пладамі славяцца сады,
Лясы хватаюцца за зоры.

Тчэ фабрыка мая шаўкі;
Завод куе плугі, бароны.
Мае канвейеры—станкі
Рыхтуюць сродкі абароны.

Там, дзе цмянела тхлань балот
І дзе заўсёды гразь бразнела,
Дзе рос і гніў вякі чарот,—
Прасторы рунню зарунелі.

Павысцілала скрозь шаша
Бель-абрусамі шлях-дарогу,
І роўным, цвёрдым стаў мой шаг
І не баляць ніколі ногі.

І хочацца больш працаваць
Мне разам з жонкай, дачкой, сынам,
Плён-збор збіраць, дар даравадь
Ад іх і ад сябе краіне!

30/IX-36 г.

# *Я слаўлю*

АЛЕСЬ ГУРЛО

Смяецца раніца ў акно,
Гудкі іграюць дню пабудку,
А я прачнууся ўжо даўно—
Лаўлю жыццёвых рухаў хуткасць.

І пасмы залатыя кос,
Што на зямлі паслала сонца,
Купаюцца у срэбры рос,
У крынічнай люстранай палонцы.

Усё ажыло і ўсё жыве,
Усё кліча працаваць, змагацца,
І ў сэрцы звонкі салавей
Пачаў на песню адгукацца.

Я слаўлю раніцу і дзень,
Я слаўлю поўдзень, ноч і вечар,
І поступ радасных падзей
Радкамі шчырых слоў я мечу.

І кожны мой жыццёвы рух
І кожны рух на ўсёй планеце
Я цёплай ласкай надару
І агарну красой суквеццяў.

16/IX-36 г.

# *Салавей*

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

П'еса ў трох дзеях і сямі карцінах

ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

1 САЛАВЕЙ (Адам), светлавалосы юнак дваццаці трох гадоў.

2 КАСПАР, селянін 55 г. з маленькай рэдкай бародкай.

3 ГРЫПІНА, жонка Каспара, худая, у глыбокіх маршчынах, 50 г.

4 АЛЕНА, іх дачка, 19 г., стройная, прыгожая, чарнявая.

5 ЯЗЭП, бондар, 50 г., прысадзісты, моцны, з чорнай барадой,

6 ДЗЕД МІКОЛА, каля 90 г. вочы слязяцца, голас з ноткамі плачу. Не дачуе, настаўляе вуха пры гутарцы.

7 ТАЦЯНА, сялянка 20 год, шалёная.

8 АДАМ ВАШАМІРСКІ, пан, 45 год, напышлівы, успыльчывы.

9 ІЗАБЕЛА, жонка Вашамірскага, 25 год.

10 ЯДВІГА, маці Вашамірскага, 65 г., садыстка, набожная, чапорная, крыху падцягвае спаралiжаваную нагу. Ходзіць з кійком.

11 КСЁНДЗ БАНІФАЦІ, 30—35 г.

12 ГЕНРЫХ ВІГОРСКІ, пад 30 г. дваранін з гораду.

13 АПАЛІНАРЫ, войт Вашамірскага, 40 г., злы, цынічны.

14 ГУБЕРНАТАР.

15 ЖОНКА ГУБЕРНАТАРА.

16 ДАЧКА ВОЙТА.

17 БАЛЕТМАЙСТАР.

18 АФІЦЭРЫ, САЛДАТЫ, АКТОРЫ, ТАНЦОРКІ, ГАЙДУКІ, ЛЁКАІ, ПАКАЁЎКІ, МУЗЫКАНТЫ ды іншыя.

---

Дзея адбываецца ўлетку ў першыя гады восемнаццатага стагоддзя, у маёнтку і адной з вёсак пана Адама Вашамірскага.

# *Дзея першая*

## *Карціна першая*

Вясковая вуліца. Абапал хаты. У аддалі на ўзгорку парк, старадаўны гатычны замак пана Вашамірскага. Па абодвых баках парка—службовыя, гаспадарчыя будынкі. Між маёнткам і вёскай—выган, поле, рэчка і мост. Цягнецца шырокі тракт. Ад тракта да маёнтка вядуць тапалёвыя прысады. Ля маста каплічка, крыж з драўлянай фігурай Езуса.

I

На прызбе Язэпавай хаты сядзіць дзед Мікола. Ён глядзіць як Язэп ля невялічкага бондарскага варштата набівае абручы на вядзерца. Тут-жа панакіданы клёпкі, донцы, абручы. Сонечны летні дзень. На фоне аддаленай песні дзед Мікола і Язэп вядуць гутарку.

ПЕСНЯ

Не сячы, мой татулька, пры дарозе бярозы;
Не касі, мой браточак, у лужочку травіцы;
Не бяры, мая матулька, з крыніцы вадзіцы;
Не чапай, мая сястрычка, у садочку цвяточкаў:
Пры дарозе бяроза—я сама маладзенька.
У лужочку травіца—мая руса касіца.
У садочку цвяточкі—мае ясныя вочкі.
У крыніцы вадзіца—мае дробныя слёзкі.

ЯЗЭП. Мне і свята—не свята. Загадаў пан зрабіць такіх вазонікаў аж сто.

ДЗЕД. Для кіятра?

ЯЗЭП. То-та-ж! У самым тэатры ўзімку расці будзе сад.

ДЗЕД. Сад? Узімку? Ай-яй-яй... Захоча пан, чаго добрага, каб узімку спявалі і салаўі...

ЯЗЭП. Захоча—і ты, Мікола, салаўём засвішчаш.

ДЗЕД. Засвішчу! (*Смяецца*). Дай ты рады, усе мы больш у панскіх руках, чым у божых.

З Каспаравай хаты высоўваецца спіной наперад высокі, крыху згорблены, чалавек. На спіне—цымбалы, збоку—торба. Язэп і дзед узіраюцца.

II

ЦЫМБАЛІСТ (*гаворыць у хату*). Дзякую, людцы мілыя, за хлеб-соль.

ГОЛАС КАСПАРЫХІ З ХАТЫ. Які-ж гэта хлеб, чалавеча? Поснае шчаўе...

ЯЗЭП. Горача як! Га?

ДЗЕД. Эге! Хоць яйцо палажы—спячэцца.
ЯЗЭП. Хадзем, дзед, квасам ахаладзімся.
ДЗЕД. Эге!

Язэп і дзед уваходзяць у хату. З супроцьлеглай Каспаравай хаты высоўваецца цымбаліст. За ім—Алена.

ЦЫМБАЛІСТ (*Алене*). Няхай благаславіць хаціну вашу господ-бог! Пасядзеў як у роднай.
АЛЕНА. Прыдзі да нас, дзядзька, нанач.
ЦЫМБАЛІСТ. Спасі бог, залатая душа.

Алена аглядаецца, хоча ісці.

ЦЫМБАЛІСТ. Пачакай...
АЛЕНА. Спяшаюся... у тэатр... Адлучышся без дазволу з замка, пан люта карае.
ЦЫМБАЛІСТ. Зараз пойдзеш. Скажы, маладзенькая, як мне пабачыць панскага канюха—старога Апанаса?
АЛЕНА (*устрывожана*). Апанаса...
ЦЫМБАЛІСТ. Яго. Няхай прыдзе сюды. Я прынёс ад сынка вестачку.
АЛЕНА. (*узрадаваная*). Вестачку... ад Адамкі...
ЦЫМБАЛІСТ (*пільна ўзіраецца ў Алену*). Ад Адама... паклон... праз мяне...
АЛЕНА (*хвалюецца*). Тры гады аб ім слыхам не слыхаць. Нібы ў вір кінуўся... Жыве?..
ЦЫМБАЛІСТ. Жыве... Жыве... Тры гады як хлоп Адам уцёк ад пана Адама.
АЛЕНА. І цяпер яшчэ пан Адам на Адамку гневаецца.
ЦЫМБАЛІСТ. А хлоп Адам на пана Адама гневаецца.
АЛЕНА. Адамку і цяпер яшчэ шукаюць.
ЦЫМБАЛІСТ. Шукаюць ды не знойдуць. (*Паўза*). Жыць не маглі разам два Адамы. Аднаму бог падараваў усю зямельку—з палямі, з лясамі, з вазёрамі, з небам і сонейкам, а другому—кінуў, як сабаку костку, бугарок жвіру на магільніку і поўную хату крыўды ад нараджэння да смерці.

У дзверах паказваецца Каспар.

III

КАСПАР. Бяжы, дачухна, у кіятар, а то пан...
АЛЕНА. Я татачка, зараз...

Каспар вяртаецца ў хату.

IV

АЛЕНА. Дзе-ж ён, Адамка?
ЦЫМБАЛІСТ. Усюды і нідзе... Кожная хваіна—паветка над ім. Кожны кусток верасу—падушкай пад галавою. Людзі добрыя і накормяць і напояць, а ўзімку ад мароза і завеі ў хату завядуць,

Любіць яго народ. Бо Адам вясёлы. Бывае, чалавек адной хвілінай радасці век вякуе... Адам весяліць народ...

АЛЕНА *(нецярпліва)*. Дзе-ж ён?

ЦЫМБАЛІСТ. Усюды і нідзе... Не ведае Адам галадухі—даюць людзі, не жалкуючы. А як сыт—браць не хоча. А бедны рад апошнюю скарыначку яму паднесці... Як „га" праплылі тры гады.

АЛЕНА. Тры гады па ім горанька плачу. Уцёк ад пана, а мяне... а мяне—забыў. *(У яе вачах слёзы).*

Пільна ўзіраецца ў Алену цымбаліст. На хвіліну становіцца стромкім і рухавым не паводле барадатага твару.

ЦЫМБАЛІСТ. Моцна яго любіш?

АЛЕНА *(усхліпваючы)* Люблю... во як. *(Прыціскае рукі да грудзей).* Дзе-ж ён? Скажы... дзе мой Адамка?

ЦЫМБАЛІСТ. Усюды і нідзе... Адам забараніў сказаць.

АЛЕНА. Пэўне, забыў мяне...

ЦЫМБАЛІСТ. Ён не забыў цябе, маладзенькая. Зірні на гэта! (*Паказвае на цымбалы*). Пазнаеш?

АЛЕНА. Пазнаю... Адамкавы цымбалікі...

Алена пяшчотна гладзіць цымбалы.

ЦЫМБАЛІСТ. Гэта яго знак да цябе...

АЛЕНА. Пазнаю... пазнаю... і мой паясок на іх... Ой, як мой Адамка граць умеў!.. Песні гаварылі—пераліваліся, быццам ручаінкі пад месячыкам. Мне тады здавалася, што Адамава музыка—гэта лебядзіныя крыллі, а я імчуся на іх высока і далёка... Куды?—уздагон за сваёй доляй. А мяне носіць, бы калінавы лісток, па сухіх лясах, па ніцых лозах, дзе вецер не вее і сонца не грэе... А доля—пырх, пырх з маіх рук, немаль галубка, і глядзіць на мяне, глядзіць так жаласліва...

Расчулены цымбаліст гладзіць Аленку па валасах.

ЦЫМБАЛІСТ. Адам мяркуе сам сюды прыйсці, каб на цябе падзівіцца. А калі захочаш—забярэ з сабою ў лес... Ты, дзеванька, гатова дзяліць з ім пакуты і радасці вольніцы?..

АЛЕНА. Я... (*У раздум'і камячыць сваю вопратку*). Я...

ЦЫМБАЛІСТ. Баішся?

АЛЕНА. Я... (*Нібы ёй паветра не хапае*). Я... *(рашуча)*. Пайду! Завядзі мяне да майго Адамкі. Потым і бацькоў старых забярэм, праўда? Зараз пойдзем?..

ЦЫМБАЛІСТ (*узрадаваны*). Зараз нельга—зловяць. Уночы... употайку сунемся да Адама... Буду чакаць цябе ля рэчкі... на высокай кручы... Як падыйдзеш—тры разы свіснеш... во так (*свішча*), а я савою закрычу... во так *(крычыць савою)*. Скажы, дзеванька, дзе мне знайсці бацьку Адама?..

АЛЕНА. Бацьку... (*у вялікім смутку*). Наша маладая пані яшчэ горш лютай стала за апошнія тры гады... Правініўся стары канюх... Ваўкі перагрызлі горла лепшаму жарабцу панскаму...

ЦЫМБАЛІСТ. (*з трывогай*). І што за гэта было беднаму Панасу?

V

З Язэпавай хаты выходзяць Язэп і дзед. У дзверах Каспаравай хаты паказваецца Каспарыха.

КАСПАРЫХА. Заробіш, дзеткі, ад пана... Бяжы ў кіятар!..

АЛЕНА. Я—во-во... бягу!

КАСПАРЫХА. (*цымбалісту*). Не затрымлівай яе, дзядзька. Яе-ж там прыб'юць... (*Вяртаецца ў хату*).

VI

ЦЫМБАЛІСТ. Бяжы, дзеванька! (*Шэптам*). Да поўначы... Я ў іх (*паказвае на Язэпа і дзеда)* даведаюся. Бяжы...

Алена неахвотна адыходзіць, азіраецца на цымбаліста. Аддаляецца. Цымбаліст памкнуўся быў да яе, стрымаўся. Утаропіўся ў постаць Алены позіркам, пакуль яна не зайшла за вугал адной з хат. Цымбаліст падыходзіць к Язэпу і дзеду.

ЦЫМБАЛІСТ (*маладым голасам*). Спасі бог, людцы добрыя! Дазвольце з вамі пагутарыць. Падаянне шчырым словам бывае іншы раз сытней за падаянне хлебам. Шчырае слова—як жывое чалавечае сэрца.

ЯЗЭП. Як гукнеш, так і адгукаецца. (*Здзіўлена*). Ты?

ЦЫМБАЛІСТ. Я (*абнімаецца з Язэпам і дзедам. Цымбаліст нешта шэпча Язэпу на вуха. З'яўляецца селянін*).

ЦЫМБАЛІСТ (*ранейшым голасам*). Як пан пакараў канюха за жарабца?

ЯЗЭП. Пан па галоўцы так пагладзіў, ён... Але няхай дзед раскажа... (*Б'юрэцца за працу*).

ДЗЕД. Не так, пан, як маладая пані. Ушчуну над ёю няма. Эге! За ўсёй гаспадаркай яна, як той чорны каршун, зірк ды зірк. Ай-яй-яй!

Цымбаліст прысаджваецца на прызбе.

ДЗЕД. Дык слухай, божы чалавек, што сталася з панскім канюхом! (*Цымбаліст настарожваецца*). Войт Палінары сцягнуў з яго кашулю, звязаў яму галаву, рукі, ногі... і суромцам прыкрампаваў да хвойкі... Доўгі, як вярста, летні дзень галасіў Панас у муравейніку...

ЦЫМБАЛІСТ (*усхваляваны*). У муравейніку?..

ДЗЕД. Эге! Мурашкі макавым зернем упляталіся ў хударлявыя рэбрыны Панаса... Мурашкі калолі яго, бы голкі, паўзлі яму ў вочы... у рот... у вушы... у нос...

ЦЫМБАЛІСТ (*затуляе вочы далонямі)*. У вочы... у рот... у вушы... у нос...

ДЗЕД. Панас літасці прасіў... плакаў... стагнаў... выў немым голасам: „а-а-а-а“...

ЦЫМБАЛІСТ. Выў немым голасам: „а а-а-а“...

ДЗЕД. Войт Палінары стаяў над ім, як той Ірад... Кепікі строіў... рагатаў...

ЦЫМБАЛІСТ. ...Строіў... рагатаў...

ДЗЕД. Як сонейка зайшло за панскі палац, Апанаса адвязалі. Ён, немаль непрытомны, шугануў праз аўсы... праз жыты... шухшух на высокую кручу...і ўвесь у крыві... абсеяны мурашкамі, нібы чорнай груцай...—ба-б-у-ух у самы вір!..

ЦЫМБАЛІСТ. У самы вір!..
ДЗЕД. Доўга рыбаловы яго шукалі...
ЦЫМБАЛІСТ. Знайшлі?
ДЗЕД. Дай бог рады... Дзе там!
ЦЫМБАЛІСТ. Кару прыдумала пані?
ДЗЕД. А то хто-ж? Пані!

Пасля доўгай паўзы цымбаліст адымае далоні ад вачэй.

ЦЫМБАЛІСТ (*ускакваючы з мейсца*). Э-э! Каб меў воўчыя іклы, горла перагрыз-бы вашай пані!

ДЗЕД. Ай-яй-яй! Злуйся—не злуйся, а вышэй галавы не падскочыш...

За ўвесь час апавядання дзеда, Язэп як падняў малаток над пасудзінай, так і не апусціў. На яго твары адлюстроўваўся ўвесь ход апавядання.

Цымбаліст хапаецца рукамі за галаву, працягла стогне, раптоўна садзіцца і імпэтна, знімае з плеч цымбалы. грае ды спявае:

Я у мора знясу гора,
Палажу бяду на жвір.
Няхай топіцца ліхое.
Кіну ў донныя, у вір.
Тады гора ты утопіш.
Як свой век ты пражывеш.
Век працоўны, век нявольны
Да магілкі данясеш...

ЯЗЭП (*выцірае слёзы*). Як здарылася з канюхом справа, не плакаў, вось ад песні няпрошаныя слёзы з вачэй цякуць.

ЦЫМБАЛІСТ. Эх, хацеў бы я быць такім цымбалістам, каб калом па галовах панскіх цымбаліць!

ЯЗЭП. Не трэба гарачыцца.

З вёскі даплывае сюды песня.

## VII

Прыбягае Тацяна. Трымае ляльку з ануч. Падкрадваецца ззаду к цымбалісту і трымкае па струнах.

ЦЫМБАЛІСТ (*дзеду*). А яна хто?

ДЗЕД. Кручаная. Тацянай завецца. Адбывала бедная прыгон, а ў той час хата яе ўзяла ды згарэла... а ў хаце—дзіцянё... Ай-яй-яй...

Уцякае Тацяна. Праз хвіліну бягуць сюды з абодвух бакоў вуліцы хлопцы дзяўчаты. Акружаюць цымбаліста.

## VIII

РЭПЛІКІ:

— Музыка!
— Прышоў музыка!
— Пачнем скокі!

ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ. Зайграй нам, дзядзька!
ДРУГІ ХЛОПЕЦ. У нядзельку і паскакаць можна.
ДЗЯЎЧЫНА. Хочацца павесяліцца.

УСЕ. Павесяліцца! Павесяліцца!

ЦЫМБАЛІСТ (*напоўжартаўліва*). На гэтых цымбалах святыя песні граю, дарагонькія мае (*На матыў „Лазара“*). „Крыжы пазлацісты ён не пазлачаў, свайго брата Лазара ў дом свой не прымаў... Вось як! У добрых людзей струны піцяннё-едзаннё просяць.

ТРЭЦІ ХЛАПЕЦ. Нешта мала нацымбаліў, дзядзька! (*Мацае торбу*). Нейкае рыззё.

ЦЫМБАЛІСТ. Не гняві бога, хлопча! Там мужыцкія падзякаванні...

ДЗЯЎЧЫНА. І мы дзякаваць будзем. Грай нам, міленькі... Хоць разок павесялімся...

ХЛОПЕЦ ПАСТУХ (*з бяроставай трубой*). Грай, дзядзенька удаленькі, у залатыя цымбалікі... (*Трымкае па струнах. Цымбаліст яго адсоўвае локцем*).

РЭПЛІКІ:

— Грай нам!

— Грай!

— Не выпусцім...

— У палон забярэм!

Акружаюць цымбалісты, пачынаюць спяваць:

„А калі-ж я ў матульні была,
Як вішанька у садочку цвіла.“

ЦЫМБАЛІСТ (*пахмурны*). Цяжка мне граць цяпер вясёлае...

ДЗЕД. Кінь, музыка, маркоту на сухі рор, на шуры-буры, на ветры-кавуры! Павесялі народ малады! Разам з народам сам весялейшым станеш! Эх, разамну і я старыя косці, успомню гады маладосці!

Дзед смешна падскаквае ды спявае тоненькім дрыжучым галаском:

Скачы, скачы, мянтузок,
Няма хлеба ні кусок.
Была адна скарыначка—
З'ела сучыначка.
Ажаніўся лыкадзёр,
Разам з бабай лыкі дзёр.
Жонка яго ласкава—
Лыкадзёра ляскала.

Усе смяюцца. Усміхаецца і цымбаліст. Пачынае граць. Хлопцы і дзяўчаты пускаюцца ў скокі, пяюць:

Ах, калі ж я у матульні была,
Як вішанька ў садочку цвіла.
Папалася злому духу мужыку,
Ён высушыў, як ліпінку, у духу.
Наехала повен двор гайдукоў,
Ды забралі майго мужа да паноў.
Ён, паганец, уцячэ, уцячэ,
Мне галоўку натаўчэ, натаўчэ.
Сваю жонку ты не бі, ты не бі,
Пані пяткі цярабі, цярабі.

У часе скокаў прыходзіць у чаравіках, убраная лепш за іншых, дачка войта. Стаіць воддаль і глядзіць на танец. Хлопец бярэ клёпку і донца ад драўлянай пасудзіны і пачынае памагаць цымбалісту—нібы ў бубен б'е. Пастух трубіць у бяроставую трубу.

IX

ХЛАПЕЦ. У гонар і славу войтавай дачушкі! (*пяе*):

Ой, Васілька, мой ты любы Васілёк,
Чаму-ж, чаму-ж ты сягоння весялёк?
Ці не жонка маладая радзіла?
Ці кароўенька рабая цяліла?
І не жонка маладая радзіла,
Не кароўенька рабая цяліла.
Гэта войт наш захварэў, захварэў.
Крычыць, вые на дварэ, на дварэ...
Эх і радасць, эх і радасць у нас!
Хай крычыць ён доўгі час, доўгі час!
Стануць нашы ручанькі спачываць,
Стануць нашы ножанькі танцаваць.

Спыняецца музыка. Смех.
Войтава дачка затуляе рукамі твар.

ВОЙТАВА ДАЧКА. Я тату скажу. Ой, будзе вам!
ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Уцякай, гадзіна! Войтавы вылупак!
ДРУГАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Не мала плачам ад твайго таты.
ВОЙТАВА ДАЧКА. Яшчэ больш паплачаце!
ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Ах ты, паганы яблык паганай яблыні!
(*Хапае клёпку, кідае ў войтаву дачку. Тая ўцякае*).
ХЛОПЦЫ І ДЗЯЎЧАТЫ. А цю-га! А цю-га-а-а!

Свіст, рогат. Пастух трубіць у трубу.

X

ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ. Ужо тры гады музыка у нас не граў. З таго часу, як наш Адам уцёк.

ДРУГІ ХЛОПЕЦ. Вясёлы такі быў Адам наш! Ух, вясёлы! Бывала, як закукарэкуе, закукуе, завые, засвішча, дык цюцелька ў цюцельку: пявун, зязюля, воўк, салавей. Мы са смеху кладземся, рагочам, хіхочам. Людцаў бавам бавіў, камэдыі выдумляў. Ах, які скамарох з яго быў!

ЦЫМБАЛІСТ (*у самае вуха хлапцу*). Ку-ка-рэ-ку-у! Мэ-э-э!

Смех, пляскание у далоні.

ДЗЯЎЧЫНА. Як наш Адамка! Мы яго так любілі.
ЦЫМБАЛІСТ (*гаўкае па сабачаму*). Гаў-гаў-г-р-р-р!

Адзін з хлапцоў наступіў дзяўчыне на босую нагу.

ДЗЯЎЧЫНА. Ой, сапсуў мне саф'янавыя чаравічкі!

Скача на адной назе.

ХЛОПЕЦ. Не бядуй. На панскім прыгоне новыя, якраз такія самыя купіш.

ДЗЕД (*спявае*):

Танцуйце, гайсуйце,
Чаравічак не псуйце
Чух-чох ды чух-чох
На кірмаш у лапцёх!

ЦЫМБАЛІСТ (*развесяліўшыся*). Танцуйце! Як граю, дык і пекла раскідаю! Да самага вечара будзеце танцаваць! Во які я!

РЭПЛІКІ

— Танцаваць!

— Скакаць!

— Да вечара!

— У-ух! У-ух!

Цымбаліст грае „Юрку". Усе танцуюць і спяваюць:

Ах ты, Юрачка, што не жэнішся?
Прыдзе зімачка, дзе падзенешся?
Нашто мне жаніцца, нашто гэтак рана—
Любіць мяне жонка ды старога пана.
Маладая пані нераўню кахае,
Да мяне ў хату паслоў пасылае:
Кінь ты, Юрачка, пшаніцу малаціці
Хадзем да пакою мёд, віно піці!

Прыбягае спалоханая засопшаяся Таццяна.

XI

ТАЦЯНА. А вохці мне! Сюды едзе пані...

Танец спыняецца, абрываецца музыка. Цымбаліст паспешна і нервова вешае цымбалы на плечы. Усе ўстрывожаны.

РЭПЛІКІ:

— Пані...

— Пані...

— Каб на магілкі яе павезлі...

ДЗЕД. Эге! Каб хаця ўсё добра было...

ЯЗЭП. Вунь яна цёмная хмара...

Конна, у чорнай амазонцы паказваецца Ізабела. За ён пехатой войт і пара гайдукоў. Устрывожаныя сяляне збіліся ў цесную групу. З хаты выходзяць Каспар і Каспарыха.

XII

КАСПАР (*выступае наперад, нізка, ледзь не да самай зямлі кланяецца*). Добры дзень, яснавяльможная панічка наша!

УСЯ ГРУПА (*кланяючыся*). Добры дзень, яснавяльможная пані!

ІЗАБЕЛА (*глядзіць адну хвіліну на схіленую групу людзей. Нездаволена моршчыць выпешчаны твар, звяртаецца да войта*). Дык ты войт, памятай мой загад, добра хлопам растлумач. Убі ім у галовы, як пацеры: ха-чу аб-ляг-чыць іх до-лю!..

Сяляне цясней абступаюць паню.

КАСПАР. Спасі бог, панічка ясная, павачка наша красная, за тваё добрае сэрца! Хочаш палепшыць, знакам тым, долю нашу горкую... Нашых дзяцей паны аддаюць нам назад з кіятру? Цяжанька без іх, як без рук... (*Да сялян*). Дзякуйце усе нашай маці яснавяльможнай, роднай!

Усе, апрача настарожаных Язэпа і дзеда, нізка кланяюцца.

РЭПЛІКІ:

— Дзякуем!

— Дай, круль нябесны, жыцце доўгае...

— Спасі бог...

ІЗАБЕЛА (*не звяртаючы ўвагі на падзякаванні. Войту*). Мяркую так: калі пан багацее і мужык сыты...

КАСПАР. Святую праўду пані кажа! Знакам тым, мы—паніны, а пані—наша... Адна сям'я...

ЯЗЭП (*цягне Каспара за світку*). Заткні, Гаўрылка, сваю гаварылку! Знайшоў сямейку!

ДЗЕД (*Язэпу.*) Ай-яй-яй!.. Ці к дабру раздабрухілася пані?

Вельмі ўсхваляваны прабіваецца наперад цымбаліст. Яго рухі юнацкія, стан роўны. Ён хоча нешта сказаць.

ВОЙТ. Маўчаць, хамы!

М а ў ч а н н е.

ІЗАБЕЛА. Скажы ім, войт, што на гэтай нізіне (*паказвае рукой на хаты*) мы разгорнем вялікую рыбную справу. Тут і даўней возера было... Ставы капаць будзем... Застаўкамі рэчку загародзім... Зноў сюды пусцім возера...

ЯЗЭП. Будуць ногі ў вадзе і галава ў бядзе...

ІЗАБЕЛА. У ваду пусцім тысячы рыбак... Пабудуем блізка бровар... Праз гэта наш маёнтак пойдзе ўгару...

З кожным словам пані сярод сялян расце трывога. Са спалоханых вуснаў выплываюць усклікі просьбы і роспачы.

РЭПЛІКІ:

— Пані, не губі нас...

— Мы-ж прападзем...

— Пашкадуй, карміцелька...

ІЗАБЕЛА. Скажы ім, войт; загадваю ў дзесяць дзён перанесці Вашаміршчыну у Старыя Лозы!

РЭПЛІКІ:

— У Старыя Лозы?!

— На пустыр?

— На камень?

— На пясок...

— На балота...

— Хоць ты лажыся ды памірай...

Усхліпванні і плач жанчын. На тварах сялян вялікае гора. Рукі ламаюцца, жагнаюцца.

ЯЗЭП (*ледзь хавае сваё абурэнне*). Там-жа палавіна—балота і палавіна—пясок. Не зямля, а ліхамара́... Нам-жа прыдзецца ў новым возеры з голаду тапіцца... як-жа мы дзяцей гадаваць будзем? У Старых Лозах пропадам прападзем...

ІЗАБЕЛА. Скажы ім, войт: будуць мужыкі пакорныя ды паслухмяныя—памагу чым можна будзе. Не прыдзецца ім у ваду кідацца. Гэтых рыбак яны ў мяне лавіць будуць самі...

ЯЗЭП. Рыбкі каля нашых вусоў паплывуць ды ў рот не пападуць.

ІЗАБЕЛА (*строга глядзіць на сялян*). А калі не паслухаюцца, тады... (*Пагражае зграбным канчуком*). Тады... самі шкадаваць будуць мужыкі!..

ЯЗЭП. Пані рэжа нас без нажа...

ІЗАБЕЛА (*войту*). Пагавары з імі ты! Мне непрыемна глядзець на іх фізіяноміі...

Уязджае

## XIII

РЭПЛІКІ:

— Пачакай, пані...

— Не крыўдуй нас...

— Не асіраці...

— Злітуйся...

ЯЗЭП. Вось табе і пані! Паляцела цяцера на мост і на сем вёрст закінула хвост...

Гайдукі пайшлі. Застаўся войт.

ВОЙТ. Дык я вам, мужычкі, усё растлумачу... Трэба...

АДЗІН З ГРАМАДЫ. Кінь, Палінары, тлумачыць! Твой язык кляваць не стануць і сарокі...

ВОЙТ (*гнеўна*). Хто так брэша?

ЦЫМБАЛІСТ (*Язэпу на вуха*). Заб'ю зараз гэту чорную гадзіну.

ЯЗЭП. І не думай. Яшчэ большая бяда будзе.

Цымбаліст кідаецца ў той бок, куды паехала Ізабела.

ВОЙТ. Куды гэта ён?

## XIV

За цымбалістам бяжыць за сцэну і войт. Сяляне настарожана маўчаць. Пазіраюць у адзін пункт—за сцэну. Над застылай групай людзей поўная цішыня. У цішыню ўрываецца з-за сцэны працяглае, прарэзлівае, жудасна воўчае выццё:

— В-в-в-у-у-у-у-у...

КРЫК ВОЙТА. Гэй-гэ-эй! Лаві-і-і!

Прарэзлівы віскат Ізабелы.
Ажыўленне сярод сялян.

ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Цымбаліст ваўком завыў... Конь спудзіўся...

ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ. Пані з каня ўпала...

ЯЗЭП. І каршуновыя крыллі запэцкала...

ДЗЕД. Эге! Вось табе і цымбаліст! Ай-яй-яй! што на свеце дзеецца...

ГОЛАС ВОЙТА. Лавіце вісуса, шыбеніка! Ла-ві-і-це! Лаві! Лаві!

ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА (*з трывогай*). Гайдукі за ім пагналіся!

ДРУГАЯ ДЗЯЎЧЫНА (*з пашкадаваннем*). Злавілі...
УСЕ (*са стогнам.*) Бедненькі... злавілі...
ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ (*з аблягчэннем*). Вырваўся.
ДРУГІ ХЛОПЕЦ (*радасна*). Уцёк! Уцёк!
ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА (*падскакваючы ад радасці*). Малайчына! Уцёк! Уцёк! Уцё-о-ок!
ДРУГАЯ ДЗЯЎЧЫНА (*пляскаючы ў далоні*). Не дагоняць! Лаві ветра ў полі!

За сцэнай нарастаюць крыкі:

— Лаві-і-це!
— Лаві-іце!
— Вунь туды! Туды! Туды! Эх! Эх!
— Лаві-і-і-і...
ЯЗЭП. А пані так марудна ўстае з зямлі, быццам сявалку з жытам паднімае...
ДЗЕД. Эге! Будзе нам цяпер ліха.
ЯЗЭП. Войт бяжыць назад сюды такі збянтэжаны, мэрам сваю галаву тут забыўся.

З'яўляецца войт.

XV

ВОЙТ (*азвярэлы*). Да каго сюды прыходзіў той валацуга?

Маўчанне.

ВОЙТ. Да каго? Га?

Маўчанне.

ВОЙТ (*дзеду*). Хто-ж ён такі?
ДЗЕД (*настаўляе вуха*). Што?
ВОЙТ (*крычыць*). Хто ж ён такі, што з цымбаламі?
ДЗЕД (*ціскае плячыма*). А я і не запрыкмеў яго. Не ведаю. І вокам не бачыў і вухам не чуў. Эге...
ВОЙТ (*Язэпу*). Скажы ты, чорнабароды?
ЯЗЭП. Трымкаў сабе па вуліцы на цымбалах--квестар-жабрак з усяго свету. Граў сабе да спяваў (*рукамі робіць у паветры рухі, нібы грае на цымбалах, пры гэтым спявае, як жабракі на кірмашы:*)

„Ішлі тры купавы пану Язусу маліцца...
Ой, як ён вісі, рэнцэ спушчоны, глова схілёна
О, Езу, Езу, не бондзь засмуцоны...“

ВОЙТ (*злосна махнуў рукой на Язэпа і звярнуўся да Каспара*). А ты, Каспар?
КАСПАР. Дык я, знакам тым, скажу, пане войце, усю праўдачку...
ЯЗЭП (*цягне Каспара за рукаў, шэптам*). Маўчы...
КАСПАР. Ён у мяне, войцюхна, пасілкаваўся...
ЯЗЭП (*да Каспарыхі*). Млын меле—мука будзе, язык меле—бяда будзе.
ВОЙТ. Дык ты, Каспар, корміш і поіш разбойнікаў? Ён—твой спульнік? Га?

КАСПАР (*спалохана*). Дык я-ж... я... я... знакам тым... Не знаю яго, не ведаю... Пане войце... Я-ж усю праўдачку кажу: ён нейкі... нейкі вандрозец сусветны... Каб яму... каб яму... знакам тым...

ВОЙТ. У замак! Да пана! Панюхаеш тытуну з панскай залатой табакеркі...

КАСПАР (*плачучы*). Я-ж не вінаваты... Я-ж не... я—богу душой...

ВОЙТ (*тайчэ яго ў спіну*). Да пана, паганы смярдзюк!

Абодвы ўходзяць за сцэну.

XVI

КАСПАРЫХА (*ламае рукі*). Яго-ж там замардуюць... на палоскі спаласуюць...

ГОЛАС ВОЙТА. Гайдукі! Вязаць Каспара!

Глухі лёскат бізуна.

ГОЛАС КАСПАРА. Злітуйся... не бі... войценька... Палінарка... Табе бог шчасце даў—разбагацеў ты... Але ты-ж з мужыкоў... Ты жа—наш... наш... наш...

ЯЗЭП (*іранічна*). „На-а-аш!" Хоць наша костка, а сабачым мясам абрасла.

КАСПАРЫХА (*галосіць, зрывае хустку з галавы*). А людцы мае... а міленькія... Яны яго там закатуюць... засякуць... Пабягу... кінуся пану ў ногі... Прасіць буду... благаць буду...

Бяжыць за сцэну.

*Другая карціна.*

Пышная зала ў замку Вашамірскага. Па адной сцяне—двое багата задрапіраваных дзвярэй, а па другой—вокны. На сценах партрэты продкаў, партрэт польскага караля Станіслава Аўгуста і вялізны партрэт Адама Вашамірскага. Ля сцен залачоныя кандэлябры, статуэткі багоў і багінь з грэцкай міфалогіі. Стол, столікі, крэслы з багатай разьбой. Углыбіне сцэны празрыстая тулевая заслона. Адтуль - з невялікай панскай сцэны чутна кволая напоўціхая музыка клавесіна, мяккі тупат ног у балетках. Відны праз празрыстую заслону цені танцорак. Яны рэпетуюць балет. Прыгонны маляр з левага кута, блізка ад панскай сцэны, размалёўвае на падлозе заслону. Насупраць панскай сцэны бокам да публікі сядзіць ксёндз Баніфацы і нешта старанна ўпісвае ў кнігу гусіным пяром. З правага боку залы ля дзвярэй сядзіць пры століку апранутая ў урачысты траўр старая пані Ядвіга. На яе століку графін з вінам, бакал і чорны настольны крыж з белым распяццем.

I

На твару Ядвігі выраз неўцешнага гора. Яна ўзіраецца ў багаты з залатым цісненнем альбом, працягла стогне, са слязамі на вачах прыпадае губамі да малюнка ў альбоме і ледзь адрываецца.

ЯДВІГА. О, дзеткі мае... О, цуркі і сыны мае каханыя... Вы ўжо там... (*Паказвае пальцам угару*) у чыстых блакітах божых нябёс... Смерць панясла вас на чарных скшыдлах у цішыню раю свентэго...

О, дзеці мае... Я пяшчотна гадавала вас... Атачала гувернёрамі і гувернанткамі. Дзе-танькі!.. (*Прыпадае тварам да разгорнутага альбома і плечы яе ўздрыгваюць ад рыданняў*). Ойча Баніфацы... ойчанька свенты...

Пачцівымі крокамі падыходзіць ксёндз. Налівае з графіна ў бакал піва і падае пані. Ядвіга п'е маленькімі глыткамі, прыціскаючы левую далонь да грудзей.

КСЁНДЗ. Няхай супакоіцца яснавяльможная пані. Грэх так сумаваць па тым, што па волі ўсемагутнага згублена навекі.

ЯДВІГА (*набожна жагнаецца, робіць губы трубачкай і прыкладваецца імі да ног распяцця.*) О... дзетанькі мае... Вы былі такія шляхетныя... такія чулыя... такія зграбныя... такія выкшталцаваныя... (*ламае пальцы*).

КСЁНДЗ. Езус-Мар'я! Маё сэрца, нібы арфа, адклікаецца на нешчаснае гора яснавяльможнай пані...

Час ад часу маляр паглядае на паню і ледзь стрымліваецца ад смеху.

ЯДВІГА. Засталіся мне на памяць ад нябошчыкаў толькі партрэты. (*Разгортвае альбом*). — Партрэты маіх замілаваных каточкаў...

КСЁНДЗ. Хто іх загубіў?

ЯДВІГА. Іх атруцілі. Маю ўцеху, маю радасць атруцілі...

КСЁНДЗ. Толькі святыя мелі такія далікатныя сэрцы, як пані яснавяльможная. Свенты Францішак з Ашызі таксама любіў жывёл. Свенты Францішак гаварыў слова божае рыбам у вадзе, птахам у паднябессі, горным сарнам, львам, тыгрысам, мядзведзям. Бо напісана ў кнігах свентых: „Усе істоты жывыя ды ўсхваляюць імя яго“.

ЯДВІГА. (*Праз слёзы*). Каб хто са мною паплакаў, мне стала-б куды лягчэй...

КСЁНДЗ. У старадаўных вяльмож мудрага Эгіпта быў звычай наймаць плачак...

ЯДВІГА (*нервова перабіраючы ружанцы*). Пакліч, ксёндз, плачак! Можа лягчэй стане...

КСЁНДЗ (*падыходзіць да заслоны панскай сцэны*). Спыніць балет! (*Сціхае музыка*). Мельпамена! Тэрпсіхора! Сюды!

З-за куліс прыходзяць дзве акторкі—Алена і яшчэ адна ў адзенні балярын.

## II

КСЁНДЗ (*шэптам акторкам*). Памятаеце добра маю лекцыю смеха і плача?

АКТОРКІ. Памятаем.

КСЁНДЗ (*шэптам*). Дасканала! Трэба плакаць перад яснавяльможнай паняй. Найлепшыя паніны каты скончыліся... (*Белай хустачкай трэ сабе вочы*). Падыходзьце да пані, станавіцеся на калені і, як я вас вучыў, плачце—прыстойна, ад сэрца, з пачуццём...

Дзяўчаты пазіраюць адна на адну недаўменна і гатовы вось-вось засмяяцца. Ксёндз таропіць ў іх суровыя позіркі. Яны лёгкімі крокамі падыходзяць да пані ды становяцца на калені.

КСЁНДЗ (*пані*). Вось яны—выкшталцаваныя ў панскім тэатры—чулыя душы. Яны супакоіцца не могуць, увесь час слёзы льюць па каточках... (*Дзяўчатам строгім шэптам*). Плачце!..

Дзяўчаты душацца ад прытоенага хіхату, які во-во вырвецца з грудзей.

ЯДВІГА. Аб горы маім плачце... плачце... Я ўжо стамілася... плачце...

Дзяўчаты ўсміхаюцца

ЯДВІГА (*грозна*). Плачце!

Кастлявыя рукі Ядвігі апускаюцца на плечы дзяўчат. Яны пачынаюць плакаць. Пазуры пані ўсё глыбей упіваюцца ў іх. Вочы пані ўзняты ў набожна-садысцкім экстазе.

КСЁНДЗ. Яны плачуць шчыра. Пакуты цела—гаенне духу. Актеры выкшталцаваны. Катэхізіс прыстойных паводзін, што пані яснавяльможная напісала для актораў, я ім чытаю кожную раніцу. Залатыя сто сентэнцый велькапанскага этыкету і маралітэту на памяць ведаю. Забыць аб хамстве бацькоў. Памятаць сцэнічнае прыстойнае імя і адкінуць мужыцкае. Не сніць па начах непрыстойных сноў.

Уваходзіць пакаёўка.

III

ПАКАЁЎКА (*кланяецца*). Няхай пані яснавяльможная дазволіць...

ЯДВІГА. Ну?

ПАКАЕЎКА. Атландыда акацілася.

ЯДВІГА. Хвала богу... Колькі?

ПАКАЁЎКА. Пяць кацянятак.

КСЁНДЗ. На пасеяныя яснавяльможнай паняй слёзах выраслі кветкі радасці. У памяць памёршым іхнія імёны дадзім нованароджаным...

ЯДВІГА (*у вялікай радасці*). Няхай ксёндз набудзе для пакоя катоў абраз святога Францішка з Ашызі ў залатой раме! Маш, ойча, грошы! (*дастае грошы, дае ксяндзу*). Хадзем глядзець малютак Атлантыды...

Ядвіга і ксёндз выходзяць. Узнімаюцца з кален дзяўчаты, труць балючыя месцы, варочаюцца на панскую сцэну. Заслона панскай сцэны ўзнімаецца. Танцоркі рэпетуюць балет. Балетмайстар узмахвае стэкам.

IV

БАЛЕТМАЙСТАР. Пліэ! Раз, два, тры. Дэмі пліэ! Раз, два тры! Піке! Раз, два, тры, чатыры!

Варочаецца ксёндз. Хвіліну глядзіць на рэпетыцыю.

V

КСЁНДЗ. На цэраманіял рэверанса!

З панскай сцэны ў залу накіроўваюцца акторкі і балетмайстар са стэкам. Танцоркі выстройваюцца ў рад.

VI

КСЁНДЗ. Колькі разоў я гаварыў вам не глядзець так злосна! (*Навучальна)*. Рабіце добрыя, пачцівыя, разумныя, пакорлівыя вочы. (*Аглядае іх. Задаволена*). Та-а-ак! Усмешачку! Далікатную, прыстойную, прыгожую анельскую усме-е-е-шачку... (*Зноў аглядае*). Добра... слічна... (*балетмайстру*). Музыку!

БАЛЕТМАЙСТАР (*у бок панскай сцэны*). Музыку!

Клавесін грае менуэт. Балетмайстар адмахвае стэкам такт.

БАЛЕТМАЙСТАР Пачынаю! Раз-два-тры! Раз-два-тры! Трымайцеся роўна, Тэрпсіхора, не напрагайся! Апусці плечы!

Па чарзе падыходзяць к партрэту Вашамірскага танцоркі. Робяць рэверанс. Ксёндз пільна прыглядаецца да ног кожнай і падпявае пад такт менуэта словы „Езус-Мар'я".

БАЛЕТМАЙСТАР. Так, так. Рэверанс! Мельпамена, рэверанс! Добра. Далей! Палімнія, рэверанс! Афродыта—дасканала! Юнона—не кепска. Тэрп-сі-хо-ра! Больш зграбна! Эй, ты! дубовая... Сёння з цябе не выбіў ні адно правідловае „па"! Паўтарыць, а то... (*Замахваецца стэкам над Аленай. Яна спрытна выгінаецца і мінае ўдар*). Яшчэ раз спачатку! Раз-два-тры! Раз-два-тры! Мельпамена—па шасэ!

Уваходзяць Вашамірскі і Вігорскі. Іх ніхто не бачыць. Яны спыняюцца. Вашамірскі глядзіць задаволена, Вігорскі—здзіўлена.

VII

БАЛЕТМАЙСТАР. Палімнія—рэверанс! Афродыта—пышна! (*Ад прыемнасці гучна прышчоўквае языком*).

Ксёндз, заўважыўшы прысутнасць паноў, дае знак—усе спыняюцца. Танцоркі паварочваюцца да паноў і кланяюцца проста—па-мужыцку.

ВАШАМІРСКІ (*ксяндзу*). Мудра прыдумана, ойча свенты! Слова гонару! Выкладанне свецкага этыкету на фоне ўшанавання майго вобраза—гэта... гэта... удасканалены метад выкшталцавання пачуццяў. Хвалю, ойча, ад усяго сэрца! Хвалю!.

Ксёндз скромна схіляе галаву.

ВАШАМІРСКІ (*Вігорскаму*). Маім тэатрам кіруе пан пробашч, каханы пане Вігорскі. Хутка пачну будаваць у парку паасобны хорам Мельпамены. Гэта будзе беласнежны гмах з каланадай, з німфамі, Апалонамі, Венерамі. Слова гонару, увесь Олімп уваскрэсне ў маім паэтычным парку!

ВІГОРСКІ. Цудоўна! Цу-доў-на! У стылю старажытнай Элады?

ВАШАМІРСКІ. Так, так.

ВІГОРСКІ. Цудоўна! А дзяўчаткі прыгожыя... Прыгожыя дзяўчаткі...

Вігорскі аглядае дзяўчат, мацае іх. Яны ад яго спалохана адсоўваюцца. Вашамірскі частуе з табакеркі Вігорскага і ксяндза.

ВІГОРСКІ. Пан Адам—вялікі ментар паэзіі, дастойны прадстаўнік шматвяковага герба Вашамірскіх. Як памятаю, пан Адам любіў тэатр. Аднак таленты ў нас рэдкасць. Дзе-ж гэта пан прыдбаў такіх цудоўных?

ВАШАМІРСКІ. Паспрыяла шчасце, пане каханы. У нас у Літве можна жыць яшчэ і цяпер, пры расійскім Александры, разумна. Наша цывілізаванасць яшчэ не пагасла. У гэтым року, пане мой нібы з злоторугу фортуны, пасыпалася на мяне мастацтва розмаітых муз. Скрыпача-віртуоза выйграў у фараон у пані Маркевіч. Маляра дастаў за свайго жарабца Адоніса ў пана Тукайлы. Аркестр прыдбаў на кантрактах у Менску за сваю псарню ў дваццаць галоў найлепшых гатункаў. А рэшта ўсе са свайго ўласнага дабра—па вёсках маіх бадзяліся таленты... Дык вось...

ВІГОРСКІ. Цудоўна! Пан Адам, як чалавек партыкулярны, можа ахвяраваць сябе мастацтву. А я ўсе свае маёнткі ў фараон прагуляў і вось адвакатам зрабіўся і не маю калі думаць аб асалодах душы...

ВАШАМІРСКІ. Нех пан Генрых мне не зайздросціць—клапот у мяне цяпер—мора, слова ганору! (*ксяндзу*). Ойча свенты! Апошні нумар такі густоўны... Проша паўтарыць!

Вашамірскі і Вігорскі садзяцца. Ксёндз дае знак балетмайстру. Ранейшы менуэт. Танцоркі выстройваюцца ў рад Вашамірскі ў добрым гуморы падпявае мелодыю менуэта.

БАЛЕТМАЙСТАР. Раз-два-тры! Раз-два-тры! Мельпамена—па дэ бурэ! Афродыта—рэверанс! Ніжэй!

Падыходзіць Алена к партрэту.

ВАШАМІРСКІ (*на вуха Вігорскаму*). Самая здольная дансэрка.

ВІГОРСКІ (*ківае галавой*). Цу-доў-на... Ц-ц-цу...

БАЛЕТМАЙСТАР (*гнеўна*). Назад! Тэрпсіхора, назад! Як ты спіну трымаеш?

Алена ідзе далей. Танцоркі спыняюцца.

АДНА З ТАНЦОРАК. Аленка... Але-е-енка... Назад, дурніца!

Алена не спыняецца.

ТАЯ САМАЯ ТАНЦОРКА (*на ўвесь голас*). Ге-ле-на-а!

Змоўкла музыка. Алена спалохана спынілася. Вашамірскі спахмурнеў. Збянтэжыўся ксёндз.

ВІГОРСКІ. Цудоўна. Задумалася пра свайго кавалер-сервант.

Вашамірскі кіўнуў пальцам да Алены. Яна падышла.

ВАШАМІРСКІ. *Трэба памятаць сваё імя, Тэрпсіхора.*

Алена падае на калені перад панам.

АЛЕНА. Паночку родны... Ратуй бацькоў нашых ад голаду... Загадай не руйнаваць нашу вёску... Усе мы просім панскай міласці...

Вашамірскі рэзка ўзнімаецца з крэсла. Абярнуўшыся да пана, усе танцоркі кідаюцца на калені.

ВАШАМІРСКІ (*цяжка апускаецца ў крэсла, нездаволена*) Добра... падумаю... Ідзіце...

Балярыны выходзяць, выходзіць за кулісы і маляр.

VIII

ВАШАМІРСКІ (*ксяндзу*). Перад сном Тэрпсіхору пасланць на стайню. Сказаць профасу: пятнаццаць бярозавых! Вельмі аб бацьках клапоціцца... (*Ксёндз кіўнуў галавой у знак згоды*). Дык вось, пане Вігорскі... у арбіту сонца майго мастацтва ўварвалася няпрошаная планета—гаспадарчыя пражэкты маёй жены Ізабелы і вялікая запазычанасць у банку, па справе якой пан Вігорскі прыехаў. Ах, якая гэта проза!

ВІГОРСКІ. Проза такая, пане Адама: апісаць і маёнтак, і актораў, і яшчэ пяцьсот душ... Але ці-ж нам гаварыць аб такіх мізэрах,—нам, пане—беларусінам. А ежэлі маёнткі перапісаць на імя пані Ізабелы ды на дату ранейшую—год назад, то і мізэры знікнуць. А каб з зямельных абшараў пана Адама быў лепшы вызыск, патрэбна большая суровасць да хлопаў. Смерда во як трэба трымаць (*сціскае кулакі*), цудоўна!

За дзвярыма шум, мітусня.

ГОЛАС КАСПАРА (*з плачам*). Усю праўдачку пану скажу...
ГОЛАС КАСПАРЫХІ (*нараспеў*). А міленькія... А родненькія...
ГОЛАС ІЗАБЕЛЫ. Пачакайце тут!
ГОЛАС ВОЙТА. Стойце, д'яблы!
ГОЛАС ГАЙДУКОЎ. Не лезце!

Усе ўстрывожана ўзнімаюцца з месц. Уваходзіць у скамечанай амазонцы, крыху кульгаючы, Ізабела.

IX

ВАШАМІРСКІ (*накіроўваецца жонцы насустрач. Устрывожаны*). Што здарылася, Бела?

ІЗАБЕЛА (*злосна*). Твае заміланыя хлопы—дзікуны! (*У адчыненыя дзверы*). Вядзі іх сюды, войт!

Войт і гайдукі вядуць Каспара і Каспарыху. У аднаго з гайдукоў—цымбалы, у другога—торба. З глыбіні пакояў з'яўляецца Ядвіга.

X

ІЗАБЕЛА. Палюбуйся, Адасік! Ледзь нагу не зламала. Кінуўся майму каню пад ногі, завыў ваўком, конь на дыбы—і я звалілася...

ВАШАМІРСКІ. Слова ганору, гэта цікава! Ці-ж Каспар—чалавек-воўк?

ІЗАБЕЛА. Чалавек-воўк уцёк...

ВАШАМІРСКІ. Уцёк? Дык каго мы караць будзем? (*Строга гайдукам*). Чаму не злавілі?

ПЕРШЫ ГАЙДУК. Вырваўся чорт. У маіх руках засталіся толькі яго цымбалы. (*Кладзе на стол цымбалы*).

ДРУГІ ГАЙДУК. А ў мяне—яго торба! (*Кладзе на стол торбу*).

Паны садзяцца.

ВАШАМІРСКІ. Трафеі!

ВІГОРСКІ (*трымкае на цымбалах*). Хамскі інструмент выдае даволі далікатныя тоны... (*Выцірае рукі хустачкай*).

КСЁНДЗ (*вытрахае з торбы бароды і парыкі, трэ рукі аб сутану*). Нашы... нашы... Во хто ўкраў у мяне ў дарозе ля карчмы скрынку з парыкамі і барадамі.

ІЗАБЕЛА (*кпліва*). Відаць—скамарох. Хіба, Адасік, у тэатр яго прымеш... Такі неспадзяваны талент...

ВАШАМІРСКІ. Лесе дон, ма шэр Ізабо! (*паказвае на Каспара і Каспарыху*). А гэтыя?

ВОЙТ. Прыяцелі яго .. Кармілі яго...

ВАШАМІРСКІ (*да Каспара і Каспарыхі*). Разам з ім скамарошнічаеце? Караць будзем! Караць, мае лебедзікі!

Каспар і Каспарыха апускаюцца на калені перад Вашамірскім. У адчыненае акно ўзіраецца цымбаліст. З залы яго не прымячаюць.

КАСПАРЫХА. Мы не вінаваты. Не ведаем гэтага квестара.

КАСПАР. Паночку залаты, заходзіць чалавек у хату, есці просіць... Як убогаму не дасі?.. І пан даў-бы... Я паставіў яму шчаўе... Больш нічога ў хаце і панюхаць няма... Я-ж, паночак мілы, хацеў накарміць добрага для дабросці, а не злога для злосці... Калі я вінаваты—карай, паночку, карай!

ВАШАМІРСКІ (*гнеўна*). Не веру, што не зналі яго! Строга пакараю!

Каспар і Каспарыха плачуць. Праз акно ўскаквае цымбаліст. Усе палохаюцца ад нечаканасці. Некаторыя жагнаюцца.

## XI

ЦЫМБАЛІСТ. Не карайце за мяне невінаватых!

ВІГОРСКІ (*ксяндзу*). Бач ты яго!—адважны... Цу-доўна!

КСЁНДЗ. Не адвага, а хамская дзёрзкасць...

ВОЙТ. Гэта ён! Той самы!

ВАШАМІРСКІ. Сюды! бліжэй!

Цымбаліст падыходзіць.

ВАШАМІРСКІ. Ты яшчэ бароды і парыкі ўкраў?

ЦЫМБАЛІСТ. Да зарэзу патрэбны былі...

ВАШАМІРСКІ. Ты хто? Скамарох? Нех пан пробашч, папрабуе яго бараду!

Ксёндз зрывае ў цымбаліста бараду і парык. Кпліва пазірае на ўсіх 23-х гадовы юнак. Ксёндз паказвае на яго твар рукой, кладзе на стол бараду і парык, трэ рукі аб сутану і садзіцца.

КАСПАР *(з дзівам)*. А-дам-ка!

КАСПАРЫХА. Наш Адам!

ЯДВІГА. Гэта-ж ён тры гады таму назад задушыў аднаго з маіх каткоў. І ўцёк...

АДАМ. Пані адукавала ката, каб пакаёвак драпаў, а я супроць кепскай адукацыі...

ВАШАМІРСКІ *(гнеўна)*. Доўга мы цябе шукалі, аж нарэшце... Ах, ты які! Вось я цябе адукую... Гнаць яго на стайню! Усыпаць так, каб аж... каб аж зноў ваўком завыў! Каб цэлы год з боку на бок качаўся! А потым—у салдаты! Вязаць! А то зноў уцячэ!..

Гайдукі і войт вяжуць рукі Адаму. Вядуць яго да дзвярэй.

АДАМ *(пану)*. Вось і частуе Адам Адама. Не дзіва—тры гады не бачыліся... Я-ж не абы які госць!

(Ізабела любуецца прыгожасцю Адама)

ВАШАМІРСКІ. Прэч яго! Яшчэ дзесяць бізуноў такому госцю.

АДАМ. Дзякую за закуску.

Выводзяць Адама.

ВАШАМІРСКІ. Прэч усіх!

Бягом уцякаюць Каспар і Каспарыха.

XII

ІЗАБЕЛА. Цікавы хлоп... А ваўком выў, як мастак...

ВАШАМІРСКІ *(зацікаўлена)*. Як мастак, Бела? Можа, варта паслухаць?

ІЗАБЕЛА *(падыходзіць да дзвярэй)*. Пачакайце! Пакажы, Адам, пану Адаму як ты ваўком выў.

Войт, гайдукі і Адам варочаюцца.

XIII

ВАШАМІРСКІ. А ну, пагавары на воўчай мове!

Адам недаўменна маўчыць.

ВАШАМІРСКІ. Прэндзэй! Прэндзэй!

АДАМ *(здзіўлена недаверліва)*. Няхай пан загадае развязаць мне рукі.

Вашамірскі робіць знак войту. Адаму развязваюць рукі.

АДАМ *(прысядае да зямлі супроць пана і вые працягла і жудасна. Пан ад яго адсоўваецца ў страху. На выццё Адама з двара адказваюць брэхам сабакі)*.

ВІГОРСКІ. Фацэтна! Цудоўна!

ВАШАМ РСКІ. Не кепска! А што яшчэ ўмееш?

АДАМ. Усё ўмею...

ВОЙТ *(угодліва)*. Гэты блазан умее, яснавяльможны пане, свістаць салаўём!

ВАШАМІРСКІ. А ну!

АДАМ (свішча салаўём. Срэбныя трэлі поўняць залу. Праз розныя дзверы ўсоўваюцца галовы слухачоў: пакаёўкі, лёкаі, акторы, Алена заўважае Адама, хоча кінуцца да яго. Падругі ледзь стрымліваюць яе).

ВАШАМІРСКІ (*у захапленні плешча ў далоні. За ім—усе*). Гэта-ж... Гэта ж хараство, мае каханыя!.. Гэта-ж мастацтва...

ВІГОРСКІ. Вялікі талент, цудоўны!

КСЁНДЗ. Божы дар.

ІЗАБЕЛА. Даволі цікава...

ЯДВІГА (*ксяндзу*). Ці не сядзіць у ім душа якой-небудзь птушкі?

КСЁНДЗ. Зусім магчыма... (*Ядвіга з цікавасцю пазірае на Адама*).

ВАШАМІРСКІ. А яшчэ чым нас пазабавіш?

АДАМ (*хітра зірнуўшы на войта*). Магу быць панам!

ВАШАМІРСКІ (*разгневана*).Жартуеш?! Не забудзь хто ты, хоць мы аднаіменнікі, цёзкі... (*Паўза*). Аднак, пакажы, які з цябе пан! Не патрапіш быць панам—яшчэ дзесяць бізуноў прыбаўлю...

АДАМ (*скоса зірнуў на войта, робіць панскі гест і кажа голасам Вашамірскага*).

Гнаць яго на стайню! (*Паказвае на Войта*). Усыпаць так, каб аж... каб аж цэлы год з боку на бок качаўся!

Рогат, пляканне ў далоні. Разгублены войт таксама праб ує пляскаць і хіхікае.

ВАШАМІРСКІ (*ледзь перамагаючы смех*). Умееш быць панам! Ты не абы які Адам! Хвалю! Адпакутаваць за такое мастацтва—сапраўднае рыцарства... Гонар... (*Строга*). выканаць загад, аддадзены маім голасам! (*Паказвае на войта*). Усыпаць тэму галгану гарачых! А Адама...

Збянтэжана пазірае на жонку. Яе твар становіцца вясёлым.

ІЗАБЕЛА. Адама... вымыць у лазні, чыста апрануць і прыняць у наш тэатр.

ЯДВІГА. Імя другое даць яму, каб тваё імя, Адасік, не паганілася!

ВАШАМІРСКІ (*урачыста*). І за такі беспадобны талент, падараны яму небам, Адама ў далейшым найменаваць... (*Зірнуў на ксяндза, ксёндз падсказвае*).

КСЁНДЗ. „Салавей!“

ВАШАМІРСКІ. Іменаваць Са-ла-вей!

ЗАСЛОНА.

# *Дзея другая*

### *Трэцяя карціна*

Каспарава хата. Печ, тапчан, ложак, стол, лавы ля стала. У куце над сталом абраз маці божай. На тапчане драўляная і гліняная пасуда. Ля печы на земляной падлозе—цэбар, вядро. На сцяне вісіць на калку абадраны хамут і вяровачная збруя. Побач на зямлі ляжыць дуга.

I

Каспарыха збірае вопратку, пасуду. Усё разам кідае ў кубел, назад дастае, ставіць на падлогу, ламае рукі і не ведае ад збянтэжанасці што рабіць. Каспар у'е вяроўку, прымацаваўшы пяньку да сукаватага кійка, убітага ў сцяну. Час-ад-часу адвернецца да жонкі і нездаволена круціць галавой.

КАСПАРЫХА. Каб Аленка была ў хаце—памагла-б. Без яе, як без рук.

КАСПАР. Анучы і ламачча перакідваць з месца на месца? Сама ўправішся!

КАСПАРЫХА. Забралі дзяцей у кіятар, як татары ў палон... Каб іх ліха забрала гэтых паноў! Чалавек, кот ці сабака—ім ўсёроўна... Каб ім усёроўна было—есці ці не! Поедам ядуць нашы сэрцы, каб ім стрэлы каменныя ў лютыя сэрцы!

КАСПАР. Кінь свае пацеры, Грыпіна!

КАСПАРЫХА. Усё з рук валіцца, каб у іх зубы павывальваліся!..

Уваходзіць пры апошніх словах Язэп.

II

ЯЗЭП. У каго?

КАСПАРЫХА. У паноў...

ЯЗЭП. Хоць бы і галовы...

КАСПАР. Злуецца баба, што Аленку ў панскі двор забралі.

ЯЗЭП. Горш было-б, каб не злавалася. Не адну Алену забралі. Ды не бядуй, Грыпіна. Ім добра ў палацы. Ксёндз Баніфацi душу выймае, а пан Адам скуру на лыка здзірае.

КАСПАР. Скажа, як звяжа!

КАСПАРЫХА. І што з усяго гэтага будзе, Язэп? Дзесяты дзень з хат не выходзім. А войт трасе бізуном кожны раз. Ці не горш будзе?

ЯЗЭП. Горш не будзе! Адно кепска, што ніводнага пісьменнага няма ў нас, які законы ведае. Прыходзіцца ўсё кумекаць чорным мужыцкім розумам.

КАСПАР. Адзінокія мы, гарапашнікі, на свеце...

ЯЗЭП. Сваякоў то ў нас многа. Толькі, як прыходзіцца тапіцца, няма за каго ўхапіцца—усе за паноў...

КАСПАР. Ні за што не пойдзем у Старыя Лозы. (*Стукае кулаком аб стол*). Ні за што!

КАСПАРЫХА. Упарты, хоць ты кол чашы на яго галаве. А я кажу: возьмем паціханьку ды выбярэмся...

КАСПАР. Як людзі—так і мы! Гэта-ж нечуваная рэч: вёску ў сто дымоў затапіць возерам і гадаваць рыбак.

КАСПАРЫХА. Каб рыбкі над панскімі галовамі плавалі!

ЯЗЭП. Годзе, Каспарыха, пустую салому малаціць! Тут патрэбны калы, вілы, косы...

Пры апошніх словах уваходзіць С а л а в е й.

### III

САЛАВЕЙ. Калы, вілы і косы могуць тэатр панскі разбурыць... На гэта ў вас адвагі не хопіць. Вы лепш пад бізунамі панскімі скруціцеся, здырдзіцеся...

Працяжная пауза.

КАСПАРЫХА. Як гэта, сынку, з кіятра вырваўся?

САЛАВЕЙ. Я даў пану нешта нейкае такое, за што пан дазволіў ісці.

КАСПАРЫХА. Што-ж ты даў яму, шчодры давец?

САЛАВЕЙ. Тое, што маю—даю яму слова гонару, што не ўцяку. Жартачкі мы-ж з ім два Адамы...

КАСПАРЫХА. А мая Аленачка, як на прывязі ў тым кіятры—не выпушчаюць...

ЯЗЭП. У нешчаслівага апошні зуб з роту вывальваецца, а ў шчаслівага на бяросце каша варыцца, на вярбе ігрушы вырастаюць і з губ салаўіныя трэлі чылікаюць... Не жартачкі—цёзка пана Вашамірскага! Панскае імя, панская вопратка і панскі салавей... Адзін Адам сядзіць сабе пры стале, торт есць, віном запівае, а другі Адам стаіць насупраць, як боўдзіла на вяселлі, птушачае малако само яму ў горла цэдзіцца, ды ён усё цірлі-цірлі-цірлі... (*Горка смяецца*). Цірлі-цірлі...

САЛАВЕЙ (*пакрыўджана*). Перастань! У цябе ўвесь розум у чорную бараду ўрос. (*Пауза*). Яно так і ёсць, як ты кажаш, Язэпка, але тут плакаць трэба, а не кепікі строіць. Чымся быць панскім блазнам, я пайшоў бы лепш... вешаць яго... Ведаеш?

ЯЗЭП. Ведаю... ведаю... сынку...

САЛАВЕЙ. Бачу я цяпер панскія раскошы дзень-у-дзень ды ўсё думаю-думаю...—чыё гэта? На нашых касцях паны піры піруюць... Яны нас абрабавалі. Забралі ўсё—нават думкі. Паны зрабілі нас сваім быдлам... Нашымі-ж рукамі! Думаць, думаць, думаць—во што нам трэба! Думкі гэта такая моц, што вырывае з карэннем

стагоднія дубы! І паны ніколі за чыншы іх, думак нашых, не забяруць...

ЯЗЭП. Калі галава пачне думаць, дык рукі на паншчыне не захочуць працаваць.

САЛАВЕЙ. І ўцякаць ад паноў, як я.

ЯЗЭП. І вернуцца да паноў, як ты.

САЛАВЕЙ. Я панам адплачу за бацьку.

ЯЗЭП. Многа ў нас пакрыўджаных бацькоў.

САЛАВЕЙ. А я—за ўсіх...

ЯЗЭП. Возьмешся адзін - і загінеш, гарачая галава.

САЛАВЕЙ. Не бяда. Загіну, а народ аба мне песню спяваць будзе. Народ аба мне памятаць будзе.

КАСПАР (*з дзівам*). Мудра гаворыш, Адам...

САЛАВЕЙ. Не так сабе правандраваў тры гады. Апынуўся я аднаго разу ў манастыры. Застаўся там канюхом. Аднаго дамініканца-манаха граць на цымбалах навучыў, а ён мяне—чытаць і пісаць. Кнігі даваў. Я і цяпер краду ў пана кнігі і чытаю цэлымі начамі.

ЯЗЭП. Ах ты, Жыжка, наўчоны між бізуноў і броны, свентым пісьмам збаўлёны. Навошта было ўцякаць з манастыра?

САЛАВЕЙ. Бо прымацавалі мяне як прыгоннага да гэтага манастыра.

ЯЗЭП. Пятля ўсюды ёсць, абы шыя (*горка смяецца*). Супроць паноў трэба гуртам, усім народам, а не аднаму. Падумай аб гэтым, Адам. Ты-ж сам сказаў (*з'яўляецца дзед* Мікола): думаць трэба, думаць.

## IV

ДЗЕД. Ай-яй—яй... Я ўжо думаю каля дзевяноста гадоў... Кожны раз як гляну на панскі замак—думаю, успамінаю. Я тады яшчэ мальцам быў дзесяцёх год. Эге. Памятаю. Нібы во во перад вачыма бачу... Замак толькі будаваць пачыналі... Пан быў ужо стары, а пані—маладая, як у цяперашняга. Эге. А меў пан хурмана Трахіма—гожага, статнага, чорнавокага і моцнага дзяцюка. А пан—хірлявы... хірлявы быў. І спадабаўся маладой пані той хурман. Эге. І вось аднаго разу пан злавіў іх. Трахіма жывога ў сцяну ўмуравалі...

КАСПАРЫХА. Жывога?!

ДЗЕД. Эге! Пан звер-зверам стаў. Ай-яй-яй, што тады дзеялося! За розныя правіннасці яшчэ некалькі чалавек былі замураваны жыўцом...

САЛАВЕЙ. Не лепшыя і цяперашнія паны.

КАСПАРЫХА. Разбураць сто людскіх гнёзд не менш страшна, чым у сцены жыўцом замуроўваць.

ЯЗЭП. Яно так.

САЛАВЕЙ. Яшчэ невядома, што будзе з вёскай. Кожны раз пры ядзе пан сварыцца з паняй. Пан не хоча чапаць вёску. У іх цяпер гасціць нейкі Вігорскі. Той—за перасяленне вёскі, а ксёндз—і нашым і вашым.

КАСПАРЫХА. А можа бог злітуецца.

ЯЗЭП. Пані верх возьме!
ДЗЕД. Эге!
ЯЗЭП. Ні за што не выбірацца з хат!
САЛАВЕЙ. Ні за што! Ну, я пайшоў! А то спазнюся на рэпетыцыю.
ЯЗЭП. Што гэта за „рэ-пе-ты-цы-я“? Вельмі мудрагельна. Растлумач, Адамка!
САЛАВЕЙ. Часу няма.
КАСПАРЫХА. Скажы Аленцы, каб на нас не забывалася!
КАСПАР. А ты, Адамка, чытай. Можа свой пісар будзе...

Уваходзіць войт.

V

ДЗЕД. І войт быў сваім!
ВОЙТ. Я і цяпер свой!

Усе пахмурнеюць.

ВОЙТ. Адумайцеся, мужыкі! Збірайце манаткі і выносцеся Едуць сюды гайдукі з ламамі, з сякерамі.
КАСПАР. Дачакаліся (*збянтэжаны бегае па хаце*).
КАСПАРЫХА. Дык што-ж гэта будзе, пане войце?
ВОЙТ. Гарэлачка будзе і рыбка на закуску...
ДЗЕД. Ай-яй-яй!
ЯЗЭП. Мы з сваіх хат не выбярэмся. Яшчэ нашы дзяды прадзеды карчы выкарчоўвалі, каменне цягалі...
САЛАВЕЙ. З хат не выбірацца!
ВОЙТ (*кідаючы пагрозныя позіркі на Салаўя*). Вам горш будзе, мужыкі! (*Да Салаўя*). А з табою ў мяне не абы якая справа. Помніш?
САЛАВЕЙ (*праз смех*). Помню...
ВОЙТ. За тыя бізуны ўтройчы адплачу.
САЛАВЕЙ. Я табе, Палінары, за ўвесь народ. Мала ты нашых катаваў?
ЯЗЭП. І на ліха прышло ліха. Гэта табе навука—служы пану верна, а ён табе галаву зверне... Ліжы, гад слізкі, панскія палумiскі! (*Салавей смяецца*).
ВОЙТ (*хватае бізун, Салаўю*). Я зараз...
САЛАВЕЙ. Рукі кароткія! Перагніся ды сам сабе укусі... Асцерагайся. (*Хватае Войта за руку. Войт скрыгоча зубамі і апускае бізун. Салавей намерваецца на яго кулаком, апускае кулак*). Мне агідна дакранацца да цябе. А то гэтымі рукамі задавіў-бы, як гадзюку... Майго старога бацьку ў муравейніку замучыў... Каспара лупцаваў... Па тваёй ласцы Таццяна звар'яцела... А хто Тодара да смерці засек?—войт! А хто апошнюю цялушку у гаротных на аброк забірае?—ты. Гэта-ж толькі падумай—па тваёй ласцы сотні людзей плачуць... Мы цябе ненавідзім, шэльма... Не-на-ві-дзім!
ВОЙТ. (*Раз'яраны. Уздымае бізун*). Гавары, гавары—дагаворышся!
САЛАВЕЙ. Мяне біць?! (*плюе войту ў твар*).

ВОЙТ (*хлешча Салаўя бізуном*). Вот табе! Вот! (*Язэп хватае войта ззаду за рукі*).

ЯЗЭП (*грозна*). Кінь! А то...

КАСПАРЫХА (*становіцца перад войтам на калені*). Злітуйся, пане войціку...

ЯЗЭП. Не кланіся кусту, не дасць ён табе хлеба лусту...

ВОЙТ (рвецца з рук Язэпа). А яго залупцую на смерць! Пусці, Язэп.

САЛАВЕЙ (*хапае дугу*). Глядзі, войт! Ляжыць дуга—ніжэй вераб'я, а як стане (*падымае дугу*)—вышэй войта стане (*намерваецца дугой у Войта*).

ВОЙТ. Не бі... (*Спалохана*). Не асіраці дзетак маіх... Не я... пані загадвае... Пашкадуй маіх дзетак...

ЯЗЭП. Усе вы чэрці адной шэрсці! Толькі ў цябе дзеці? Воўк!

Дзед, Каспарыха і Каспар урэпіліся ў дугу.

ЯЗЭП (*Салаўю*). Кінь дугу, Адам!

ДЗЕД. Не бі...

КАСПАРЫХА. Не будзь душагубам, Адамка...

КАСПАР. Не дазволю у маёй хаце...

ЯЗЭП (*штурхае ў дзеры на-смерць напалоханага войта*). Ідзі, пляга! А то... пачакай! (*Спыняе войта*). Калі толькі прагаворышся каму-небудзь—нашых рук не мінеш... Што ўложа хам, не выме і пан! Ідзі!

Войт, мармычучы высоўваецца задам за дзверы.

ЯЗЭП (*Салаўю*). Забіваць войта ў Каспаравай хаце—тое самае, што забіваць самога Каспара, бо ўся бяда тады ўзваліцца на Каспара...

САЛАВЕЙ. Праўду кажаш, Язэп.

ЯЗЭП (*Салаўю на вуха шэпча*). Прыконч сёння Палінара.

З аддалю чуваць гул людскіх галасоў. Каспар утаропіўся ў вакно. Каспарыха ламае рукі. Дзед моліцца на абраз.

ЯЗЭП (*Салаўю на вуха*). Нашыя мяркуюць прыкончыць войта. Ён бярэ ў нас больш, чым пан загадвае—хабае за пазуху. Тут гайдукі яго бараніць будуць. Трэба, каб ніхто не бачыў. На цябе ён мае вялікую злосць. Падражні яго—і ён пабяжыць за табой, як цюцька за салам, да самай рэчкі. У сумятні ніхто не ўгледзіць. Ты яго ў хмызняку палажы. Новы войт стане мяккі, як параны венік (*дае Салаўю пісталет*). На! Украў у аднаго з гайдукоў...

САЛАВЕЙ (*бярэ пісталет, радасна аглядае*). Дык я і паноў.

ЯЗЭП (*строга*). І не думай, гарачая галава! Можа без гэтага абыйдзецца. Ідзі. (*Салавей выходзіць.*)

ЯЗЭП. Ты, Каспар, не задумвайся, як сабака ў чоўне. Не бойся. Не выхадзі з хаты, а там відаць будзе—на ўсякую бяду ёсць і паратунак. Пойдзем, дзед Мікола, іншым гаварыць, каб па хатах сядзелі.

Язэп і дзед выходзяць.

## VII

Крыкі з вуліцы нарастаюць. Грукат і трэск. Плачы. Ляманты.

РЭПЛІКІ:
— Не руш хаты! Дастанеш калом па галаве!
— Тодар! Што ты робіш! Не качайся па зямлі...
— А божанька!... Ён за пазуху пясок сыпле... зямлю цалуе.
— А мой ты садочак... сваімі рукамі вішанькі садзіў...
— Злітуйся... злітуйся... Агата! Дзеткі! Усе прасіце...

ДЗІЦЯЧЫЯ ГАЛАСКІ:
— Дзядзенька, нашу хатыньку пакінь...
— Не чапай, міленькі...
— Не чапай...

Каспар не адыходзіць ад акна.

КАСПАРЫХА (*хрысціцца на абраз*). Дай мне, божанька, сілы... Сілы дай мне, божанька... сілы.

У хату ўрываецца дачка войта.

## VIII

ВОЙТАВА ДАЧКА. Тата наказваў выбірацца. Зараз гайдукі на вашу страху з сякерамі палезуць.

КАСПАРЫХА (*хвіліну глядзіць на яе моўчкі*). Ухадзі, войтава дачушачка! Воўк вўучанё сваё праслаў!

ВОЙТАВА ДАЧКА. Я тату скажу...

КАСПАРЫХА (*злосна*). Скажы!

Войтава дачка выходзіць.

## IX

КАСПАРЫХА. А што, Каспар, а мо' выбярэмся? Га?

Каспар не адварочваецца ад вакна.

КАСПАРЫХА. Чаго-ж маўчыш, як пень? Ды гавары! Ці ў цябе язык адняўся? (*тармошыць яго*). Ка-спар!..

Адыходзіць і пачынае пакавацца.

КАСПАР. Сюды бяжыць Тацяна шалёная.

Уваходзіць Тацяна. У руках лялька зануч.

## X

ТАЦЯНА. Яны і лазню разбурылі, дзе я жыла... Во дзіцёнак мой... Юрачка... Ледзь хлопчыка выратавала... Ой-ой-ой, як цяжка жыць... (*сполохана глядзяць на яе Каспар і Каспарыха*). Капаю гліну... капаю... ды ўсё здаецца мне, што Юрачка мой плача—тоненька так, як волас... жаласліва, як тая каня-птушачка... „ці-і-іў“, „ці-і-іў!..“ Хатка мая гарыць... Агонь... Агонь... Юрачка мой

згарэў, сыночак мой мілы... (*Крычыць*). Згарэў! Згарэў! (*спакайней*). Не згарэў... Маці божая цуд стварыла,—выкаціўся мой Юрачка з агня жывёханькі... Вось ён! Вось ён! Бруснічка мая! (*Рагоча*).

Глядзяць на яе Каспар і Каспарыха ды галовамі ківаюць. Тацяна садзіцца на ложак і галубіць ляльку.

ТАЦЯНА. Засмейся, хлопчык мой... Хоць разочак зрабі „ха-ха-ха“... А вочанькі ў цябе сіненькія... А валаскі ў цябе беленькія-беленькія... А губенькі ў цябе чырвоненькія-чырвоненькія... Засмейся, залаценькі...

Грукат над Каспаравай хатай.

ТАЦЯНА (*шэптам*). Што гэта? Грымоты з яснага неба? Юрачка заснуў... Ціха...

Каспарыха становіцца на калені перад абразам маці божай.

КАСПАРЫХА (*Каспару*). Маліся і ты, стары...
КАСПАР. Адчапіся... Дай спакою...

Каспар адмахваецца рукамі і лбом абапіраецца аб печ.

КАСПАРЫХА (*да маці божай*). Дазволь, матынька боская, без малітвы пагаварыць з табою: па нячытанаму, па няпісанаму. У цябе адзін толькі дзіцёнак божы нарадзіўся, але-ж і ты горанька гаравала... Цяпер паны і ксяндзы цябе ў золата і ядвабы ўбіраюць, а даўней і ты насіла кашулю зрэбную... Прыгарніся хоць разок да нас, мужыкоў, добрым, простым сэрцам і вырві нас, пакутнікаў, з рук паноў лютых... Чуеш, матынька! Чуеш? Я не адно, а цэлы дзесятак дзяцей нарадзіла. Некалькі з іх маленькімі гарошынкамі ў магілкі пакаціліся—недакормленыя, недагледжаныя... (*Хрысціцца на абраз*). Выгадавала-выпеставала дзяцей сабе на гора і пану на ўцеху. Агату—старшую дачку—пан, тады яшчэ панічом быў, забраў у палацы, здзекваўся з яе красы... Агатка пад старой дзічкай у полі пятлю на шыю накінула... Зоську, малодшую, старая пані памяняла на ката... Сынкоў маіх пан у горадзе прадаў... Апошнюю апору маю пад старасць—вясёлую, бы вясёлка, Аленку—у кіятар забралі... (*У Каспара дрыжаць плечы ад нястрыманых рыданняў*). Чуеш, матынька боская? Хату нашу разбураюць... Ці можа і слухаць не хочаш, што кажа табе мужычка простая... Я-ж не пані... (*Паўза*). Заступіся! Не маўчы... (*Хрысціцца на абраз*). Ты, матынька, усё за паноў, а за нас—ані-ні... Чаму-ж ты нам, мужыкам, як мачыха?... (*Каспар адварочваецца ад печы, рве на сабе кашулю, валасы і галосіць нема, без слоў*). Чаму нас не бароніш? Мы-ж таксама людзі... Глядзі, што паны з намі робяць! Глядзі!.. Глядзі!!

Грукат над хатай расце. Нешта са столі зверху валіцца на Каспарыху.

КАСПАРЫХА. Ой, за-бі-ва-юць! (*паваліласся*).
КАСПАР. Грыпіна!.. Гры-пі-нач-ка! (*Бяжыць да яе, паднімае, выносіць з хаты*).
КРЫКІ З ДВАРА: Во-о-ойта забілі! Забілі войта!

У хату сыплецца зверху пясок, салома, гнілыя дошкі. Гул галасоў з вуліцы расце і зліваецца ў адзін жудасны лямант.

*Чацвертая карціна*

Ранейшая абстаноўка ў замку. Накрыты стол—віно, торт, бісквіты, садавіны. Сядзяць пры стале—Вашамірскі, Вігорскі, Ядвіга, Ізабела, Ксёндз—пры асобным століку.

I

Ксёндз кладзе на стол гусінае пяро, з пясочніцы сыпле на разгорнуты фоліянт пясок, шчоўкае пальцам у лісток і здувае.

ЯДВІГА (*дыктуе і ксёндз запісвае*). Хвала пану богу, злачынец знайшоўся! У дыет маіх улюбёных каточкаў усыпаў атруту ненавіснік пана Езуса сам ветэрынар Яшка Пухлевіч. Я прысутнічала, як профас выконваў мой загад. Адлічыла пяцьдзесят пацерак на ружанцах—пяцьдзесят udaraў, грэшнае цела пякельніка дрыжэла кожнай жылкай. Яшка прысягаўся, што памылкова замест лякарства ўсыпаў атруту і пры трыццатым udaры змоўк. Канчаю, ксёндз.

Ксёндз праводзіць працэдуру з пясочніцай.

ВАШАМІРСКІ. Цяпер, як умовіліся раней, будзе дыктаваць у наш фамільны каляндар шаноўны пан Генрых Вігорскі.

ВІГОРСКІ. Цудоўна! Дыктую! (*становіцца ў позу*). Пан Адам Вашамірскі дастойны таго, каб крэдыторы чакалі з даўгамі да росквіту яго гаспадаркі. Вечныя багі і багіні паэзіі, мастацтва і харaства няхай затуляюць пана Адама сваімі скрыдламі ад жыццёвай прозы. Сардэчна дзенкую пану Адаму за пяць дзевак—цудоўных і прыгожых—што я атрымаў у падарунак. Я іх сам выбіраў у вёсцы Вашамірщчыне паводле свайго густу. (*Ксяндзу*). Я кончыў. (*Ксёндз праводзіць працэдуру з пясочніцай*). Колькі я меў клапот з мужыкамі, пане мілы! Плакалі бацькі, дочкі. Дзяўчаты трапяталі, як дзікія сарны. Гайдукі іх вяроўкамі павязалі. Іх заперлі ў панскай лазні. Ох, цудоўна! Яшчэ раз дзенкую!

Вігорскі цалуецца з Вашамірскім. Ксёндз глядзіць на іх з замілаваннем і трэ вільготныя вочы хустачкай.

ВАШАМІРСКІ. Пан Генрых застанецца на мае імяніны на першы выступ актораў. Калёсы з панскага фаэтона я загадаў зняць і схаваць. Згода?

ЯДВІГА, ІЗАБЕЛА. Бардзо, бардзо просім!

ВІГОРСКІ. Ад такога гонару не адважуся адмовіцца! (*Кланяецца і садзіцца*). Цудоўна...

ВАШАМІРСКІ. Патурбуйся, Бела, прадыктаваць сваё.

ІЗАБЕЛА. Мая галава, Адасік, заклапочана і мне цяпер не да каляндарнага штылю.

ВАШАМІРСКІ. Добра, душачка! Дыктую, ксёндз! Я коратка... Пры перасяленні Вашамірщчыны здарылася адна плачэўная іерэміяда: подлымі забойцамі забіт мой войт Аполінары Вайда. Забрана ў замкавую цямніцу дзесяць душ самых неспакойных. Ні дабром, ні маральнымі і натуральнымі ўздзейнічаннямі не ўдаецца

выкрыць звера. Але строгай рукой Немезіды мяцежныя душы будуць пакараны. Пакуль што хопіць! Ксёндз усё запісаў у тэатральным мэморыяле?

КСЁНДЗ. Усё, яснавяльможны пане! (*Насыпае пяском, шчоўкае пальцам, здувае і зачыняе фоліянт*).

ЯДВІГА. Трэба, Адась, як найхутчэй знайсці забойцу войта. А то ўсіх дзесяць пакараць.

ІЗАБЕЛА. Рацыя! Толькі не дзесяць—нам-жа ўрон у гаспадарцы... Твая галава, Адась, занята выключна тэатрам, а ён з'ядае нашы апошнія сродкі. Не ўмееш менажыраваць. Ты такі фінансэр... (*У роспачы махнула рукой*). Першы ставэк для рыбак павінны выкапаць нашы актори. Я іх зараз паганю на работу...

ВАШАМІРСКІ (*ускіпеўшы*). Ізабела! Не забывайся! Цёнгля ірытуеш мяне! Вечная пікіроўка! Такі слоўны турнір выводзіць мяне з рамак церплівосці! Памятай раз назаўсёды—на першым месцы ў мяне тэатр.—Гаспадар пакуль што—я!

ІЗАБЕЛА (*са слязамі на вачах*). Мэрсі, дзякую, Адам, за такі тон. Прападаю тут, хачу вярнуць тое, што твой татусь і ты пратранжыравалі ў Варшаве, у Кракове, у Львове. Дзякуючы маім просьбам, пан Вігорскі абяцаўся наладзіць справу з даўгамі. Хацела папрасіць на твае іменіны намесніка краю і пагаварыць з ім аб дзяржаўнай пазыцы. А ежэлі так—папрашу пана Вігорскага (*Вігорскі ўскаквае*). Пане Вігорскі!

ВІГОРСКІ. Гатоў да паслугаў пані.

ІЗАБЕЛА. Няхай пан загадае запрэгчы коняй у свой фаэтон і адвезці мяне ў бедны фальварак маіх родзіцаў. Я ў іх і цяпер не лішняя. Там будзе мне куды прыемней, чымся ў раскошах паноў Вашамірскіх. Іду! (*накіроўваецца да дзвярэй і апускаецца на мяккае крэсла. Істэрычна плача. Усе кідаюцца да яе спалохана*).

ВІГОРСКІ. Пані Ізабела! Пані Ізабела! (*Падае ёй бакал з вадою. Яна п'е*).

ЯДВІГА. Супакойся, Бела,—ты мне бліжэй, як цурка.

КСЁНДЗ (*трэ вочы хустачкай, шэпча*). Езус-Мар'я... Езус-Мар'я...

ВАШАМІРСКІ (*збянтэжана*). Прашу прабачэння, Белачка. (*Становіцца на калені, цалуе руку*). Я так здэтанаваўся... (*Ізабела ўсхліпвае*). Ведаеш, мая душачка, што тэатр—мара маіх маладых рокаў... Слова гонару!

ІЗАБЕЛА. Твая апошняя забава.

КСЁНДЗ. Дазвольце мне, яснавяльможныя панове, умяшацца ў гэту справу.

ВАШАМІРСКІ, ІЗАБЕЛА. Проша! Проша!

КСЁНДЗ. Не можа быць і двух поглядаў: што пані Ізабела мае рацыю ў гаспадарчых справах. Аднак маю гонар дадаць, што тэатр справа не менш важная за возера і бровар. Да гэтага часу панства вызыскоўвае выключна простую сілу прыгонных. Не менш прыбытковым можа быць і іх разумовы пачатак.

Усе з дзівам глядзяць на ксяндза.

КСЁНДЗ. Разумовыя мажлівасці хлопаў разыходзяцца, нібы дым. Пан бог аддаў пад кантроль панства не толькі іх рукі і спіны, але і душы. А душы хама панства не накіроўвае на правідловы шлях. Вось гэтым пачынае займацца наш тэатр. Каб адліць касцельны звон з хаотыкі мэталю—патрэбна форма. Наш тэатр, менавіта, фармацыя для бесфарэмных інстынктаў хлопа. І ласкай і пагрозай мы стараемся так выпестоўваць думкі і пачуцці падданых, каб яны маліліся на пана, як на свенты абраз. І зусім мажэбне, што нашы акторы ў часе патрэбы будуць выступаць супроць сваіх-жа ўз'юшаных бацькоў і братоў...

ВІГОРСКІ. Цудоўна! Цудоўна!

ВАШАМІРСКІ. Слова гонору, цікава.

КСЁНДЗ. Уявіце сабе, панове: мы паехалі з тэатрам у Менск, Вільно, Варшаву, Кракаў. Ставім спектаклі. Слава каму належыць?—панам Вашамірскім! Аб кім пачнуць гадаць з зайздрасцю ва ўсіх магнацкіх салонах?—аб панстве Вашамірскіх! На залатой калясніцы трыумфу панства Вашамірскіх з'яўляецца на баль да Радзівілаў, Сапегі, Патоцкіх...

ВАШАМІРСКІ (*у захапленні*). І ксяндза таксама не забываюць. Ён усюды на адным з першых месц...

КСЁНДЗ. Гэта залежыць ад ласкі яснавяльможнай фаміліі. Пры тым мне вельмі патрэбна жыць у Варшаве: мае сціплыя здольнасці знойдуць там дастатковы грунт, каб сядзець на пасадзе біскупа...

ЯДВІГА (*пазяхаючы*). Мы ў гэтым не сумняваемся.

ВАШАМІРСКІ. І дапаможам пробашчу!

ВІГОРСКІ. Я ўпэўнен у цудоўных поспехах ксяндза!

Ксёндз сардэчна кланяецца. Ядвіга заснула.

КСЁНДЗ. Вяртаемся да нашага тэмату: галоўная прываблівасць нашай мастацкай справы—вызыск з пастановак. Сярод магнацтва знойдуцца такія тэатралы, што захочуць прыдбаць сабе цалкам наш тэатр. Калі ласка!—за добрыя фінансы!

ІЗАБЕЛА. Рацыя! Рацыя!

ВАШАМІРСКІ. На гэта я не паддамся, слова гонору! Гэта здымае ўсю паэтыку і артыстызм з нашай дзейнасці.

КСЁНДЗ. А мы новы тэатр выгадуем! Мала ў уладарстве Вашамірскіх таленавітых душ? Таленты прыгонных—самародкі золата для паноў... Здольнасці падданых—гэта пярсцёнкі з каштоўнымі карбункуламі для белых пальчыкаў яснавяльможнай пані Ізабелы, брыльянтавыя гузікі для кунтушоў пана, злататканыя слуцкія паясы, табуны англезаваных коняй, кветнікі ў парку. Дансэркі, музыка-віртуоз, маляр, спявачка—усё гэта, пане мой, жывыя талеры, за якія можна прыдбаць найлепшых садоўнікаў, кухмістраў, часальшчыц пятак з Парыжа, ахмістрынь-Венер, пакаёўцаў-Дрыяд, высока адукаваных псароў, конюхаў-Адонісаў... Наш тэатр—гэта панскі камфорт, светлая прышласць Вашамірскіх.

ВАШАМІРСКІ. Ксёндз разгортвае такія панарамы...

ІЗАБЕЛА. Усё гэта вельмі цікава, але мне трэба з'ездзіць паглядзець, як вёска перабіраецца. Без войта нялёгка. (*Вігорскаму*).

Можа шаноўны пан Генрых паедзе са мною? Скажу асядлаць для пана сівога Пегаса.

ВІГОРСКІ. З найвелькім шацункем!

Ізабела і Вігорскі выходзяць.

II

ВАШАМІРСКІ. А цяпер учынім допыт над забойцамі войта.

Пляскае ў далоні. З'яўляецца гайдук.

III

ВАШАМІРСКІ (*вынімае з кішэні запісную кніжку, глядзіць у яе*). Прывесці сюды з цямніцы Язэпа Чорнабародага, старога Міколу і Каспара Сяльчука.

Гайдук выходзіць.

IV

ВАШАМІРСКІ (*ксяндзу*). Самыя небяспечныя. Нутром адчуваю.

КСЁНДЗ. Вось таму і трэба моладзь выхоўваць!

ВАШАМІРСКІ. Вельмі хвалюе актораў справа з вёскай?

КСЁНДЗ. Яны часта шапочуцца між сабою. Як толькі падыходжу—змаўкаюць.

ВАШАМІРСКІ. Войтава цурка касцюмы выдае акторам. Яна павінна падслухваць і ўсё ксяндзу мельдаваць...

КСЁНДЗ. Яны асцерагаюцца яе як агня.

Прыбягае з-за куліс войтава дачка.

V

ВОЙТАВА ДАЧКА (*падае на калені перад Вашамірскім*). Паночку... Салавей біць мяне хацеў...

ВАШАМІРСКІ. За што?

ВОЙТАВА ДАЧКА. Салавей нешта гаварыў Тэрпсіхоры, а я падставіла вуха.

ВАШАМІРСКІ (*усміхаючыся*). Гэта трэба рабіць умеючы.

ВОЙТАВА ДАЧКА. Хачу пану верна служыць... Я-ж іх ненавіджу, хамаў, за бацьку... Я гатова цяпер сучкай быць у пана, каб кусаць іх—разбойнікаў. (*Падае ніц перад панам, прыпадае да яго ногі ціха скавыча. Ксёндз трэ вочы хустачкай*).

КСЁНДЗ (*войтавай дачцы*). Пастарайся здружыцца з імі, хіба тады яны перастануць цябе асцярагацца.

ВАШАМІРСКІ (*войтавай дачцы*). Ідзі! Не забуду тваю адданасць мне.

Войтава дачка паднімаецца. Пан дае ёй руку для пацалунку. Яна цалуе ды аглядаючыся ідзе за кулісы. Трое гайдукоў прыводзяць звязаных Каспара, Язэпа і дзеда Міколу.

## VI

Салавей глядзіць праз шчыліну заслоны.

ВАШАМІРСКІ. Вось і вы!

КАСПАР. Вось і мы, паночку...

ВАШАМІРСКІ (*Каспару*). Раскажы, як была справа?

КАСПАР. Я, знакам тым, у хаце быў. Нічога не бачыў. Толькі жонку маю дошкай пакалечыла.

ВАШАМІРСКІ. Сам вінават. Трэба было слухацца. Прымаў удзел у забойстве войта? Толькі праўду гавары!

КАСПАР. Дальбог, я ў хаце сядзеў. Ці-ж я бы мог, паночку? Я, знакам тым, і камара не заб'ю...

КСЁНДЗ. Прызнайся, Каспар! Грэх на душу бярэш.

КАСПАР. Нічога кепскага, пане ойчанька, я не рабіў...

ВАШАМІРСКІ. Глядзі, разбойнік, на смерць закатую!

КАСПАР. Рабі, паночку родны, як лепей...

ВАШАМІРСКІ (*Язэпу*). Гэта ты зрабіў! Гыш вочы як у шыбеніка! Войт тваімі рукамі змардаваны!

ЯЗЭП. Ці я рукі пэцкаць буду аб такую погань?

ВАШАМІРСКІ. Мне гаварылі, што ты часта з ім сварыўся.

ЯЗЭП. Усе сварыліся з гэтай шэльмай! Ён мучыў нас, здзекваўся і браў больш, чым пан загадваў—для сябе. А пану няма чаго так шкадаваць войта, хто мае статак, той мае і прыпадак. Зладзюк такі быў, што крый божа.

Прачнулася Ядвіга і прыслухоўваецца да гутаркі.

ВАШАМІРСКІ. Аб гэтым трэба было мне раней сказаць! Ты забіў?

ЯЗЭП. Не!

ВАШАМІРСКІ. А хто? Скажы і зараз дадому пойдзеш!

ЯЗЭП. Не ведаю.

ВАШАМІРСКІ. Усе дзесяць чалавек з'ядуць у мяне бізуноў на стайні, а потым на катаргу выпраўлю! лепш прызнайцеся... (*Дзеда*). Ты, стары, гавары! Хто забіў?

Пауза. Праз шчыліну заслоны відаць усхваляваны твар Салаўя

ДЗЕД. Гэта паны самі забілі... Ай-яй-яй!

ВАШАМІРСКІ. Як гэта мы самі?

ДЗЕД. Сваімі загадамі... Эге...

ВАШАМІРСКІ. Ешчэ цо?

ДЗЕД. Доўга маўчаў народ, а вось і гнеў народны ўскіпеў... Эге...

ВАШАМІРСКІ. Ну... далей-далей!

ДЗЕД. Вось я і забіў... паночку... Эге...

ВАШАМІРСКІ. Ты?! Такі... слабы?!

ДЗЕД. Я, паночку... Шворнам па галаве, як даў!..

Дзівяцца Язэп, Каспар, ксёндз, Салавей (ля заслоны) ашаломаны.

КСЁНДЗ. Такі грэх...

ДЗЕД. Каму грэх—каму смех... Насіў воўк—панеслі і ваўка... Эге...

ЯДВІГА (*істэрычна*). Ах ты, хам! Пякельнік! Сваімі рукамі задушу! (*Кідаецца на дзеда*).

ДЗЕД. На... душы... ай-яй-яй... (*Падстаўляе горла*). Мае праўнукі гуляюць у маю смерць кожны дзень... Няхай і пані пагуляе... Эге...

ВАШАМІРСКІ. Выходзь адгэтуль, пані матка. Не з тваім далікатным сэрцам прысутнічаць... (*Выводзіць Ядвігу за дзверы. Варочаецца*).

VII

ВАШАМІРСКІ (*гайдукам*). Выпусціць усіх на волю! Старога пакінуць у цямніцы! (*Язэпу*). А з табой, Язэп, мне трэба яшчэ пагаварыць. Гайдук, развязаць яму рукі!

Язэпу развязваюць рукі. Гайдукі выводзяць дзеда і Каспара.

VIII

ВАШАМІРСКІ. Вось што, Язэп. Ты чалавек разумны. Хачу цябе зрабіць войтам!

ЯЗЭП (*здзіўлена*). Пан хоча мяне пакараць найгоршай карай.

ВАШАМІРСКІ. Як гэта?

ЯЗЭП. Я-ж бізуном стану ў руках пана—і народны гнеў, як маланка ў вугаль мяне спаліць... Народ як плюне на мяне—затопіць як пацука...

КСЁНДЗ. Разумным войтам будуць давольны і пан і народ.

ЯЗЭП. Ці-ж пан думае сокала перарабіць у саву?.. Паноў у адно звязвае радасць, а нас, мужыкоў—гора. Не хачу вісець між радасцю і горам, як між небам і зямлёй...

ВАШАМІРСКІ. Дых не хцеш мець такога гонору?

ЯЗЭП. Не хачу!

ВАШАМІРСКІ (*у вялікім гневе*). Гайдукі!

З'яўляюцца гайдукі.

IX

ВАШАМІРСКІ. Усыпаць яму трыццаць гарачых і няхай ідзе дадому!

Язэпа выводзяць.

X

ВАШАМІРСКІ (*ксяндзу*). На ваўка залатое сядло не накінеш.

Пан усхваляваны ходзіць па пакоі.

ВАШАМІРСКІ Вось што, ойча. Я загадаю з сягонешняга дня палепшыць акторам харчы. Але з замка іх нікуды не выпускаць! Ля ўсіх хадоў будуць стаяць узброеныя гайдукі. Трэба, каб акторы

былі заняты выключна ўзнёслымі ідэямі роляй. Вопраткі гатовы. Грым ёсць. Дэкарацыі заканчваюцца. Слова гонору, усё ідзе добра! Хто самыя лепшыя, ойча?

КСЁНДЗ. Лепш за ўсіх ведаюць свае ролі Салавей і Тэрпсіхора. Адчуваецца тонкасць ігры. Міміка ў іх дасканалая. Салавей як камета блісне. Яго трэлі ўвальюцца срэбнай паэзіяй вясны ва ўсе шляхотныя сэрцы. Тэрпсіхора заваражыць сваім хараством, пластыкай і тэмпераментам у драмаце „царыца Клеапатра".

ВАШАМІРСКІ. Няхай ойча пакліча ўсіх на сцэну і пагаворыць з імі, а пасля няхай царыца Клеапатра і Салавей прыдуць сюды. Хачу паслухаць маналаг Клеапатры. Пакуль што буду ўпісваць у каляндар вынікі допыту аб забойстве войта.

Ксёндз выходзіць. Вашамірскі садзіцца і піша ў фоліянт.

## XI

З-за куліс чуваць голас ксяндза.

КСЁНДЗ. Усе на сцэну!

Тупат ног. Праз празрыстую заслону відаць цені актораў і чутны словы ксяндза.

КСЁНДЗ. Я паклікаў вас, мае каханыя, каб павядоміць, што надыходзіць час генеральнай рэпетыцыі! Надыходзіць самая адказная гадзіна мастацкага жніва. На імяніны яснавяльможнага пана адбудзецца першы спектакль. Сам губернатар, мае каханыя, будзе глядзець вашу ігру. Вы павінны цяпер забыць аб сабе ранейшых і памятаць сябе цяперашніх—у сваіх ролях. Вы зусім не тыя, якімі з'яўляецеся кожны дзень! Вы цяпер увасабляеце новыя істоты.

Вашамірскі адрываецца ад фоліянта, слухае і па яго твары відаць, што вельмі задаволены гутаркай ксяндза. Нюхае з табакеркі.

КСЁНДЗ. Акторы—багіні і багі старадаўняй Грэцыі. Акторы—героі з прыгожых баек. Апрача тэатра для вас цяпер нічога не існуе! К пану няхай ідуць Тэрпсіхора і Салавей! Усе іншыя—па сваіх мясцах вывучайце ролі! Буду маліцца пану богу, каб усё было добра.

Чуваць тупат ног. Ксёндз, Алена ўвопратцы Клеапатры і Салавей прыходзяць у залу. Спыняюцца ля пана.

## XII

КСЁНДЗ (*папраўляючы на Алене дыядэму і мантыю*). Толькі пабольш выбражэння, адвагі, зграбнасці, чуласці кахання і гордасці капрызнай царыцы! Станавіся ў позу! (*Папраўляе ёй рукі*). Калі сапраўды адчуеш сябе на хвіліну царыцай, тады будзеш ведаць, як уладаць рукамі. (*Вашамірскаму*). Адзін недахоп—рукі. Не ведае дзе іх дзець.

ВАШАМІРСКІ (*аглядае яе з задаволенай усмешкай. У ягоных вачах запальваюцца такія аганькі, якія прымушаюць Салаўя насцаражыцца*). Пачынай!

АЛЕНА

О, сціхні, Ніл, пад гімн суровай жрыцы...
І ты, мой сфінкс, Антоні мой, маўчы...
Люблю цябе, услаўлены патрыцы,
Люблю цябе, бы казку далячынь.
Мы прыпадзем да мармура Ізіды
І на грудзях маіх засне твой Рым.
Гарыць заход, лье кроў на піраміды,
Успыхнем яркім шчасцем і—згарым!
Мы кінемся на грань жыцця і смерці...
Мы вызвалім з хаоса цэлы свет!
Ты, як пастух, даруй мне, дзівы сэрца,
І акрылі мне мары, як паэт...
Мне дань плыве на караблях, галерах:
Рабы, рабыні, шоўк, парча і лён.
Маю красу цары пяюць на лерах,
Пад ногі мне—рубіны іх карон!
Я—гордая! Я—вольная, бы сокал!
Любі мяне...—нявольніцай малю...—
А то жуда зірне галодным зрокам—
Я ураджаі Нілам патаплю!
І мой народ апоўначы прачнецца,
З тваіх грудзей апошні выме стогн.
Не ўгняві—бо вырву твае сэрца!
І беззаконнасці мае—закон!

ВАШАМІРСКІ (*плешча ў далоні*). Патасу не мала! эмоцыі—цэлыя каскады... Хвалю!

Вашамірскі глядзіць на Алену з захапленнем. Салавей гэта прымячае і пачынае трывожыцца. Алена саромяецца.

КСЁНДЗ. Пахвала яснавяльможнага пана—мне бальзам. Езус-Мар'я! Мне толькі астаецца пану над усімі панамі малітву скласці з глыбінь душы. Значыць, мая праца дарэмна не прападае?

ВАШАМІРСКІ. Слова гонору, не...

КСЁНДЗ. Значыць, мы будзем з тэатрам у Варшаве? (*Трэвочы хустачкай*).

ВАШАМІРСКІ. Слова гонору, так... (*Прыязна абнімае ксяндза*). Хадзем, ойча, у парк! Такое сонца... неба... Пафілазофствуем, памарым... (*акторам*). Няхай усе рыхтуюцца да рэпетыцыі ў вопратках і грыме!

Вашамірскі і ксёндз выходзяць.

## XIII

У аддаленні за кулісамі грае кволую мелодыю адзінокая скрыпка. Адну хвіліну Алена і Салавей прыслухоўваюцца.

АЛЕНА. Пабягу сказаць усім нашым, каб рыхтаваліся да генеральнай рэпетыцыі.

САЛАВЕЙ (*задумёна*). Ідзі.

Алена выбягае.

## XIV

Лёгкі стук пальцам у шкло акна. Падбягае Салавей, адчыняе акно. Язэп напалавіну ўсоўваецца ў залу. Гаворыць буйным шэптам.

САЛАВЕЙ. Адлупцавалі?

ЯЗЭП. Мяне?! Я вылупіў на іх вочы во так! (*Робіць злосныя вочы*). І гайдукі адракліся. Упрашвалі, каб хаця нікому не гаварыў.

САЛАВЕЙ. Малайцы—нашыя! Не паказалі на мяне пану. Нават і Каспар, які любіць „усю праўдачку сказаць". А дзядок Мікола—„прызнаўся". З шыі дзеда зніму пятлю. Адну расамаху прыдушыў. А народ няхай думае. Няхай кожны „хлоп" адчуе, што і ён чалавек. Але так хочацца адгэтуль уцячы. Кожную ноч сню аб волі і чакаю кары ад пана за розныя свае норавы.

ЯЗЭП. Цярпі, Адам. Будзь пакорлівым. Пабачым чым кончыцца справа з вёскай. Калі іншай рады не будзе—тады мы раз-раз—і гатова! Бывай здароў!

САЛАВЕЙ. Бывай, братку, здароў!

Язэп знікае. Варочаецца Алена. Салавей і Алена садзяцца на нізкай атаманцы супроць партрэта Вашамірскага.

## XV

АЛЕНА. Кожны раз як граю царыцу Клеапатру—успамінаю цябе... Мне так хочацца ўцячы з табою куды-небудзь—у лес... у поле... (*Прыслухоўваецца да ціхай музыкі скрыпкі*). Па начах я не сплю... плачу... Хачу быць вольнай... Я часта гляджу ў акно—на неба... на парк... на птушак і адна ластаўка-думка не дае мне супакою—хачу быць вольнай! У грудзях моцна стукае сэрца... Галава гарыць і я ледзь стрымліваюся, каб не крыкнуць на ўвесь голас: ха-чу быць воль-най!

САЛАВЕЙ (*вельмі ўсхваляваны*). Чорны Баніфацы ўбіў табе ў мазгі, што ты царыца Клеапатра... А стары пан ласым вокам на цябе глядзіць, як на царыцу...

АЛЕНА. Ратуй мяне, Адамка. Уцячэм!

САЛАВЕЙ. Раней, Аленачка. Адам з Адамам ад сэрца павінен пагаварыць. А ты пакуль што беражыся пана, бо пані цябе закатуе.

АЛЕНА (*туліцца да яго*). Уцячэм, Адамка...

САЛАВЕЙ. У Егіпет? пад пальмы? „на грань жыцця і смерці"? Эх, ты...—„гордая і вольная, бы сокал" (*Горка смяецца*).

АЛЕНА (*цалуе Адама. Слёзы на яе вачах*). Уцячэм, міленькі...

САЛАВЕЙ. К Нілу? І тут ёсць рэчка.

АЛЕНА. Не жартуй!

САЛАВЕЙ. Не жартую...

АЛЕНА. Гэта-ж я нават царыцай магла быць... Я-ж такая самая, як пані Ізабела.

САЛАВЕЙ. Ты за яе харашэйшая...

АЛЕНА. Выскачым уночы праз акно і... куды вочы глядзяць!

САЛАВЕЙ (*жартаўліва*). Раней у пана Адама на дарогу папрашу. Няхай за салаўіныя песні заплаціць і „беззаконнасці мае—закон!“

АЛЕНА. Баюся, Адамка, загінеш тут...

САЛАВЕЙ. Эх ты! Царыца Клеапатра не павінна баяцца. Ты-ж сама кажаш у сваёй ролі—„успыхнем яркім шчасцем і...—згарым“ Не хачу, каб мы згарэлі... таксама не хачу, каб панскі Ніл нашу вёску затапіў.

АЛЕНА. Эх... Адамка... (*Пяе пад мелодыю скрыпкі*):

Хачу быць я птушачкай,
Залатой пяюшачкай—
Палячу у гай,
У вольны край!
Хачу быць я рыбкаю
Пад вадою зыбкаю,—
Нырну я на дно
Ад злых паноў!
Хачу быць вясняначкай,
Зоркаю-заранačкай —
Мілы пра мяне
Няхай пяе!

САЛАВЕЙ (*расчулена гладзіць яе па валасах*). Мая бедная Аленачка...

АЛЕНА (*злосна*). Не шкадуй мяне. Я гэта не люблю...

САЛАВЕЙ. Ды ты, Аленка, не грай са мной, як на панскай сцэне.

АЛЕНА. Я не граю—уцячэм...

САЛАВЕЙ. У чужым баку вочы па кулаку. Усюды аднолькава. А мне трэба пагаварыць—во з гэтым! (*Паказвае на панскі партрэт*). За ўсіх хачу з ім пагаварыць—і за твайго бацьку, які некалькі разоў за нішто ў цямніцы прасядзеў, і за тваю матку, што пры смерці знаходзіцца...

АЛЕНА. Маці мая пры смерці?! А міленькая... А на каго ты мяне пакідаеш... родная матачка?...

САЛАВЕЙ. На пана...

АЛЕНА (*глядзіць на партрэт*). Ух—ты! Вусаты з вытарашчанымі бельмамі! Гыш, як усміхаецца! На нашай нядолі гадуеш сваю зьмяіную радасць...

А л е н а хапае з малярскага вядзерца пэндзаль, кідаецца к партрэту.

САЛАВЕЙ (*стрымлівае яе руку*). Не чапай, Аленка! Гэта-ж не ён сам, а яго малявідла...

АЛЕНА (*рвецца з яго рук*). Пусці... пусці...

САЛАВЕЙ. Ні за што не пушчу!

АЛЕНА. Пусці, панскі Салавей!..

З-за заслоны глядзіць войтава дачка. У С а л а ў я апускаюцца рукі. Тыцнула А л е н а пэндзлем у твар партрэта. Застаецца белая пляма. Пэндзаль выпадае з яе рук. А л е н а глядзіць перад сабою расшыранымі вачыма, С а л а в е й спачатку пазірае на яе злосна, пасля з замілаваннем, урэшце, з незвычайным захапленнем. Абодва ўцякаюць за кулісы. Уваходзяць п а н і к с ё н д з.

XVI

ВАШАМІРСКІ. Клеапатра дасканалая... Узнагароджу яе па-панску...

КСЁНДЗ. А Салавей? Ролі ўсіх актараў на памяць ведае.

Падыходзяць да партрэта.

ВАШАМІРСКІ. А? Што?! Глядзі, ойча! (*Паказвае указальным пальцам на партрэт*).

КСЁНДЗ (*ад спалоху адным рыўком расшпільвае сутану*). Езус-Мар'я!

ВАШАМІРСКІ (*у яго дрыжыць падбародак*). Хто? Хто адважыўся?

З-за заслоны выскаквае войтава дачка.

XVII

ВОЙТАВА ДАЧКА. Гэта...— Салавей і Тэрпсіхора...

ВАШАМІРСКІ. Адкуль ведаеш?

ВОЙТАВА ДАЧКА. Бачыла...

КСЁНДЗ. Езус-Мар'я... Што яны нарабілі...

ВАШАМІРСКІ (*войтавай дачцы*). Пакліч іх сюды!!

ВОЙТАВА ДАЧКА. Баюся, паночку... Яшчэ заб'юць..

КСЁНДЗ. Бяжы туды, хавайся! (*Паказвае на дзверы*). Я іх сам паклічу.

Войтава дачка хаваецца, ксёндз ідзе за кулісы. Хутка варочаецца з Салаўём і Аленай.

XVIII

ВАШАМІРСКІ (*паказвае на партрэт*). Хто запэцкаў?

САЛАВЕЙ. Я!

АЛЕНА. Не... (*З дзівам глядзіць на Салаўя*).

ВАШАМІРСКІ (*садзіцца ў крэсле*). Вось табе і панскі Салавей! Вось табе царыца Клеапатра!

КСЁНДЗ. Езус-Мар'я... Езус-Мар'я... (*Трымаецца абедзьвума рукамі за галаву і бегае па зале*).

Салавей і Алена застылі ў сваіх позах.

ВАШАМІРСКІ. А ксёндз іх выхоўвае... ксёндз гадуе ў іх да маёй асобы „па-ша-ну!"

КСЁНДЗ. Чалавечая душа—гэта чорнае мора з ветрамі, з бурамі, з гураганамі... Чалавечая душа—гэта... гэта... Езус-Мар'я!.. Чалавечая душа...

ВАШАМІРСКІ. Што там ксёндз мармыча: ча-ла-ве-ча-я, чалавеча... (*Паказвае на Алену і Салаўя*). Але-ж іх душы не чалавечыя, а хам-скі-я! Разумееш, ксёндз! хам-скі-я!

КСЁНДЗ (*мармыча*). Разумею... Толькі, яснавяльможны пане, перад генеральнай рэпетыцыяй не варта ўжываць фізічных кар— лепш маральныя...

ВАШАМІРСКІ (*гнеўна*). Прашу, ксёндз, не вучыць!

КСЁНДЗ. О, Езус-Мар'я... прашу прабачэння... Прабачэння... прабачэння... пр-р-р...

ВАШАМІРСКІ (*пачынае вызваляцца з апоплексічнага гневу, Алене*). Царыца Клеапатра! Зараз-жа на стайню! Гной падмятаць да самага вечара!

Алена хоча ісці за кулісы.

ВАШАМІРСКІ. Куды?

АЛЕНА. Зняць вопратку, каб не запэцкаць...

ВАШАМІРСКІ. У гэтых вопратках! А калі знайду на вопратках хоць адну плямінку—на смерць засяку!

Алена выходзіць.

## XIX

ВАШАМІРСКІ (*Салаўю*). А ты? Панскі Салавей? (*Усміхаецца*). Мужыцкая ты зязюля... Зязюля! Кукаваць умееш?

САЛАВЕЙ (*з надзеяй на выратаванне*). Умею...

ВАШАМІРСКІ. Кукуй!

САЛАВЕЙ. Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку!

ВАШАМІРСКІ. Яшчэ!

САЛАВЕЙ. Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку!

ВАШАМІРСКІ. Без перапынку!

Салавей кукуе

ВАШАМІРСКІ (*ляснуў у далоні. З'явіўся гайдук*). Паставіць ля яго трох гайдукоў з бізунамі. (*Салавей змаўкае, прыслухоўваецца*). Як толькі перастане кукаваць—біць! І так кожны дзень—да самага спектакля! (*Да Салаўя*). Кукуй!

САЛАВЕЙ (*са слязамі на вачах*). Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку!

Вашамірскі кіўнуў ксяндзу. Яны выйшлі. Накіроўваюцца да Салаўя тры гайдукі з бізунамі. З супроцьлеглых дзвярэй ідзе да Салаўя старая пані Ядвіга з садысцкай асалодай на твары і з ружанцамі ў руках. Кукаванне не змаўкае.

## ЗАСЛОНА

## *Дзея трэцяя*

### *Пятая карціна*

I

Цёмная ноч. Лес у Старых Лозах. Зямлянкі. Вогнішча. Т а ц я н а трымае на каленях ляльку і спявае. У адзіночку падыходзяць да вогнішча сялянкі, грэюць рукі.

ТАЦЯНА (*пяе*):

Не плач, маё дзіцятка,
А цыц, маё родна,
Вунь дзе войт ідзе,
На татку, на мамку
Ён бізун нясе.
На тым на бізуне
Скураты увіты,
На тым на бізуне
Слёзкі паліты.
Тыя слёзкі крывавыя
З сэрца ранёнага...
Схавайся, ты, дзетка,
На божу пасцельку...
Няхай тыя вочкі
Заплюснуць навекі.
Не відзеў ты гора,
Гора мужыкова;
Не ўзнаеш ты долі,
Кроўкай палітое...

ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Вось мы ў Старых Лозах. Як цыганы пры вогнішчы.

ДРУГАЯ ДЗЯЎЧЫНА. У будках вельмі холадна.

ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ. Пан—панам, а мужык—мужыком. Нічога зрабіць не можам. Хоць ты сапраўды ў магілу палязай!

ТАЦЯНА. Спі, мой Юрачка.. Спі, маленечкі ты мой... І птушачкі цяпер спяць, і рыбачкі і кароўкі, і авечачкі, і цюцечкі... і войт заснуў непрабудным сном. Асінавы кол у яго магілу! А ведаеце, людцы, хто вінаваты ў нашай бядзе?

ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Хто?

ТАЦЯНА. Панскі кіятар. Ён усіх нас са свету звядзе. Новыя чыншы палажылі на мужыкоў—для кіятра. Рыбаловам загадалі ўсю рыбу ў двор насіць — для кіятра. Забралі ў мужыкоў гавяду, птаства—для кіятра. Ой-ой-ой, як цяжка жыць! Кіятар глытае і людзей...

ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА (*спалохана*). І людзей?..

ТАЦЯНА. Іх там душаць...

ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Душаць?

ТАЦЯНА. З панскага кіятра чуваць страшэнныя ляманты.

ДЗЯЎЧАТЫ. Ляманты?

ТАЦЯНА. Людзей у кіятры адкормліваюць як гусей, а потым... рэжуць...

ДЗЯЎЧАТЫ. Рэжуць?

ТАЦЯНА. У панскім палацы сядзіць Чорнакніжнік. З яго роту агонь палыхае, з яго наздзёр іскры сыплюцца. З яго вушэй дым ідзе, з яго вачэй кроў плыве. Чорнакніжнік чаруе-чаруе. Птушкі гавораць чалавечай мовай. Людзі чырлікаюць, як птушкі... Ой-ой-ой, як цяжка жыць...

ПЕРШЫ ХЛОПЕЦ. Кінь, Таццяна, дзяўчат палохаць!

ТАЦЯНА. Там апоўначы ваўкалакі выюць...

ДЗЯЎЧАТЫ. Выюць?

ДРУГІ ХЛОПЕЦ. Тацяна, перастань, а то—прагонім ад агня.

З'яўляюцца Каспар і Язэп.

II

КАСПАР. Ды што і казаць, пастараліся гайдучкі! Параскідалі да апошняга бервенца. Толькі печы засталіся. Вёска—як магільнік. Ах ты, божанька! Грыпіча памерла... Дзякую, Язэпка, што на труну пару дошчак даў... Алена ў кіятры... І я цяпер адзін, як дзічка ў полі. Голы—як бы толькі што маці на свет нарадзіла... (*Усхліпвае*).

ЯЗЭП. Трымайся, Каспар! Нейк будзе! Хадакоў выправім у горад да губернатара. Можа яшчэ начальнік прыкажа адбудавацца на старых сядзібах...

КАСПАР. Хіба што да губернатара. Можа ў яго знойдзем мужыцкую праўду...

III

У лесе нарастае гул галасоў. З кожным разам з людскога гоману ўсё больш вызначаюцца словы:

РЭПЛІКІ:

— Не... Не...

— Ні за што!..

— Не трэба!

— А мы гаворым „трэба“!

— І не думай!

— Выправім хадакоў да губернатара!

— Горш будзе! Не можна на свайго пана скардзіцца!

— А што нам будзе за гэта?

— Ніякай рызыкі! Апошнія лапці забяруць?

— Няхай возьмуць! Гэта-ж дачок нашых панскім гасцём у падарунак, нібы курэй, аддаюць.

— Могуць апошнюю скуру здзерці!

— А калі родных дзяцей забіраюць, дык гэта не апошняя скура? Кеп! Дурань!

— Ад такога чую!

— Язэп і Каспар самыя разумныя? Ёсць гэткія!
— А ты ідзі лізаць пяткі ў пана. Іш ты! Падпанак знайшоўся!
— Ты хітрэйшы? Табе лепш жывецца? Цябе ўсёроўна ў хадакі не выбярэм, панская цюцька!

Паволі рэплікі сціхаюць. Каспар і Язэп уважліва слухаюць.

ЯЗЭП. Перамелецца—мука будзе. Выправім да губернатара хадакоў. Я пайду, ты.
КАСПАР. Шкода, што старога Міколы няма.

З'яўляецца дзед Мікола.

## IV

ДЗЕД. А я тут!
УСЕ. Дзядок! Дзядок! Вярнуўся дзядок!
КАСПАР. Як гэта ты?
ЯЗЭП, Пан раздабрухаўся?
ДЗЕД. Эге! Прыходзіць ка мне ксёндз, адамкнуў цямніцу ды кажа: „Ідзі дамоў. Мы кажа, ведаем, што войта забіў Салавей. Яго і пакараем!“ „Дай, ойча святы, хоць пераначаваць“, прашуся. „Зараз, кажа, ідзі дамоў!“ Няма куды, кажу, хаты параскіданы. „Ідзі, кажа, да Язэпа, хоць у будку сваю прыме цябе“. Перажагнаў мяне ксёндз—я і пайшоў.
ЯЗЭП. Для дзеда Міколы знойдзецца куток ў маім новым палацы. (*Паказвае на зямлянку).*
КАСПАР. Цяпер пан судзіць будзе Адамку—Салаўя.
ЯЗЭП. Нічога! Пяць разоў салаўём свісне і пан падаруе.
ДЗЕД (*грэецца пры агні*). Думаў—канцы прышлі. Пажыў я даволі, ай-яй-яй! А смерць ка мне не йдзе, хоць ты яе пугай! Эге...
ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА (*смяецца*). За тое, што смерць да цябе не йдзе—раскажы нам байку.
ДЗЕД. Гыш ты! Чаго захацела! Сярод ночы!
УСЕ. Раскажы! Раскажы! Удзень часу няма слухаць...
ЯЗЭП. Раскажы, чаго там! Часам і ад байкі чалавек мазгаваць пачынае.
ДЗЕД. Старыя, як малыя! Калі дзед прышоў, дык адразу—байку! Што з вамі зробіш! (*Садзіцца пры агні. Усе рыхтуюцца слухаць—рассаджаваюцца вакол дзеда*).
ДЗЕД. У якімсь краі жылі людзі, і пачаў да іх лятаць змей, і пачаў дабро цягаць, і людзей к сабе хватаць. Эге... Людзі яму пабудавалі харомы, акопвалі іх канавамі і там гінулі. А змей хватае ды валочыць сюды ўсё новых ды новых людзей... Эге...
ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Як наш пан усёроўна.
ДЗЕД. Не наш пан, а цар... Эге! Працуюць людзі на змея, а самі пухнуць з голаду, бы мухі. Тыя людзі, што засталіся жыць у харомах змея, зрабіліся яго ліхімі слугамі і пачалі дзерці скуру з людзей.
ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Якраз гайдукі!

ДЗЕД. Не перабівай! Эге! І ліхія слугі змея пачалі лічыць людзей горш за быдла, пачалі сароміцца, што самі яны людзі. Пачалі выдумоўваць сабе ўсялякія назвіскі: хто назваў сябе змеем, хто—мядзведзем, хто—арлом; хто—дзеравам. Дык от адкуль узяліся ў нас паны Свінскія, Арлоўскія, Дубавіцкія і цэлая процьма іншых...

ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. А пан Вашамірскі адкуль узяўся?

ДЗЕД. Ціха ты! От служаць людзі панам, аддаюць ім апошняе, а самі ходзяць галодныя ды халодныя, за працаю свету сонейка не бачуць. І загневаліся людзі і з віламі і косамі пайшлі на паноў...

КАСПАР. А мы цяпер да губернатара думаем хадакоў выправіць.

ДЗЕД (*махнуўшы рукой*). Шкада лапцёў... (*Узіраецца ў дрэвы*). Хто-ж гэта там у чорным сюды дыбае?

Усе азіраюцца.

ЯЗЭП. Ксёндз...

З'яўляецца ксёндз.

## V

КСЁНДЗ. Нех бэндзе похвалёны Езус Хрыстус!

Усе ўскакваюць з сваіх месц і неахвотна адказваюць:

— Навекі-векув.

ТАЦЯНА. Вось ён—чорнакніжнік! (*Уцякае*).

КСЁНДЗ. Цяжка да вас дабірацца ўначы, дзеці мае.

ЯЗЭП. І ўдзень не лягчэй. Мы яшчэ туг не атаўбаваліся. Сцежкі не вытаптаны, грэблі не пакладзены, хаты не пастаўлены.

КСЁНДЗ (*строга*). Не наракай, Язэп!

ЯЗЭП. Прышоў госць без вясцей—з'есць ён гусачку без касцей...

КСЁНДЗ. Я да вас якраз з вестачкай (*Урачыста*). У пана нашага, яснавяльможнага, заўтра імяніны...

ЯЗЭП. Ведаем! Заўсёды так: у пана радасць—у мужыка гора... Ну і парадачак у бога!

КСЁНДЗ (*строга*). Кінь, Язэп, наракаць на божыя парадкі. Не тваім розумам!

ЯЗЭП. Калі бог нешта ўсё з панамі. З намі ніякай справы мець не хоча... Пан Езус панскага роду ці што?

КСЁНДЗ. Вялікі грэх так скардзіцца на бога! Ці ты, Язэп, можаш разумець усе ўчынкі і ўвесь лад, уведзены крулем неба і зямлі сярод смяротных? Ты пясчынка на дарозе, цень мухі на лісточку, можаш уцяміць роўнавагу на шалях божай праўды? А ці ведаеш ты, чаму снег белы, а зара чырвоная? Мора гарачай смалы божага гневу чакае цябе ў пякельніцы. Бо грахі твае вялікія. Пякельніца, табе, Язэп. Пякельніца!

ЯЗЭП. Горшай пякельніцы, чым на панскім прыгоне, быць не можа.

КСЁНДЗ. І гэтыя словы твае ідуць ад д'ябла! Для пакутнікаў на гэтым свеце—прыгатоўлен рай на тым свеце. Хто на гэтым свеце ніжэй за верас, там вышэй дуба. Хто на гэтым свеце плача—там смяяцца будзе. Я за вас і ўдзень і ўночы малюся. Дзеда Міколу выратаваў сваімі малітвамі, а Адам, іменуемы Салаўём, за грахі свае будзе ў кіпцюрах гіены вогненай і на гэтым і на тым свеце... Ты, Язэп, толькі каламуціш грэшнымі словамі гэтых ягнятак невінаватых. (*Паказвае на дзяўчат. Ксёндз падстаўляе ім руку для пацалунку. Яны набожна жагнаюцца, становяцца на калені і цалуюць яго ў руку*). А я, пастыр ваш, прышоў сюды сказаць вам, што заўтра на панскія імяніны прыедзе губернатар...

ЯЗЭП І КАСПАР. Губернатар?!

ДЗЕД. Чаго дзівецеся? Пан да пана!

КСЁНДЗ. Можа ў вас што якое... дык адразу губернатару трэба данесці. (*Ксёндз адкідвае капюшон з галавы і падыходзіць бліжка к вогнішчу*).

ДЗЯЎЧАТЫ І ХЛОПЦЫ. А-а-а! Салавей! Адамка!

КАСПАР. Ах ты! Знакам тым, штукі якія вырабляеш! Га?

САЛАВЕЙ. Паказваю, як ксёндз народ абманвае.

ЯЗЭП (*смяецца*). Гыш ты, сякі-такі, нямыты ды нямазаны! Д'ябал над усімі д'ябламі на свеце!

ДЗЕД. Эге! Ты мяне вызваліў, штукар! Зараз назад пайду!

САЛАВЕЙ. На ўсялякі выпадак у лесе схавайся, дзень-другі, а там падумаем.

ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Яшчэ руку для пацалунку падставіў!

САЛАВЕЙ. А святыя Магдусі і Францусі вельмі ксендза зленклі, на калені ўкленклі, бога выхвалялі ды мае рэнцы цалавалі.

ДРУГАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Цьфу! Цьфу! Цьфу!

САЛАВЕЙ. Усюды сцерагуць гайдукі. Хоць я салавей, але не мог сюды прыляцець. Ксёндз спіць пасля венгерскага і пэўна сніць аб нашых скакухах. Я запытаў у пана бога і ён дазволіў мне пазычыць ксяндзоўскае адзенне на пару гадзін... Мяне прапусцілі. Дык вось, парахвіяне, не трэба выпраўляць хадакоў у горад да пана начальніка. Губернатар будзе ў пана.

ЯЗЭП. На хваробу, кажаш, прышла лякоба?

САЛАВЕЙ. Але!

КАСПАР. Не пусцяць нас да губернатара. Ні на санях, ні на калёсах у замак не дабярэшся...

САЛАВЕЙ. Трэба як-небудзь да яго прабрацца.

ДЗЕД. Эге! Зусім выскачыла з галавы. Гэта-ж мы кожны год на панскія імяніны да пана з павіншаваннем прыходзілі... Каравай насілі...

САЛАВЕЙ. Можна і сёлята з караваем.

ЯЗЭП. Зноў мітрэнгі. З чаго пякчы будзеш? Хіба з твайго святога казання?.. Або з гэтых каменняў? (*Паказвае на каменні ля вогнішча*).

ЯЗЭП. А мы так і зробім. Няхай губернатар бачыць наш новы ўраджай. А калі губернатар не паможа нам, тады... зробім, як у дзедавай казцы. Панскім гасцям мужыцкі тэатр пакажам. Увесь народ будзе ціханька чакаць каля замка.

САЛАВЕЙ. Слаўна! Пайду сабе ўпотай, а то мой святы д'ябал прачнецца і сутаны не знойдзе. (*Накідвае на галаву капюшон*). Маліцеся богу, мае парахвіяне! А вы, дзяўчаткі, за тое, што ксяндзоўскую руку пацалавалі, заспявайце мне на разлуку каравайную песню!

ДЗЯЎЧАТЫ (*смяюцца і пачынаюць спяваць*):

Нам мучыцы дай-дай,
Мы спячэм каравай.
Ты расці латыр-гарой,
Вышэй печы залатой,
Вышэй пані маладой!
Сцеражыся, каравай,
Пану ў рот не пападай,
А ў рот як пападзеш
Пану зубы натаўчэш.

## *Шостая карціна*

Больш раскошнай чым заўсёды выглядае зала. Запалены свечкі ва ўсіх кандэлябрах і залочаных жырандолях. Ярка асветлена заслона панскай сцэны. На заслоне—старагрэцкія матывы: Фавны, німфы, Амуры і г. д. Прыгожыя пакаёўкі ў белым з тулевымі крыллямі, з распушчанымі валасамі і вянкамі кветак на галовах ставяць на столікі фрукты, пітво ў графінах, залочаныя бакалы і г. д. За сцэнай з боку дзвярэй чуваць музыка мазуркі, водгукі танцу, выкрыкі:

— Віват, віват пану губернатару!
— Віват, віват пану Адаму Вашамірскаму!
— Віват! Віват! Віват!

### I

У кутку, ля заслоны стаіць ва ўсім бляску „Царыца Клеапатра"—А л е н а. На яе вачах слёзы. Насупраць яе—сагнуўшыся збянтэжаны ксёндз.

АЛЕНА. Не магу, ойча вялебны... Маці памерла... Сэрца разрываецца... Баюся—кепска граць буду...

КСЁНДЗ. Памятай, Алена, што твой лёс, тваё шчасце залежыць ад тваёй сёнешняй ігры. Маці не паможаш. Я за яе маліцца буду ўсю ноч. А ты набярыся адвагі. На рэпетыцыях ты грала дасканала. Не бойся і сёння—усё будзе добра!

АЛЕНА. Уся калачуся, ойчынька.

КСЁНДЗ.Так добра ведаеш ролю... Дай бог кожнаму з нашых актораў так ведаць...

АЛЕНА. Усе словы з галавы выскакваюць.

Уваходзіць апрануты па святочнаму пан В а ш а м і р с к і.

### II

ВАШАМІРСКІ. Ну, як?

КСЁНДЗ. Страх напаў на нашу Клеапатру.

ВАШАМІРСКІ. А яшчэ царыца, слова гонору! Для харобрасці мы ёй... (*Кіўнуў пакаёўцы. Яна падыходзіць*). Налі віна ў бакал

і падай сюды. (*Пакаёўка налівае. Падносіць*). Мы ёй, Клеапатры, дазволім выпіць венегерскага! Пі, царыца!

Алена бярэ бакал, п'е. Аглядаецца навокал, усміхаецца.

ВАШАМІРСКІ. Цяпер баяцца не будзеш?
АЛЕНА. Не буду...
ВАШАМІРСКІ. Будзь адважнай і гордай!
АЛЕНА. Буду адважнай і гордай...
ВАШАМІРСКІ. Можна спыніць мазурку і папрасіць гасцей сюды?
КСЁНДЗ. Можна!

Вашамірскі выходзіць.

III

Алена падыходзіць да сцяны, дзе ў залатой раме вісіць афіша і чытае па складах:

Сёння.
на імяніны пана Адама Вашамірскага
прадстаўлена будзе
„Царыца Клеапатра"—
п'еса ў адным акце.
У выкананні прыгонных дзевак і хлопаў.
Пасля—балет пад назваю „Усход сонца".
Тыя-ж хлопкі і хлопы.
У канцы—дывертысман пад назваю „Са-ла-вей".
КСЁНДЗ. Хутчэй хадзем, Клеапатра! Хто чытаць навучыў?
АЛЕНА. Я сама...
КСЁНДЗ. Без майго на гэта дазволу?
АЛЕНА. Без дазволу...
КСЁНДЗ. Кепска будзе, як старая пані даведаецца. У яе катэхізісе ёсць якраз супроцьлеглы пункт... Хадзем!

Ксёндз і Алена выходзяць за кулісы.

IV

Уваходзяць усхваляваныя Вашамірскі, Вігорскі, Ядвіга. За імі лёкай у ліўрэі нясе партрэт Александра I.

ВАШАМІРСКІ (*да Ядвігі*). Як гэта забыліся? Яшчэ ўдзень я загадаў зняць Станіслава Аўгуста і на яго месцы павесіць Александра... (*Лёкаю*). Прэндзэй... Прэндзэй...

Лёкай ставіць да сцяны крэсла, знімае адзін партрэт і вешае другі.

ЯДВІГА (*гнеўна*). Не хачу, каб тут вісеў расійскі цар!
ВАШАМІРСКІ. Пані матка... Госці пачуюць...
ВІГОРСКІ. Чым-жа нам пры расійскім Александры горш жывецца? Ён да нас, паноў, такі добры... Ад польскіх соймаў і соймікаў апроч болю ў галаве ад п'янства, нічога няма.

Лёкай нясе за кулісы партрэт польскага караля.

ВАШАМІРСКІ (*да Ядвігі*). Пан губернатар абяцаў мне дзяржаўную пазыку. Паедзе губернатар—зноў павесім Станіслава Аўгуста. Александра пакінем у склепе да чарговай патрэбы. Ды мы, Вашамірскія, і не палякі—з беларусінаў ідзе наш род.

ВІГОРСКІ. Хутчэй, панове, непрыемна... Госці без гаспадара...

Вашамірскі, Ядвіга, Вігорскі выходзяць.

З-за сцэны чуваць:

— Да здравствует, его імператорское велічэство государ імператор Александр Павловіч! Ур-р-а-а!

— Віват! Віват! Віват!

V

З'яўляюцца госці: Вашамірскія, губернатар з жонкаю (у жонкі губернатара букет кветак), Вігорскі ды іншыя: жабо і камзолы, эпалеты і кунтушы, сутаны і дэкальтэ. Госці рассаджваюцца. Зала цягнецца за сцэну з правага боку. Чуваць, як і там рассаджваюцца госці.

ГУБЕРНАТАР (*Вашамірскаму*). Уявіце сабе, мон шэр, мне вельмі імпануе чалавек-птушка—салавей. Эфектна прыдумана. Нідзе яшчэ такой птушкі не бачыў.

ВАШАМІРСКІ. Ежэлі ваша светласць дазволіць мне пераступіць рамкі сціпласці...

ГУБЕРНАТАР. Прашу... прашу, мон шэр!

ВАШАМІРСКІ. Мне належыць пальма пяршынства. Сам прыдумаў чалавека-птушку...

ГУБЕРНАТАР. З такой птушкай можна будзе паказвацца і ў Санкт-Петэрсбургу. Але ведаеце, пан Вашамірскі, паляўнічы пакой пана дасканалы—шмат стрэльбаў і пісталетаў і канюшня ў пана слаўная... Коні найлепшых парод! Я—вялікі аматар на коней. Сівы Пегас напамінае мне бронзавага каня пад Пятромвялікім на беразе Нявы.

ВАШАМІРСКІ. Няхай ваша светласць зробіць мне ласку і гонар і возьме ад мяне напамяць Пегаса...

ГУБЕРНАТАР. Ежэлі-б я знаў, што пан прытрымліваецца каўказскіх абычаяў, ні слова не сказаў бы пра канюшню пана, а то баюся пакрыўдзіць і прымаю падарак...

ВАШАМІРСКІ. Дзякую ад усяго сэрца. У нас на Літве звычаі не горшыя, чым на Каўказе...

ГУБЕРНАТАРША (*нюхае кветкі*). Ах... Ах... якія цветы. У маім цветніку няма такіх...

ІЗАБЕЛА. Кожны тыдзень праз спецыяльнага пасланца буду прысылаць вашай светласці ў вазоніках свежыя кветкі.

ГУБЕРНАТАРША. Мэрсі, мадам Вашамірская. У цветах гэтулькі харастства, паэзіі ..

РЭПЛІКІ ГАСЦЕЙ, (*шэптам*):

— Больш за ўсё мяне цікавіць салавей!

— Трэба ўмець так навучыць чалавека.

— Якая раскоша!

— Колькі ў пана Вашамірскага душ?

— Больш тысячы...

— Пан Вашамірскі можа сабе дазволіць, каб не толькі салаўямі спявалі яго хлопы, але каб мядзведзямі раўлі...

— Ш-ш-ш... Ш-ш-ш...

ГУБЕРНАТАРША. Пакажыце нам скарэй Клеапатру.

ІЗАБЕЛА. Зараз... зараз, ваша светласць...

Пакаёўкі тушаць святло. Удар гонга. Узнімаецца заслона. Егіпецкі пейзаж. Насупраць рымскага патрыцыя стаіць Клеапатра.

РЭПЛІКІ ГАСЦЕЙ:

— О... А...

— Як прыгожа!

— Цудоўна!

— Ох... Ах...

— Пан Адам мае добры густ!..

— Ш-ш-ш... Ш-ш-ш...

VI

АЛЕНА (*дэкламуе, па-новаму акцэнтуе вядомы маналог так, што змест нагадвае сучаснае становішча ў адносінах паміж Вашамірскім і сялянствам*).

О, сціхні, Ніл, пад гімн суровай жрыцы...
І ты, мой сфінкс, Антоні мой, маўчы...
Люблю цябе, услаўлены патрыцы,
Люблю цябе, бы казку далячынь.
Мы прыпадзем да мармура Ізіды,
І на грудзях маіх засне твой Рым.
Гарыць заход, лье кроў на піраміды,
Успыхнем яркім шчасцем і—згарым!

У голасе і руках Алены з кожным радком усё больш пракрадваюцца рысы сялянкі.

Мы кінемся на грань жыцця і смерці...
Мы вызвалім з хаоса цэлы свет!
Ты, як пастух, даруй мне дзівы сэрца,
І акрылі мне мары, як паэт...

*(З агідай і злосцю):..*

Мне дань плыве на караблях, галерах:
Рабы, рабыні, шоўк, парча і лён.
Маю красу цары пяюць на лерах,
Пад ногі мне—рубіны іх карон!

З галавы Алены спадае карона. Рыцар нагінаецца, паднімае карону і адзявае Алене на галаву, хмыкае, смяецца ў кулак.

Я—гордая! Я—вольная, бы сокал!!
Любі мяне—нявольніцай малю...—
А то жуда зірне галодным зрокам—

*(з вялікім пашкадаваннем):*

Я ураджаі Нілам патаплю...

Паглядаючы са сцэны на Вашамірскага і злосна пагражаючы рукой.

І мой народ апоўначы прачнецца,
З тваіх грудзей апошні выме стогн.
Не ўгняві, бо вырву тваё сэрца!
І беззаконнасці мае—закон!

У зале шэпты, хваляванне. Музыка абрываецца. Апускаецца заслона, запальваецца святло. Вашамірскі ўсхвалявана трымаецца за сэрца. Вігорскі нешта шэпча на вуха губернатару, той ківае галавой.

VII

ІЗАБЕЛА. Скандал... Скандал...

ВАШАМІРСКІ (*губернатару*). Пардон, ваша светласць. Перад выступленнем загадаў Клеапатры выпіць віна для харобрасці, вось і...

ГУБЕРНАТАР. Наадварот, мон шэр... яе трактаванне тэксту вельмі цікава... Самыя нявінныя словы, дазволеныя цэнсарам, а голас надаў ім зусім адваротны змест. Небяспечна прасталюдзіну даваць у вусны літаратуру. Ён і царскі маніфест так прачытае, што і валасы дыбам стануць. Хачу яшчэ паслухаць Салаўя... (*Ядвіга бяжыць за кулісы*).

VIII

ВАШАМІРСКІ (*разгублена*). Слухаюся, ваша светласць...

ВІГОРСКІ. Ваша светласць, салавей напэўна праграміць на ўвесь край...

РЭПЛІКІ ГАСЦЕЙ:

— Салаўя!

— Словіка! Словіка!

— Просім!

— Са-лаў-я!

— Ш-ш-ш... Ш-ш-ш...

Цішыня. З-за куліс прарэзвае цішыню працяглы крык болю Клеапатры і голас Ядвігі „Маўчы-ы-ы“... Ядвіга хутка вяртаецца.

IX

ЯДВІГА. Клеапатра дастала, але яшчэ мала...

ГУБЕРНАТАР. Можна было пазней, а то... вельмі непрыемная музыка...

РЭПЛІКІ ГАСЦЕЙ:

— Салаўя!

— Салаўя!

— Салаўя!

X

Удар гонга. Пакаёўкі тушаць святло. На панскай сцэне лес. Музыка. Німфы танцуюць балет. Фавн грае на ўпрыгожаным кветкамі клавесіне. Німфы знікаюць. З'яўляецца С а л а в е й. На ім пышная чорная мантыя з белымі салаўямі. На галаве—лаўравы вянок. У адной руцэ ён трымае галінку з птушкамі, у другой—залатую ліру.

РЭПЛІКІ ГАСЦЕЙ:

— Цудоўна!

— Вышэйшы эстэтызм...

— Фантастычна...

— Хараство...

Пляскаюць у далоні.

У гэты час, каля самых дзвярэй пачынаецца мітусня. Да разгневанага пана Вашамірскага падыходзіць г а й д у к.

XI

ГАЙДУК *(спалохана).* Там—хлопы... З караваем прышлі.

Вашамірскі разгублена зірнуў на жонку.

ІЗАБЕЛА *(губернатару).* Дзядоўскі звычай. Кожны раз каравай на імяніны...

ВАШАМІРСКІ. Пагнаць! Няхай пачакаюць на дварэ.

ГУБЕРНАТАР. Наадварот—папрасіць сюды.

ВАШАМІРСКІ. Дазволіць паднесці сюды каравай.

Гайдук адыходзіць.

XII

ГУБЕРНАТАР. Вельмі мілы звычай. Ідылія... Патрыархальнасць...

ГУБЕРНАТАРША. Ад шчырага сялянскага сэрца... Прыемна паглядзець. Ніколі не бачыла мужыкоў у натуры... *(Са смакам нюхае кветкі).*

Пакаёўкі асвятляюць залу. Панская сцэна застаецца адчыненай. Салавей глядзіць. Ад дзвярэй аддзяляецца група сялян. Наперадзе Язэп. Каспар нясе паднос, пакрыты белым сялянскім абрусам. За ім яшчэ пара сялян, кабет. Яны спыняюцца ля губернатара. У ногі губернатара падаюць сяляне.

XIII

КАСПАР *(на каленях).* Кожны год прыносім пану каравай на імяніны... з нашага ўраджаю... А сёлета—вось ён, ураджай наш! Няхай пан губернатар пабачыць, што нам прыходзіцца есці...

Язэп зрывае абрус зпадноса ў руках Каспара. На драўлянай новай пакрыўцы ад цэбра ляжыць круглы камень. Ад дзіва застываюць твары паноў. Каспар ставіць паднос на стол.

ГУБЕРНАТАР *(у вялікім абурэнні).* Камень?!

РЭПЛІКІ ГАСЦЕЙ:

— Хамства якое!

— Дзікуны.

— Гэта-ж бунт!

— Хлопы камень прынеслі...

— О, божа...

КАСПАР. Бацькам родным будзь... абаронцам... Прымі нас, пане намеснік, пад сваю царскую руку... *(Паўза).* Няма жыцця ад паноў... Нашу вёску разбурылі... Поле стапталі гайдукі... Нас пагналі на камень і пясок...

Сярод гасцей нецярплівасць, хваляванне. Пан Вашамірскі цягне сябе за вусы Ізабела трымаецца за сэрца. Ядвіга шамкае нешта неразборліва. Губернатар не цярпліва ёрзае на крэсле. У губернаторшы падае на падлогу букет кветак. Вігорскі рупна паднімае букет.

СЯЛЯНЕ. Гінем з голаду, пане начальнік... злітуйся! Ратуй нашых дзетак ад пагібелі... Дазволь вярнуцца ў вёску, збудаваную нашымі дзядамі.

СЯЛЯНКІ. Нашых дачок вось гэтаму гіцлю *(паказваюць на Вігорскага)* пан аддаў у падарунак. Ён здзекуецца з іх. У лазні запёр... *(Плачуць)*.

ГУБЕРНАТАР. Што? Мужыкі на свайго пана са скаргай прышлі? Адважыліся? *(Грозна)*. Ведаеце, мужыкі, што вы зарабілі за ўсё гэта?—Катаргу... Сібір... Ідзіце!

Сяляне ўстаюць. Апошнім цяжка ўзнімаецца Язэп.

ЯЗЭП. Глядзі, пан наместнік... Калі ў мужыкоў гарыць агонь, і ў паноў стане дымна!

ГУБЕРНАТАР. Усіх жалобшчыкаў арыштаваць і выправіць ка мне ў горад!

ІЗАБЕЛА. Пардон, ваша светласць... Прашу прабачэння за такую нізасць дзікіх хлопаў...

Сяляне марудна соўваюцца да дзвярэй.

ГУБЕРНАТАР *(у добрым гуморы)*. Дробязь... Мізэры... (*Салаўю*). Ну, ты, птушка салаўінай ці якой там пароды, спявай!

Тушаць святло. Музыка. Салавей маўчыць і глядзіць перад сабой.

ГУБЕРНАТАР. Загадваю! Спявай!

Салавей кідае ліру, галінку, зрывае з сябе плашч.

ГУБЕРНАТАР. Свішчы!!

САЛАВЕЙ *(спакойна)*. Што мне аднаму свістаць? *(Пагрозна)*. Увесь народ як засвішча... Тады... паны як чэрві саўюцца!

ГУБЕРНАТАР (*у вялікім гневе*). Усіх актораў у турму!

Салавей кідае мантыю ў губернатара.

ІЗАБЕЛА *(ускаквае)*. Узяць яго! Закаваць! Згнаіць у цямніцы!

Спалоханыя госці ўзнімаюцца з месц. Грукат крэслаў.

РЭПЛІКІ ГАСЦЕЙ:
— Божа каханы...
— Угасціў пан Адам...
— Імяніны!
— Сорам! Ганьба!
— Уцячэм!
— О Езу салодкі...

Усе выбягаюць за дзверы міма губернатара, які вызваляецца з-пад мантыі Салаўя. Пан Вігорскі з голай шабляй бяжыць на сцэну.

ВІГОРСКІ. Лавіце яго! Лавіце!

САЛАВЕЙ *(знікае за кулісы)*. Лавіце ветра ў полі!

Звон разбітага шкла.

ВІГОРСКІ. Выскачыў праз акно.

Ля дзвярэй стаяць усхваляваныя сяляне, акружаныя гайдукамі.

ІЗАБЕЛА. Пакіньце хлопаў, гайдукі! Лавіць Салаўя!

Усе пакідаюць залу. Астаюцца сяляне. На сцэне валіцца частка дэкарацыі. Адтуль выбягае Алена ў адзенні Клеапатры. Кідаецца на шыю Каспару.

АЛЕНА! Та-а-тач-ка-а!

КАСПАР *(дзівіцца на Алену, пакуль не пазнае)*. Дачушка! Дарагонькая мая царыца...

ЗА СЦЭНАЙ: Лавіце Салаўя! Ла-ві-іце!

Праз вакно ўскаквае ў залу Салавей.

САЛАВЕЙ *(да сялян)*. Захапіць паляўнічы пакой! Там шмат стрэльбаў і пісталетаў... У замку ні жывой душы. Усе „ловяць“ мяне ў парку...

Сяляне бягуць к Салаўю.

ЯЗЭП. Малайчына, Адам! Народ за рэчкай чакае. Зададзім пытлю, панам!.. Хадзіце, маткі, вызваліце сваіх дачок з запертай лазні... Усе ў парку Салаўя шукаюць. Пры лазні ні жывой душы. Выбіце там вокны!

СЯЛЯНКІ. Дачушак вызвалім... *(Выбягаюць)*.

САЛАВЕЙ. Скамарохі, сюды!

З-за куліс з'яўляюцца акторы.

ВОЙТАВА ДАЧКА. Што вы робіце? Пабягу, пану скажу!

ЯЗЭП *(хапае за руку войтаву дачку)*. А ты, панская сучка! У сажалку яе!

Усе бягуць за Салаўём. Апошнім Язэп цягне з сабою войтаву дачку. Пусцее зала.

За сцэнай голас Салаўя:

— Як захопім стрэльбы ды пісталеты, пан Адам запяе салаўём перад хлопам Адамам... Са зброяй у парк!

### *Сёмая карціна*

Панскі парк. Ноч. У глыбіні парка цішчакі страляніны. Крыкі. Узброеныя стрэльбамі прыбягаюць Язэп і Салавей.

ЯЗЭП. Шкада, што губернатар уцёк.

САЛАВЕЙ. За тое госці бадай усе засталіся. Спяць вечным сном у панскім парку.

ЯЗЭП. А нашых паноў жыўцом злавілі, як я загадаў. Вось сюды іх вядуць.

Сяляне, узброеныя стрэльбамі ды пісталетамі, вядуць Вашамірскага, Ядвігу, Ізабелу, Вігорскага, ксяндза.

II

ВАШАМІРСКІ. Кожнае дрэва ў маім парку шыбеніцай стане для вас.

ІЗАБЕЛА. Мільч... Мільч, Адась...

Група людзей у парку крычыць:
— На суд народу!
— Падавай нашых паноў!
— Пано-о-оў!
ЯДВІГА. Усё, што хочаце—вазьміце, толькі пакіньце нас жывымі.
ЯЗЭП. Нічога не возьмем, апрача панскіх галоў.
САЛАВЕЙ. Перад тым, як дрэвы ў парку стануць для нас шыбеніцамі, хачу, каб пан Адам вычвараў перад хлопам Адамам усе тыя фокусы, якія мне прыходзілася вычвараць перад панамі. (*Вашамірскаму*). Можаш, пан Адам, выратаваць усё сваё атроддзевый, пан, Адам, ваўком! Спявай, пан Адам, салаўём! Кукуй, пан Адам, зязюляй! (*Салавей цягне Вашамірскага за каўнер*). Ну! Кукуй! (*Штурхае яго ў спіну*). Кукуй!
ВАШАМІРСКІ (*нібы кашляе*). Кху-кху! Кху-кху!

Смех сялян.

ІЗАБЕЛА (*Вашамірскаму*). Мільч, Адась, мільч...
САЛАВЕЙ. Бог адным толькі талентам адарыў паноў—народ мардаваць...

З'яўляецца грамада з віламі, косамі, сякерамі, вымагае:

— На суд народу!
— Паноў сюды!
— Па-но-о-оў!

III

— Біць іх бізунамі!
— Іхнія азадкі з такога-ж мяса, як і нашыя!

Дзве жанчыны паказваюць на Вігорскага.

— Гэта табе ў падарунак пан нашых дачок аддаваў?
— А вось табе наш мужыцкі падарунак! Вось!

Яны плююць Вігорскаму ў твар.

ДЗЕД. Увесь народ меў ад вас, лютых, гэтулькі гора, што і не пералічыш. Ай-яй-яй!
КАСПАР. А паноў зусім жменька... Жменечка, якую можна во, як слімакоў, раздавіць пальцамі!
ЯЗЭП. Даволі! Хутчэй пакончым!

Паны шэпчуць малітвы.

З грамады зноў рынуліся на паноў:
— Лупцаваць!
— Душыць!
— Рэзаць!
— Голых у муравейнік, як яны нас!
ЯЗЭП (*строга*). Не трэба! Мы—коратка! Вось гэтым! (*Паказвае зброю*). Да сажалкі!

Паноў уводзяць у глыб парка.
З аддалю чуваць стрэлы ды ўскрыкі.

ЯЗЭП. Нашых пала дзесяць чалавек—і Каспар і Алена...

Салавей ўздрыгануўся.

САЛАВЕЙ (*голасна*). На панскіх коняй ды ў лес!

Чуваць песня грамады:

Села, пала цёмна ночка
На лугі, дарогі.
Будзем пана мы судзіць—
Суд учынім строгі!
Села, пала цёмна ночка
На лясы дубровы,
Будзем косамі касіць
Панскія галовы!

Зарава пажара ахапляе парк. Салавей і Язэп усміхаюцца.

ЯЗЭП. Панскі замак нам дарогу асвятляе.

САЛАВЕЙ. Хадзем, Язэпка! Лясы вялізныя, густыя... Адтуль да паноў даляцяць мае салаўіныя песні!

Язэп і Салавей уходзяць. Зарава пажару становіцца ярчэй. Чуваць салаўіны свіст.

ЗАСЛОНА

# *Дутарыст*

**А. БУРДЗЕЛЬ**

> Отряд не заметил
> Потери бойца
> И—„Яблочко" - песню
> Допел до конца.
>
> М. СВЯТЛОЎ

I

Здрыгануўся на чынарах ліст,
Стрэл забойцы нечакана грымнуў.
Чайхана, ў жалобе ліхтары,
Ён ляжыць і крылле рук раскінуў,
Гэта ён—вядомы дутарыст
Скрозь усю Ферганскую даліну.

II

Песня, песня, за вяршыні гор
Адляцела, нібы ветраў шумы!
Што апалі, не падняць тых зор,
Не спяваць яму пра каракумы,
Малады, цяністы уруказор,
Не спяваць бавоўнаробаў думы.

III

А бывала, прадрыжыць струна
Пад вячэрняй шапкаю чынараў—
Застывалі фарбы кавуна,
Не мільгалі ў люстрах самавараў,
Слухалі дэкхане, чайхана
Гаманіла струнамі дутара.

IV

Слухалі, як водгукі былін
Блізкія імёны услаўлялі
І калі з абводненых нізін
Ранішнія туманы ўставалі,
З дутарыстам весела ішлі
Ў бавоўняна-сонечныя далі.

V

Пачыналася з усіх бакоў
Паплыўкамі чорных цюбецеяк,
Сунулася ў зелень кішлакоў

Цёплымі сумётамі завея,
Рушыўся чаргой грузавікоў
Снег бавоўны да імклівых рэяк.

VI

Песня, песня, сіл колькі ў табе
Калі станеш мужнай, баявою?
Ты ўздымаеш радасці і гнеў,
Ты вядзеш брыгады за сабою,
Ты ўстаеш як дзень над галавою,
Рокат наваколля—твой запеў.

Тлумачэнне слоў:

Дутар—двухструнны музычны інструмент.
Чайхана—чайнае памяшканне—любімае месца адпачынку узбекаў.
Уруквор—уручны сад.
Каракумы—чорныя пяскі.

# *Я чую твой голас здалёку*

МІКОЛА СЕМАШКА

Я чую твой голас здалёку,
мой родны знядужаны брат.
То ціхі, то грозны, як рокат,
Як гул баявых барыкад.

Прастораў мінаючы нетры,
дарогамі гор тых крутых
нясуць яго дужыя ветры
сюды праз калючкі-драты.

Прыходзіць ён, гневам наліты,
з далёкіх чужых берагоў...
Ступаеш ты, горам прыбіты,
скрываўленай босай нагой

па горада пыльнаму бруку,
галодных ускраін глухіх,
на ўсход прасціраючы рукі
на дальні глядзіш небасхіл.

Дзе песняй, як вечнасць, бясконцай
багаты прасторы зямлі,
дзе гэтулькі смеху і сонца,
і радасці—цэлы разліў.

І пэўна не спіш ты начамі
на хвалях раздум'яў ракі
і мары, як сябраў, страчаеш
аб краі шчаслівым такім.

Дзе ў сэрцах мільёнаў сагрэты,
як сонца, на цэлы сусвет,
паўстаў над сівою планетай
праслаўлены ў песнях паэтаў
вялікі тварэц—Чалавек.

І ты яго імя, я знаю,
як мудрасць у сэрцы збярог.
Ты пэўне яго называеш,
ты сэрцам яго спатыкаеш
з вячэрняй і ранняй зарой.

Таго, хто у велічы грознай
над шостаю часткай зямлі
з'яднанай сям'ёй шматмільённай
комуны маяк запаліў.

Таго, чыё мудрае слова
агнём нерастрачаных сіл,
заве чалавецтва да новых
вялікіх і слаўных вышынь.

Таго, аб кім шчырыя песні
народы складаюць-пяюць,
хто здолеў праз годы пранесці,
другім беражліва данесці
любоў і нянавісць сваю.

# *Запаветны томік*

**АЛ. МІРОНАЎ**

1

Надзвычай добра абсталяваны, утульны і камфартабельны прыгажун — „Чэлюскін“ меў добрую бібліятэку. Так павялося ўжо з самага выхаду з Мурманска, што дабраахвотны бібліятэкар-метэаралог Ольга Нікалаеўна Комава штодня на гадзіну адчыняла кніжныя шафы: пачынаўся абмен кніжак. Чырвоны куток судна напаўняўся чытачамі. Ольга Нікалаеўна акуратна запісвала ў сшытак усіх, хто браў што-небудзь з бібліятэкі.

— Улік патрэбен,—казала яна.—Інакш разберацe кніжкі па каютах, потым самім-жа чытаць нечага будзе...

... А чыталі шмат, чыталі ўсе. Пачынаючы ад Отто Юльевіча да печніка дзядзькі Ашці Берэзіна, які толькі на „Чэлюскіне“, на спецыяльных курсах пазнаў грамату,—кожны меў у бібліятэцы сваю ўлікавую картку. І ў час рэйса, а пазней на зімоўцы, доўгімі, поўнымі завываннеяў пургі вечарамі, чэлюскінцы з глыбокай удзячнасцю ўспаміналі грамадскія і партыйныя арганізацыі Ленінграда, якія надарылі экіпаж судна цудоўнай бібліятэкай.

Ольга Нікалаеўна Комава была асаблівым бібліятэкарам. Яна не проста мяняла кнігі—не: яна ведала кожнага чытача, і ўмела выбраць кнігу, ад якой ён прыходзіў у захапленне. Асабліва чула ставілася яна да людзей, неспрактыкаваных у выбары кніг: будаўнікоў і каманды.

Комава любіла Пушкіна, яна ўмела перадаць сваю любоў чытачам, выбіраючы з масы рознастайных і шматгранных твораў геніяльнага паэта тое, што болей за ўсё магло імпанаваць ім сваёй тэмай, зместам, характарам герояў. Адзінага разу пазнаёміўшыся з Пушкіным, матрос і цясляр, качагар і печнік, прыходзячы ў бібліятэку, прасілі:

— Мне-б з Пушкіна што. Надта добра ён піша.

Інакш не магло і быць: Пушкіна чытаеш запоем, усе творы, а некаторыя—нават па два і па тры разы. Пра кнігі яго ўспамінаеш з любоўю, з замілаваннем, як пра блізкае і дарагое ва ўласным жыцці.

... Аднойчы да мяне ў каюту зайшоў качагар Валя Паршынскі. Звычайна бадзёры, жыццерадасны, ён цяпер быў устурбаваны і сур'ёзны.

— Заняты ты?—спытаў ён, прысаджваючыся на канапу.

— Не, чытаю „Гаўрыліаду“. А што?

— Я таксама цяпер чытаў Пушкіна,—Валя крыху тужліва паглядзеў на мяне.—І не магу зразумець: як дазволілі гэтаму Дантэсу ўгробіць яго?

— А табе шкада Пушкіна?—зусім не да рэчы спытаў я. Паршынскі нават падскочыў ад нечаканасці. Нахіліўшыся да мяне ён злосна, напоўшэптам, нібы адчытваючы мяне за незаслужаную крыўду, загаварыў:

— А табе не шкада? Што, многа такіх, як Пушкін, рассыпана па старонках гісторыі? (Я шчыра здзівіўся, пачуўшы ад яго гэтую прыгожую фразу. Валя не вызначаўся арыгінальнасцю і дасканаласцю ў выразах). Ён-жа адзін такі ва ўсім свеце быў, наш Пушкін. Разумееш? Адзін! І раптам слізняк, плявок нейкі, лакіраваны французік пальнуў у яго з браскучкі—і Пушкіна не стала... Зразумець не магу, як магло здарыцца гэта, чаму не шлёпнулі Дантэса, чаму не перашкодзілі дуэлі?... Вось ужо колькі дзён гэта мучыць мяне...

Мы доўга гутарылі з Валенцінам тую ноч. За ілюмінатарам шалёна бушавала пурга. Ля бартоў судна, нібы папярэджваючы пра блізкую катастрофу, скрыпелі і скрыгаталі ільдзіны. Над караблём, над бяскрайнімі прасторамі Арктыкі пластаўся трывожны спакой. Па палубе глуха пастуквалі мерныя крокі вахценнага.

Мы гутарылі забыўшыся на ўсё. Я расказваў сябру-качагару пра сапраўднага забойцу Пушкіна—пра нягодніка Нікалая першага, пра тую цяжкую, змрочную атмасферу самаўладнага дэспатызму, у якой барацьбіт-адзіночка Пушкін інакш памерці і не мог.

— Гады, гады праклятыя,—шаптаў Валька.—Цяпер я разумею: Пушкін перашкаджаў ім усім—і цару і своры яго. Ім патрэбна была яго пагібель. Значыць Дантэс—гэта толькі рукаятка царскага пісталета?

— Ты праў: Дантэс прывёў у выкананне патаемны прысуд цара. І калі-б не Дантэс...

— Яго забілі-б другія,—перабіў качагар. Ён устаў. Да вахты заставалася ўсяго тры гадзіны, а нам абодвум патрэбен быў адпачынак—перад работай. Ён моўчкі пацісну мне руку і вышаў з каюты. Але ў дзвярах азірнуўся:

— Мне-б сюды іх,—глуха сказаў ён, так сціснуўшы кулак,—што ён ажно пасінеў.—І Дантэса, і Нікалайку... у-ух!..

2

13 лютага загінуў параход „Чэлюскін". Мы пасяліліся на лёдзе.

Вынікі двухгадзіннай аўральнай працы ў часе катастрофы сказаліся з першых-жа дзён лагернага жыцця: мы мелі ўсё неабходнае для працяглага чакання самалётаў. Але ў першыя-ж дні стала вельмі адчувальнай адсутнасць кніжак: мы абжыліся на лёдзе, і кожнага пацягнула да любімага занятку ў вольны час—чытання.

А кніг не было: пра іх успомнілі толькі на лёдзе.

Лёгка ўявіць радасць, якая ахапіла ўсіх нас, калі намеснік начальніка экспедыцыі па навуковай частцы Ілья Леанідавіч Баеўскі ў

сваім рэчавым мяшку, сярод неабходных на выпадак аварый рэчаў, адкапаў томік Пушкіна. Шчасліва ўсміхаючыся, ён бегаў па палатках, не толькі паказваў, але і даваў патрымаць, пагартаць старонкі сваёй каштоўнай знаходкі.

— Пушкін, бачыце? Сапраўдны Пушкін!—казаў ён.

Таварышы ўсміхаліся цёпла і крыху разгублена: так усміхаюцца сябру, на спатканне з якім зусім не спадзяваліся і сустрэлі раптам, выпадкова.

Гэта быў сапраўдны пушкінскі томік: трэці том збору твораў Пушкіна апошняга выдання ОГИЗ'а.

А калі пісьменнік Сяргей Сямёнаў, перабіраючы сваю вопратку, знайшоў у адной кішэні „Пана“ Кнута Гамсуна ў прыгожым выданні, мы жартаўліва пачалі называць свае кнігі „лёдавай бібліятэкай“. Хутка да бібліятэкі далучылася трэцяя частка „Ціхага Дона“ М. Шолахава, якую знайшоў штурман Маркаў сярод выратаваных ім навігацыйных інструментаў. Фізік Факідаў падняў на лёдзе выкінутую некім—„Песню пра Гайавату“ Лангфело. Прыбіральшчыца Вуркова знайшла раман Пісемскага „Людзі саракавых гадоў“.

Кнігі чыталі адразу некалькі чалавек: удваіх, утраіх, блізка схіляючы галовы адзін да аднаго, знарок павольна, для большага задавальнення.

Наладжвалі і калектыўныя чыткі: яны пачаліся ў маленькай групе таварышоў, але хутка перараслі ў гучную чытку ўсяго барака.

Адным з самых папулярных людзей лагера стаў Ілья Леанідавіч Баеўскі. Яго заўзята, наперабой запрашалі ў госці з адной палаткі ў другую, але запрашаючы заўсёды дадавалі:

— Толькі, калі ласка, захапіце Пушкіна.

Баеўскі ахвотна выконваў просьбу. Крыху грузны і павольны, ён пралазіў у вузкія дзверы палаткі.

Яму загадзя падрыхтоўвалі „крэсла“: скрынку або кавалак бервяна. Баеўскі ўсаджваўся, праціраў пенснэ, і, зрываючы ільдзінкі з маленькіх англійскіх вусікаў, запытваўся:

— На чым мы спыніліся?

Нам пашчасціла: выратаваны томік уключаў усе паэмы, апрача „Еўгенія Онегіна“. Ён змяшчаў вялікае багацце паэтычнага даравання Пушкіна і абяцаў шмат радасных, запоўненых вечароў...

— Здаецца, у вашай палатцы мы скончылі „Руслана і Людмілу“?—з выглядам педагога пытаў Баеўскі.—Сёння прачытаем паэму „Медны коннік“...

... Гэта была звычайная палатка, дванаццаць жыхароў якой аб'ядналіся для сумеснага жыцця па вытворчаму прынцыпу: матросы, два вадалазы, суднавы цясляр і боцман. Усе яны былі не спакушаны ў літаратуры, шмат з іх толькі на „Чэлюскіне“ пазнаёміліся з творамі Пушкіна. І ўсё-ж Баеўскі не крыўдзіўся на слухачоў: лепшую, болей уважлівую аўдыторыю наўрад ці знайшоў-бы нават сярод дасканалых цаніцеляў мастацтва. Баеўскі мог чытаць гадзіну, дзве, тры, а людзі амаль не варушыліся, ловячы кожную фразу, кожнае слова. Людзі жылі, адчувалі, змагаліся ра-

зам з героямі паэта, іх захаплялі непаўторныя радкі вершаў, сіла і ўпэўненасць якіх у шмат разоў павялічваліся майстэрствам чытальніка.

Баеўскі чытаў надзвычай добра. У яго перадачы Пушкін прымушаў забыцца і на льдзіну, і на шаленства пургі за тонкімі сценкамі палаткі, і на няўдалыя спробы самалётаў. Ды і ці пурга гэта выла? Ці, можа...

... Ужасный день!
Нева всю ночь
Рвалася к морю против бури,
Не одолев их буйной дури...
И спорить стало ей невмочь...
Но силой ветров от залива
Перегражденная Нева
Обратно шла гневна, бурлива,
И затопляла острова;
Погода пуще свирепела,
Нева вздувалась и ревела,
Котлом клокоча и клубясь,
И вдруг, как зверь, остервенясь,
На город кинулась...

Здавалася, што гэтыя радкі з „Меднага конніка“ напісаны спецыяльна пра пагібель „Чэлюскіна“. Гэта-ж не важна, што наш карабль загінуў не на Неве, а ў далёкім Чукотскім моры. Ён загінуў, расціснуты стыхіяй, ільдамі. Ён паў, „не одолев их буйной дури“... І вершы, якія прыводзілі ў захапленне сваёй яркасцю, яшчэ болей вдзіўлялі слухачоў падабенствам з тым, што адбывалася з намі.

Людзі сядзелі зачараваныя і крыху разгубленыя. Са стройных, гарманічных радкоў перад вачамі кожнага з новай сілай узнікала карціна пагібелі нашага карабля... І калі Баеўскі, закончыўшы чытанне, асцярожна закрываў кнігу, у палатцы доўга яшчэ стаяла непарушная, усхваляваная цішыня.

Баеўскі ішоў у барак—дамоў. За ім цягнуліся шмат хто і не дарма: у бараку, зважаючы на просьбы, Ілья Леанідавіч зноў чытаў „Меднага конніка.“ Часам асцярожна перарываючы, яго прасілі паўтарыць некаторыя радкі. Кожны слухаў, бачыў, адчуваў, як бурліва клакоча раз'юшаная Нева, вырываючыся з берагоў. „Котлом кло-ко-ча и клу-бясь“,—як шалёны звер, „остервенясь“, яна кідаецца на горад.

... Потым ашалелыя ільды разарвалі, разбурылі барак. Жыццё перайшло ў палаткі. Вечарамі, стомленыя цяжкай працай на аэрадроме, мы чакалі Баеўскага. У чарговую палатку, дзе ён выступаў у гэты вечар, да немагчымага набіваліся госці і варта было Баеўскаму прымайстравацца на крэсле, і працерці пенснэ, як усталёўвалася ўрачыстая цішыня. Баеўскі чытаў. Чытанне суправаджалася ўздыхамі, захопленым пакрэктваннем слухачоў. І раптам, знадворку, з густа-сіняй начной цішыні чуўся просячы воклік:

— Леанідыч, чытайце гучней: нам дрэнна чутна.

Гэтаму не здзіўляліся: шмат хто з таварышоў, не змясціўшыхся ў палатку, часта збіраліся слухаць Пушкіна знадворку, за тонкімі сценамі яе. У спакойную мову чытальніка зрэдку ўрывалася паскрыпванне снегу пад асцярожнымі крокамі.

Баеўскі заражаўся хваляваннем людзей, якія ўпершыню і ў такіх незвычных абставінах знаёміліся з творамі Пушкіна. Ён бачыў імкненне цесляроў, матросаў, качагароў, да пазнання вялікага паэта, іх прагу не толькі пачуць, але і вывучыць асобныя, найболей прыгожыя месцы з „Барыса Гадунова“, або „Меднага конніка“. І найвялікшай радасцю для нашага чытальніка было, калі аднойчы на змярканні, гуляючы па лагеры, ён пачуў з палаткі будаўнікоў голас аднаго з цесляроў, які гучна дэкламаваў:

В пространстве пасмурной дали
Все мертво. Снежныя равнины
Коврами яркими легли,
Стоят угрюмых гор вершины
В однообразной белизне.
И дремлют в вечной тишине:
Кругом не видно дымной кровли,
Не видно путников в лесах,
И звонкий рог веселой ловли
В пустынных не трубит горах.

Баеўскі слухаў, баючыся павярушыцца, скрыпам снегу пад нагамі спалохаць дэкламатара. Цясляр чытаў так, як некалькі разоў чуў чытанне Баеўскага. Ён пераймаў яго інтанацыю, нават голас імкнуўся падвесці пад яго. І ўсё-ж гэта быў Пушкін, пушкінскія вершы, бадзёра упэўнена гучэўшыя ў раннім арктычным змроку, сярод безгранічных палярных ільдоў, па тонкай белай корцы, пад якой ляжала сямідзесяціметровая глыбіня халоднага Чукотскага мора. У вуснах цесляра вершы Пушкіна ператвараліся ў гімн чалавечай упартасці, смеласці, мужнасці,—ператвараліся ў выклік палярнай стыхіі—вялікай Белай Цішыні. Хаця, цішыні не было: нават уначы, калі спаў увесь лагер, гэтая цішыня адступала перад вахценным, які ахоўваў наш маленькі пасёлак, перад багатырскім храпам спакойных за свой лёс, але стомленых цяжкай дзённай працай людзей. А ўдзень пра цішыню не магло быць і гаворкі, удзень звінелі песні, трашчалі і са звонам расколваліся торасы на аэрадроме пад ударамі пешняў і ломаў. Вечарамі над лагерам насілася музыка факстротаў громаўскага патэфона і ўрачыста, строга гучалі пушкінскія радкі.

Моладзь, якая складала большую частку экіпажа „Чэлюскіна“, вельмі любіла ранняга Пушкіна. „Руслан і Людміла“, „Бахчысарайскі фантан“, „Каўказскі нявольнік“—гэтыя творы таварышы гатовы былі слухаць шмат разоў. У іх падабаліся і захаплялі і рамантызм, і героіка, і багатая фантазія. Яны былі блізкія і зразумелыя ўсім сваёй народнасцю,—песнямі, былінамі, казкамі, якія багата напаўнялі паэмы і былі памятнымі шмат каму яшчэ з дзяцінства.

## 3

13 красавіка 1934 года з карты арктычных мораў знікла кропка, якая абазначала на іх лагер Шмідта. Разам з усімі чэлюскінцамі, разам з навуковымі запісамі, прыладамі, інструментамі на мацярык, на Вялікую зямлю выляцеў Пушкін.

Мы ў Ванкарэме не затрымліваліся: тут было мала яранг, людзі, прыляцеўшы з лагера, разбіваліся на партыі і адпраўляліся на ўсход—у Уэллен. Частка—болей слабыя—ляцелі на самалётах. Частка—ішлі пешшу, суправаджаемыя сабачымі ўпражкамі. Томік Пушкіна паехаў з Ванкарэма на сабаках, яму, як і ўсім пешаходам, трэба было зрабіць пераход у пяцьсот кілометраў.

Я дагнаў Пушкіна ў Чукотскім стойбішчы Энурмын, на мысе Сэрца-Камень. Тут жыў і працаваў настаўнікам рускі комсамолец Федзя Зорын—ён-жа ўпаўнаважаны тройкі па выратаванню чэлюскінцаў. У яго руках я знайшоў пушкінскі томік, вечарам на восьмы дзень шляху зайшоўшы ў прызначаную для нашага прыпынку ярангу. Я нават пакрыўдзіўся: усе мы страшэнна стаміліся, без адпачынку, без ежы прайшоўшы семдзесят кілометраў за дзень; мы ўваліліся ў Ярангу, з марамі пра гарачы чай, пра груды мяса, якое дыміцца парам і мяккія шкуры для сну,—а заместа гэтага засталі ўпаўнаважанага Зорына, мірна пачытваючага кніжыцу... Але, калі ў кніжцы мы прызналі нашага старога сябра і выпрабаванага спадарожніка—пушкінскі томік, мы даравалі Федзю яго няўважлівасць: Федзя быў малады, ён любіў вершы, а з іх больш за ўсё Пушкіна. Мы моўчкі апусціліся на шкуры і ветліва чакалі, пакуль у вачах упаўнаважанага згасне паэтычнае захапленне і яны асвецяцца болей патрэбнай у гэтую хвіліну для нас дзелавітай прозай.

Федзя Зорын слаўна пачаставаў нас у той вечар. Мы адпачылі, упершыню добра вымыліся і нават пачысцілі зубы. А праз некалькі дзён, развітваючыся з мілым і клапатлівым Федзем, мы развіталіся і з дарагім, толькі нядаўна незамянімым для нас томікам Пушкіна: Пушкін астаўся ў Энурмыне, на Чукотцы, у школе на мысе Сэрца-Камень, у настаўніка Зорына. Інакш і быць не магло: грэшна забіраць нават блізкага сябра адтуль, дзе ён болей патрэбен, чым на Вялікай Зямлі.

— Ён дапамагаў вам праводзіць час у вашым двухмесячным палоне,—казаў Федзя Зорын. — Ён дапаможа мне пражыць тут сваю зіму і стане такім-жа другам для чукчаў, які быў і для вас.

Федзя не хлусіў і не хваліўся. Перад гэтым, позна ўначы я чуў, як Федзя чытаў рабятам школьнікам-чукчам—Тынано, Бену і Вакатры:

> За ним несется всадник медный
> На звонко скачущем коне...

перакладаючы радок за радком на чукоцкую мову і з дапамогай алоўка і кавалка паперы растлумачваючы што такое „конь“ (малюнак, які аддалена нагадвае каня) і што такое „коннік“*.

Мы паехалі, развітаўшыся з Пушкіным. На тытульным лістку кнігі я напісаў некалькі цёплых і ласкавых удзячлівых слоў выпадковаму сябру Федзю Зорыну і кожны з нас, развітальна патрымаўшы ў руках запаветны томік, распісаўся пад надпісам.

* На Чукотцы коней няма. Каня тут замяняюць сабакі.

У 1934 годзе, на першым Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў выступаў начальнік экспедыцыі на „Чэлюскіне“ акадэмік О. Ю. Шмідт. Ён, між іншым, сказаў:

— „... Пушкін не меў непасрэднага дачынення да ільдзіны і да будаўніцтва соцыялізма“...

І усё-ж, не маючы, „непасрэднага дачынення“ ён рабіў вялікую палёгку ў нашым цяжкім жыцці на дрэйфуючай ільдзіне, скарачаў доўгія пурговыя дні і вечары, ствараў такую жаданую утульнасць вялікай зямлі.

Ён не толькі прымірау нас з цяжкімі абставінамі лагернага жыцця, але і, кажучы словамі цудоўнага чытальніка яго—І. Л. Баеўскага— „рэгулярнае чытанне пушкінскіх старонак нейкімі асаблівымі штрыхамі характарызавала наш калектыў, які мужна і стойка ўмацоўваў вартасць сваёй соцыялістычнай радзімы перад вачыма здзіўленага свету“.

Архангельск.
Снежань 1936 г.

# *Грамадска - палітычныя матывы ў творчасці А. С. Пушкіна*

*(Да звароту з ссылкі)*

Я. ШАРАХОЎСКІ

Товарищ, верь: взойдет она
Звезда пленительного счастья,
Россия вспрянет ото сна,
И на обломках самовластья
Напишут наши имена.

*А. ПУШКІН „К ЧААДАЕВУ"*

Сто год таму назад пад уплывам няспынных ганенняў і праследванняў з боку царызма трагічна загінуў на дуэлі вялікі рускі паэт А. С. Пушкін. Яго геніяльныя творы сярод іншых лепшых здабыткаў чалавечай думкі і мастацкай творчасці законна належаць грамадству, ствараючаму соцыялізм. Совецкая сучаснасць дае вялікія магчымасці чалавеку. Але мы не павінны забываць, што здабыць гэтыя магчымасці краіна здолела на аснове шляху ўжо пройдзенага чалавецтвам і ў сэнсе развіцця прадукцыйных сіл і ў сэнсе вопыту рэволюцыйнай барацьбы і ў сэнсе накаплення культурных вартасцей. Для нашага будучага мы не павінны забываць мінулага. Калі мы звяртаемся да вывучэння класічнай літаратурнай спадчыны, то часта можам бачыць, што на лёсе і дзейнасці вялікіх пісьменнікаў мінулага, якія мелі сілу і адвагу ўзнімацца вышэй свайго часу, з асаблівай сілай сказвалася дзеянне рэакцыйных сіл, якія стрымлівалі гістарычнае развіццё чалавечага грэмадства. Гэта асабліва стасуецца да лёсу і творчасці А. С. Пушкіна—першага рускага паэта, які заняў рэзка адмоўную пазіцыю ў дачыненні да рускага самадзяржаўя і тым самым пачаў слаўную традыцыю барацьбы супроць яго, якую пасля так бліскуча працягвалі рэволюцыйна-дэмакратычныя прадстаўнікі рускай літаратуры і якая яшчэ пазней скончылася перамогай соцыялістычнага пролетарыята. Значэнне Пушкіна для нашай сучаснасці асабліва вялікае тым, што ён з геніяльнаю сілаю выразіў у сваёй творчасці передавы, рэволюцыйны светапогляд свайго часу.

Пушкін пачаў пісаць вельмі рана. У сям'і яго бацькоў цікавіліся літаратурай і яшчэ да паступлення ў ліцэй Пушкін спрабаваў пісаць вершы на французскай мове, камедыі пад уплывам Мальера і інш. У ліцэі, куды паэт паступіў у 1811 г. па ракамендацыі А. І. Тургенева, ён пісаў ужо многа, у ліцэі-ж ён і сфармаваўся як паэт. У ліцэйскі перыяд Пушкін спачатку пісаў у плане наследвання тагочаснай французскай паэзіі і Бацюшкову, але ўжо вельмі скора ў яго вершах выявіўся самастойны талент. Яшчэ будучы ліцэістам Пушкін пачаў друкавацца ў часопісах. Першым яго надрукаваным вершам быў верш „Да друга-паэта", змешчаны у № 13

„Вестника Европы“ за 1814 год. Гэта быў першы верш Пушкіна з сур‘ёзным і глыбокім зместам. У ім паэт выяўляе сур‘ёзныя адносіны да літаратурнай справы і да ролі літаратуры ў жыцці.

Арист, не тот поэт, кто рифмы плесть умеет
И, перьями скрипя, бумаги не жалеет,
Хорошие стихи не так легко писать...

Ён папярэджвае паэта, да якога звяртаецца ў вершы, што паэтычная слава, літаратура, не прыносяць багацця і на гэта спадзявацца няма чаго. Займаючыся літаратурай не будзеш хаваць чырвонцы ў жалезных сундуках і лежачы на баку спакойна есці і спаць.

Не так, любезный друг, писатели богаты;
Судьбой им не даны ни мраморны палаты,
Ни чистым золотом набиты сундуки:
Лачужки над землей, высоки чердаки—
Вот пышны их дворцы, великолепны залы.

Пушкін прыводзіць прыклады таго, як вельмі вядомыя паэты і пісьменнікі паміралі ў вялікай беднасці. Ён паказвае на Руссо, Камоэнса і інш. Калі хочаш жыць „без горя, без заботы“ не займайся літаратурай, бо жыццё літаратараў „ряд горестей, гремяща слава—сон“. Канцоўка верша зноў-такі падкрэслівае, што заняткі літаратурай—справа неспакойная. Матывы гэтага верша надзвычай характэрны ў сэнсе выяўлення адносін Пушкіна-ліцэіста да літаратурнай справы. Але гэтыя матывы маюць і больш шырокае значэнне. Трэба мець на ўвазе, што Пушкін фармаваўся ў ліцэі не толькі як паэт, але і як чалавек з пэўнымі поглядамі на жыццё, з пэўным светапоглядам. Гэтыя погляды не маглі не знаходзіць свайго выяўлення ў ліцэйскай творчасці паэта. І сапраўды ў матывах ліцэйскіх вершаў паэта можна знайсці ў зародкавай форме элементы будучай ідэйнай накіраванасці творчасці Пушкіна.

Сваімі вершамі Пушкін з цягам часу заваёўваў усё большую павагу сярод ліцэйскіх таварышоў, якія пачыналі бачыць у ім сапраўднага паэта. Скора адбылася падзея, якая яшчэ больш узняла Пушкіна ў іхных вачах і якая з‘явілася важным этапам у сэнсе агульнага прызнання Пушкіна. 8-га студзеня 1815 г. у ліцэі адбываўся публічны экзамен (пры пераходзе з малодшага на старэйшы курс), на якім прысутнічаў вядомы рускі паэт XVIII века Гаўрыла Рамановіч Дзержавін. Пушкін паводле парады выкладчыка ліцэя А. І. Галіча падрыхтаваў да гэтага ўрачыстага дня верш „Успаміны ў Царскім сяле“. Верш быў напісан у стылі патрыятычных од Дзержавіна. Стоячы ў двух кроках ад Дзержавіна, Пушкін пачаў чытаць свой верш. Пра гэты момант Пушкін пасля ўспамінаў: „Нарэшце выклікалі мяне. Я прачытаў мае ўспаміны ў Царскім Сяле, стоячы у двух кроках ад Дзержавіна. Я не ў сілах апісаць стан душы маей: калі я дайшоў да радка, дзе ўпамінаю імя Дзержавіна, голас мой па-юнацку зазвінеў, а сэрца маё забілася ў чароўным захапленні. Не памятаю, як я скончыў сваё чытанне; не памятаю, куды уцёк. Дзержавін быў у захапленні: ён мяне патрабаваў, хацеў абняць... мяне шукалі, але не знайшлі“. Праслухаўшы верш, Дзержавін усклікнуў:—„Вось хто заменіць Дзержавіна!“ Дзержавін як бы перадаў

Пушкіну правы на першынство ў паэтычнай творчасці. Гэты момант урэзаўся у памяць Пушкіну на ўсё жыццё, ён заўсёды ўспамінаў пра яго, як пра адзін з лепшых момантаў у сваім жыцці. У пачатку восьмай главы „Евгения Онегина“ ён, напрыклад, пісаў:

... Успех нас первый окрылил
Старик Державин нас заметил
И в гроб сходя, благословил.

Пасля наведвання ліцэя Дзержавіным паэт пачаў прыцягваць ўсё большую ўвагу вядомых пісьменнікаў таго часу. На яго глядзелі з спадзяваннямі, бачачы ў ім будучага вялікага паэта. У пачатку 1816 г. яго наведалі ў ліцэі Н. М. Карамзін, П. А. Вяземскі і дзядзька паэта В. Л. Пушкін. Сцены ліцэя пачынаюць здавацца цеснымі маладому паэту. Скора пасля наведвання, 27 сакавіка 1816 г. Пушкін пісаў Вяземскаму: „Што сказаць вам пра нашу самоту? Ніколі ліцэй не здаваўся мне такім нясцерпным, як у цяперашні час. Запэўняю вас, што самота сапраўды рэч вельмі дурная, на зло ўсім філосафам і паэтам, якія прыкідваюцца, нібы жылі ў вёсках і ўлюблены ў маўклівасць і цішыню“. У гэтым лісце паэт называў сябе „няшчасным царскасельскім пустыннікам“. Ён імкнецца да шырокай літаратурнай дзейнасці. Але пакуль што гэта імкненне знаходзіць вельмі абмежаваныя магчымасці і рэалізуецца ў плане ўстанаўлення сувязей з літаратурным таварыствам „Арзамас“, у якое ўваходзіў і П. А. Вяземскі. У тым-жа лісце да Вяземскага, Пушкін, маючы на ўвазе дзейнасць „Арзамаса“, пісаў: „Бязбожна маладога чалавека трымаць запёртым і не дазваляць яму браць удзел нават у нявінным здавальненні хаваць нябожчыцу Бяседу губіцеляў Расійскага слова“.

„Арзамас“ быў створан пісьменнікамі новага кірунку, карамзіністамі для барацьбы супроць „шышкавістаў“—літаратурных рэакцыянераў, прыхільнікаў класіцызма, якія згуртаваліся галоўным чынам, вакол „Бяседы любіцеляў Расійскага слова“. У „Арзамас“ ўваходзілі ўсе найбольш перадавыя пісьменнікі таго часу—Жукоўскі, Бацюшкаў, Вяземскі, Пушкін, В. Давыдаў і інш., а таксама некалькі дзеячоў будучых тайных арганізацый — дзекабрысты Н. Тургенеў, М. Орлоў, С. Мураўеў. У 1816 г. Пушкін яшчэ не з'яўляўся членам „Арзамаса“, але сімпатыі яго ў гэты час былі ўжо цалкам на баку арзамасцаў. Першы раз арзамаскае імя Пушкіна „Сверчок“ упамінаецца ў арзамаскіх пратаколах у жніўні 1817 г. г. зн. праз некалькі месяцаў пасля сканчэння Пушкіным ліцэя (ліцэй Пушкін скончыў у чэрвені 1817 г.).

Арзамаскія знаёмствы адыгралі значную ролю ў сэнсе фармавання літаратурнага густа, выпрацоўкі эстэтычных норм у маладога паэта. Наскалькі блізкі быў Пушкін ў той час да барацьбы арзамасцаў з „бяседчыкамі“ паказвае яго верш „Да Жукоўскага“ (1817 г.), падпісаны „Арзамасец“, у якім паэт поўнасцю выяўляе сваю пазіцыю ў літаратурнай барацьбе таго часу. Верш гэты рэзка накіраваны супроць літаратурнай рэакцыі. У гэтым вершы Пушкін ужо ўсведамляе, што барацьба з „бяседчыкамі“ гэта не толькі літаратурная барацьба, што ў ёй ёсць элемент апазіцыйнасці ў дачыненні

да самадзяржаўя, што яна з'яўляецца барацьбой і наогул супроць коснасці і кансерватызма. Трэба мець на ўвазе, што ў тыя часы ніякае праяўленне палітычнай думкі была немагчыма і таму часта палітычныя спрэчкі трансфармаваліся ў форму літаратурных спрэчак. Вось чаму Пушкін, заклікаючы „разить дзерзостных друзей непросвещенья“ піша, што ён пайшоў „опасною тропой“, піша, што „возвещать нам истины опасно“.

> Беда, кто в свет рожден с *чувствительной* душой!
> Кто тайно мог пленить красавиц нежной лирой,
> Кто смело просвистал шутливою сатирой,
> Кто выражается правдивым языком
> И русской Глупости не хочет бить челом!..
> Он враг Отечества, он сеятель разврата!
> И речи сыплются дождем на супостата.

Ужо ў гэтым вершы юнак Пушкін, адчуваючы, што за „друзьями непросвещенья“ стаяць усё цёмныя сілы самадзяржаўя, трагічна запытвае: „Гонения терпеть ужель и мой удел?“ Але паэт не баіцца ганенняў, ён верыць, што „и в тьме возникшие низвергнутся во тьму“ і таму мае намер ісці „смело в *даль* дорогою прямою“.

Пакідаючы ліцэй, ідучы ў жыццё, паэт ужо ведае, што ён не народжан быць вяльможай, што ён не схавае пад ківерам розум, што шлях яго не будзе шляхам службы і выслужвання. Незадоўга да расстання з ліцэем паэт у вершы „Таварышам“ піша:

> Равны мне писари, уланы,
> Равны законы, кивера,
> Не рвусь я грудью в капитаны
> И не ползу в асессора.
> Друзья! Немного снисхожденья—
> Оставьте красный мне колпак,
> Пока его за прегрешенья
> Не променял я на шишак.

У паэта ўжо ёсць адчуванне выключнасці свайго шляху, які, як выявіцца пасля, будзе шляхам цяжкай барацьбы з самадзяржаўем, шляхам цкавання, праследванняў і ссылак.

Падышла рыса, якая павінна была аддзяліць Пушкіна ліцэіста ад Пушкіна сталага чалавека. 9-га чэрвеня 1817 г. павінен быў адбыцца ў ліцэі выпускны экзамен. Гады юнацтва, не зусім усвядомленых дум і імкненняў аставаліся ззаду. Царскасельскае пустынніцтва канчалася. Наперадзе было жыццё—бурлівае і вабячае. І вось Пушкін чытае на выпускным экзамене верш „Бязвер'е“, на тэму, зададзеную ліцэйскай адміністрацыяй. Ён рысуе ў ім вобраз чалавека, які зняверыўся ва „усіх апорах“: „напрасно вкруг себя печальный взор он водит: ум ищет божества, а сердце не находит“. Гэты вобраз быў блізкі маладому паэту і ён рысуе яго з надзвычайнай мастацкай сілай. Захаваўся водзыў дырэктара ліцэя Е. А. Энгельгардта пра Пушкіна ліцэіста: „Яго сэрца халоднае і пустое; у ім няма ні любові ні рэлігіі; можа быць яно такое пустое, як ніколі яшчэ не было юнацкае сэрца“. Вядома, гэтае сведчанне не трэба разумець літаральна. Сэрца паэта было пустое для рэлігіі і для любові да самадзяржаўя. У вобраз бяз-

вернага чалавека Пушкін і ўклаў усю сілу свайго адмаўлення афіцыйнай добрачыннасці, якое ўсё больш авалодвала паэтам. У прыватнасці гэта можна бачыць і ў вершы „Гарадок“ у якім досыць выразна выяўлены антыпапоўскія настроі. Ужо ў „Бязвер'і“ ён паказвае як самае страшнае ў жыцці—адзіноту, страту сяброў, блізкіх і дарагіх людзей.

„Но други! пережить ужаснее друзей!“

У гэтых словах быў лёс самаго паэта. Яму суджана было несці цяжар найвялікшай страты праз усё сваё жыццё. Ён перажыў амаль усіх сваіх сяброў. Адны з іх павіслі на шыбеніцы пасля 14 снежня 1825 г., другія былі сасланы ў далёкую Сібір, у нерчынскія руднікі. Праўда, перажыў ён не на многа...

У вершах ліцэйскага перыяда няма палітычна завостраных, апазіцыйна-рэволюцыйных матываў. У гэты перыяд пераважаюць эпікурэйска-анакрэонтычныя настроі—паэт у жанры лёгкай паэзіі піша пра асабістую свабоду, пра каханне, віно, вясёлае сяброўства і г. д. Але ўжо і ў ліцэйскіх вершах Пушкіна, як мы бачылі, былі элементы апазіцыйнасці, якія пасля выхаду паэта з ліцэя, у сувязі з абвастрэннем рэакцыі, аформіліся ў рэзка выражанае палітычнае вольналюбства. Гэты працэс, у прыватнасці, знаходзіў сваё выяўленне і ў грамадскіх паводзінах паэта пасля яго выхаду з ліцэя.

Вырваўшыся на волю, Пушкін з усім запалам маладосці аддаўся свецкаму жыццю. Ён адразу, дзякуючы знаёмствам і сваяцкім сувязям, атрымаў доступ у вышэйшыя колы тагочаснай свецкай грамады. Але трымаў ён сябе ў гэтай грамадзе зусім не так, як трымалі сябе маладыя людзі, якія хацелі зрабіць бліскучую кар'еру. Мы ўжо бачылі як ставіўся Пушкін у вершы „Таварышам“ да службы і выслужвання. Цяпер гэтыя настроі знаходзяць сваё выяўленне ў рэзка выклікаючых грамадскіх паводзінах паэта. У тэатры, напрыклад, як пра гэта піша ў біяграфіі паэта Верасаеў, ён стараўся ісці паміж крэслаў па нагах, станавіўся паміж радамі крэслаў, загараджваючы для сідзячых сцэну і на просьбы прайсці далей адказваў грубасцямі і г. д.

Але зусім зразумела, што ў першую чаргу палітычнае вальналюбства выяўлялася ў вершах паэта гэтага часу. Пушкін стварае яркія ўзоры рэволюцыйнай лірыкі. Пісаў ён вельмі многа, прыводзячы ў захапленне тагочасных пісьменнікаў бурным ростам свайго таленту. Сярод блізкіх сяброў паэта былі не толькі пісьменнікі, ён яшчэ больш здружыўся ў гэты час з будучым аўтарам „Философского письма“ П. Я. Чаадаевым, чалавекам шырока адукаваным, які паводле сведчанняў некаторых сучаснікаў паэта, меў вялікі станоўчы ўплыў на яго ідэйна-палітычнае развіццё. Сярод палітычна афарбованых вершаў гэтага часу асабліва вылучаецца ода „Вольнасць“ (1817), якая нелегальна, ў тысячах спісаў разышлася па ўсёй Расіі. У гэтай одзе Пушкін стаў простым выразнікам ідэй тагочасных дваранскіх рэволюцыянераў, ідэй дзекабрызма. У ёй паэт ставіць сабе высокую мэту: „хочу воспеть свободу миру, на тронах поразить порок“. У гэтай одзе столькі агня і нянавісці да рэакцыі, прыгонніцтва, самадзяржаўя, што нават

меншай іх часткі па тых часінах было дастаткова, каб саслаць паэта куды-небудзь у Сібірскую глуш.

Питомцы ветреной судьбы,
Тираны мира! Трепещите!
А вы, мужайтесь и внемлите,
Восстаньте, падшие рабы!
Увы! Куда ни брошу взор—
Везде бичи, везде железы,
Законов гибельный позор,
Неволи немощные слёзы,
Везде неправедная власть
В сгущенной мгле предрассуждений
Воссела—рабства грозный гений
И славы роковая страсть.

Які патрасаючы па сваёй грознай праўдзівасці вобраз тагочаснай Расіі! Сколькі мужнасці, сколькі сапраўднага пачуцця і якая глыбокая і сталая думка! І гэта пісаў восемнаццацігадовы юнак. Ён пісаў гэта тады, калі яшчэ толькі пачыналася барацьба з самадзяржаўем, калі ў нетрах дваранскага грамадства толькі яшчэ наспявала першая рэволюцыйная ўспышка. Час і людзі вызначалі меру рэволюцыйнасці і Пушкін на ўзроўні века, як паэт патрабаваў таго, што жыло ў палітычных уяўленнях дзекабрыстаў.

Лишь там над царскою главой
Народов не легло страданье,
Где крепко с вольностью святой
Законов мощных сочетанье;
Где всем простерт их верный щит,
Где сжатый верными руками
Граждан над равными главами
Их меч без выбора скользит.

Калі глядзець у далёкае мінулае, на сто год назад з пункту гледжання ўсіх цяперашніх дасягненняў нашай краіны, дык дзекабрысцкая праграма (я маю на ўвазе паўночнае тайнае таварыства, да якога ў гэты час быў вельмі блізкі Пушкін па сваіх палітычных поглядах) канстытуцыйнай манархіі можа здавацца вельмі абмежаванай і мізэрнай. Але гэта бясспрэчна, што ва ўмовах тагочаснага прыгнёту перамога дзекабрыстаў была-б значным крокам наперад ў справе палітычнага развіцця Расіі. З гэтага пункту гледжання зусім зразумела, што пушкінскія патрабаванні свабоды ў сэнсе роўнасці грамадзян перад законам (у краіне, дзе панавала самае дзікае рабства!) і падпарадкавання цара закону, абмежавання яго ўлады законам успрыймаліся як крайне рэволюцыйныя і што яго ода хадзіла па руках як сапраўдная пракламацыя. Хіба не заключалі ў сабе патрасення асноў ужо такія радкі.

Владыки! вам венец и трон
Дает закон—а не природа—
Стоите выше вы народа,
Но вечный выше вас закон.

Пушкін ужо ўзнімаецца да той думкі, што афіцыяльнае ўяўленне аб тым, як быццам цары царствуюць „милостью божией“ з'яўляецца ні больш, ні менш як сумным заблуджэннем. Але за гэтым

заблуджэннем стаяла ўся сіла прыгонніцкай рэакцыі, афіцыйна-вернападданай Расіі. І крыху пасля за спробу сілай выкрыць гэтае заблуджэнне перадавыя людзі краіны, дваранскія рэволюцыянеры ішлі на шыбеніцу і ў сібірскую катаргу.

Да оды „Вольнасць“ па матывах грамадска-палітычнага пратэсту непасрэдна прымыкаюць напісаныя крыху пазней такія вершы паэта як „Да Чаадаева“ (1818 г.), „Вёска“ (1819 г.). Да верша „Да Чаадаева“ Пушкін ужо не мала пісаў у жанры пасланняў к сябрам, але пераважна ў эпікурэйска-анакрэонтычным духу. І цяпер у пасланнях і проста лірычных вершах гэтыя матывы займаюць значнае месца, але палітычная думка паэта ўжо настолькі аформілася, набыла акрэсленасць, што ўзнікла неабходнасць гаварыць чыста палітычнаю моваю. Пасланне „Да Чаадаева“ і напісана ў гэтым плане. Гэты верш, як і ода „Вольнасць“, з'яўляецца вельмі важным у сэнсе ўстанаўлення грамадска-палітычных поглядаў паэта ў гэты час. У ім паэт гаворыць аб прыгнёце „власти роковой“ і аб „отчизны призываньи“, якое разумеецца ў сэнсе барацьбы з існуючым парадкам. Верш прасякнут актыўна-рэволюцыйным настроем, у ім паэт заклікае сябра да барацьбы за свабоду, да грамадскага служэння айчыне, якое разумеецца ў рэволюцыйным сэнсе. Паэт прасякнут глыбокаю вераю у тое, што гэта барацьба з'явіцца зместам гісторыі будучай Расіі і што яна прывядзе да жаданых вынікаў:

> Товарищ, верь: взойдет она,
> Звезда пленительного счастья,
> Россия вспрянет ото сна,
> И на обломках самовластья
> Напишут наши имена.

У ліцэйскіх вершах Пушкін пачаў з патрабавання асабістай свабоды, асабістай незалежнасці, якое выяўлялася ў гімнах сяброўству, каханню, віну і г. д., прычым выяўлялася ў эпікурэйска анакрэонтычнай форме. Цяпер, у пасляліцэйскі перыяд, да ссылкі паэта на поўдзень матыў асабістай свабоды, разам з узмацненнем рэакцыі, пераключаецца ў грамадскі план, узнімаецца паэтам на вышыню патрабаванняў палітычнай свабоды. Ужо ў ліцэйскі перыяд Пушкін змагаўся супроць архаістаў, класіцызма, супроць „непросвещенья“. Цяпер патрабаванне свабоды—гэта патрабаванне „свабоды просвещенной“, гэта патрабаванне роўнасці перад законам—водгук ідэалаў вялікай Французскай рэволюцыі. Іменна матывам асвечанасці акрэсліваліся нападкі Пушкіна на „невукаў“, „глупцоў“ прабываючых у „величии“ неправом і г. зн. на розных саноўнікаў. Свабода, асвета, закон, пратэст супроць прыгону, вялікая любоў да чалавека,—вось галоўныя элементы светапогляду Пушкіна вольналюбівага перыяду і гэтымі элементамі акрэсліваліся матывы грамадска-палітычнай лірыкі гэтага часу.

У 1819 г. Пушкіным у часе яго прабывання ў Міхайлаўскім напісан верш „Вёска“. У гэтым вершы з асаблівасю сілай загучэлі антыпрыгонніцкія матывы. Пушкін пратэстуе ў ім супроць прыгоннага ладу зноў-такі з пункту гледжання адсутнасці народнай асветы—„Везде невежества убийственный позор“; з пункту гле-

джання адсутнасці свабоды для народа і абароны яго інтарэсаў законам:

> Не видя слез, не внемля стона,
> На пагубу людей избранное судьбой,
> Здесь барство дикое, без чувства, без закона
> Присвоило себе насильственной лозой
> И труд, и собственность, и время земледельца.

Пушкін малюе жахлівую карціну рабства, у якое былі ўвергнуты народныя масы, карціну цяжкай эксплаатацыі і бесчалавечных адносін да запрыгоненага сялянства.

> С поникшею главой, покорствуя бичам,
> Здесь рабство тощее влачится по браздам
> Неумолимого владельца.
> Здесь тягостный ярем до гроба все влекут,
> Надежд и склонностей в душе питать не смея,
> Здесь девы юные цветут
> Для прихоти бесчувственной злодея;
> Опора милая стареющих отцов,
> Младые сыновья, товарищи трудов,
> Из хижины родной идут собой умножить
> Дворовые толпы измученных рабов.

Верш прасякнут вялікаю любоўю да прыгнечанага чалавека, прасякнут гуманнасцю, якая з'яўляецца неад'емным элементам грамадска-палітычных поглядаў Пушкіна і якая становіць адну з прывабнейшых рыс Пушкіна, як чалавека. На гэту рысу ідэйна-палітычнага вобліка паэта ўпершыню паказаў В. Г. Белінскі, якому не ў меншай ступені быў блізкі дэмакратычны гуманізм і які шукаў яго выражэння і ў творчасці Пушкіна.

Ужо ў ліцэйскіх вершах, якія апяваюць радасці рэальнага зямнога жыцця, апяваюць пад кутом гледжання асабістай свабоды, пэўнай незалежнасці ў дачыненні да афіцыяльнай ідэалогіі была закладзена магчымасць развіцця паэзіі Пушкіна па рэалістычнаму шляху. У пасляліцэйскі перыяд гэта магчымасць рэалізуецца ў рэвалюцыйнай лірыцы паэта, прасякнутай крытычнымі адносінамі да самаўладства, яго адмаўленнем. Пушкінскі рэалізм фармаваўся як рэалізм крытычны. Верш „Вёска“ становіць сабой вяршыню рэалістычнай творчасці паэта гэтага часу.

Пасляліцэйскі перыяд да ссылкі паэта на поўдзень, быў перыядам найбольш апазіцыйных, рэвалюцыйных настрояў Пушкіна. У творчасці гэтага перыяда ідэйна-палітычныя імкненні маладога паэта ў непасрэднай форме адлюстраваліся з дастатковай паўнатой. Яны знайшлі сваё выяўленне ў рэзка, акрэслена сфармуляванай форме не толькі ў одзе „Вольнасць“, у пасланні „Да Чаадаева“, у патэтычна-лірычным вершы „Вёска“, але і ў цэлым радзе эпіграм і сатыр, накіраваных і супроць цара і супроць саноўнай бюракратыі.

У 1819 г. ён піша эпіграму на афіцыёзна-рэакцыйнага публіцыста, чыноўніка міністэрства замежных спраў „На А. С. Стурдзу“. Але ў гэтай эпіграме ён не толькі ўтаптвае ў гразь Стурдзу, але і ўскосна закранае цара, якога называе „венчанным солдатом“. Паэт у гэты час наогул мае схільнасць гаварыць, як ён піша ў вершы „В. В. Энгельгардту“, „открытым сердцем“ „насчет небес-

ного царя, а иногда насчет земного". Крыху раней, у 1818 г. паэт у сатыры „Казкі" называе цара яшчэ больш рэзка—„кочующим деспотом", маючы на ўвазе частыя раз'езды Александра I па замежжы. У гэтым вершы, напісаным у форме калыханкі, паэт здзекуецца з канстытуцыйных абяцанняў цара пры адкрыцці першага сейма царства Польскага (27 сакавіка 1818 г.), якія, вядома, так абяцаннямі і засталіся. Прыблізна ў 1819 г. ён піша эпіграму на „Гісторыю" свайго сябра Карамзіна, якая таксама завострана ў бок палітычных пытанняў. Паэт папракае Карамзіна ў тым, што яго „Гісторыя" даводзіць „необходимость самовластья и прелести кнута". Асабліва злую эпіграму напісаў паэт на ініцыятара, так званых ваенных пасяленняў Аракчэева, які быў жывым увасабленнем самай агалцелай рэакцыі. У гэтай эпіграме паэт пісаў:

Всей России притеснитель,
Губернаторов мучитель,
И совета он учитель,
А царю он друг и брат.
Полон злобы, полон мести,
Без ума, без чувств, без чести,
Кто-ж он „преданный без лести"?
... грошевой солдат.

Трэба было быць надзвычай мужным чалавекам, да канца адданым рэволюцыйнаму ідэалу, каб у тагочасных абставінах пісаць такім чынам пра царскіх „сяброў і братоў". Такая смеласць не магла доўга аставацца беспакаранай. У пачатку 1820 г. да пецербургскага генерал-губернатара дайшлі свабодалюбівыя вершы Пушкіна і паліцэйска-жандармская машына пачала сваю працу. Пра рэволюцыйныя вершы Пушкіна паведамілі цару і Александр вырашыў з усёй жорсткасцю расправіцца з паэтам. Яго чакала ссылка ў Сібір, або ў Салаўкі. Але за Пушкіна пачалі хадайнічаць сябры паэта Карамзін, Чаадаеў, Раеўскі і ім удалося дамагчыся таго, што ўрад абмежаваўся высылкай паэта на поўдзень Расіі ў г. Екацерынаслаў на службу да генерала Інзава, папечыцеля каланістаў паўднёвага краю. 6 мая 1820 г. Пушкін выехаў у ссылку.

К часу ссылкі ўжо выразна выявіліся галоўныя рысы грамадска-палітычных поглядаў і светаадчування Пушкіна, тыя матывы, якія становяць сабой асноўны змест яго творчасці. Пушкін выявіў сябе паэтам дваранскай культуры, але ўжо ў гэты час яго ідэйна-палітычны воблік настолькі шматгранны, што яго ніяк нельга ўмясціць у рамкі дваранскай ідэалогіі. Мужная барацьба супроць невуцтва, рэакцыі ў пытаннях культурны, за асвету, за роўнасць перад законам, за свабоду збліжае Пушкіна з лепшымі прадстаўнікамі заходне-еўрапейскай палітычнай думкі. Глыбокі аптымізм у светапоглядзе і светаадчуванні, апяванне радасцей зямнога жыцця, у спалучэнні з патрабаваннем незалежнасці, свабоды асобы накіраваны супроць дваранскай афіцыяльнай ідэалогіі і ствараюць у радзе іншых момантаў уяўленне аб Пушкіне, як паэце, які разбіваў каставую абмежаванасць дваранскай ідэалогіі, які ўзнімаўся вышэй яе. Поўны абурэння пратэст супроць няволі, уціску, супроць прыгонніцтва, вялікая любоў да чалавека, асабліва да падняволь-

нага селяніна, які ў тыя часы за чалавека і за асобу наогул не лічыўся—дэмакратычны гуманізм, дэмакратычная лінія ў сэнсе шырокага ахопу народнага жыцця ў яго featureнастайных праявах, якая ўжо на поўдні набудзе поўную акрэсленасць, у сэнсе роўнапраўнага паказу прадстаўнікоў розных народаў краіны і краін, дэмакратычная лінія ў сэнсе скарыстання матываў народнай творчасці і ўвядзення ў літаратурную мову мовы простага народу (работа, пачатая ўжо у „Руслане и Людмиле") робяць Пушкіна папярэднікам рускай рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры, паэтам глыбока народным.

Каб хоць бы прыблізна ўявіць сабе ўсё значэнне Пушкіна ў сэнсе разняволення палітычнай думкі ў Расіі, у сэнсе разгортвання вызваленчай барацьбы прадстаўнікоў рэволюцыйнай дэмакратыі, досыць паказаць на некалькі фактаў. Паэтам сярод іншай яго літаратурнай спадчыны пакінута некалькі літаратурна-крытычных вопытаў і сярод іх нясконч аны ўрывак пад назваю „О ничтожестве литературы русской", які даследчыкамі прыурочваецца да 1834 **г.** У гэтым нясконч аным артыкуле паэт развівае тыя-ж думкі, ідэі, якія становяць галоўны змест першага крытычнага артыкула В. Г. Белінскага „Литературные мечтания", які быў надрукаваны ў „Молве" ў тым-жа 1834 г. Выказвалася думка, што Пушкін іменна таму і не скончыў свайго артыкула, што тыя-ж самыя ідэі былі выказаны Белінскім. Мы ведаем, што Пушкін з вельмі вялікаю павагаю ставіўся да Белінскага і нават меўся запрасіць яго супрацоўнічаць у сваім „Современнике". Гэта гаворыць за тое, што напрамак руху ідэйна-палітычнага развіцця іхняй творчасці быў адным і тым-жа. Магчыма, што Пушкін не пайшоў бы так далёка, як пайшоў Белінскі, ён мацней быў звязан з дваранскай культурай, але ўжо самы выбар напрамку знаймавальны. Нарэшце возьмем такія творы Н. А. Некрасава, як „Ростовщик", „Нравственный человек" і інш., якія ніскольк і не выражаюць дваранска-ліберальных хістанняў вялікага рэволюцыйна-дэмакратычнага паэта і якія, тым не менш, маюць у сваёй аснове тую-ж самую ідэю, што і, скажам, „Скупы рыцар" Пушкіна. Ды ці мала можна правесці падобных параляляў. Усё гэта азначае, што Пушкін настолькі перавысіў меру часу і абмежаванасць дваранскай ідэалогіі, узняўся на такую вышыню, што мы з поўнаю падставай можам назваць яго вялікім папярэднікам рускай рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры, вялікім народным паэтам.

Ссылка не зрабіла ніякага ўплыву на рэволюцыйныя перакананні паэта. На поўдні ён працягвае пісаць вольналюбівыя вершы, у якіх як і раней услаўляе свабоду, асвету, нападае на тыранаў, „холопов знатных, невежд при звезде" і г. д. У Кішынёве, куды пераехала канцылярыя Інзава ў часе прабывання Пушкіна з Раеўскімі на Каўказе і куды накіраваўся Пушкін пасля звароту з Каўказа, паэт трапіў у рэволюцыйна-настроенае асяроддзе, што яшчэ больш умацавала яго ў антыўрадавых поглядах. Ён блізка сыходзіцца з былым арзамасцам, адным з галоўных дзеячоў дзекабрызма М. Ф. Орловым, сустракаецца з кіраўніком паўднёвага тайнага таварыства Пестэлем, які зрабіў на яго вельмі добрае ўражанне.

З Кішынёва Пушкін езьдзіць у маёнтак Давыдавых Каменку, месца, куды з'язджаліся будучыя дзекабрысты для абмеркавання розных спраў. Пра грамадска-палітычныя настроі паэта гэтага часу дае уяўленне яго перапіска. У лісце да Дэльвіга (23 сакавіка 1821 г.) паэт піша, што ён забыў запаветы славы і што адна свабода яго кумір. У лісце да Гнедзіча (ад 24 сакавіка 1821 г.) паэт піша аб непрымірымых адносінах да цара, якога ён называе Октавіем. Піша ён гэта з пазіцый свабоды, незалежнасці асобы.

Все тот же я, как был и прежде,
С поклоном не хожу к невежде,
С Орловым спорю, мало пью,
Октавию, в слепой надежде,
Молебнов лести не пою.

Апрача таго мы тут бачым зноў-такі выпад супроць царскіх саноўнікаў, „халопаў знатных“. Усе тыя-ж матывы услаўлення свабоды і асветы, зняважлівых адносін да вяльмож („Что нужды мне в торжественном суде холопа знатного, невежды при звезде“) складаюць змест і яго трэцяга паслання да Чаадаева.

Ищу вознаградить в об'ятиях свободы
Мятежной младостью утраченные годы
И в просвещении стать с веком наравне.

У цэнтры грамадска-палітычных спадзяванняў паэта стаіць усё той-жа ідэал „свободы просвещенной“. Было-б няправільна думаць, што Пушкін толькі марыў пра свабоду і быў далёкі ад разумення рэальных шляхоў яе дасягнення. Наадварот, Пушкін з вялікай цікавасцю сочыць за рэволюцыйнай барацьбой за мяжой, за яе перыпетыямі і перспектывамі. Калі ў Неапалі ўспыхнула паўстанне, паэт піша ў вершаванай форме В. Л. Давыдаву (1821 г.)

Перед камином надевая
Демократический халат,
Спасенья чашу наполняли
Блаженной, мёрзлою струей,
И за здоровье *тех* и *той*
До дна, до капли выпивали!

Ратунак паэт бачыць у практычнай рэволюцыйнай барацьбе („спасенья чаша“), ён успамінае пра тое, як яны пілі за здароўе італьянскіх рэволюцыянераў і за рэволюцыйнае паўстанне. Паэт у гэты час выяўляе выразнае ўяўленне, што галоўнай рухаючай сілай у барацьбе за свабоду, у рэволюцыйнай барацьбе з'яўляецца народ. Маючы на ўвазе неапальскае паўстанне („Но *те* в Неаполе шалят“) паэт піша, што „народы тишины хотят“ і ставіць гэты момант у простую сувязь з перспектывамі рэволюцыйнай барацьбы ў Расіі. Гэта паказвае наколькі рэалістычна глядзеў Пушкін на неабходнасць рэволюцыйнай барацьбы супроць самадзяржаўя. Не гледзячы на неспрыяючае разгортванне барацьбы ў Італіі, паэт піша што „надзеі прамень“ не знік, што не трэба спыняцца перад перспектывай паўстання ва ўмовах Расіі.

Но нет! Мы счастьем насладимся,
Кровавой чашей причастимся—
И я скажу: „Христос Воскрес“.

Гуманіст-Пушкін лічыў ужыванне гвалту супроць прыгнятальнікаў зусім законным, бо ён разумеў, што гэта адзіны шлях для дасягнення свабоды. Вось чаму яго не пужае „кровавая чаша“, ён не спыняецца перад перспектывай узброенага выступлення. З гэтага пункту гледжання зусім зразумела і глыбокае спачуванне Пушкіна нацыянальна-вызваленчай барацьбе грэкаў супроць туркаў. Гэту барацьбу Пушкін разглядаў як і неапальскае паўстанне ў плане агульнай барацьбы народаў за свабоду. Калі у Кішынёве распаўсюдзіліся чуткі, пра тое, што рускае войска выступіць на дапамогу грэкам, Пушкін піша з гэтага повад у аднаму з брыгадных камандзіраў, члену „Союза благоденствия“ генералу Пушчыну:

И скоро, скоро смолкнет брань
Средь рабского народа,
Ты молоток возьмеш во длань
И воззовешь: свобода! *

У тым-жа 1821 г. Пушкін стварае яшчэ адзін яркі ўзор рэвалюцыйнай лірыкі—верш „Кінжал“. Зместам яго з'яўляюцца тыя-ж матывы, што і оды „Вольнасць“. Гэта яшчэ адзін гімн—„свободе просвещенной“. Тут трэба зрабіць невялікае адступленне. Вышэй мы бачылі, што Пушкін не спыняўся перад неабходнасцю ўзброенага выступлення супроць царызма. Усякае такое выступленне не можа абыйсціся без ахвяр з абодвух бакоў, Пушкін гэта разумеў і апраўдваў. Ён апяваў Занда, з імем якога ў яго ўяўленні звязвалася барацьба за свабоду, Занда, які па палітычных матывах забіў Коцэбу—рускага шпіёна і рэакцыянера. Гэта паказвае, што ў сваім разуменні барацьбы за свабоду Пушкін заходзіў вельмі далёка. Тое, што разумеў Пушкін пад свабодай, раскрываецца, у значнай ступені, праз яго вершы пра французскага паэта А. Шэнье, якога казнілі якабінцы. Мы ўжо бачылі, што ў пераводзе на сучасную палітычную мову пушкінскае патрабаванне свабоды ў асноўным азначала патрабаванне канстытуцыйнай манархіі. У „Кінжале“ і вершах пра Шэнье гэты пункт гледжання на свабоду зноў пацвярджаецца. Пушкін крытыкуе не толькі тыранію зверху, але і якабінцаў. З другога боку мы бачым, што ў разуменні метадаў барацьбы за свабоду паэт заходзіў вельмі далёка і ў практычным прымяненні гэтыя метады нічым-бы не адрозніваліся ад метадаў барацьбы якабінцаў супроць сваіх ворагаў. Магчыма, што паэт заўважаў гэту супярэчнасць, але ў гэтым пытанні ў ім перамагаў гуманіст.

Прыдушэнне „Священным союзом“ рэволюцыйнага руху за мяжой і ўзмацненне рэакцыі ў Расіі выклікаюць у 1823 г. паварот паэта ў бок песімістычнай ацэнкі перспектыў рэволюцыі ў Расіі. Гэтыя песімістычныя настроі знайшлі сваё выяўленне ў такіх вершах паэта, як „Свободы сеятель пустынный“, „Калёсы жыцця“ і інш. У першым з гэтых вершаў паэт піша пра тое,

* Пушчын быў масонам, адсюль упамінанне пра малаток.

што яго рэволюцыйная лірыка як быццам трапіла на бясплодную глебу.

> Свободы сеятель пустынный,
> Я рано вышел до звезды;
> Рукою чистой и безвинной
> В порабощенные бразды
> Бросал живительное семя—
> Но потерял я только время,
> Благие мысли и труды...

У другім з гэтых вершаў Пушкін, паказваючы жыццё ў вобразе калёсаў, якія коцяцца па дарозе, гаворыць аб тым, як чалавек прывыкае к такім умовам, якія яны ёсць:

> Катит попрежнему телега.
> Под вечер мы привыкли к ней,
> И дремля едем до ночлега,
> А время гонит лошадей.

У гэты-ж час пад уплывам разгрому рэволюцыйнага руху за мяжой у лірыцы Пушкіна асабліва ўзмацняюцца байранічныя матывы (некаторыя даследчыкі выказваюць думку, што з Байранам Пушкін пазнаёміўся праз Раеўскіх). Ужо ў вершы „Напалеон" (1821 г.) паэт паказвае яго як расчараванага героя: „его пленило самовластье разочарованной красой". У 1823 г. ён піша байранічны верш „Дэман", у якім паказвае, як лічаць даследчыкі, сына Раеўскага (Н. Раеўскага), з якім ён у гэты час дружыў. Але найбольш моцным аказаўся байранаўскі ўплыў у эпічных творах Пушкіна. Яшчэ раней, у 1820—21 гг. Пушкіным напісана паэма „Каўказскі нявольнік", пра якую сам паэт у лісце да В. К. Ганчарова (у 1822 г.) пісаў: „Характар майго нявольніка няўдалы; гэта даводзіць, што я не годны ў героі рамантычнага верша. Я ў ім хацеў паказаць гэту абыякавасць да жыцця і да яго асалод, гэту заўчасную старасць душы, якія зрабіліся адрознівающымі рысамі моладзі 19 века. Вядома, паэму прыстойней было-б назваць „Чэркешэнка"— я пра гэта не падумаў." У цэнтры паказу ў паэме расчараваны, стомлены жыццём герой. Непасрэдна-палітычныя матывы гучаць у ёй толькі ў прысвячэнні, дзе паэт гаворыць пра „изгнанной музы пенье", пра тое як ён „погибал безвинный, безотрадный".

> Я рано скорбь узнал, постигнут был гоненьем,
> Я жертва клеветы и мстительных невежд;
> Но сердце укрепив свободой и терпеньем,
> Я ждал беспечно лучших дней.

Гэтыя палітычныя матывы выклікалі цэнзурныя скажэнні, з якімі друкавалася паэма ў першых выданнях.

Услед за „Каўказскім нявольнікам" былі напісаны байранічныя паэмы „Браты-разбойнікі" і „Цыганы", пры чым апошняя з іх была скончана ўжо ў Міхайлаўскім. У гэтых паэмах таксама паказваюцца людзі, якія пакідаюць грамадства, для вольнага жыцця ў блізкасці да прыроды.

Гэтыя паэмы былі выражэннем некаторага адыходу Пушкіна ад актыўна-рэволюцыйных настрояў, ад палітычнай лірыкі, ад барацьбы за ідэал „свабоды просвещенной" у бок індывідуалістычнай свабоды.

Пры ўсім тым у гэтых паэмах захоўваецца элемент пратэсту. Праўда, ён цяпер менш дзейны, чым раней, але ён ёсць. Цяпер паэт таксама адмаўляе тагочасную рэчаіснасць, але адмаўляе рамантычнымі сродкамі, з пазіцый індывідуалістычнай свабоды. Гэтым адмаўленнем і акрэсліваецца матыў уцёкаў з тагочаснай грамады, бліжэй да прыроды, да вольнага жыцця, на якім (матыве) будуюцца гэтыя паэмы.

Не трэба думаць, што лінія рэволюцыйнай лірыкі і эпіграматычнага высмейвання цара і саноўнай бюракратыі ў гэты час знікаюць з творчасці Пушкіна. Гэтыя лініі, лініі рэалістычныя таксама працягваюцца, але на першае месца высоўваюцца байранічныя матывы.

Пераведзены з Кішынёва ў Одэсу, дзякуючы хадайнічанню сяброў, якія хацелі стварыць больш спрыяючыя ўмовы для творчай дзейнасці паэта, стварыць для яго больш культурныя абставіны, Пушкін спачатку не дрэнна жыве з сваім новым начальнікам одэскім генерал-губернатарам графам Варанцовым, чалавекам досыць адукаваным. Але пры ўсёй сваёй адукаванасці Варанцоў аказаўся няздольным зразумець, што мае справу з геніяльным паэтам і што яго служба мае па сутнасці фіктыўнае значэнне. Скора Пушкін пачынае заўважаць, што Варанцоў ставіцца да яго як да дробнага чыноўніка і гэта абурае паэта. Паміж імі пачынаюцца нелады. Скора справа дайшла да адкрытай сутычкі. У маі 1824 г. Варанцоў даручыў Пушкіну зрабіць абследванне раёнаў, у якіх з'явілася саранча і далажыць яму пра захады, якія прымаюцца да яе знішчэння. Гэтым даручэннем Варанцоў падкрэсліваў, што Пушкін для яго—дробны чыноўнік. Гэта камандыроўка выклікала ў Пушкіна страшэннае абурэнне і ён меў намер адмовіцца ад камандыроўкі. Сябры не раілі гэта рабіць. Пушкін паехаў і як расказваюць, сапраўды прывёз даклад. Але гэта быў вельмі своеасаблівы даклад. Пушкін паведамляў:

> Саранча летела, летела
> и села
> Во все стороны посмотрела, все с'ела
> и опять улетела.

Пасля гэтай сутычкі паэт падаў прашэнне аб адстаўцы. Праследваннямі Варанцова была выклікана вельмі злая эпіграма на яго, у якой паэт пісаў:

> Полу-герой, полу-невежда,
> К тому-ж еще полу-подлец!..
> Но тут однако-ж есть надежда,
> Что полный будет наконец.

Таксама супроць М. С. Варанцова накіраван верш „Сказали раз царю, что наконец“ напісаны ў сувязі з казню іспанскага рэволюцыянера Рыэго, які кіраваў паўстаннем 1820 г. у Кадыксе. Расказвалі, што калі да цара дайшла вестка пра казнь, Варанцоў, у халопскім жаданні дагадзіць цару, сказаў, што бач адным мярзаўцам будзе менш. Гэты сюжэт Пушкін і паклаў у аснову свайго сатырычнага верша.

У гэтым-жа 1824 г. ён піша і яшчэ адну вельмі рэзкую сатыру супроць Александра I, сатыру пад назвай „Воспитанный под ба-

рабаном“. Пасля перамогі над французамі ў 1812 г. з Александра імкнуліся зрабіць героя. Сатыра Пушкіна якраз і накіравана супроць легенды пра геройства цара.

Воспитанный под барабаном,
Наш царь лихим был капитаном:
Под Австерлицем он бежал,
В двенадцатом году дрожал,
Зато был фрунтовой профессор!
Но фрунт герою надоел—
Теперь колежский он асессор
По части иностранных дел.

Мы ўжо бачылі раней, што паэт называў цара „кочующим деспотом“, маючы на ўвазе яго частыя раз‘езды па замежжы. Цяпер ён, намякаючы на тое-ж захапленне знешняй палітыкай, палітыкай вельмі рэакцыйнай—у складзе „Священного союза“, якім у сапраўднасці кіраваў Меттэрніх, называе цара „асессором по части иностранных дел“.

Пушкін спакойна чакаў адказу на своё прашэнне аб адстаўцы. Ён лічыўся па міністэрству замежных спраў і адказ павінен быў прыйсці з Пецербурга. Адносіны паэта да адстаўкі дастаткова поўна характарызуе яго ліст, напісаны ў пачатку чэрвеня 1824 г. да А. І. Казначэева, у якім ён пісаў: „Аб чым мне шкадаваць? Ці не аб маёй няўдалай кар‘еры?.. Аб маім жалаванні? Пакольні мае літаратурныя заняткі могуць даць мне больш грошай, чым служба, то зусім натуральна ахвяраваць ім маімі службовымі заняткамі... Я ўжо адолеў у сабе агіду пісаць і прадаваць свае вершы, здабываючы з іх сродкі для жыцця, самы вялікі крок зроблен, і калі я яшчэ пішу пад капрызным уплывам натхнення,—дык раз вершы напісаны, я ўжо гляджу на іх выключна, як на тавар“. Калі прыняць пад увагу палітычныя настроі Пушкіна, адносіны да яго Варанцова і тое, што ён за сваю службу атрымліваў 58 рубл. у месяц, дык стане зусім зразумела поўная адсутнасць усякіх ідэалагічных матываў у адносінах паэта да службы. Ён глядзеў на яе як на нудны і бяссэнсны абавязак. На некалькі месяцаў раней паэт нават марыў аб іншай адстаўцы. Ён думаў уцячы за мяжу. У пачатку студзеня таго-ж году ён пісаў брату: „Узяць ціханька тросць і капялюш і паехаць паглядзець на Канстантынопаль. Святая Русь для мяне робіцца нясцерпнай“.

Ліст да Казначэева паэт пісаў незадоўга да сваего ад‘езду у Міхайлаўскае, у другую ссылку. Пакуль Пушкін чакаў адказу на прашэнне аб адстаўцы, Варанцоў слаў адзін за другім даносы на паэта, у якіх раіў ізаляваць яго ад грамады, выслаць у такое месца, дзе яго прыхільнікі не маглі-б яго заразіць „заблуджэннямі і нябеспечнымі ідэямі“ і не маглі б кружыць яму галаву запэўніваннямі, што ён вялікі пісьменнік „у той час, як ён толькі слабы наследвальнік пісьменніка, на карысць якога можна сказаць вельмі мала,—лорда Байрана“.

Да таго-ж маскоўская паліцыя перахапіла яго ліст Вяземскаму, у якім ён пісаў што „бярэ урокі чыстага афеізма“, і вельмі станоўча адзываўся аб атэістычным светапоглядзе. У тыя часы ўсяго гэтага

было дастаткова, каб адправіць чалавека, хоць бы і вядомага паэта ў ссылку. Скора прышло адпаведнае распараджэнне з Пецербурга, і Пушкін быў вымушан ехаць у Міхайлаўскае (Пскоўскай губ.), у вясковую глуш.

Ужо з Міхайлаўскага паэт пісаў з поваду гэтай другой ссылкі свайму сябру Языкову:

...Злобно мной играет счастье:
Давно без крова я ношусь,
Куда подует самовластье;
Уснув, не знаю, где проснусь.
Всегда гоним, теперь в изгнаньи
Влачу закованные дни.

Такімі строфамі адказваў паэт на ганенні, праследванні. Супроць цара, супроць урада, супроць „холопов знатных“ Пушкін скарыстоўваў сваю адзіную зброю—рэволюцыйную лірыку, сатыру і эпіграму.

Байранічныя паэмы адыгралі вялікую станоўчую ролю ў тым сэнсе, што ў іх паэт шырока рассунуў рамкі сваей паэзіі, па ахопу народнага жыцця. У гэтых паэмах далей фармуецца народнасць пушкінскай паэзіі—тут у сэнсе апісання жыцця, звычаяў і побыту народаў Расіі, якія лічыліся тады дзікімі і ў такім плане паказваліся ў літаратуры. У паэзіі Пушкіна мы ўпершыню сустракаем глыбока ачалавечаны паказ жыцця ўскраінных народаў. Вышэй мы бачылі, што паэт лічыў вобраз каўказскага нявольніка няўдалым. Так ён незадаволен быў і тым, што ў гэтым творы „апісанне нраваў чэркескіх (далей закрэслена: „самае трапнае месца ва ўсёй паэме“) не звязана ні з якой падзеяй і ні што іншае, як геаграфічны артыкул або справаздача падарожніка“ (чарнавік ліста да Гнедзіча 29 красавіка 1822 г.). Але пры ўсім тым ён адстойвае сваю паэму ад прычэплівай крытыкі сяброў, ён любіць гэты свой твор. У тым жа чарнавіку ліста да Гнедзіча паэт піша: „Вы бачыце, што бацькоўская пяшчотнасць не асляпляе мяне наконт „Каўказскага нявольніка“, але, прызнаюся, люблю яго, сам не ведаючы за што, у ім ёсць вершы майго сэрца. Чаркешанка мая мне любая, любоў яе кранае душу“. Такім чынам, сам паэт цаніў і любіў у гэтым творы іменна тое, што звязана з паказам чэркесаў і іхнага жыцця.

У асноўным такое-ж значэнне мелі і іншыя яго рамантычна-байранічныя паэмы „Браты-разбойнікі“, „Бахчысарайскі фантан“ і „Цыганы“. У рукапісе „Цыган“, напрыклад, паэтам напісана такая заўвага (примечание) да паэмы: „Бесарабія, вядомая ў самыя даўнія часы, павінна быць асабліва цікавай для нас:

Она Державиным воспета
И славой русскою полна.

Але да гэтага часу гэта вобласць вядома нам паводле памылковых апісанняў двух або трох падарожнікаў. Не ведаю, ці выйдзе калі-небудзь „Гістарычнае і статыстычнае апісанне“ онай, складзенае І. П. Ліпрандзі, спалучаючым сапраўдную вучонасць з выдатнымі вартасцямі ваеннага чалавека“. З гэтай заўвагі, як і з вод-

зываў пра „Каўказскага нявольніка“ відаць, што сам паэт вельмі правільна ацэньваў значэнне гэтых сваіх твораў.

Народнасць байранічных паэм становіць сабой своеасаблівую форму пушкінскага рэалізма, які займае ў гэтых паэмах падпарадкаванае становішча. Сам Пушкін, які ў гэты час яшчэ не фармулюе прынцыпаў рэалістычнага мастацтва, незадаволен гэтай падпарадкаванасцю элементаў рэалізма, ён любіць у сваіх творах іменна тое, што паказана ў рэалістычным плане. І наадварот, ён не любіць у сваіх паэмах тое, што ідзе ад уплыву Байрана. Так, напрыклад, ён лічыў паэму „Бахчысарайскі фантан“ слабым творам на той падставе, што ў ёй вельмі адчуваецца тое, што ў гэты час паэт захапляўся чытаннем Байрана. Тут-жа на поўдні Пушкін пачынае працу над сваім рэалістычным раманам „Еўгеній Онегін“, які з'явіцца адным з выдатнейшых дасягненняў новай рускай літаратуры.

Ужо ў „Руслане і Людміле“ паэт уводзіў простанародныя моўныя звароты, за што на яго рэзка нападала рэакцыйная крытыка. Лінія ўвядзення ў літаратурную мову народнай мовы працягваецца і ў байранічных паэмах. У „Каўказскім нявольніку“ мы можам бачыць узор чэркескай песні, у „Бахчысарайскім фантане“ татарскай песні, вельмі блізкіх па матывах да народнай песні. У „Цыганах“ ён ужо нават перакладае сапраўдныя малдаўскія песні (песня Земфіры „Старый муж, грозный муж“—вольны пераклад малдаўскай песні „Жги меня, жарь меня“). У „Цыганах“, якія былі скончаны ўжо ў Міхайлаўскім, паэт адмаўляецца ад пазіцый індывідуалістычнай свабоды, бо яна адмаўляе свабоду іншых. Гэта адмаўленне знаходзіць сваё выяўленне ў словах старога цыгана да Алеко:

> Ты не рожден для дикой доли,
> Ты для себя лишь хочешь воли.

Далейшае літаратурнае развіццё творчасці Пушкіна ідзе пад знакам усё большай увагі да народнасці і рашучага павароту да рэалізма. У Міхайлаўскім паэт працягвае вывучэнне народнай мовы, наведвае базары, пераапрануўшыся ў простую вопратку, скарыстоўвае веды сваёй няні. Тут ён працуе над сваёй трагедыяй „Барыс Гадуноў“, якую піша ў плане „сапраўднага рамантызма“, узор якога ён бачыць у трагедыях Шэкспіра. Пушкін зрабіў цэлы пераварот сваімі рамантычнымі паэмамі. Цяпер (у 1825 г.) трагедыяй „Барыс Гадуноў“ ён марыць зрабіць такі-ж пераварот у галіне рускай драмы і тэатра. У літаратурным плане „сапраўдны рамантызм“, знамянуючы паварот Пушкіна ад рамантызма да рэалізма, накіраван у першую чаргу супроць класіцызма. Пра гэта даюць уяўленне пазнейшыя выказванні паэта пра драмы Шэкспіра. „Вобразы, створаныя Шэкспірам, не ёсць, як у Мальера, тыпы пэўнай страсці, пэўнай заганы, але істоты жывыя з многімі страсцямі, многімі заганамі, акалічнасці развіваюць перад гледачом іхныя рознастайныя і шматбаковыя характары. У Мальера Скупы скупы—і толькі, у Шэкспіра Шэйлок скупы, кемлівы, помслівы, любіць дзяцей, востры на язык. У Мальера Двудушнік валочыцца за жонкаю свайго добрадзея—двудушнічаючы, бярэ маёнтак, каб захаваць яго, двудушнічаючы; просіць стакан вады, двудушнічаючы. У Шэкспіра двудушнік

чытае судовы прыгавор з ганарлівай строгасцю, але справядліва; ён апраўдвае сваю жорсткасць глыбокадумнымі меркаваннямі дзяржаўнага чалавека". (1834 г.)* Але пішучы сваю трагедыю, Пушкін далёка не абмяжоўваў ролю сваёй трагедыі яе накіраванасцю супроць класіцызма. Наадварот, ён хацеў карэнным чынам перабудаваць рускую драму ў плане народнасці, у плане набліжэння ды шырокіх мас чытачоў, сродкам чаго ён лічыў простую, зразумелую для народу мову і паказ сапраўды народнага жыцця. Гэта добра відаць з выказванняў Пушкіна пра драматычныя творы: „Трагедыя наша, створаная па прыкладу трагедыі Расіна ці можа адвыкнуць ад арыстакратычных сваіх прывычак (ад сваёй размовы размеранай, важнай і добрапрыстойнай). Як ёй перайсці да грубай адкрытасці народных страсцей, і вольнасці суджэнняў плошчы—як ёй раптам адмовіцца ад ліслівасці, як ёй абыйсціся без правіл, да якіх яна прывыкла, дзе, у каго навучыцца мове, зразумелай народу, якія ёсць страсці гэтага народу, якія струны яго сэрца, дзе яна знойдзе сабе сугучнасць—словам дзе гледачы, дзе публіка".

У „Барысе Гадунове" паэт паказвае эпоху так-званага „смутного времени". У гэтым творы ён звяртаецца да гістарычнага матэрыялу з тым, каб гаварыць праз яго аб сучасным, выяўляе вялікую цікавасць да народнай рэволюцыі. Гэта цікавасць пройдзе праз усю далейшую творчасць паэта, выяўляючыся ў збіранні разінскіх песень, у вялікай працы над збіраннем матэрыялаў па гісторыі Пугачова, у „Капітанскай дачцы" і г. д. У „Барысе Гадунове" паэт галоўнай рухаючай сілай народнай рэволюцыі паказвае народ, у поўнай узгодненасці з ранейшымі асобнымі выказваннямі ў лірыцы па гэтаму пытанню. У гэтым творы таксама знайшло сваё выяўленне палітычнае свабодалюбства паэта. У лісце да Раеўскага (30 лістапада 1825 г.) паэт выказвае апасенні пра лёс сваёй трагедыі: „Важная рэч: я напісаў трагедыю і ёю вельмі задаволен, але страшна ў свет выдаць—нясмелы густ наш не сцерпіць сапраўднага рамантызма".

У другім лісце паэт выказваўся больш акрэслена. Ён пісаў, што не здолеў схаваць усіх сваіх вушэй пад калпак юрадзівага. Апасенні Пушкіна аказаліся не дарэмнымі, трагедыя была забаронена для друку і ўпершыню выйшла ў свет праз чатыры гады пасля напісання. Пушкін пакладаў вельмі вялікія надзеі на гэты свой твор, вельмі любіў яго і забарона зрабіла на яго вельмі цяжкае ўражанне.

За некалькі месяцаў да паўстання дзекабрыстаў Пушкіным быў напісан верш „Андрэй Шэнье". У гэтым вершы паэт гаворыць пра свабоду ад імя французскага паэта—тут свабода разумеецца не ў плане індывідуалістычнай свабоды, а ў плане „свободы просвещенной", як „самовластью бестрепетный ответ". У гэтым вершы зноў паўтараюцца матывы оды „Вольнасць".

> Из пелены предрассуждений
> Разоблачался ветхий трон;
> Оковы падали. Закон,

* Творы, выдан. Ак. Навук СССР, т. IX, стар. 208.

На вольносць оперши́сь
провозгласил равенство.
И мы воскликнули *блаженство*!

Некаторыя радкі гэтага верша, як напрыклад: „И час придет... и он уж недалёк. Падешь, тиран! Негодованье воспрянет наконец“—успрыймаліся як непасрэдна накіраваныя супроць Александра І. Верш быў надрукаван з значнымі цэнзурнымі скарачэннямі, але выключаныя цэнзурай радкі пасля паўстання распаўсюджваліся ў рукапісных спісках пад загалоўкам „На 14 снежня“. Гэтая вынятка трапіла ў рукі паліцыі, і асобы, у якіх яна была знойдзена, былі арыштаваны і сасланы. Самога Пушкіна два разы прыцягвалі да следства па гэтай справе, патрабуючы тлумачэнняў пра сэнс свайго верша. Гэта паказвае, наколькі востра ўспрыймалася рэволюцыйная лірыка Пушкіна ў той час.

Пра вялікае рэволюцыянізіруючае значэнне гэтай лірыкі сведчаць цэлы рад асоб. Так, напрыклад, Якушкін піша: „Я яму (Пушкіну—*Я. Ш.)* прачытаў яго Noёl: „Ура! в Россию скачет“ і ён вельмі здзівіўся, як я яго ведаю, а між тым усе яго надрукаваныя творы: Вёска, Кінжал, Чатырохрадкоўе да Аракчэева, Пасланне да Петра Чаадаева і шмат іншых былі не толькі ўсім вядомы, але ў той час не было сколькі-небздзь пісьменнага прапаршчыка ў арміі, які не ведаў бы іх на памяць“. („Записки“ М, 1926 г. стар. 50). Жукоўскі ў лісце да Пушкіна таксама незадаволена пісаў, што ў многіх арыштаваных членаў тайных таварыстваў знойдзена шмат яго вершаў, якія спрыялі ўзняццю „буйного духа“ „всего зреющего поколения“. Пра гэта сведчаць і дзекабрысты ў сваіх паказаннях. Так Штэйнгель пасля арышту даваў паказанні Нікалаю І: „Хто з маладых людзей некалькі адукаваных не чытаў і не захапляўся творамі Пушкіна, якія дыхаюць свабодай“.

Такім чынам, мы бачым, што лінія рэволюцыйнай лірыкі і палітычна-эпіграматычнай творчасці праходзяць праз паэзію Пушкіна, пачынаючы ад пасляліцэйскага перыяда і да самага паўстання дзекабрыстаў. І ў рамантычных паэмах і ў рэалістычнай трагедыі „Барыс Гадуноў“ жыве ўсё той-жа дух пратэсту, варожасць да афіцыяльнай ідэалогіі. Услаўленне асабістай свабоды ў ліцэйскіх вершах, грамадска-палітычная, рэволюцыйная лірыка пасляліцэйскага перыяда, працягванне гэтай лініі на поўдні і ў Міхайлаўскім, некаторы адыход у бок індывідуалістычнай свабоды пад уплывам разгрому рэволюцыйнага руху за мяжой, але таксама і далейшае фармаванне народнасці ў рамантычна-байранічных паэмах, рашучы і канчатковы паварот у бок рэалізма і народнасці ў „Барысе Гадунове“—такі той багаты зместам шлях, які прайшоў вялікі паэт да свайго звароту з ссылкі.

# *Хроніка*

## ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ ВЯЛІКАГА РУСКАГА ПАЭТА А. С. ПУШКІНА

○ **На пасяджэнні Беларускага Пушкінскага камітэта.** 11-га студзеня адбылося чарговае пасяджэнне рэспубліканскага Пушкінскага камітэта.

Начальнік кіраўніцтва па справах мастацтваў пры СНК БССР тав. Пасюкевіч паведаміў аб падрыхтоўцы да стогадовага юбілею ў тэатрах. Усе тэатры БССР пачалі падрыхтоўку да пушкінскіх спектакляў. БДТ-3 ставіць п'есы „Каменны госць", „Цыганы" і тры ўрыўкі з „Барыса Гадунова".

Апрача пушкінскіх пастановак, намечана правесці ўсебеларускі фестываль народнай творчасці, прысвечаны Пушкіну.

○ Прафесар Браншттэйн расказаў камітэту пра падрыхтоўчую работу Саюза савецкіх пісьменнікаў. Праведзен рад дакладаў пра жыццё і творчасць Пушкіна. Спецыяльна для правядзення пушкінскіх вечароў у Лёзненскі раён выязджала брыгада пісьменнікаў. У Менску для пісьменнікаў, настаўнікаў і студэнтаў зрабіў даклад на тэму „Пушкін і Маякоўскі" маскоўскі крытык Л. Тарасенкаў. Будуць зроблены даклады на заводах імя Молатава, імя Варашылава, „Бальшэвік", на абутковай фабрыцы імя Кагановіча, у Доме Чырвонай арміі і інш.

Для правядзення пушкінскіх вечароў у Віцебску, Бабруйску, Магілеве і Гомелі выедуць брыгады пісьменнікаў.

○ **Рэдакцыйнай камісіяй** Саюза савецкіх пісьменнікаў ухвалены і здадзены ў друк асобнымі выданнямі „Цыганы" А. С. Пушкіна (у перакладзе А. Куляшова), „Каўказскі нявольнік" (у перакладзе М. Хведаровіча) „Домік у Каломне" (у перакладзе А. Вечара) і выбраная проза Пушкіна.

**Вечар перакладаў А. С. Пушкіна.** 1-га лютага ў Менску ў памяшканні Белдзяржтэатра будзе праведзен вялікі вечар перакладаў А. С. Пушкіна на мовы нацыянальнасцей БССР. Даклад на тэму „Пушкін—вялікі рускі паэт" зробіць член Пушкінскага камітэта БССР прафесар Браншттэйн. Акадэмік, народны паэт рэспублікі Якуб Колас прачытае свой пераклад „Палтавы", і паэт Андрэй Александровіч прачытае перакладзеныя ім оду „Вольнасць", „Руслана і Людмілу", Мікола Хведаровіч — урыўкі з свайго перакладу „Каўказскі нявольнік", Пятрусь Глебка—лірычныя вершы. Яўрэйскія паэты Ізі Харык, З. Аксельрод і інш. прачытаюць свае пераклады лірычных вершаў А. С. Пушкіна.

**Літаратурны вечар у Лёзне.**

Працоўныя Лёзненскага раёна дзейна рыхтуюцца да стагоддзя з дня смерці вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна. Ва ўсіх калгасах і школах, на прадпрыемствах вельмі вырас попыт на творы Пушкіна, на кнігі пра яго жыццёвы і творчы шлях. Калгаснікі калгаса імя Якаўлева калектыўна чытаюць творы Пушкіна.

3-га студзеня ў раённым цэнтры ў памяшканні кіно адбыўся літаратурны вечар. Даклад пра жыццёвы і творчы шлях Пушкіна зрабіў яўрэйскі паэт Ізі Харык, які прачытаў на гэтым-жа вечары і ўрыўкі з сваёй паэмы „Круглыя тыдні". Паэт Мікола Хведаровіч прачытаў урыўкі з паэмы „Каўказскі нявольнік" і свой верш „Рэспубліканскі марш".

Драмгурток узорнай школы паставіў інсцэніроўку паэмы Пушкіна „Цыганы". Маладыя музыканты лёзненскай сярэдняй школы выканалі на духавых інструментах некалькі мелодый з оперы „Пікавыя дама" і крымска-татарскія напевы. Хор вучняў лёзненскай рускай НСШ праспяваў „Вязень", хор вучняў латышскай школы праспяваў песні на словы Пушкіна „Белка" і „Хор дзяўчат".

**Падрыхтоўка ў Горках.**

У Горках пры сельска-гаспадарчым інстытуце створана спецыяльная камісія па падрыхтоўцы да стагоддзя з дня смерці вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна. Праведзены тры літаратурныя вечары, прысвечаныя творчасці Пушкіна. Драмгурток рыхтуе пастаноўкі пушкінскіх п'ес „Цыганы" „Каменны госць" і ўрыўкі з оперы „Пікавая дама".

Пры бібліятэцы арганізавана выстаўка пушкінскай літаратуры. Кожны выходны дзень у ленінскім кутку праводзіцца масавая чытка твораў Пушкіна.

**Даклады пра творчасць Пушкіна**

Прафесар Я. А. Браништэйн зрабіў рад дакладаў пра жыццё і творчасць А. С. Пушкіна: у клубе металістаў—для комсамольцаў заводаў імя Кірава і імя Варашылава; для прапагандыстаў Сталінскага РК КП(б)Б і на фабрыцы імя Кагановіча.

○ **Янка Шарахоўскі** зрабіў даклады: у Менскім Доме Чырвонай арміі для камандзіраў і іх жонак, у Н-скай ваеннай часці і ў клубе глуханямых.

○ Народны паэт рэспублікі Янка Купала скончыў пераклад на беларускую мову „Меднага конніка" А. С. Пушкіна.

Паэт Пятро Глебка пераклаў на беларускую мову „Барыса Гадунова" А. С. Пушкіна.

○ „Казку пра цара Салтана" А. С. Пушкіна пераклаў на беларускую мову паэт Мікола Хведаровіч.

**Юбілейныя дні ў Маскве**

Соўнарком Саюза ССР зацвердзіў пастанову Усесаюзнага пушкінскага камітэта пра парадак правядзення пушкінскіх юбілейных дзён.

10-га лютага ў Маскве ў Вялікім тэатры Саюза ССР адбудзецца ўрачыстае паседжанне грамадскіх арганізацый сталіцы, прысвечанае 100-годнему юбілею А. С. Пушкіна. Уступнае слова на паседжанні зробіць тав. А. С. Бубнаў. З дакладам пра жыццё і творчасць А. С. Пушкіна выступіць К. Луппол. Ад ленінградскага, украінскага і грузінскага пушкінскіх камітэтаў выступяць тт. Тіханаў, Мікітэнка і Табідзе. На паседжанні выступяць прадстаўнік Акадэміі Навук СССР, а таксама А. Н. Толстой, Дзем'ян Бедны й. А. Безыменскі і В. І. Неміровіч-Данчэнка. Па сканчэнні паседжання арганізуецца канцэрт.

Да 10-га лютага пляц Пушкіна, пляц Свярдлова, Фасад Вялікага тэатра і іншыя месцы, звязаныя з жыццём і творчасцю вялікага паэта, будуць мастацкі афармлены. У гадзіну дня 10-га лютага каля помніка Пушкіна на Пушкінскім пляцы адбудзецца ўрачысты мітынг з удзелам дэлегацый ад фабрык і заводаў, грамадскіх арганізацый, студэнтаў і школьнікаў.

У Ленінградзе 10-га лютага арганізуецца ўрачыстая закладка манумантальнага помніка А. С. Пушкіну.

Згодна-ж гэтага рашэння ў ва ўсіх тэатрах, дзе 10-га лютага не будзе Пушкінскіх пастановак, павінны быць арганізаваны вечары-канцэрты з твораў Пушкіна і на пушкінскія сюжэты.

16-га лютага адбудзецца адкрыццё Усесаюзнай пушкінскай выстаўкі. 18-га лютага ў сяле Міхайлаўскім арганізуюцца юбілейныя ўрачыстасці, у якіх прымуць удзел дэлегацыі ўсесаюзнага Пушкінскага камітэта, Акадэміі Навук і Саюза савецкіх пісьменнікаў.

**Пушкінскія дні на Украіне**

Украінскі Пушкінскі камітэт зацвердзіў план правядзення пушкінскіх дзён на Украіне.

10-га лютага ў Дзяржаўным ордэна Леніна Акадэмічным тэатры оперы і балета СССР адбудзецца ўрачыстае паседжанне грамадскіх арганізацый горада Кіева, прысвечанае стогадоваму юбілею А. С. Пушкіна. Уступнае слова на паседжанні даручана В. П. Затонскаму. Даклад пра жыццё і творчасць Пушкіна зробіць дырэктар Інстытута украінскай літаратуры імя Т. Г. Шэўчэнка, член Акадэміі навук УССР П. Г. Тычына.

Адчыненне украінскай пушкінскай выстаўкі прызначана на 12-га лютага.

Для ўстанаўлення мемарыяльнай дошкі і правядзення ўрачыстага паседжання грамадскіх арганізацый у сяло Каменку, дзе знаходзіўся ў высылцы ў 1820, 1821 і 1822 гг. вялікі рускі паэт, камандыруецца 10-га лютага дэлегацыя Украінскага Пушкінскага камітэта.

## УСЕСАЮЗНЫ ПУШКІНСКІ РАДЫЁ-КАНЦЭРТ

3-га лютага гэтага году, у 19 гадзін 30 хвілін праз буйнейшыя радыёстанцыі краіны будзе перадавацца вялікі ўсесаюзны радыёканцэрт, прысвечаны стагоддзю з дня смерці вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна.

У канцэрце прымуць удзел лепшыя артыстычныя сілы і салісты радыёкамітэтаў Масквы, Ленінграда, Кіева, Менска і Тбілісі.

## НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ПРА А. С. ПУШКІНА

Да стагоддзя з дня смерці Пушкіна Інстытут літаратуры Акадэміі Навук СССР падрыхтаваў да друку першы

том зборніка „Літаратурны архіў". У гэтай кнізе чытач знойдзе каля 100 новых публікацый пра Пушкіна: дакументы, пісьмы, запісы, якія захоўваліся ў асабістым архіве паэта, якія характарызуюць адносіны да Пушкіна яго сучаснікаў. Усе гэтыя архіўныя матэрыялы друкуюцца ўпершыню.

## 10 МІЛЬЁНАЎ 800 ТЫСЯЧ ЭКЗЕМПЛЯРАЎ КНІГ

Падрыхтоўка да пушкінскіх дзён разгарнулася па ўсяму Саюзу. Выдавецтвы ўжо выпусцілі і выпускаюць вялізнымі тыражамі творы Пушкіна, а таксама пра яго жыццё і творчасць.

Пра размах выдавецкай работы сведчаць наступныя лічбы: з 1898 да 1917 г. у Расіі было выдадзена 9,1 мільён экземпляраў пушкінскіх твораў, з 1917 г. да 1935 г.—9,3 мільён. экземпляраў, а за адзін толькі 1936 год—10,8 мільёнаў экземпляраў.

## ПУШКІНСКІЯ ДНІ ЗА МЯЖОЙ

О **Францыя.** Найбольш шырока адзначаюцца пушкінскія дні ў Францыі. Апрача афіцыяльных урачыстасцей, якія праводзяцца Пушкінскім камітэтам, Таварыства вывучэння савецкай культуры ва Францыі мае намер арганізаваць шэраг пушкінскіх вечароў у Парыжы і іншых гарадах Францыі. Таварыства „Рапрошэман Энтэлектуэль" мяркуе наладзіць вялікі вечар Пушкіна. Сходы, прысвечаныя вялікаму рускаму паэту, арганізуюць Таварыства культурнага збліжэння Францыі з СССР і таварыства пісьменнікаў.

Апрача таго, у Парыжы адкрыецца пушкінская выстаўка, падрыхтаваная ВОКС'ам. Другая пушкінская выстаўка адкрыецца ў Парыжы ў канцы лютага або ў пачатку сакавіка. Гэтую выстаўку арганізоўвае Парыжская нацыянальная бібліятэка. У яе распараджэнні ёсць багатая калекцыя твораў Пушкіна, выдадзеных в 1827-30 гг.

О **Чэхаславакія.** Усю падрыхтоўчую работу праводзіць спецыяльны Пушкінскі камітэт пад пратэктаратам прэзідэнта Чэхаславацкай рэспублікі п. Бенеша. У камітэт увайшлі буйнейшыя прадстаўнікі грамадскіх, навуковых і палітычных колаў рэспублікі.

У Празе вызначана правесці ўрачыстае паседжанне, прысвечанае А. С. Пушкіну, і вялікі канцэрт. Выпускаецца пушкінскі зборнік і зборнік крытычных артыкулаў пра Пушкіна. Вызначана правесці па радыё трансляцыю канцэрта, з удзелам сімфанічнага аркестра і чэхаславацкага хора „Тыпаграфія", які прыязджаў у мінулым годзе ў Маскву. Буйнейшы пушкінскі вечар арганізуецца 10-га лютага ў зале філасофскага факультэта Пражскага універсітэта. На гэтым сходзе ад імя чэхаславацкага ўрада выступіць міністр асветы п. Франке.

О **Злучаныя Штаты Амерыкі.** У склад пушкінскага камітэта Злучаных Штатаў Амерыкі ўвайшлі віднейшыя прадстаўнікі навукі і літаратуры: Шэрвуд Андэрсен, Альберт Эпштэйн, прафесары Гарвардскага універсітэта Сіманс і Крос.

У Нью-Іёрку і іншых гарадах Злучаных штатаў мяркуецца наладжванне пушкінскіх выставак. Група прафесараў Гарвардскага універсітэта выпускае зборнік артыкулаў пра Пушкіна. Стагоддзе з дня смерці Пушкіна будзе адзначана і негрыцянскімі універсітэтамі у ЗША.

Нядаўна ў ЗША вышаў з друку зборнік твораў Пушкіна на англійскай мове. Апрача таго, прафесар Гарвардскага універсітэта Сіманс піша біяграфію Пушкіна, якая выйдзе да пушкінскага юбілею ў Злучаных штатах і ў Англіі.

О **Англія.** Таварыства культурнага збліжэння Англіі з Савецкім Саюзам, сумесна з школай славянскай мовы пры лонданскім універсітэце, арганізуе пушкінскую выстаўку і вечар. На вечары выступяць відныя вучоныя і англійскія паэты—перакладчыкі Пушкіна. У Оксфордзе і Кэмбрыджы адбудуцца пушкінскія вечары. Адзін з нумароў часопіса школы славянскай мовы будзе прысвечаны вялікаму рускаму паэту. У гэтым часопісу будзе змешчаны першы поўны пераклад „Еўгенія Онегіна" на англійскай мове.

О **Турцыя.** Турэцкія вучоныя пішуць працы пра вялікага паэта.

У Анкары выдаюцца кнігі: „Пушкін як роданачынальнік рускай літаратуры", „Пушкін у турэцкай літаратуры", „Пушкін як драматург, і ўплыў яго творчасці на развіццё рускага тэатра" і інш.

Турэцкія чытачы ўпяршыню атрымаюць на сваёй роднай мове творы паэта: „Бахчысарайскі фантан", „Скупы рыцар", „Моцарт і Сальеры", урыўкі з „Барыса Гадунова". Асобнай кнігай выходзяць пераклады „Пікавай дамы" „Дуброўскага".

○ **Іран.** У Іране створан Пушкінскі камітэт пад старшынствам міністра асветы п. Хікмета. Намечаны ўрачыстыя паседжанні ў Тагеране і яшчэ ў пяці буйных гарадах. Рыхтуецца да друку на іранскай мове „Пікавая дама“, „Стрэл“, „Паненка-сялянка“, „Мяцеліца“ і паасобныя вершы Пушкіна. Выпускаецца брашура пра вялікага паэта. У дні юбілею з Масквы для Тагерана будзе перадаены спецыяльны радыёканцэрт.

---

○ Стагоддзе з дня смерці Пушкіна адзначаецца таксама ў Нарвегіі, Даніі, Літве, Афганістане, Эстоніі, Бельгіі, Швецыі і інш.

○ Фашысцкая Германія, таксама як і Італія, замоўчваюць юбілейную дату вялікага рускага паэта, які з'яўляецца гордасцю перадавога чалавецтва.

## ДЭКАДА ГРУЗІНСКАГА МАСТАЦТВА Ў МАСКВЕ

З 8-га па 15 студзеня працоўныя Усесаюзнай сталіцы Масквы разам з кіраўнікамі партыі, членамі ўрада тт. Сталіным, Молатавым, Варашылавым, Кагановічам, Орджанікідзе, Калініным, Мікаянам, Касіорам, Постышэвым, Хрушчовым, Берыя, Кержанцавым з вялікім захапленнем глядзелі пастаноўкі Тбіліскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета. Разам з тэатрам оперы ў Маскву прыязджаў Дзяржаўны этнаграфічны хор Заходняй Грузіі.

У пастаноўках опер „Дарэджан Цбіеры“, „Даісі“, „Абесалом і Этэры“, а таксама ў камічнай оперы „Кето і Котэ“ Тбіліскі дзяржаўны тэатр оперы і балета паказаў вялікае майстэрства і высокую культуру грузінскага народу. Бурнымі авацыямі сустракалася і выступленне Дзяржаўнага этнаграфічнага хора Заходняй Грузіі.

За выдатныя поспехі ў справе развіцця грузінскай тэатральнай культуры, народных песень і танцаў ЦВК Саюза ССР узнагародзіў Тбіліскі дзяржаўны тэатр оперы і балета ордэнам Леніна. 10 удзельнікаў дэкады грузінскага мастацтва ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга, ордэнам „Знак почета“— 37 чалавек.

## НОВАЕ ВЫДАННЕ „КАЛЕВАЛЫ“

Карэльскі навукова-даследчы інстытут культуры рыхтуе на рускай мове новае выданне „Калевалы“—няўміручага помніка сусветнай культуры, створанага ў старадаўнія часы карэльскім народам. У працэсе работы высвятлілася, што ранейшы пераклад „Калевалы“, зроблены, ў 1889 годзе Бельскім, багаты на скажэнні не толькі слоў, але характараў і паводзін герояў.

Над падрыхтоўкай выдання працуюць навуковыя супрацоўнікі інстытута Н. Н. Вінаградаў, Г. П. Лауканен, С. Ф. Дземідава. Кансультацыю дае паэт Я. Віртанен.

## НАД ЧЫМ ПРАЦУЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

○ **Платон Галавач** працуе над аповесцю з часоў белапольскай акупацыі.

○ **Кандрат Крапіва** напісаў для самадзейных гурткоў п'есу пра барацьбу чырвоных партызан з белапалякамі.

○ **Аркадзь Куляшоў** здаў для друкавання ў часопісу „Полымя рэвалюцыі“ новую паэму „Баранаў Васіль“ пра героя-пагранічніка, які самаахвярна загінуў у барацьбе з японскімі бандытамі. Паэма будзе змешчана ў бліжэйшым нумары часопіса „Полымя рэволюцыі“.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ

